KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1926 № 1 (11). СТУДЗЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ.

# Беларускі Цэнтр у Літве

мае на складзе і прадае ніжэйпісаныя кнігі.

**Часопісь Міністэрства Беларускіх Спраў.** Урадовыя паведамленьня. —Ваенныя абгляды.—Кроніка Беларускай справы.—Статуты і праэкты.—Беларускае пісьменства.—Гістарычныя матэр'ялы. Гадавікі № 1—6. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1919—1920 г. Фармат 29×23 цм.

**М. Засецкі. Міністэрства Беларускіх Спраў за 10 месяцаў істнаваньня.** I. XII. 1918—I. X. 1919. Кароткі нарыс. Выдавецтва імя Ф. Скарыны. Коўна, 1919 г., бал. 20; 22×14 цм.

**І. Воронко. Бѣлорускій вопросъ къ моменту Версальской Мирной Конференціи.** Историко-политическій очеркъ. (1 декабря 1918 г.— 1 юня 1919 г.). Выдавецтва імя Ф. Скарыны, Коўна, 1919 г., бал. 60; 18×13 цм.

**I Voronko. Gudų klausimas Versalės Taikos Konferencijos metu.** Istorijos politikos rašinys. Kaunas. F. Skorynos vardo Bendrovės leidinys. 1919 м., бал. 40, 18×12 цм.

**Я. Воронко. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году.** Кароткі агляд Выдавецтва імя Ф. Скарыны. Коўна, 1920 г., бал. 32; 18×13 цм.

**Асновы Часовай Канстытуцыі Літоўскага Гаспадарства.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1920 г., бал. 7; 22×14 цм.

**Тарас-Палясоўшчык.** Беларуская паэма пачатку XIX ст. з уступовай стацьцёй Я. В—ко. Кніжня Т-ва імя Ф. Скарыны. № 1. Коўна, 1920 г., бал. 10; 17×11 цм.

**Пагоня.** Грамадзкая, палітычная і літэратурная часопісь. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Гадавікі: № 1—18. Коўна, 1920 г. Фармат 47×31 цм.

**Праф. М. В. Доўнар-Запольскі. Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Городно, 1919 г., бал. 16; 26×16 цм.

**Тарас-Гушча** (Якуб Колас). **Казкі жыцьця.** 1907—1921 г. Коўна, бал. 84; 23×15 цм.

„KRYVIČ“ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.

Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА.

Год выданьня чацьвёрты.

№ (11) 1 СТУДЗЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ 1926 г. № (11) 1



ЦАР САЛАМОН.

## ПЕСЬНІ ПЕСЬНЯЎ.

Да ліку найвялікшых твораў усесьветнай пісьменнасьці беззапярэчна належыць Кніга Песьні-Песьняў, твор аднаго з мудрэйшых людзей сівой старасьвеччыны, гэбрайскага мудрэца і паэты цара Саламона.

Песьні Песьняў даюць ня толькі барвістыя і сьмела зарысаваныя абразы, на асноведзі самай палкай фантазіі, але і мысьлі-сымвалы з глыбокім зьместам.

Нам, людзём поўначы і другой, навейшай культуры, здаюцца лішне аткрытнымі некатарыя любоўныя параўнаньні ў Песьнях Песьняў, але трэба мець на ўвазе час і мейсца дзе быў створаны гэты паэмат; трэба прыпомніць, што ў тыя часы ў Палестыне не зналі сучасных нам вопратак, і жанчыны хадзілі з напоўабнажанымі нагамі, грудзьмі і лонам.

Мы Крывічы наагул мала знаем Біблію, бо старыя нашы пераклады зьяўляюцца музэальнай рэдкасьцю, а друкаваныя выданьні не паяўляліся ўжо блізка 180 годаў. Чужамоўныя-ж Бібліі мала ў нас пашыраны і недаступны шырэйшым кругам чытачоў. Насьпела ўжо вялікая патрэба новых перакладаў.

Гэты пераклад зроблены з царкоўна-славянскага тэксту і параўнаны з тэкстамі расійскім, украінскім, польскім і сэрбскім.

Разьдзел I.

1. Цалуй мяне цалаваньнем вусн сваіх! Бо мілаваньне тваё лепш чым віно.

2. Ад добрапахнасьці масьцяў тваіх імя тваё, як разьлітая мірра; дзеля гэтага дзевы любяць цябе.

3. Пацягні мяне, пабяжымо за табою; - валадар увёў мяне ў харомы свае,—будземо захватвацца і радавацца табою, выхваляць мілаваньне тваё больш чым віно; годна любяць цябе!

4. Дочкі Ерузалімскія! цьмяна я, але гожа, як шатры Кідарскія, як запавесы Саламонавы.

5. Не глядзіця на мяне, што я цьмяна, то сонца апаліла мяне: сыны маці маей гнеўны на мяне, пілнаваць сады загадалі мне;—а я ўласнага майго саду не ўпілнавала.

6. Скажы мне, ты, каторага любіць душа мая: дзе пасьвіш ты? дзе спачываеш у поўдзень? нашто-ж мне хадзіці каля стад сяброў тваіх?

7. Калі ты ня ведаеш таго найпрыгажэйшая спаміж жанок, то ідзі сабе сьлядамі авец і пасі ягнят тваіх каля шатроў пастускіх.

8. Кабыліцы ў фараонскай павозцы я прыпадобіў цябе, маю спалюбеніцу.

9. Прыгожы скроні твае пад аздобамі, і шыя твая ў каралях;

10. залатыя прывескі мы паробім табе, са срэбнымі бліскучкамі.

11. Дакуль валадар быў за сталом сваім, нард мой выдаваў добрапахнасьць сваю.

12. Міртавая ростка – спалюбенец мой, у мяне пры грудзёх маіх прабывае.

13. Як кветка кіпару, спалюбенец мой, у мяне ў садох Энгеданскіх.

14. О, гожая ты, спалюбеніца мая, о як-жа ты гожа! вочы ў цябе галубіныя.

15. О, ты гожы, спалюбенча мой і ласкавы! і ложа ў нас—зеляніна;

16. дому нашага страхою – кедры, стольлю ў нас кіпарысы.

Разьдзел II.

1. Я нарцыз Саронскі, лілія далін!

2. Як лілія паміж церняў, так спалюбеніца мая паміж дзевамі.

3. Як яблыня паміж дрэў лесавых, так спалюбенец мой паміж юнакамі. Пад засьцю яе люблю я сядзець, і плады яе салодкі паднябеньню майму.

4. Увёў мяне ён у бясёдны дом, і любоў яго, бытцам сьцяг яго надамною.

5. Пасілкуйце мяне віном, аспатольце мяне яблыкамі, бо я млею з любові.

6. Левая рука яго ў мяне пад галавой, а правая абыймае мяне.

7. Заклінаю вас, дочкі Іерузалімскія, сарнамі і дзікімі козамі, не будзіце і не трывожце спалюбеніцы маей, пакуль яна схоча.

8. Голас спалюбенца майго, вось ён ідзе, бяжыць па горах, скача цераз узгорачкі.

9. Прыяцель мой падобен да сарны ці маладога ялёнка. От, ён стаіць у нас за сьцяною, пазірае ў вакно, відаць яго цераз крату.

10. Спалюбенец мой прамаўляе мне: ўстань, спалюбеніца мая, прыгажуня мая, выйдзі!

11. От зіма прайшла ўжо; дажджы прамінулі, і ўшчуклі;

12. краскі красуюць на зямлі; час пяяньня настаў, і голас сынагорліцы чуцен у нашай старонцы;

13. смакаўніцы бросьцю пакрыліся і вінныя лозы заквітаючы пахнуць. Устань спалюбеніца мая, устань прыгажуня мая, выйдзі!

14. Галубіца мая ў скальным разломе пад каменным дахам! Пакажы мне аблічча тваё, дай мне пачуці голас твой, таму, што голас твой салодкі і аблічча тваё прыемнае.

15. Лавеце нам лісіц і лісят, каторыя псуюць вінагрозьнікі, бо вінагрозьнікі нашы ўжо ў квеце.

16. Спалюбенец мой прыналежыць мне, а я яму прыналежу; ён пасе паміж ліліямі.

17. Дакуль дзень дыша прахалодаю і ўцякаюць цені, вярніся, будзь падобны сарне ці маладому ялёнку на распадзінах гор.

## Разьдзел III.

1. На ложы маім ноччу шукала я таго, каторага любіць душа мая, шукала і не знайшла яго.

2. Устану-ж я, пайду па месту, па вуліцах і пляцох і буду шукаці таго, каторага смагне душа мая; шукала і не знайшла яго.

3. Сустрэлі мяне старожы, што ходзяць па месьце: ці не бачылі вы таго, каторага любіць душа мая?

4. Але, ледзь я адышла ад іх, як знайшла таго, каторага любіць душа мая, спахапілася за яго і не пусьціла, дакуль не прывяла ў дом маці маей і ва ўнутраныя сьвятліцы радзіцелькі маей.

5. Заклінаю вас, дочкі Ерузалімскія, сарнамі і дзікімі козамі: не будзіце, не трывожце спалюбеніцы маей, дакуль яна схоча.

6. Хто тая, што ўсходзіць ад пустыні бытцам клубы дыму, акаджаная міррай і цімьянам і ўсякімі добрапахнасьцямі міраварніка.

7. От ложа яго — Саламона: шэсцьдзесят мужоў сільных каля яго, спаміж сільных мужоў Ізраіля.

8. Усе яны трымаюць па мячу, дасьведчаныя ў бітве; ў кождага меч пры бядрэ яго, дзеля страху начнога.

9. Пераноснае ложа ўчыніў сабе валадар Саламон з дрэў Лібанскіх;

10. Слупцы яго выраблены з серабра, падлакотнікі з золата; седзішча яго з пурпуровай тканіны; ўнутраннасьць яго аздоблена любоўю з дочкамі Ерузалімскімі.

11. Пайдзіце і ўзірайцеся, дочкі Сыонскія, на валадара Саламона, ў вянку, каторым авянечыла яго маці ў дзень жанімства яго, ў дзень радасны сэрцу яго.

## Разьдзел IV.

1. О, ты, прыгожа, спалюбеніца мая, як ты прыгожа!

2. Зубы твае, як стада стрыжаных авечак, што выходзяць з купелі, ў кождай з іх пара ягнят, і бязплоднай няма паміж імі:

3. як стуга чырвоная губа твая, і вусны твае прыемны; як палавінкі гранатовага яблыка – шчокі твае пад валасамі;

4. шыя твая, як башта Давідава, будаваная на збройню, тысяча шчытоў вісяць на ей,—а ўсё шчыты сільных;

5. двое персяў тваіх, як блізьняты маладой сарны, што пасьвяцца паміж ліліямі.

6. Дакуль дзень тхне прахалодаю, і ўцякаюць цені, пайду я на гару мірровую і на ўзгорак цімьянны.

7. Уся ты прыгожа, спалюбеніца мая, і сказы няма ў табе!

8. Самной з Лібану, заручніца! самной ідзі з Лібану! пасьпяшай з вершадзі Аману, з вершадзі Саніру і Гармона, ад мярлогаў львовых, ад гор леапардавых!

9. Апалоніла ты сэрца маё, сястра мая, заручніца! апалоніла ты сэрца маё толькі поглядам вачэй тваіх, толькі каралямі шыі тваей.

10. О, як люба мілаваньне тваё, сястра мая, заручніца! О, як многа мілаваньне тваё лепш чым віно, а добрапахнасьць масьцяў тваіх лепш за ўсе водары!

11. Мёд скрылісты капле з вусн тваіх, заручніца; мёд і млека пад языком тваім, і водар шат тваіх падобен водару Лібану!

12. Зачынены сад—сястра мая, заручніца, замкнутая студня, запячатаная крыніца;

13. расаднікі твае—сад з гранатовымі яблыкамі, і выборнымі пладамі кіпару з нардам.

14. нард і шафран, аір і цынамон з усякімі добрапахнымі дрэвамі, мірра і алеос са ўсякімі лепшымі пахмяцямі!

15. садовая крыніца, студня вод жывых і руччы Лібанскія.

16. Узьвей ветру з поўначы і падыхні з поўдня, ўзьвей на сад мой, хай паліюцца водары яго! Хай прыйдзе спалюбенец мой у сад свой і спажывае плады яго салодкія.

Разьдзел V.

1. Я прыйшоў у сад мой, сястра мая, заручніца; набраў мірры маей з добрапахнасьцямі маімі, еў скрылі з мёдам маім, напіўся віна майго з малаком маім. Спажывайце, прыяцелі, пійце і насілкуйцеся, мілыя!

2. Я сплю, а сэрца мае чуткуе, і, во, голас спалюбенца майго, ён стукаецца: адчыні мне, сястра мая, спалюбеніца, галубіца мая, чыстая мая! галава бо мая пакрыта расою, валасы мае начной авалогаю.

3. Я ўжо хітон мой зьняла; як-жа мне ізноў апранаць яго? я ногі памыла мае; як-жа мне апарушыць іх?

4. Спалюбенец мой працягнуў руку сваю цераз шчэліну, і лона маё скаланулася да яго.

5. От устала я, адчыніць спалюбенцу майму, мірра капала з рук маіх, з пальцаў маіх расілася мірра на засоўніцы.

6. Адчыніла я спалюбенцу майму, а ён, спалюбенец мой, абярнуўся, пайшоў. Душа замірала ва мне, калі ён гаварыў; шукала я незнаходзячы яго, і ён не адгукаўся мне.

7. Сустрэлі мяне старожы, што ходзяць па месьце, білі мяне, ранілі мяне; зьнялі з мяне хусты, тыя што сьцен пілнавалі.

8. Заклінаю вас, дочкі Іерузалімскія! калі вы стрэнеце спалюбенца майго, што скажаце вы яму? Я-ж млею з любові.

9. Чым спалюбенец твой лепшы за другіх юнакоў, прыгажэйшая спаміж жанок? Чым спалюбенец твой лепшы за другіх, што ты заклінаеш нас гэтак?

10. Спалюбенец мой белы й румяны, лепшы чым дзесяць тысяч другіх:

11. галава яго золата чыстае! валасы яго курчавыя, смольна-чорныя;

12. вочы яго—як галубы пры патоках водных, купаюцца ў млеку, сядзяць у здавольстве;

13. шчокі яго—квятнік добрапахны, лехі пахучых расьцін! вусны яго—лілііі, выліваюць плывучую мірру;

14. рукі яго зьліткі залатыя, шмарагдамі аздобленыя; лона яго—як рэзьба са слановай косьці, асаджаная шафірамі;

15. голені яго як стаўбы мармуровыя, пастаўленыя на залатыя астоі; выгляд яго падобны Лібану, постаць як кедры;

16. вусны яго—соладзь, і ўвесь ён каханьне. От хто спалюбенец мой, от, хто прыяцель мой, дочкі Іерузалімскія.

## Разьдзел VI.

1. Куды пайшоў спалюбенец твой, прыгажэйшая спаміж жанок? куды зьвярнуўся спалюбенец твой? мы шукаць-імем яго з табою.

2. Спалюбенец мой пайшоў у сад свой, ў кветнікі добрапахныя, каб пасьвіць у садох і зьбіраці ліліі.

3. Я прыналежу спалюбенцу майму, а спалюбенец мой—мне; ён пасе паміж ліліямі.

4. Прыгожа ты, спалюбеніца мая, як Тырса, міла як Іерузалім, грозна як войскі пад сьцягамі.

5. Адклані вочы твае ад мяне, таму што яны непакояць мяне.

6. Валасы твае як стада коз, што зыходзяць з Галааду; зубы твае як стада авечак, што выходзяць з купелі, ў кождай з іх пара ягнятак, і бязплоднай няма паміж імі;

7. як палавінкі гранатнага яблыка—шчокі твае пад валасамі тваімі.

8. Есьць шэсцьдзесят гаспадарынь і восемдзесят наложніц, і дзяўчат бяз ліку,

9. але адзіная яна, галубіца мая, чыстая мая; адзіная яна ў маці сваей, адрожненая ў радзіцелькі сваей. Убачылі яе дзевы, і вывыжшалі яе, і гаспадарыні выслаўлялі яе.

10. А хто то бліскучая як заранка, прыгожая, як месік, сьветлая, як сонца, грозная, як войскі пад сьцягамі?

11. Я зыйшла ў сад арэхавы паглядзець на зелень даліны, паўзіраццa, ці распукліся вінныя лозы, ці зацьвілі гранатныя яблыні?

12. Ня ведаю, чаму душа мая цягнула мяне да калясьніц знатных народу майго.

## Разьдзел VII.

1. Азірніся, азірніся, Суламіта! азірніся, азірніся,—хай і мы спазірнем на цябе. Што вам глядзець на Суламіту, як на карагод Манаімскі?

2. О, як харошы ногі твае ў сандалах, дачка добрародная! Круглаці бёдраў тваіх як каралі, выраб рук мастака умелага.

3. Лона тваё—круглая чара, ў якой не стушчаецца віно пахнотнае; чэраслы твае—сноп пшанічны, ліліямі аквечаны;

4. двоя персяў тваіх як двоя ягнятак, блізняцоў сарны;

5. шыя твая, як башта з косьці слановай; вочы твае як ставы Эсэонскія, што пры браме Бэтрабімскай; нос твой—вежа Лібанская, зьвернутая к Дамашку;

6. галава твая на табе, як Кармэль, і валасы на галаве тваей як пурпура; валадар абварожан валасамі тваімі.

7. Як ты прыгожа, як панадна, спалюбеніца, тваім мілым выглядам.

8. Стан твой падобен да пальмы, і персі твае як вінныя грозьдзі.

9. Падумаў я: ўзьпяцца бы на пальму, ухапіціся-бы за галіны яе; і персі твае былі-бы замест вінных грозьдзяў, водар ад ноздраў тваіх, як ад яблыкаў;

10. вусны твае як найлепшае віно. Яно плыве проста да прыяцеля майго, асалоджуе вусны спатоленых.

11. Я прыналежу прыяцелю майму, і да мяне зьвернута пажадлівасьць яго.

12. Прыдзі, спалюбенча мой, выйдзем у поле, ў вёсках пабудзем;

13. раніцай пойдзем у вінагрозьнікі, паглядзімо, ці распукліся вінныя лозы, ці распусьціліся пукалкі, ці зацьвілі гранатныя яблыні, там я акажу табе мілаваньне маё.

14. Мандрагоры пусьцілі ўжо водар, і каля дзьвярэй нашых усякія выборныя плады, новыя і старыя; гэта захавала я табе, мой спалюбенча!

Разьдзел VIII.

1. Ах, каб ты быў мне братам, які ссаў персі маці маей! тады бы я сустрэўшы на вуліцы цалавала цябе, і мяне не асуджалі-бы.

2. Павяла-бы я цябе, прывяла бы я ў дом маткі маей. Ты вучыў-бы мяне, а я паіла-бы цябе вохным віном, сокам гранатных яблак маіх.

3. Левая рука яго ў мяне пад галавою, а правая абыймае мяне.

4. Заклінаю вас, дочкі Ерузалімскія,—не будзеце, не турбуйце спалюбеніцы, дакуль яна схоча.

5. Хто гэта ўсходзіць ад пустыні, апіраючыся на свайго спалюбенца? Пад яблыняй разбудзіла я цябе: там радзіла цябе маці твая, там радзіла цябе радзіцелька твая.

6. Палажы мяне, як пячаць на сэрца твае, як персьцень на руку тваю, бо крэпка, як сьмерць, любоў; люта, як пекла, заздрасьць; стрэлы яе—стрэлы агненныя; яна—полымя вельмі магутнае.

7. Вялікія воды ня могуць пагасіць любові, і рэкі не заліюць яе. Калі бы хто даваў усё багацьце дому свайго за любоў, то ён быў-бы адкінуты з пагардай.

8. Есьць у нас сястра, падростак яшчэ, персьцяў нямашака ў яе; што-ж нам рабіць с сястрой нашай калі сватацца прыйдуць?

9. Калі-б яна была сьцяна, то мы-бы пабудавалі на ей палацы са срэбра; калі-бы яна была дзьверы, то мы аблажылі-бы яе кедровымі дошкамі.

10. Я—сьцяна, і персі ў мяне як башты, дзеля гэтага я буду ў вачох яго як дасьцігшая паўнаты.

11. Вінагрозьнік быў у Саламона ў Ваал-Гамоне; ён аддаў гэты сад вартаўнікам; кожды павінен быў дастачаць за плады яго тысячу срэбнікаў.

12. А мой вінагрозьнік у мяне пры сабе. Тысяча хай табе, Саламон, а дзьвесьце—вартуючым плады яго.

13. Жыхарка садоў! таварышы прыслухаюць голасу твайму, дай і мне паўслухацца яго.

14. Бяжы, спалюбенча мой! будзь падобны сарне або маладому ялёнку, на горах бальзамічных.

# ІНДЫЙСКАЯ АПОВЕСЬЦЬ.

Індзія шырока слыве па сьвеце сваей старэтнай, налічаючай многія тысячалецьці пісьменнасьцю, яе мудрай глыбежай і чарам невянучай паэзіі. Захватывае гэта старая індыйская пісьменнасьць нас сягоньня галоўным чынам сваімі шуканьнямі ўцелаішчанымі з высшай, даступнай тады, на тэй ступені разьвіцьця, чалавеку, сілай ваабражэньня і выражэньня. Гэта фантазіі,

але фантазіі роджаныя духам усецэла абнятным любоўю да высшага, добрага, духам шукаючым даступнай для яго дасканальнасьці. Для прыкладу падаемо адну з гэткіх індыйскіх аповесьцяў, цікавую яшчэ таму, што рысуе прадаўны быт, прастату стасункаў людзей і багоў, так блізкіх сабе, што траціцца саўсім граніца паміж людзьмі і багамі, ня толькі ў стасунках іх паміж сабой, але і ў разуменьні імі іх акружаючага і ў адношаньні да выжшай кіруючай сьветам сілы—Брамы.

## МОРА.

Гэта было ў пачатку часаў, калі на зямлі бушавалі сварлівыя данавіды і дзікія горды калакеянцаў, сеючы кругом страх і загубу. Пад валадарствам непераможнага і страшнага Врытры, яны паўсталі супроць неба, каб сьнінуць вялікіх багоў і захапіць валаданьне над сьветам.

Багі дарэмна сіліліся перамагчы ворага; з дня на дзень узрастала сіла Врытры і адцясьняла жыхароў неба.

Тады багі з Індрам наперадзе прыйшлі да Брамы, стварыцеля ўсіх сьветаў і са зложанымі рукамі малілі ў яго помачы.

І навышні сказаў ім: „Я знаю, суры, чаму вы прыйшлі да мяне; я пакажу вам спосаб як асіліць Врытру. Знаеце вы сьвятога Дадхіча, высокадухоўнага мужа. Ідзіце да яго ўсім зборам і ўпрасіце ў яго адну ласку, каторую вам ён ласкава ў той час абяцае. Дай нам,—скажыця яму,—дзеля збаўленьня сьвету, косьці цела твайго. Ен не надумляючыся доўга пакіне сваё цела і вам адкажа свае косьці. З іх дайце зрабіць цьвёрдую, цяжкую, шасьцівострую, з глухім громам пералятуючую зброю, грамавую стралу; пры яе помачы Шатакрату напэўна зразіць страшнага Врытру. Цяпер вы ведаеце, багі, ў чым ваш ратунак, рабіце як я вам сказаў“.

Так, прамовіў навышні.

Багі, адпушчаныя навышнім, зара пайшлі, з Індрам на чале, ў ціхую пустэльню Дадхіча, якая была на сьвятарных берагох ракі Сараіваці. Там яны знайшлі справядліўца, які сіяў мудрасьцю і так сказалі яму: „О, сьвяты! Аддай, каб збавіць сьвет, косьці цела твайго“.

На гэта Дадхіча, найлепшы спаміж людзей, адказаў багом: „Я зраблю ўсё што трэба дзеля вашага шчасьця і рада разлучуся са сваім целам“. Гэтак кажучы, ён дабрахотна перастаў жыць; і несьмяротныя багі, змацаваныя надзеяй, вынялі косьці з мёртвага цела і занясьлі іх да Тваштара, кавача нябеснага. Той з цьвёрдых касьцей Дадхіча мастацка выкаваў грамавую стралу. Ен аддаў яе Індры кажучы: „Гэтай зброяй, Шакра, скрышы ворага твайго і станься валадаром усіх трох сьветаў (нябеснага, зямнога і падземнага).

Тады Шатакрат борзда шпурнуў на Врытру грамавую зброю. Ражаны грамавой стралой, рынуў вялікі асур на зямлю бытцам гара. Радуючыся, славілі багі і рышы валадара нябёс; і з сьвежаю сілай кінуліся суры на паўшае духам войска данавідаў і разьбілі яго.

Данавіды з вялікім страхам уцякалі і схаваліся ў моры. Там, на дне акіяну, яны раіліся паміж сабой, як адамсьціць нябесным і разбурыць усесьвет. Урэшце, духі зла так пастанавілі: перш за ўсё трэба загубіць усіх справядлівых і пабожных, багатых сілаю волі і мудрасьцю. Бо сьвет трымаецца на аднэй справядлівасьці; як толькі нястане справядлівых, пабожных і мудрых людзей, сьвет безумоўна загіне. Ідучы за гэтай радай, страшныя духі днём былі невідочнымі ў сваей недаступнай скрытцы на дне акіяну; ноччу-ж яны выходзілі з мора, хапалі з пустэльняў і бажніц сьвятароў і пустэльнікаў

і пажыралі іх. Гэтак з кождай ноччу раднелі рады брамінаў, якія пасьвяцілі сябе служэньню небу; кождай раніцы кругом ляжалі косьці без крыві і цела. І помірс агарнуў людзей; яны ўцякалі ва ўсе староны, хаваючыся па ямах і норах; іншыя з іх перад сьмерцю пазбаўлялі сябе жыцьця. Не адзін мужны харобр, палыскуючы зброяй, кідаўся шукаючы за ворагамі, але дарэмна; тыя хаваліся на дно акіяну і ніхто іх ня бачыў.

Тады на зямлі спыніліся жэртвы і заглохлі малітвы і багі на небе страшна ўстрывожыліся. Яны зьвярнуліся з Індрай на чале да Брамы і пачалі так: „Ты, валадару, стварыў усё, што рухаецца і ўсё нерухомае; ласкавасьць твая заховуе жыцьцё людзей, каторыя жывуць на зямлі чатырмя станамі; яны многа-якімі жэртвамі заховуюць нас, жыхароў неба. Бо, моцай тваею сьвет так устроены, што ніводнае стварэньне ня можа існаваць бяз помачы другіх. Таму і мы, агорнутыя цяпер страхам, баімся за сябе саміх, бо з кождым днём усё больш вынішчаецца племя брамінаў, нет ведама кім. Калі-ж пагінуць браміны, то зьнішчыцца зямля; а калі прападзе зямля, то і нам настане канец. Таму, о стварыцель усесьвету, не дапусьці каб загінулі ўсесьветы“.

І Брама мовіў: „Я ведаю, о суры, чаму мучацца ўсе стварэньні. Ачуняйце духам і слухайце. Я скажу вам спосаб ратунку. Калакеяне, асіленыя вамі, схаваліся, злосныя ў бяздоньні акіяну і цяпер, шукаючы вашай пагібелі, кождую ноч злосна забіваюць брамінаў. Вы-ж няможаце пакараць мужагубцаў, бо яны хаваюцца на дне мора. Дзеля гэтага перш за ўсё пастарайцеся асушыць дно акіяну. Асушыць-жа мора можа толькі адзін Агасція“.

Пачуўшы словы Навышняга, нябесныя багі выйшлі і пасьпешна зьвярнуліся ў пустэльню да Агасція і так сказалі яму: „Ты памог трысьвету, калі Нахуша прыгнятаў яго; ты хутка зрынуў паганца з пасаду багоў. Калі гара Віндхія, сонцу на злосьць, стала падыймацца бяз меры, ты спыніў яе рост і гэтым збавіў сьвет ад цемры і сьмерці. Ты ва ўсіх няшчасьцях служыў нам абаронай; памажы нам і гэты раз; ніхто няздужае асушыць мора, акром цябе“.

—„Я зраблю гэта“, адказаў Агасція, і праваджаны соймам багоў, пасьпешна пайшоў да акіяна, валадара рэк. Там ён сказаў: „Дзеля дабра сьвету я паглыну воды акіяну. Ты-ж зрабі тады ўсё, што табе трэба“. Сказаўшы гэта, Агасція адразу выпіў мора. Багі-ж, з вялікімі зьдзіўленьнем убачыўшы сухое дно мора, пачалі неміласэрна пабіваць зброяй данавідаў. Уратавалася толькі малая горстка іх; ў сьмяротным спомірсе яны пракапалі сабе, на паўночна ўсходзе ад мора, нару праз сярэдзіну зямлі да дна апраметнай.

Тады багі хвалапеўнымі гымнамі славілі Агасцію: „Сіла твая, о сьвяты, даравала зямлі вялікае дабрадзейства. Тваімі заслугамі зьнішчана страшнае племя калакеянаў. Цяпер, о вялікарукі, напоўні ізноў акіян, табою апарожнены; выкінь воды, каторыя ты паглынуў“. На гэта Агасція адказаў жыхаром неба: „Воды ўжо ператравіліся; прыдумайце які колечы іншы спосаб, як мокрасьцю запоўніць ізноў сухое дно акіяну“.

Гэтыя словы ўсіх іх спужалі; яны пакланіліся перад сьвятым і ізноў пасьпяшылі з просьбай да Брамы каб запоўніць мора: „Ідзіце ў спакою, соймы багоў; ваша просьба будзе выканана. Калі прыйдзе павінны час, вялікі цар Бхагірата, апякуючыся сваімі продкамі, напоўніць акіян вадою“. Пасьля гэтых слоў багі адыйшлі, чакаючы абяцанага часу.

Быў-жа цар з роду Ікшваку, па імені Сагара, які харобрасьцю паняволіў многія народы і панаваў на зямлі ў славе. Ен меў дзьве жаны, сіяючыя прыгажосьцю моладасьці, адну звалі Вайдарбхі, а другую Жайвія. Жайвія

нарадзіла валадару зямлі прыгожага сына, на імя Асаманджа; Вайдарбхі— нарадзіла на сьвет адзін агідны гарбуз. Разгневаны цар ужо хацеў было выкінуць гарбуз, як раптам з неба голасна прагучэў голас: „О, цар, не паддавайся парыўчасьці, каб не ўтраціць дзяцей; разчыні гарбуз, выймі насеньні і кождую насенку палажы асобна ў гладыш з топленым маслам. Цар так і зрабіў; насён-жа ў гарбузе аказалася шэсцьдзесят тысяч. Да кождага цар прыставіў па няньцы, старэнна пільнаваўшай гарбузовае насеньне ў гладышы з маслам. Доўгі час спусьціўшы, з кождага гладыша выйшла па магутнаму асілку, роўна шэсцьдзесят тысяч сыноў, ня маючых роўных па сіле. Яны былі яры і гордага характару, і, надзеючыся на сілу і вялікую лічэбнасьць сваю, пагарджалі ўсякае стварэньне, людзей і багоў разам. На самых багоў паўсталі яны і разьбілі племя волатаў. Гэтак ціснутыя сагарыдамі, соймы багоў зьвярнуліся да Брамы, стварыцеля сьветаў, і малілі ратунку. Прабацька ўсесьвету выслухаў іхнія просьбы і сказаў: „Ідзіця, багі, ваша просьба споўніцца; бордзда сагарыды па ўласнай віне будуць аддадзены сьмерці“.

Пасьля гэтых слоў, багі, адпушчаныя Найвышэйшым, пайшлі. Незадоўга пасьля гэтага, валадар мужоў Сагара, пачаў прыгатоўвацца да Коннай жэртвы. Ходзячы па шырокіх абшарах, пасьвіўся на волі конь празначаны ў жэртву. Сагарыды пілнавалі яго. Раз ён зайшоў на безводнае дно акіяну і раптам зьнік, як не шукалі яго. Ен праваліўся ў нару, праз каторую рэшткі калакеянскага войска, зьнішчанага багамі, уцякалі ў апраметную. Сыны прыйшлі да бацькі з ведамкай, што жэртвенны конь прапаў. Бацька крыкнуў у гневе: „Шукайце бягуна ўсюды“. Сыны пайшлі і шукалі і, урэшце, ізноў вярнуліся і са зложанымі рукамі сказалі: „Бацюхна, паслушныя тваей волі, мы шукалі жэртвеннага каня па ўсім сьвеце, ў далінах і ярох, у горах і лясох, у пячорах і ямах, але не маглі мы яго знайсьці“.

Тады абязцямеўшы з гневу цар крыкнуў: „Шукайце далей, сыны! Без каня не важцеся паказвацца мне ў вочы!“ І сагарыды ізноў доўга і старэнна шукалі жэртвеннага каня, пераходзячы з краю ў край, і ўрэшце знайшлі нару ў высахшым дне акіяну, праз каторую конь праваліўся, яны сьмела прайшлі праз сярэдзіну зямлі ў апраметную; там яны доўга ваявалі з асурамі, зьмеямі, яшчурамі і дзіватворамі ракшасамі. Шукаючы каня яны адважна зброяй працерабілі сабе шлях праз усе страхі пекла, і, ўрэшце, убачылі каня. Ен стаяў каля палыхаючага Капілы, валадара пякельнага полымя. Яны-ж, абрадаваўшыся, пасьпешна схапілі каня і спосьпеху забыліся аддаць павінную пашану вялікаму Капіле. Той разгневаўся за гэта, сярдзітым вокам кінуў на іх пажыраючае полымя, і ў міг усе яны спапялелі.

А дома стары цар Сагара доўга чакаў сыноў і каня, каб закончыць урочыстасьць. Урэшце, ён маркотны мовіў свайму ўнуку Анжумату: „Дзе мае сыны? Яны пашлі шукаць прапаўшага каня. Я не магу закончыць жэртваў дакуль ня знойдзены конь. Я адкінуў твайго бацьку Асаманджу, сына Жайвіі; таму будзь паслушны ты маей волі, ідзі шукаць каня“.

І Анжумат пайшоў; ён ішоў па сьлядох сагарыдаў, дасьціг праз дно акіяну нары, пракапанай данавідамі, пайшоў ў сярэдзіну зямлі і ў апраметнай убачыў Капілу, каня і пагорак попелу сваіх дзядзькоў. Тады ён, пакланіўшыся да зямлі, з пашанай зьвярнуўся да Капілы: „Я—унук Сагары і прыйшоў шукаючы каня, які знайшоўся ў цябе; аддай яго мне, вялікі, каб Сагара мог дакончыць пачаты жэртвенны абрадак. Такжа я хацеў-бы амачыць попел дзядзькоў маіх, спаленых тваім полымем, каб грамады душ іхніх маглі далучыцца да вечнага ўпакою“.

І Капіла адпавядаў яму: „Каня ты вазьмі; няхай закончацца жэртвы Сагары. А Сагарады ўпакоюцца толькі тады, калі Ганг амочыць іх попел“.

Тады Анжумат узяў каня і вярнуўся да мейсца жэртваў, нізка пакланіўся перад Сагарай і, разсказаўшы ўсё, што ён бачыў і чуў, аддаў жэртвеннага каня.

І Сагара, аплакаўшы сваіх сыноў, закончыў жэртвы і доўга царстваваўшы ў славе, перадаў Анжумату царства і памёр. Ен не патрапіў спусьціць з неба патокі Гангу. І Анжумат такжа ў сіле панаваў на зямлі, перадаў царства свайму сыну Даліпу і памёр і такжа дарэмна сіліўся спусьціць з неба на зямлю слаўную нябесную раку. Затым і Даліпа надта многа трудзіўся, дбалы аб дабро сваіх продкаў; але і ён нязмог сьцягнуць на зямлю воды Гангі. Тады на пасад сеў сын яго Бгахірата, верны, сьвядомы абавязкаў і ў сіле і моцы панаваў на зямлі, абваражаючы ўсіх сваей харобрасьцю. Калі ён даведаўся аб сьмерці сваіх продкаў і аб тым, што ўсе яны ня маюць яшчэ нябеснага ўпакою, ён перадаў царства свайму прыяцелю, а сам, з болесьцю сэрца, пайшоў на Гімават, каб аддацца трудом пакаяньня, дамагаючыся ласкі ад Гангі. У падножжы сьнежных скал карміўся ён тысячу годаў карэньнямі, ягадамі, вадой і выказваў непраўдападобныя спасілы панаваньня над целам і духам, пакуль не зьявілася яму Ганга і сказала: „Скажы мне чаго хочаш ты, о найлепшы цару, тваё жаданьне споўніцца“.

На гэта Бгахірата адказаў: „Калісь-то, о багіня, мае продкі, сыны цара Сагары, лікам шэсцьдзесят тысяч мужоў, былі спалены страшным Капілам. Яны ня могуць узьняцца на неба, пакуль ты, о высокая, не абмочыш сьвятарнымі патокамі тваімі іх старэтных астанкаў. Дзеля гэтага я малю цябе, о багіня, спусьціся на зямлю, пранікні ў глыб апраметнай і аваложкі прысок маіх продкаў на іх збаўленьне“.

І Ганга адпавядала: „Я споўню, добры цар, тваю просьбу. А каб сіла падаючых вод не разбурыла зямлі, умалі сьпярша магутнага Шанкару, каб ён галавой падхапіў цягар маіх патокаў. Ен ахвотна споўніць тваю просьбу праз увагу на тваіх продкаў“.

Цар тойчас зьвярнуўся да Шывы і гэты высокі бог пашоў з царом, стануў на падножжа высокага Гімавату і сказаў: „Цяпер няхай паліецца Ганга, я падхаплю галавой яе патокі“.

Цар аклікнуў і Ганга аграмадным патокам рынулася, грымя і пенячыся, з вершадзяў Гімавату. Прарражаныя багі стаялі, гледзячы на дзіўнае відовішча; і Хара падхапіў падаючы паток, як вянок на чало. А Ганга прамовіла: „Цяпер, Бгахірата, паказвай дарогу, я пайду за табою“.

Ен ішоў наперад, а дачка гары, трымя рыгвамі сьцякаючы з галавы вялікага Шывы, ішла за царом па ўсіх закрутах дарогі, якімі ён ішоў. Ен павёў яе па краінах зямлі, і па высахшаму дну акіяну і далей па ўсходнаму праліву ўніз у нутро апраметнай. Яна ішла за ім сьледам і сьпярша запоўніла сваімі водамі акіян, пасьля аваложыла ў пекле прысок,—яна Ганга, трырыгая, што точыць свае сьвятарныя воды сьпярша ў нябесным царстве багоў, пасьля па зямлі і, ўрэшце, па дне апраметнай на адкупленьне ўсіх грахоў.

Гэтак высохшае мора было ізноў напоўнена вадой.

**Прыпіскі:**

Данавіды, племя, род злых духаў, дэманаў, праціўнікаў багоў.

Калакеяне, такжа племя, род злых духаў.

Індра, самы папулярны бог Індзіі; бог грому і вайны. Тое самае, што ў дахрысьціянскія часы ў нас Пярун. Галоўны чын дакананы Індрай, гэта перамога над Врытрам, страшным дэманам у постаці зьмея, каторы сьцярог сабраныя ў гарэ воды. Індра для сьмеласьці напіваецца нябеснага напітку сомы і забівае Врытру; тады асвабоджаныя патокі, равучы кідаюцца ўніз. (Уасобленьне летняй навальніцы або веснавой паводкі індыйскіх рэк). Індра большы за зямлю і неба, сільны і добры; ён цар багоў. Яго называюць „Тысячавокі“, „Шатакрату“ і інш.

Брама, стварыцель багоў і сьветаў, які даў законы існаваньня багом, людзём і ўсей прыродзе; правечны; ён абнаўляе і руйнуе сьветы, не прыймаючы асабістага удзелу ў сьветавым працэссе, аб гэтым клапацяцца другія багі; ён царствуе ў найвышэйшых нябёсах дзе пануе толькі духовая прырода. У гэты прыбытак Брамы, трапляюць часам і харобрыя вайскоўцы, якія палі ў бітве. Брама повен роўнай любові да ўсіх істот; ён крыніцца веды і сілы. У дахрысьціянскай славянскай мітолёгіі Браме адпавядаў Кон (другія яго эпітэты Рок і Год), бог часу і празначаньня.

Брамін (брахмін) сьвятар, богаслоў, духоўная асоба індускай веры.

Суры, старшыя, старцы; чыесьці продкі. Гэтае індускае слова зроднае з нашым „шчур“, „пращчур“.

Шатакрату, эпітэт Індры.

Рышы, сьвяты мудрэц, прарок, які пустэльным жыцьцём, пакутай і рожнымі духовымі спасіламі дасьціг надпрыроднай сілы. Галоўных рышы-пракокаў у Індусаў сем: Готама, Бхараваджа, Вішвамітра, Джамадагні, Васішта, Каш'ята і Атры; каста брамінаў выводзіцца ад гэтых сямі рышаў.

Агасція, адзін з вялікшых рышы.

Нагуша (Нахушы) слаўны цар які абладаў такой сілай, што паняволіў сабе багоў і часова выцесьніў Індру; ён такі стаў горды, што запрог у сваю калясьніцу сем найбольшых рышы, і гэта каляска з сямью найвялікшымі рышамі і цяпер знаходзіцца на небе ў постаці сазвезьдзя Вялікай Мядзьведзіцы. Праклляты Агасціяй, Нагуша 10.000 годаў валачыў сваё існаваньне ў постаці зьмяі, пакуль яго ня выратаваў адзін з герояў Магабгараты, катораму ён адказаў на ўсе яго філасофскія пытаньні, пасьля чаго ён узят быў на неба.

Бгахірата, імя цара.

Ікшваку (Ікшвагу), мітычны цар, каторы радзіўся ад чхненьня першага чалавеку Ману.

Сагарыды, 60,000 сыноў цара Сагары, наагул яго патомкі.

Капіла, рышы, цар пякельнага агня.

Ганга (Ганг), сьвятая рака, а так-жа уасобленьне ракі-багіня.

Шыва, бог зьнішчэньня, адзін з эпітэтаў яго—Шанкара.

А. УЗЬНЕСЯНСКІ.

# ПАЭТЫКА М. БАГДАНОВІЧА. [1]

## I.

Сярод пісьменнікаў крыўскай (беларускай) літэратуры М. Багдановіч, займае адно з першых мейсц. Гэты варунак прымушае дасьледчыка вывучыць яго творчасьць у першы чарод і перш за ўсё разгледзіць аснаўныя моманты яго паэтыкі. З твораў М. Багдановіча, якія акрэсьлююць галоўныя шляхі яго творчасьці, зьяўляюцца тыповымі тыя лірычныя вершы, каторыя складаюць зьмест зборніка „Вянок“ (Вільня, 1913 г.) і выяўляюць сабой нізкі вершаў: „У зачарованым царстві“, „Згукі Бацькаўшчыны“, „Старая Беларусь“, „Места“, „Думы“, „Вольныя думы“, „Старая Спадчына“. Гэты вершы і будуць служыць нам аб'ектам нашага досьледу.

Пры будаваньні паэтыкі кождага мастака ў першы чарод узьнікае вельмі важнае мэтодолёгічнае пытаньне аб тым як пачаць конструктаваньне. У складзе паэтыкі намячаецца [2]) композыція траякай адмены: фонэтычная, стылістычная і сюжэтная, якая ў умоўнай адарванасьці ўтварае асобныя элемэнты мастацкага твору, з якіх і паўстае мастацкі твор але каторая (композыція) яшчэ не акрэсьляе наперад самога працэссу будовы паэтычнага твору, а знача—і ходу досьледу яго. Калі на першым мейсцы пастаўлена композыція фонэтычная, на другім—стылістычная, а ўрэшце—сюжэтная, то гэта групоўка яшчэ не азначае, што і мастак у гэтым-жа парадку будуе свой твор, г. зн.,—спачатку опэруе матэр'ялам фонэтычнага парадку, потым—стылістычнага і, ўрэшце,—паасобнымі композыцыйнымі фармаваньнямі.

Як можна бачыць з досьледаў цэлага шэрагу сьведчань паасобных пісьменнікаў, а такжа з іх чарнавых запісак,—творчасьць мастака пачынаецца з тэмы апрацоўванага твору, яго матываў і сюжэтнага пабудаваньня. Элемэнты композыціі фонэтычнай і стылістычнай уходзяць паступова, як матэр'ялы і прыклады ў склад тэматычных вытвараў, якія маюць у свой чарод свае акрэсьленыя лёгічныя формы. Гэты варунак да некатарай меры акрэсьляе паперад і самы працэс будаваньня паэтыкі таго ці іншага мастака. Гэтак і пры разгляданьні творчасьці М. Багдановіча ў досьледзе сцьверджаючага парадку мы павінны выходзіць ад сюжэтнай композыціі і ў межах яе разглядаць праявы стылістычнай і фонэтычнай композыціі.

Агляд складных часьцей сюжэтнай композыціі, г. зн.—*тэм і матываў*, вымагае папярэдняга растлумачаньня вядомага разуменьня гэтых названьняў. Выходзячы з шэрагу маючыхся ўжо на гэта поглядаў паняцьце *тэмы* можна акрэсьліць як прасьцейшую статычную адзінку сюжэтаскладу, якая выражае самы сэнс, ідэйны момант сюжэтнай композыціі. Тэма як і матыў,—толькі спосаб думаньня, лёгічная адвалочнасьць ад акрэсьленых стылістычных і композыцыйных часьцей твору. Тэма маецца і ў зьмесьце тых часьцей, з якіх складаецца матыў, а такжа—і з тых, што ствараюць сюжэт. Як будзе паказана ніжэй, матыў у яго прасьцейшым выглядзе са стараны фармальнай прад-

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца першай часьцю доследаў паэзыі М. Багдановіча—пабудаваньне яго паэтыкі. Другі артыкул будзе пасьвячаны тлумачаньню гэтай паэтыкі ў зьвязку з соціяльна-гістарычнымі варункамі.

[2]) Падробна аб мэтодолёгічных асновах паэтыкі і яе тлумачэньні гл. другую нашу работу (якая знайходзіцца ў друку): „Заданьні беларускай гісторыка-літэратурнай навукі“.

стаўляе сабой *апавядальную* адзінку двохчэлеснага складу. Кожды з такіх чэлясаў матыву мае сваю тэму. У больш вузкім сэнсе тэмы могуць быць і славеснымі, г. зн.,—могуць выражацца асобнымі словамі, зьяўляючыся вынікам гэтага, памочнікамі ўжо стылістычнага парадку. Побач з тэмамі славеснымі і матыўнымі могуць быць і сюжэтныя. Ужо акадэмік А. К. Веселовскій, даючы формулу сюжэту акрэсьляў яго як „тэму, ў каторай снуюцца рожныя асновы матыву". У гэтым сэнсе тэмай можа быць і самы агаловак твору, як прыкладам,—„Магіла льва", „Новая зямля", „Раскіданае гняздо" і г. д.

З тэмай, як відаць ужо з папярэдняга, цесна зьвязана і паняцьце матыву, якое акрэсьляецца, як „прасьцейшая дынамічная адзінка, якая характэрызуецца звычайна дзеясловам або яго эквівалентам". У гэтым выпадку матыў, як праява дынамічнага характару, складаецца з статычных вялічын—тэм і зьяўляецца момантам сэнсоўнага, ідэйнага парадку, які мае разам з гэтым і свае лёгічныя формы. Злучнасьць тэм і матываў складае фабулу, якая такім парадкам ужываецца для абазначаньня тэматычных элемэнтаў сюжэту. Фабула зводзіцца да апісаньня падзей і зьяўляецца „толькі матер'ялам для сюжэтнага афармаваньня". Знача, сюжэт або „сюжэтная будова" складае композыцыйную старану твору, ў якім сюжэт разьвіваецца пры помачы рожнароднага камбінаваньня тэм і матываў.

У стасунку да лірычнай творчасьці, якая зьяўляецца, аб'ектам і нашага досьледу, трэба яшчэ адзначыць некатарыя асобнасьці ў разуменьні паняцьцяў, падлягаючых нашаму разбору. У творчасьці апавядальнай—эпічнай і драматычнай—кожды чэляс матыву мае нахіл да чэлясаваньня, прыцягаючы да сябе блізкія па зьместу тэмы і матывы. У лірыцы-ж мы маем матыў, першая часьць якога аказваецца непарушнай і выяўляе сабой творчае „я" мастака, якіператварае „кастырны асяродак у сьвет лірычных барвістых абразоў". Знача, кожды лірычны верш можа быць зьведзены да схэмы „я і сьвет", у каторай першая часьць яе, як ужо адзначана, аказваецца нязьменнай, а другая, дзякуючы паўтараемасьці зьнешніх стасункаў, мае нахіл да чэлясаваньня.

Пераходзячы да канкрэтнага разглядаваньня сюжэтнай композыцыі ў творчасьці М. Багдановіча ў паказаных намі рамках, спынімся на першым пытаньні, г. ё.—*тэмах* яго вершаў. З гэтай стараны творчасьць мастака, ўзятая нават няпоўна, кажа аб вялікай рожнароднасьці тэматычных пытаньняў, закранутых М. Багдановічам, а знача—і аб яго шырокім умысловым кругазоры, а такжа і аб многастароннасьці яго творчасьці. Падзяляючы гэтыя тэмы па зьместу, мы атрымаем такія групы: 1) тэмы соціяльныя, 2) бытавыя, 3) тэмы прыроды, 4) псыхолёгічныя, 5) філёзофічныя, 6) літэратурныя. Кождая з гэтых груп мае свае пададдзелы, якія датычаць рожных рэчаў, уходзячых у круг паказаных агульных паняцьцяў.

Тэмы першага раду ня чысьленыя, аднак яны адзначаюць найбольш істотныя моманты ў соціяльных стасунках крыўскага (беларускага) народу. Сюды адносяцца тэмы: 1) аб „духу народу" і яго ўласьцівасьцях („Кінь вечны плач свой аб старонцы", 65; „Не блішчыць у час змерканьня", 70; „Соннэт", 92); 2) тэмы народнага гора і нядолі („Краю мой родны! Як выкляты Богам", 62; „Зрэзаюць галіны таполі", 66); 3) тэма аб крыўскай (беларускай) работніцы, вырванай з яе роднага асяродку („Слуцкія ткачыхі", 45); 4) далей, тэма сьмерці дзьвёх соціяльна рожных асоб („Дзьве сьмерці", 57); 5) ўрэшце,—покліч паэты да соціяльнага змаганьня за вызваленьне („Устань навальніца", 69).

Больш абшырны круг складаюць тэмы бытавога характару, якія часам блізка стыкаюцца з папярэднімі тэмамі. Сярод іх рэзка выдзяляюцца тэмы,

якія рысуюць з аднэй стараны вёску, а з другой горад. Тэмы другой катэгорыі ў значнай меры пераважаюць у параўнаньні з першым радам. Да тэм вясковага жыцьця адносяцца: 1) нягоды беднага селяніна на яго ніве („Па ляду, ў глухім боры, 49); 2) забабонныя погляды народу („Безнадзейнасьць“, 46; „Ціхі вечар, зьнікнула сьпякота“, 47); 3) акружэньне сьмерці селяніна („Ян і маці“, 38).

Тэмы гораду абыймаюць сабою цэлую сэрыю вершаў, якія аб'ядныва-юцца назовам „Места“. Да гэтых належаць: горад Вільня вечарам („Вулкі Вільні“, 51; „У Вільні“, 52); горад наагул (без назовы) вечарам („За дахамі места“, 53); ноччу („На глухіх вулках – ноч глухая“..., 54); горад у сьпёку („Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт“, 57).

Трэці рад тэм самы значны; гэта—тэмы прыроды. Яны пануюць у творчасьці М. Багдановіча і ў гэтай часьці яго паэтыкі пераважаюць. Тэмы прыроды абыймаюць самыя рожнародныя праявы акружаючага нас сьвету. Паэт некалькі разоў затрымліваецца на тэмах блакітнага неба („Падыймі ў гару сваё вока, 31); і яго рожных прыналежнасьцяў: зор („Упалі з грудзей Пана Бога“, 61; „Грамада зорак“, „Карона“, 99); месяца („Сомнамбул“, 23); навальнічных хмар („У небі ля хмары грымотнай“, 15); дожджу („Плакало лето зямлю пакідаючы“, 24; „Напілося сонцэ са крыніц сьцюдзёных, 71); буры, ветру, мяцеліцы („Бура“, 14; „Ноч. Газьніца гарыць, чырванее“, 27; „Завіруха“, 55; „Непагодаю маёвай, 91). Сюды-ж прытыкаюць і такія тэмы, якія рысуюць рожны стан гэтага неба ў часы дня і году: вечар („Цёплы вечэр, ціхі вецер“, 18; „Вечэр на захадзе ў попелі тушыць“, 22; „Вечэр“ 40); ноч („Блішчыць у небе зор пасеў“, 18; „Добрай ночы, зара зарніца“... 20; „Ціха на мяккай траве“, 21); зіма („Зімовая дарога“, 28; „Зімой“, 29); вясна („Перад паводкай“, 30; „Панад белым пухам вішняў“, 32).

Есьць у паэты тэмы, зьвязаныя з блізкаю, акружаючаю нас, прыродаю, гэта—з „прыродаю зямлі“, гэтак,—тэмы возера („Возера“, 10; „Над возерам“, 11; „Возера“, 16); лесавіка („Чуеш гул.“, 9); вадзяніка („Вадзянік“, 12); аб зьмеях („Зьмяіны цар“, 13).

Да тэм псыхолёгічных, якія выражаюць духовае „я“ мастака, належаць рожныя вар'яцыі аднаго пануючага пачуцьця паэты—яго тугі; гэта тэма часьцей другіх затрымлівае на сабе мастацкую увагу М. Багдановіча („Сумна мне“, 36; „Не кувай ты, шэрая зязюля“, 37; „Сэрцэ ные“ 39; „Ой, чаму я стаў паэтам“, 72; „Была калісь пара“ 87; „З Крымскага“, 100). Мерай тугі і безнадзейнасьці прасычаны і тэмы аб такім сьветлым пачуьці, як любоў („Романс“, 33; „Уся ў сьлязах дзяўчына, 35).

Пытаньні філёзофічнага характару абыймаюць тэмы: 1) аб пачатку жыцьця і яго сэнсе („Прывет табе, жыцьцё на волі“, 17; „С. Е. Полуяну“, 59; „Жывець ня вечна чалавек“, 76; „Соннэт“, 93), і аб нікчэмнасьці яго („Сеў хлопчык са шклянкай“, 96); аб шляхох яго („Досі ўжо працы“, 34; „Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог“... 89; „З Чарняўскага“, 101); аб роўнадушшы і нават жорскасьці прыроды („Свяча бліскуча зьяе“, 80; Мы доўга плылі у вольным моры“, 86; „Астры“, 103); аб змаганьні за жыцьцё („Рушымся брацьця“, 67; „Нашых дзядоў душылі абшары лясоў“, 68).

Урэшце,—тэмы літэратурнай свомасьці, якія датычуць мастака, яго твораў, мовы паэзіі: 1) Нараджэньне мастацкага твору („Калі у ракавіну“, 79; „Трыолет“, 94; „Як птушка“...); полымя натхненьня, агонь паэзіі („Каганцу“, 60; „Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі“, 64; „З Алеся“, 102); аб свомасьцях і формах паэзіі („Бледны хілы ўсё-ж люблю я твой і мудры і кіпучы

верш“, 75; „Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты?“ 78; „Песьняру“, 81; „Тэрціны“, 98; „Есьць рэчы у забытым“...; аб мове паэзіі („Мудрай прамовы“, 77); аб долі паэты, аднолькавай са ўсімі людзьмі („Даўно ўжо целам я хварэю“, 73).

Сярод разгляданых тэматычных груп домінуючае палажэньне займаюць тэмы прыроды, затым ідуць, у парадку іх лічбовай перавагі ў творчасьці М. Багдановіча,— бытавыя, соціяльныя, літэратурныя, псыхолёгічныя, філёзофічныя.

Паказаныя катэгорыі тэм складаюць тыя аснаўныя пытаньні, пры помачы якіх пісьменнік выражае свой стасунак да акружаючага яго сьвету. Такім парадкам, тасоўна да наступаючага моманту тэй-жа сюжэтнай композыціі— матываў, асабістае „я“ мастака складае першую часьць іх, нязьменную і непарушную, а ўсе тэмы, толькі што пералічаныя—іх другую часьць, якая распадаецца на цэлы рад больш дробных „гатунковых“ тэм, аб'яднаных, аднак, адпаведнымі агульнымі азнакамі ў іх радавым паняцьці.

Цяпер на чародзе —разгляданьне *матываў* у творчасьці М. Багдановіча, спачатку—іх *соціяльнай* свомасьці. Першым матывам гэтага роду зьяўляецца сам народ у яго духовай істоце, якая напару знаходзіцца ў сонным стане, але, з пункту погляду аўтора, аказуецца неспагаснай, несьмяротнай. Дух народу прачхнецца, як толькі ўзойдзе сонца—сымвал вышэйшага духатворчага захопленьня:

„. . . . . . . . . . Сонцэ гляне,
Усіх падыйме ада сна,
Ен, гэты дзень яшчэ настане,—
І ачуняе старана!“ (65).

Тое-ж і ў другім вершы:

„ . . . Як устане сонцэ, ўраз прачнецца дух народны,
І засьвеціць ясна!“ (70) [1]).

Сам аўтор—гэта ўжо першая часьць матыву - нязьменна верыць у гэтае адраджэньне народу:

„Зварушаны нарэшце дух народны
Я верую, бязплодна не засьне“... (92),

або:

„.... гэты дзень ешчэ настане,—
І ачунее старана!
Я пад яе зімовай маскай,—
Пад снегам,—бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай
І ясны ён, як зорак сны“. (65).

Але цяпер народ жыве ў глыбокім горы і цяжкай нядолі, каторая, як мора, залівае ўсё яго жыцьцё, таўро тугі й нядолі ляжыць на ўсіх рэчах і праявах акружаючых яго варункаў; сама прырода змушае народ да мук і цяжкай працы:

Краю мой родны! Як выкляты Богам,—
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожэм убогім
Вецер гуляе на волі.

1) Тое-ж і ў вершы „Соннэт“, 92 бал.

Поруч раскідалісь родныя вёскі.
Жалям сціскаюцца грудзі!—
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынясьлі моцныя сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцярпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны. . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сціснуло горэ дыханьне ў народзе,
Горэ усюды пануе.
Хваляй шырокай разлілось, як морэ,
Родны наш край затапіло"... (62-63).

Бачуцы гэтае цяжкае гора свайго народу, сам мастак спакволчыва і балюча адчувае яго:

„Жалям сціскаюцца грудзі!"... (62)—гавора паэт, кідаючы свой погляд на родныя вёскі;

або:

„Кінь толькі вокам да гэтага люду—
Сцісьнецца сэрцэ ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі" (62).

Гора так вялікае, яно так шырока абхоплюе народ, што паэт повен трывогі і сумневу:

„Брацьця; Ці зможам грамадзкае горэ?
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!" (63);

або ў другім мейсцы:

„Таварышы—брацьця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганьні з нядоляй патраціць апошнія сілы,
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ей аддаць,
Без скаргі лягчы у магілы?!" (66).

Штучна і сілком адарваныя „ад родных ніў, ад роднай хаты" і ўзятыя на „панскі двор", каб „на лад пэрсідзкі" ткаць „залатыя паясы", прадстаўніцы абяздоленага народу—„Слуцкія ткачыхі", аднак, ня могуць зрадніцца з новым жыцьцём; яны моцна зьнітаваны з абшарам родных палёў і глыбока адчуваюць прыгажство сваей вясковай прыроды. У крозах аб родных мяйсцох

„...тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пэрсідзкага узора
Цьвяток радзімы васілька" (45).

Гэтымі словамі паэт падкрэсьляе і сваё адношаньне да персонажаў свайго верша; ён проціўстаўляе іх памешчыцкаму стану і фігуральна протэстуе супроць прымусовага абяртаньня працоўных сялян у рабочых фабрычназаводзкага тыпу. Слуцкія ткачыхі надта цесна зьвязаны з прыродаю сваіх родных мейсц.

Нядоля і гора прасьледуюць народ да самай сьмерці, якая пры сваім, здавалася-б, роўнаправным адношаньні да людзей, прымае аднак, неаднолькавыя формы ў стасунку да патрыція, прадстаўніка арыстакратычнай клясы;

і да жанчыны з больш нізкіх слаёў грамадзянства—з Мяшчанскай вул. № 17. Сьмерць першага наступае ў варунках вясельля, музыкі і перарафінаванай культуры:

„Калі патрыцій сьмерць с прыветам спатыкаў
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі сьпевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павеваў
І... мігдаловы горкі пах".

Сьмерць абяздоленай сучаснай гарадзкой дзяўчыны зусім іншага парадку:

„Ты, грозны жэрэбій, учора ўзяты зноў,
На срога сьціснутых губах
Ня мгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
І... мігдаловы горкі пах".

Адзінае збаўленьне ад зла жыцьця—гэта паўстаньне супроць яго, якое толькі адно можа прынясьці „пэрлаў горы"; і гэту думку паэт сымволічна разьвівае такім чынам:

„Ўстань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый вецер з ёю за адно!
У віхру уляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.
Удар, цыклон, удар на морэ,
Цалуй яго ў глухое дно,
Усьплясьні ваду,—і пэрлаў горы
На берэг выкіне яно" (69).

Мы ўстанавілі соціяльныя матывы ў вершах М. Багдановіча. Мы адзначылі, з аднэй стараны, тэматычны зьмест тых унутраных настрояў, якія носіць у сваім „я" сам мастак; гэтым самым мы акрэсьлілі і ідэйны склад першай часьці матываў гэтага роду. З другой стараны, пералічыўшы рожнародныя праявы соцыяльнага жыцьця, выбражаныя паэтам, мы адзначылі зьмест і другіх часьцей гэтых матываў. Мы ўстанавілі такжа і ўзаемны тасунак між гэтымі часьцямі матыву, акрэсьлілі тое, што ў ім зьяўляецца момантам дынамічнага характару, тое, што адзначае рух між часьцямі матыва. Мы бачылі, што ва ўсіх здарэньнях асабістыя пераж ываньні мастака паралельны тым настроям, якімі забарўлены рожныя праявы выбражанага соціяльнага асяродку, і зьяўляюцца адбіцьцём цяжкіх і сумных настрояў. Такім чынам, у гэтым здарэньні матывы яго творчасьці абаперты на ідэйным паралелізме іх складовых часьцей.

Далей—у парадку выкладу—матывы *жыцьцёвага* характару; з іх спачатку спынімся на нязначнай групе матываў вясковага жыцьця, сярод іх—стары матыў аб тых-жа нягодах вяскоўца, але ўжо прымацаванага да акрэсьленых жыцьцёвых варункаў; глухія лясы „Старай Беларусі" з іх многімі зьверамі аказуюцца прычынай непамыснасьцяў на нівах селяніна; старац у палатанэй сьвітцы ідзе па палёх і з зацікаўленьнем разглядае свае засевы:

„А каб ты здох! Бач, па расе
Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы;
Ды вось і вузкі сьлед капытца:
Алені тут былі ў аўсе"...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
„Зьвядуць, зьвядуць людзей бары"... (49),

заўважае той-жа селянін.

Забіты непераможным горам і цяжкай нядоляй, пазбаўлены сьвятла культуры, — ён перапоўнены забабоннымі поглядамі на жыцьцё, ён не знае заваяваньняў цывілізацііі: ён залечвае сваю тугу ў старога знахара („Ціхі вечэр; знікнула сьпякота", 47), а свае фізычныя недамаганьні ў „доктара лекарскіх навук" Скарыны, які ўдатна адтварае тып сярэднявечнага доктара-астралёга; ён

„У доўгай опратцы на вежы сочыць зоры"... (46).

І жыцьцё хлапца Яна, пазбаўленае культурнай помачы, дагарае, як сьвечка, паступова і няўхільна:

„Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьяе, сьвечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаці хлопец паміраe.
Ой, ня век жэ сьвечцы тонкай зіхацець, гарэці.
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на сьвеці"... (38).

Паэт сам усей душой прыймае удзел у гэтым панурым моманце, глыбока смуціцца і, імкнучыся хоць як колечы аблягчыць мукі паміраючага Яна і гора яго маці, кажа:

„Ты стамілася, змарнела, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прэд абразамі, запаліўшы, сьвечку:
Мо паможэ Яну гэты сьвет і пацер словы"... (38).

Другую групу тых-жа жыцьцёвых матываў складаюць матывы гораду, якія раскрываюцца мастаком у зусім іншых колерах. Калі матывы папярэдніх груп выабражаюцца панурым рэцытацыйным тэмпам, то цяпер пяро мастака, які рысуе рух і сталоку гораду, аказуецца больш нэрвовым, скочным. Ужо ў „уступе" ён падкрэсьляе адмену тэматычнай стараны гарадзкіх матываў, іх шпаркасьць і імклівасьць:

„Зьвярнуў калісь Пэгас на вулкі
С прывольных, палявых дарог,—
І пракаціўся топат гулкі
І іскры сыпнулі с пад ног" (50).

Гэтая дынаміка гарадзкога жыцьця зьяўляецца прычынай таго, што і вершы паэты бягуць шпарка, а ня йдуць маруднай ступой, як гэта было ў папярэдніх штрофах:

„Пачую я тэй іскры жала
І верш аб месьце з сэрца мкне"... (50).

Горад у творчасьці М. Багдановіча аднастайны; ён рухлівы, сутарлівы, палыскуючы:

„Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тротуароў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ў гары зіхацяць
І гараць аганьком вочы змучэных твароў!" (51).

або:

„Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне...
Вітрыны... морэ вывесак... як плямы,
Аннонсы і плакаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчые рэкламы...
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул, — усё ракой імкне" (52),

толькі на гарадзкіх слабодах у цесных і крывых завулках урочысты спакой:

„Ціша тут. Маўчвліва усталі—і сьняць
У небі копулы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерные ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы“ (51).

Мяняе свой выгляд горад у час сьпекі, якая спыняе энэргію яго руху і сутарлівасьці, але і на гэты раз заховуюцца некатарыя азнакі дынамізму:

„Ад сьпекі пышуць дахі і асфальт,
На вуліцы ўёцца пыл і грукаціць хурманка,
„Каробушку“ пяе дзіцячы альт
І надрываецца абрыдлая шарманка“ (57).

Далей, у глухую ноч горад такжа ня траціць звычайных азнак свайго руху; толькі на гэты раз—іншы суб'ект руху: замест людзкога патоку—буйныя сілы прыроды; у такую ноч

„...места, дзе німа прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіло сьцежку мору гора,
Палёў, лясоў, капцоў магіл.
Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны сьнег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і сьмех!“ (54).

Матывы гораду навеваюць на паэты настроі, якія дысонуюць з агульнай эмоціяльнай барвай яго вершаў на гэтыя тэмы. Або абраз гораду наводзіць яго на ўспаміны аб даўно мінуўшых часах:

„Ўспамяні маё сэрцэ, даўнейшые дні!
Па загаду бурмістра усе, як належэ,
Зачынілі ўжо вокны, загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны—
Я, ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы„ (51).

Ці ізноў туга аб няспоўненых высокіх імкненьнях-крозах:

„І ўспомініў я час: срэдзь восеннай нахмурэнай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыне запылалі,
Ўдыхалі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...
Мы к сьветлу ўзляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі“ (53).

Або, ўрэшце, горад гняце мастака; дынамізм гораду морыць хворага паэта:

„І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот“ (54).

Або ў другім мейсцы:

„Хаця бы крышку часу адпачыць!
Мо на бульвар пайсьці, сесьць на далёкай лаўцы
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?“ (57).

Такім чынам, лёгічная форма матываў бытавога характару, ў параўнаньні з першым радам іх, іншага зьместу. Там матывы апіраліся на ўнутраным ідэйным паралелізме. Тут, у другім радзе, тую-ж форму паралелізму мае толькі першая група матываў, якія выбражаюць быт беларускай вёскі. Матывы-ж гораду, як відаць з папярэдняга, пабудаваны на падставе ўнутранага контрасту, каторы ў часьці, датыкаючай асабістага „я“ мастака, прымае рожнаякі зьмест.

Наступную групу складаюць матывы *прыроды*. Як ужо адзначалася, гэтыя матывы выражаны ў паэты многімі прыкладамі. Яны былі асабліва блізкі мастацкай інтуіціі паэты; настроі прыроды так цесна перапляталіся з перажываньнямі самога мастака, што часам трудна адкрэсьліць і адлучыць адны ад другіх. Ў іх ён знаходзіць адзіную крыніцу уцехі і духовага спакою. З гэтай стараны асабліва характэрны яго верш „Падыймі ў гару свае вока“ (31), які можа служыць уступам да яго твораў гэтага роду:

„Падыймі у гару свае вока
І ты будзешь ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямного жыцьця.
    Ціха тучу блакіт закалышэ,
    У душы адрасьце пара крыл, —
    Узляціць яна ў сінюю вышу
    І ў струях яе змые свой пыл.
Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там німа ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван самалёт!“ (31).

Паэт датыкае і паасобных часьцей нябеснага блакіту. Ен гаворыць аб зорах; яго асабліва прыцягае момант іх паяўленьня на небе, калі яны бытцам разсяваюцца па нябесным абшары:

„Яны раскаціліся ў небі,
Усыпалі сіні прастор“... (61),

або:

„У сьветлым паветры яна пралетае; агнямі малымі
Робяцца ў ёй на ляту ўсе каменьня каштоўные“... (99).

Месік, як і ў народнай творчасьці, аказуецца ў выбражэньні паэты крыніцай няшчасьцяў чалавека; ён вядзе чалавека прыгожым бліскучым шляхам, які пракладае сваім посьветам цераз раку:

„І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна“ (23).

У такой праяве прыроды, як дождж, паэта цікавіць такжа момант яго запачаткаваньня:

„Напілося сонцэ са крыніц сцюдзёных,
Усьцягнуло ў вышу з іх ваду як пар;
І ўзляцеўшы шпарка па праменьнях тонкіх
Пар зрабіўся сьлічнай чэрадою хмар“ (71).

Ен рысуе і самы дождж, выбражаючы яго як зварот яго на лона свае мацi-ракі, адкуль ён падняўся ў форме імглы;

„Загрымелі ў хмарах гулка прывітаньня
І далёка буйны вецер іх разнёс.

Рынуліся хмары да рэкі радзімай
І зьліліся з ёю ліўнем кропель-сьлёз“ (71).

Або ён выабражае дождж, як сустрэчу дзьвёх хмар:

„Дробным дажджом над зямлёй, як сьлезамі, адна пралілася;
Гулкім раскатам грымотаў другая ў атказ азвалася.
І па асобку загінулі хмары бяздольные тые,
Чуючы ў небі, як вецер над сьмерцьцю іх радасна вые“ (15).

Або дажджавая хмара для паэты—„панурая вялізная жывёла“, з якой пры гуках грому і блеску сьвігавіцы, згодна з паэтычнымі перажыткамі народу:

...„ў ніз халодные бічы крыві сьцекаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся“ (14).

Дождж у вачох паэты зьяўляецца дабрачыннай праявай прыроды; з сьлёз яго нават восенскіх, як гэта прыгожа малюе мастак, вырастаюць кветкі—праўда недоўгавечныя, але асабліва мілыя для знябыткаванай душы:

„Плакало лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся сьлязінкі на поле,
Але прыгожаю восеньню яснаю
Там, дзе упалі яны, вырасталі
Кветкі асеньніе, кветкі, ўспаённые
Тугаю, горэм, сьлязінкамі лета.—
Кветкі асеньніе, родные, бледные!
Вырасьлі вы, каб ураз жэ і згінуць.
Можэ таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплетае“ (24).

Нават у гуках „пяючай“ мяцеліцы, якую ён так уяўна рысуе ў выглядзе хмельнага, п'янага віна („Завіруха“, 55), і якая зьяўляецца тым-жа дажджом, але толькі ў зімовую пару,—паэт хоча бачыць сымвал звольненьня прыроды ад цяжкіх зімовых аковаў:

„За сьцяной запевае завея,
Сумна бомамі ў полі зьвініць.
С краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая сьнегам земля:
Грудзі моцные цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Сьнег халодны ў палёх калыхае,
І вось-вось свае путы страхне“ (27).

Пара дня і году дае зьмест групе вершаў М. Багдановіча. Больш за ўсё яму блізкі і мілы вечар. Ен малюе гэту пару содняў блізка заўсёды аднымі і тымі-ж барвамі; вар'янты не значныя: звычайныя прыналежнасьці вечара—„бледны рог луны“ (19); або „Маладзік бледна-сіні“ (22); або проста —„месяц круглы“ (40); „расквітаньне зор“ (19); або „Зорак сьняжынкі маркотна“... (22); „цішына“ (19); „ціха ўсё“ (22); „шэрая раса на руні пасеваў“ (22); „блізкі сэрцу, мілы палёт маёвага жука“ (40), родная крыўская (беларуская) песьня аб няшчасным каханьні, якая разлягаецца на палёх і гучна адклікаецца ў лесе (40).

Вечар зьяўляецца для паэты крыніцай пачуцьця надзвычайнай інтымнай блізасьці яго да прыроды; вечарам ён забываецца аб горкай жыцьцёвай долі:

„Кіньмо жэ думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момэнт спачынем душой!“ (22).

Вечарам паэт зьліваецца з прыродай:

„Заварожэны вячэрняй цішынай
Я не цямлю, дзе рука, дзе галава;
Бачу я, с прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветра зоркі надамной,
Чую у цішы, як расьце трава“ (19).

Праўда, гукі вячэрняй песьні аб безўзаемнай любові навяваюць цяжкія думкі:

„І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Горкай песьні, простай песьні
Беларускай вёскі“... (40).

Але гэта песьня—яна-ж прыпадковы, часовы атрыбут вечара; гэта часьць дня ў яе звычайных і тыповых барвах адхіляе паэты ад горкага жыцьця і разьлівае яго ў прыродзе.

Вечар незаўважна пераходзіць у ноч. Паэт малюе яе таксама ў аднаякіх рысах: рожнаякасьць іх не вялікая. Складовыя часьці такія: імгла „Чорнай рызай усё пакрывае“ (20), або цемрыва (18), або рэдкі празрысты хомар, які сьцелецца, як сіняваты цімьянны дым з кадзіла (21); „пасеў“ зор (18) або „пыл“ зор на небасхіле (20), або „зорак дрыжачых вянкі“ (21); скірчэньне конікаў (18, 21); белы месік (18), лятучая мыш (18), ледзь шалесьцячы ветрык і ціха джурчачая крынічка (20), поблеск цёмнай люстранай ракі, выпаўшая раса, „пацеркі мілых жоўта-чырвоных агнёў“ (21) і інш.

Ноч, у параўнаньні з вечарам, змушае паэта пераживаць іншыя настроі; ў гэты час мастак сумуе аб безкарысна пражытым часе:

„Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў“ (21).

Наадварот, пачуцьцё фізычнай крэзвасьці паэт адчувае а тэй-жа пары дня вечарам і ноччу, але ўжо ўзімку. Ен выбражае гэтыя часьці дня ў тых-жа, знаёмых нам, барвах: тут ізноў „маркотныя месяца рожкі“ (28), або „вільготны месяц“ (23); дрыжачыя ад холаду зоры (23); бліскучасьць серабрыстай дарожкі (28) і г. д.

Пачуцьцё жыцьцёвай сілы, якое перажывае мастак, ясна выяўляецца ў прывітальнай задорнасьці першых радкоў

„Здароў, марозны, звонкі вечэр!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!“ (29)

і прабіваецца ў прысьпешаным рытме яго даканчальных радкоў у тым-жа вершы:

„Узрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомоў медзь!

Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець“ (29).

Тое-ж і ў яго „Зімовай дарозе“ (28).

Вясна, толькі што замяніўшая зіму, выабражаецца са стараны яе рухаў:

„І пад птушчы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыйме бацька-Нёман
На хрыбце магутным лёд.
Зазьвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Сьнег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сьледа“ (30).

Паэт чакае, што вясновы разьліў Нёмана амые і яго душу:

„Дык разлійся-жэ раздольна
Ў чыстым полі і гаю,
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!“ (30).

У абразе познай вясны М. Багдановіч заўважае ўжо больш кволкія ледзь дабачныя і мала відочныя рысы яе: увагу яго прыцягае ледзь пачовісты лёт сінякрылага матыля над „белым пухам“ красуючых вішняў; паэт прыслухаецца да ціхага і яснага гымну вясны, які

„Ці ня сэрцэ напевае,
Навевае яго мне?
Ці ня вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шэпаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля рэкі чарот шуміць“?

Ды ніхто не зразумее музыкі гэтай песьні:

„Але хто яе пачуе?—
Можэ толькі сам паэт“ (32),

каторы адзін толькі, як гэта відаць з папярэдняга, інтымна зьліваецца з прыродаю і улаўлівае кволкія і скрытыя тайны яе.

З матываў больш блізкай нам прыроды што да адлегласьці, паэта цікавіць возера і „дзікая“ рака з іх баечнымі мітычнымі жыхарамі вадзянікамі, лесавікамі, русалкамі і інш.; не дармо і ўся сэрыя вершаў на гэтыя матывы называецца „У зачарованым царстві“. Фантастыка ў іх пераплятаецца з жывымі рэальнымі абразамі прыроды.

Быў час, калі лесавік жыў у бары; ігра яго чулася ў звоне тонкіх і высокіх хвой; да іх прыслухаліся ўціхшая рака, спакойныя каласы палёў і г. д. („Чуеш гул?“, 9).

Але цяпер, калі старыя лясы ўжо высечаны, лесавік зьнік; асталося толькі яго люстэрка-возера, якое адбівае ў сваей цёмнай глыбежы „ўсё, што згінуло даўно“ („Возера“, 10).

Пабратым лесавіка—вадзянік цяпер сьпіць у ціне на дне ракі:

„Твар травой аблутана, бытцам павучынай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтые пяскі“ (12).

Усё „зачарованае царства“ ужо зьнікла, але як і раней

...„хістаецца асока,
І шуміць высокі бор,
А ў душы не замаўкае,
Струн вясёлых перабор“ (16, таксама „Вадзянік“, 12).

Зьнікаючая казка прыроды, ня выклікае шкадаваньня паэты, ён, як і раней у канкрэтных праявах яе знаходзіць сабе сьветлыя настрої:

Як відаць з папярэдняга, тасунак паміж мастаком і прыродаю апіраецца на глыбокім унутраным паралелізме, які асабліва ярка вызначаецца пры выабражаньні сьветлых і спакойных старон прыроды. Рысуючы якраз гэткія праявы яе, паэт перажывае такія-ж сьветлыя і радасныя настрої, валвуючыя яго. У гэтых выпадках ідэйны паралелізм будуецца на аднастайным унутраным зьмесьце. Той-жа паралелізм маецца наўзвоч і тады, калі мастак рысуе грозныя і цёмныя праявы прыроды. Адпаведна гэтаму такі-ж характар прымаюць і асабістыя перажываньні мастака; яны становяцца панурымі і часам цяжкімі. Такім чынам, і на гэты раз зьлітнасьць і паразуменьне паміж паэтам і прыродай поўнае.

Матывы псыхолёгічнай адмены; як гэта было заўважана і перш адзначаюцца аднастайным эмоціянальным настроем. Паэт выдзяляе з паміж завілых праяў сваей душы толькі пачуцьцё нуды, тугі і безнадзейнасьці. Ен неаднакрот падкрэсьлюе гэты настрой:

„Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запевае“... (36),

або:

„Сэрцэ ные, сэрцэ кроіцца ад болю“... (39),

такжа:

„Ў душы гарыць агонь нуды,—пануры, чорны“... (87).

Тое-ж і ў вершах „Ня кувай ты, шэрая зязюля“ (37); „Ой, чаму я стаў паэтам“ (72); „С Крымскага“ (100).

Рысуючы так упорчыва і часта гэты настрой, паэт адзначае і яго прычыны. Адна з іх метафізычнага характару:

„Кажуць людзі бытцым творучы мужчыну
Бог зрасіў вадою высахшую гліну.
Але чорт падкраўся: выціснуўшы воду
Падмешаў ён сьлёзы ў нашую прыроду.
Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі“... (100).

Другая прычына—фізычнае няўздольле самога паэты:

Грудзі ныюць, цела вяне“... (72),

або:

„Грудзі хворые мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажэ, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары“... (37).

Выхаду і ўцехі мастак шукае або ў прыродзе“:

„Сэрцэ ные, сэрцэ кроіцца ад болю:
Ой, пайду я с цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер вее, павевае,—
Ты пакінь мяне, нуда мая немая!
Я тады-б у песьні звонкай, салаўінай

Выліў тугу і на вецер буйны кінуў,
І развеяў бы яе ён па раздольлі,
Каб ні ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі“ (39),

або – ў сваіх сьлёзах:

„Ў душы гарыць агонь нуды, – пануры, чорны
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкаго мучэньня сэрцэ ўзрыць?“. (87).
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„Выплакаць іх шчыра, голасна ці ціха,
Каб з сьлезамі разам вылілося ліха“ (100).

Ці ізноў любоў да бацькаўшчыны можа ўліць крэзвасьць і сілу ў змучаную душу:

„Паломаны жыцьцём, чэкаючы магілы,
Радзімая земля, прынікнуў я к табе,
І бодрасць ты ўліла ў слабеючые жылы,
Зварушыла маей душы дрэмаўшай сілы.
І мейсца ў ёй с тых пор німа ўжо больш жальбе“ (74).

Пачуцьцё тугі настолькі шырокае і ўсёахапляючае, што надае барву і другім вышэйшым эмоціям у душы чалавека; каханьне ў паэты выабражаецца ў лучнасьці з сьлязмі („Уся ў сьлезах, дзяўчына“, 35) або затаенай у разлуцы нудзе:

„Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але разстацца намъ час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю“... (33).

У матывах *філёзофічнага* парадку паэт дакранаецца рожных пытаньняў. Ен гаворыць аб агульнай крыніцы ўсяго істнуючага. Паводле паэты, ўсё паходзіць ад зямлі, вады і сонца. Гэта – тры крыніцы жыцьця прыроды і яе хараства:

„На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За сьнег нябеснай вышыні бялей,
Кругом паўсталі чашэчкі лілей
Між пачарнеўшых корэньнёў чарота.
Ўкруг плесьня, бруд,—разводзіць гніль сьпякота,
А краскі ўсё-ж ня робяцца гразьней
Хоць там плыве парою сьлізкі зьмей
І ржаўчына ляжыць, як пазалота.
Цяпер давольна топкае багно
Гніль сотні год збіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цьвятоў расістых чыстую красу“... (93)

Сэнс чалавечага жыцьця паэт бачыць, па-першае, ў яго свабодзе і блізасьці да простай бязвычурнай прыроды:

„Прывет табе, жыцьцё на волі!
Над галавой—дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле“... (17),

па-другое,—ў цэльнасьці, шырасце і яркасьці яго:

„Жыві і цэльнасьці шукай,
Аб шырасце духоўнай дбай“ (76).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„Так свабодна, так ярка пражыць—
Лепшай долі німа на зямлі.
Ўсё кругом мамэнт асьвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі.
Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,
Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым“ (59).

Дарогі жыцьця спачатку, пры ўступленьні людзей у яго, здаюцца для ўсіх аднолькавымі:

„Мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі,
Да сьмерці ядынае меці каханьне“ (101);

але потым яны разыходзяцца і прыводзяць да аднаго сумнага канца:

„А як разыйшліся—пакінулі нас
Заходы і думкі высокіе ўраз:
На іншые сьцежкі жыцьцё нас звертае,
Па своему кожны свой век пражывае,
У кожнага неба і сонцэ свае“... (101).
„Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы“ (89).

Але жыцьцё, каторае прыводзіць усіх да магілы—ў „край невядомы“ (89), для ўсіх, паводле паэты, ня мае разумнай тэлеолёгіі, паасобныя праявы жыцьця так створаны, што адны з іх аказваюцца прычынай пагібелі для другіх, і пагібелі напару жорсткай і няўнікнёнай. Вось матыль знаходзіць сваю сьмерць у полымі сьвечкі, імкнучыся да яе з цемры як да сьветлага і добрага мігака:

„Сьвеча бліскучая зіяе,
Каб разступілася імгла;
Ў яе агню—краса жывая,—
Яна прыгожа і сьвятла.
Ў блізі матыль дрыжыць ад болю
Прываблены з імглы агнём,
Ен рынуўся туды бяз волі
І сьмерць сваю спаткаў у ём.
Сьвеча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля як раса,
А матылёк ужо ня бьецца:
Табе ахвяра ён, краса!“ (80).

Або от астры, толькі што закрасаваўшыя; яны крозяць у надзеях-мроях сваіх, сярод шэрай восені аб прыгожай вясьне; але ў гэтых лятуценьнях іх забівае халодны восенны дождж:

„У поўначы астры ў саду расцьвілі,
Убраліся ў росы, вянкі заплялі,
І сталі ружоваго ранку чэкаць,
Ў вясёлку колёраў жыцьцё убіраць.
І марыі астры ў цудоўнаму сьне
Аб зёлках шаўкоўных, аб соўнечным дне,
І казачны край падымаўся з іх сна,
Дзе кветы не вянуць, дзе вечна весна...
Так марылі ў шэрую восень яны,
Так марылі астры і ждалі вясны.

А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.
І ўбачылі астры, што ўкруг іх—турма,
Убачылі астры, што жыць ім—дарма.
І ўмерлі яны. Але тут як на сьмех
Паднялося сонца, цалуючы ўсіх“ (103).

Ці, ўрэшце, карабель, які імчыцца да пажаданай зямлі; дарогу яму паказуюць зоры, якія прыводзяць яго ў цёмным моры да скалы, дзе ён і разьбіваецца:

„Прывет жаданная зямля!
І безтрывожна бачуць зоры,
Як тонуць людзі з карабля“ (86).

Але зброі складаць ня трэба. Жыцьцё цяжкое, часамі жорсткае, але, каб яго заваяваць і паняволіць сабе, - патрэбна змаганьне. Паэт двойчы падкрэсьлюе абавязковасьць, няўнікнёнасьць гэтага змаганьня, адзначаючы гэтым і свой тасунак да гэтага жыцьця:

„Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачэкаемо дня,
Калі нас не здалее змаганьне злякаць“ (68).
„Рушымся, брацьця, хутчэй
У бой з жыцьцём пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах“... (67).

У дзедзіне матываў апошніх двох радоў—псыхолёгічнага і філёзофічнага—іх складныя элемэнты, як паказуе іх тэматычны зьмест, аб'еднуюцца на аснове таго-ж унутранага паралелізму, забарўленага ў кождым паасобным здарэньні адпаведнымі колерамі—сьветлымі або сумнымі. Толькі адна група матываў філёзофічнага парадку,—а ласьне матывы аб бязмэтнасьці прыроды, а часам і яе безсэнсоўнай жорскасьці,—пабудавана на супроцьлеглых стасунках. Паэт, не гаворучы адкрыта ўкладае скрыты пратэст супроць тых жорсткасьцяў прыроды, якія ня маюць мэтаадпаведнасьці. Зрэшта паэт і адкрыта заклінае да змаганьня з жыцьцём і яго няпраўдамі.

Сярод матываў *літэратурнага* зьместу М. Багдановіч разглядае такія проблемы, якія зьяўляюцца ў агульным сваім складзе адным суцэльным замкнутым кругам. На першым мейсцы сярод гэтых пытаньняў стаіць тэма аб тым, як зараджаецца мастацкі твор паэты. У яго прадстаўленьні гэты момант рысуецца, як мімалётны, хуткі, але выпадковы залёт у яго душу лёгкай думы або кавалачка грубага жыцьця, ў выніку чаго і зьяўляецца твор:

„Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільганула,
І ўраз жэ знікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасьніках.
Ды ўсё-ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
„Як птушка ў гібкіх трасьніках,
Стралою думка мільганула“ (94).

Або ў другім мейсцы:

„Калі ў дух мой западзе і заварушыцца,—
Там кавалак грубаго жыцьця,—
Ў жомчуг зьвернецца ён сілай пачуцьця“! (79).

Апошні адрывак заслуговуе асаблівай увагі, бо ў ім паэт падкрэсьлюе глыбокую рожніцу між рэальнай істнотнасьцю і паэтычнай, або інакш —эстэтычнай і зьнеэстэтычнай. Рэальнасьць першага парадку расцэніваецца паэтам як „кавалак грубага жыцьця“, які, трапіўшы ў сфэру чыннасьці мастацкага пачуцьця, ператвараецца ў пэрлы („жомчуг“)—ў рэальнасьць эстэтычнага зьместу.

Мастацкае натхненьне паэты безперастанку дзеіць у ім, але часамі яно пакрываецца лёдам яго душы, каб затым зноў хлынуць патокам вершаў:

„Змоўк песьняр, затаіў свае шчырые песьні,
Ен іх болі ужо не пяе.
Але рвуцца яны і калісь на прадвесьні
Лёд халодны ў душэ пад напорам іх трэсьне,
І струёй лынуць вершы з яе“ (60).

Або яно хаваецца пад попелам нудных, тужлівых і шэрых дзён жыцьця:

„Хай чэрэда гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры,—
Хай не відаць яго... а ўсё-ж ткі ён не згас!“ (64).

Але ў мінуты творчасьці гэта імпрэсія мастака трымае яго ў напружаным стане і апаляе яго душу агнём:

„Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песьню сваю,
Гэткае-ж пекла ў душы сваей маю,
Паліць яна мне душу ўсю маю“ (102).

Гаворучы аб формах паэтычных твораў і аб агульных іх мастацкіх свомасьцях, паэт падкрэсьлюе два моманты: першае—канечнасьць, вырафінаванага, гнучкага, выкаванага вершу:

„Трэба с сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба с цярпеньнем.
Як ударыш ты ім,—ён як звон зазьвініць,
Брызнуць іскры с халодных каменьнеў“ (81).

Дзеля гэтага ён так любіць мудры і кіпучы верш Анакрэона:

„Бледны, хілы усё-ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ен у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыцьцё струёю плешчэ, вее хмелем ён.
Верш такі,- як дар прыроды—
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно“ (75).

Дзеля гэтага-ж імкненьня да сільнага і вырафінаванага верша, паэт дае першаўвагу формам мінулай паэзіі:

„І вось звярнуўся я к рондо, соннэтам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам
Так вершы з'яюць даўніх форм красой!“ (98).

Роўным чынам і мова паэтыкі павінна абладаць адпаведнымі азнакамі:

„Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўные соты
Мне да спадобы
Але ня меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Сьветлым і тонкім“ (77).

Але доля паэты, не глядзя на яго боскае прызваньне, не глядзя на яго высокую гатунковасьць у параўнаньні да другіх людзей, аднолькава з доляй апошніх; ён такжа зыйдзе ў магілу і знойдзе спакой у лоне роднай зямлі:

„Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваей нуды.
Калі-ж у ім умру—загіну,—
Не жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, земля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабые грудзі
Сабе спакой“ (73).

Разгляданьне тэм і матываў, гэта знача, ідэйнай стараны твораў М. Багдановіча, ў вядомых лёгічных рамках, прыводзіць дасьледчыка да наступных выснаваў. Яны зьяўляюцца сюжэтнай композыцыяй у паэтыцы мастака, абыймаюць сабой шырачэзны круг паасобных старон акружаючага жыцьця. Як ужо адзначалася, ён закранае пытаньні соціяльныя, бытавыя, прыроды, псыхолёгічныя, філёзофічныя і літэратурныя. У межах кождага з іх ён творыць рожныя тэмы, якія ўходзяць у яго зьмест. Паўтарэньні тэм надта рэдкі. Больш часты яны ў матывах прыроды і быту, дзе маюцца паўторныя тэмы гораду, вечара, ночы, зімы, вясны, возера. Хоць і ў гэтых здарэньнях ён часта рысуе кождую з блізкіх тэм з рожных старон, такім спосабам надаючы ўсякай з іх індывідуальную адмену. З боку лёгічнага зьместу тэмы і матывы творчасьці М. Багдановіча ў большасьці сваей носяць акрэсьлены характар. Яны датычуць зазвычай цяжкіх, цёмных, адоймных старон жыцьця. З усіх яго матываў толькі нямногія закранаюць сьветлыя дадатныя праявы. Ласьне, матывы прыроды з яе сьветлымі старонамі прабуджаюць адназгучныя настроі ў душы мастака. Тасунак самога аўтора да выабражаных праяў акружаючага яго сьвету, як было ўжо адзначана, дваякага гатунку; ў большасьці здарэньняў ён думае і адчувае ў поўнай гармоніі з тым эмоціяльным настроем, якім прасычаны яго творы, і ў гэтых здарэньнях тасунак між двумя чэлесамі матыву—паміж асобаю паэты і зьнешнім сьветам—пабудаваны на тэматычным паралелізме. Іншы раз, наадварот, яго настрой аказуецца супроцьлеглым таму, каторы ён укладае ў свае вершы, і тады гэты тасунак часьцяў матыву апіраецца на антытэзе. Гаворучы аб асабістых перажываньнях паэты, трэба ўспомніць, што ён не заўсёды выражае іх у адкрытай форме, чарадуючы выабражаньне іх з абрысоўкай адпаведных тэм з зьнешняга сьвету.

Часта ён не высказуецца проста, а ўкладае свой сьветагляд у тыя барвы сваіх паэтычных абразоў, каторыя ясна адбіваюць асобу паэты і яго настроі. І яшчэ адна рыса мімавольна кідаецца ў вочы. Па характару зьместу матывы ў творчасьці М. Багдановіча маюць у сабе матэр'ял падвойнай якасьці: з аднэй стараны—рэальны, конкрэтны, плястычны (матывы соціяльныя, бытавыя, прыроды), а з другой—эмоціянальны, псыхолёгічны, адвалочны (матывы псыхолёгічныя, філёзофічныя, літэратурныя). Гэта змушае бачыць у яго творчасьці дзьве стыхіі: адна пераважаючая—стыхія канкрэтнага а другая меньшага спамеру—стыхія духовага сьвету.

II.

Асобнасьці тэматычнай стараны твораў М. Багдановіча акрэсьляюць наперад і характар тых праяў, якія ўходзяць у зьмест композыціі стылістычнай і фонэтычнай. Дзеля гэтага цяпер, ласьне, будзе дарэчы устанавіць у закрэсе тых-жа тэматычных вытвараў часьці мастацкага стылю і паэтычнай фонэтыкі.

У рамках стылістычнай композыціі мы спынімся перш за ўсё на эпітэтах, каторыя, як гэта акрэсьляе гісторыка-літэратурная мысьль, маюць вялікае стылістычнае значэньне ў мастацкай творчасьці і займаюць, сярод паэтычных спосабаў, па сваей мастацкай вартасьці, адно з першых мейсц. У творчасьці М. Багдановіча яны такжа належаць да ліку асабліва характэрных праяў яго стылю.

Агульная рыса эпітэтаў разгляданага намі паэты,—якая асабліва кідаецца ў вочы,—гэта іх конкрэтнасьць. Яны ўзяты аўторам з рэальных праяў нашага жыцьця, якія заўсёды знаходзяцца перад нашымі вачыма. Гэта рыса ў значнай меры акрэсьляе і агульную свомасьць яго твораў—іх конкрэтнасьць, яркасьць і плястычнасьць. Адвалочныя эпітэты маюцца ў значна меньшым ліку. Ось прыклады іх: *добрай* ночы (20), сэрцэ *беднае* (26), паводкі *вольнай* (30), *цудоўнае* казкі (31), *сьветлыя* згадкі (33), *няшчаснае* каханьне (40), птах *нявіданных* (43), *чароўныя* прынады (52), *вечны* плач (65), *праўдзівым* жыцьцём (68), блеск *цудоўны* (70), ракі *радзімай* (71), крыніца *жывой* вады (73), *мудрай* прамовы (77), краса *жывая* (80), *сьвятога* сумленьня (81), *нябесным* агнём (84), *ясных* надзей (89), думкі *высокія* (101) і іншыя. Ужываньне іх параўнальна не частае, і яны ня выдзеляюцца сярод масы другіх эпітэтаў, зьліваючыся з эпітэтамі эмоціянальнымі, псыхолёгічнымі.

У рамках эпітэтаў конкрэтных акрэсьлена вылучаюцца, як дзьве домінуючыя групы іх, эпітэты зрочныя і псыхолёгічныя.

Першыя складаюць самую многалічэбную групу іх, дасягаючы 70% агульнага ліку. Зрочныя эпітэты перадаюць матэр'яльныя свомасьці рэчаў, усю паўнату колераў і барваў, якімі паэт рысуе акружаючы яго сьвет. Гэта асобнасьць творчасьці М. Багдановіча вынікае з таго, што пераважаючымі матывамі яго творчасьці зьяўляюцца, ласьне, матывы прыроды, якія і служаць для яго крыніцай зрочных абразоў. Гэта-ж асобнасьць гаворыць і аб плястычным, ярка рэалістычным характары яго вершаў. Спаміж іх у першы чарод вылучаюцца сваім лікам зрочныя эпітэты прасьцейшага тыпу, якія выражаюць агульныя свомасьці барваў і колераў, пры помачы каторых мастак малюе сьвет; сюды належаць: *цемнай* глыбіны (10), *срэбныя* сеці (11), *жоўтыя* пяскі (12), *сіняватых* зорак (13), *залатыя* рожкі месяца (13), *дробным* дажджом (15), *чырвоны* веер (17), *белы* лунь (18), пыл *сьветлы* (19), *чорнай* рызай (20), *цёмную* даль (23), *сінюю* вышу (31), зоркі *сіняватыя* (34), месяц *круглы* (40), вужакі *шэрыя* (47), *белай* пенай (55), *чорныя* рукі (62), месяц

*залаты* (65) *срэбная* рака (71), лёд *залацісты* (77), вадзе *люстранай* (85), *сінеючага* Ніла (92) і іншыя.

Другое мейсца займаюць зрочныя эпітэты, якія выражаюць рожныя адмены колераў, барваў і гукаў. У творчасьці М. Багдановіча яны малалічэбны і выражаюцца або эпітэтамі *сынтэтычнымі*, такімі, як: *тонкаствольныя* сосны (9), *сіняватая* ноч (21), *жоўта-чырвоных* агнёў (21), маладзік *бледна-сіні* (22), месяц *чырвона-жоўты* (40), *рознаколёрнымі* галоўкамі (43), *шматфарбныя* застаўкі (43), *шматфарбнаю* красою (56) або *лічэбнасьцю* зрочных эпітэтаў: чарцы *цемнай* і *глыбокай* (16), *празрысты, сьветлы* стоўп месяца (29), *шырокім, цёмным* полі (64).

Другую групу эпітэтаў, такжа даволі многалічэбных у творчасьці М. Багдановіча становяць эпітэты *псыхолёгічныя*, такія, як *сумны, маркотны* лясун (9), хмары *грымотнай* (15), струн *вясёлых* перабор (16), *заснуўшых* палян (21), *змрочнай заснуўшай* зямлёй (23), *халодная* кроў (25), *маркотныя* месяца рожкі (28), *ціхім* каханьнем (33), *сумным* гукам (37), вецер *буйны* (48), *панурыя* людзі (62), *пужлівых* людзей (67), *дрэмаўшай* сілы (74), *халодным* вершам (78), *змрочным* моры (86), вецер *халодны* (91), слова *халоднае* (102) і інш. Яны характэрызуюць ужо другую азнаку яго твораў, ласьне,—іх эмоціянальнасьць. Гэтая азнака пераплятаецца з плястычнасьцю іх або складае самаістую вялічыню, якая надае барву ўсяму твору. Пры гэтым, калі зрочныя эпітэты зьяўляюцца сродкам для выабражаньня зьнешняга сьвету—другой часьці матыву, то псыхолёгічныя эпітэты ўжываюцца для выабражаньня асабітых унутраных і наагул духовых перажываньняў, г. зн., —першага чэлясу таго-ж матыву. Дзеля ілюстрації таго, як разьмяшчаюцца эпітэты тэй і другой групы, мы разгледзім такі верш М. Багдановіча, які мае ў сабе, з аднэй стараны, выабражэньне таго ці іншага матыву з акружаючага асяродку, а з другой—і асабісты тасунак паэты да яго. Возьмем верш „сэрцэ ные, сэрцэ кроіцца ад болю“ (39), ў якім, азначаныя моманты—„я“ мастака і зьнешні сьвет, маюцца.--У гэтым вершы падкрэсьлім гэткія эпітэты: *цеснай* хаты; *чыстым* полі; нуда *немая*; песьні *звонкай*, салаўінай; вецер *буйны*. З іх першыя два—зрочныя; „нуда *немая*“—эмоціянальны і ўсе апошнія—акустычныя, гукавыя. Эпітэты эмоціянальныя, як відаць з прыведзенага прыкладу пры слове „нуда“, ўжываюцца для выражэньня асабістых настрояў паэты. Між тым, як эпітэты другога гатунку—зрочныя і гукавыя,—ўжываюцца пры рэчах зьнешняга сьвету ў адношаньні да мастака: хата, поле, песьня, вецер.

Такім чынам, і ў краіне праяў стылістычнай композыціі, а ласьне, ў сфэры ўжываньня эпітэтаў, дасьледчыку прыходзіцца констатаваць наўзвочнасьць дзьвёх стыхій, ужо адзначаных намі, гэта—рэальна-канкрэтнай і эмоціянальнай.

Акром ужываньня эмоціянальных эпітэтаў пры словах, якія выражаюць індывідуальныя перажываньні паэты, эпітэты гэтага гатунку іншы раз бяруцца мастаком і для рэчаў зьнешняга сьвету. Асабліва цікава ўжываньне іх пры няжывых аб'ектах. У гэтых здарэньнях мастак псыхолізуе іх, надаючы ім рысы жывых рэчаў. Гэткія эпітэты: *халоднай* расы (9), *заснуўшых* палян (21), *прыгожаю* восеньню (24), *маркотныя* месяца рожкі (28), хрыбце *магутным* (30), ноч *глухая* (54), *сп'янелая* мяцель (55), гадзін *панурых, нудных, шэрых* (64), *халодным* вершам (78), *халодных* каменьняў (81), *змрочным* моры (86), *сонных* луж балота (93) і інш.

Эпітэты зрочныя, прыдаваныя пераважна да назоў з рэальнага, акружаючага нас асяродку, больш выразна і рэзка падкрэсьлююць яркасьць і

выпукласьць паэтычных аб'ектаў. Такія паняцьці, ўжываныя паэтам, як „песьні, лаза, зоры, дождж, дым, цені, зязюля, поле" і інш., самі па сабе зьяўляюцца такімі рэчамі, якія выклікаюць у нас акрэсьлены канкрэтны абраз, прытасаваны, аднак, толькі да нашых *агульных* прадстаўленьняў аб іх, да тых прадстаўленьняў, якія выносяцца намі з жыцьцёвай практыкі і канкрэтнага азнаёмленьня. Калі-ж гэтыя паняцьці лучацца з эпітэтамі „*жоўтыя* пяскі (12), лаза *зялёная* (12), *сіняватых* зорак (13) або „зоркі *сіняватыя*" (34), дробным *дажджом* (15), дым *сіняваты* (21), *цёмныя* цені (22), *шэрая* зязюля (37), *чыстым* полі (39);- то тыя-ж прадстаўленьні атрымліваюць больш прыватную канкрэтызацію і, дзеля гэтага, большую прыгожасьць і плястычнасьць, бо нашае прадстаўленьне, прыкладам, аб пяску, што да яго колеру, без акрэсьленьня яго пры помачы адпаведнага эпітэту, ня мае поўнай выразістасьці: яно зьліваецца з прадстаўленьнем аб іншых свомасьцях пяску. Між тым ужыцьце патрэбнага эпітэту ўносіць у нашае агульнае прадстаўленьне аб колеры пяску выразны характар.

Побач з азначнымі групамі значную ролю ў творчасьці М. Багдановіча маюць і эпітэты гукавыя, акустычныя. Сюды належаць: *гулкім* раскатам (15), марозны, *звонкі* вечар (29), *скрыпучы* сьнег (29), *бурлівая* вада (30), песьні *звонкай*, салаўінай (39), вецер *буйны* (39, 71). Большасьць эпітэтаў гэтага ладу мастак ужывае для рэчаў, якія маюць гукавы рух: раскат, вада, песьні і інш., павялічаючы імі акустычную і паруховую старану гэтых паняцьцяў. Ужываньне-ж іх пры словах, не выражаючых гэтага значэньня, пераводзіць названыя эпітэты ў аддзел мэтафорычных, якія пераносяць на тыя словы свомасьці праяў іншага парадку: *звонкі* вечар (29), вецер *буйны* (39,71) і інш.

Сярод эпітэтаў разгледжаных груп вылучаецца яшчэ адна катэгорыя, якую прынята называць *таўтолёгічнымі*; іх нязначны лік: сьнег *халодны* (27, 54), *цёмнай* імглы (59), лёд *халодны* (60), *чырвоны* жар (64), *белым* днём (70), *чорную* гразь (91). Кожды з гэтых назоў сам па сабе, ў сваім унутраным зьмесьце, ўжо намячае тыя асобнасьці, якія выражаюцца пастаўленымі пры іх эпітэтамі: сьнег заўсёды бывае толькі халодным, роўна-ж як і жар — чырвоным. Ужываньне такіх эпітэтаў выклікаецца або вымаганьнямі вершавальнага памеру, жаданьнем даць поўны верш, або паэт, карыстаючы імі, паднаўляе назоўнае значэньне слоў, кіруючых эпітэтамі, і гэтым павялічае іх эмоцыянальную выразістасьць.

Зьвяртае такжа ўвагу дасьледчыка і лік эпітэтаў, надаваных тым ці іншым паняцьцям. У адных здарэньнях многаслоўныя эпітэты зьмяшчаюць у сабе эмоцыянальныя азнакі рожнароднага зьместу: зрочнага, гукавога, паруховага і г. д. Гэтае комбінаванае ўжываньне іх мае на мэце, з аднэй стараны, кондэнсацыю эмоцыянальных азнак у эпітэтах, а з другой — і рожнароднасьць, вядомую барвістасьць у агульным разьмяшчэньні іх навакол аб'екту, які знаходзіцца ў акружаньні эпітэтаў.

У дапаўненьне да тых прыкладаў, якія даваліся для ілюстрацыі аднаслоўных эпітэтаў эмоцыянальна-зрочных, гукавых і інш., з многаслоўных можна адзначыць такія: „*сумны, маркотны* лясун (9), чарцы *цёмнай* і *глыбокай* (16), хмелем *сьветлым* і *халодным* (16), *празрысты, сьветлы* стоўп месяца (29), *шпаркі, лёгкі, сінякрылы* матылёк (32), *мудры* і *кіпучы* верш Анакрэона (75), *вінаграднае, густое, цёмнае* віно (75), хмелем *сьветлым* і *тонкім* (77).

У другіх здарэньнях сярод многаслоўных маюцца прыклады своеаблічнай спробы злучэньня двох эпітэтаў рожных катэгорый: эпітэтаў матэр'яльных і эмоцыянальных. Сюды належаць такія прыклады: месяц *белы, запла-*

*каны* (11), *панурая*, *вялізная* жывёла (14), *марозны*, *звонкі* вечар (29), песьні *звонкай*, *салаўінай* (39), *маленькіх*, *мілых* зор (97). Паказаныя прыклады двохслоўных эпітэтаў зьяўляюцца, з аднэй стараны, злучэньнем эпітэту, які разкрывае адну з матэр'яльных азнак акрэсьлянага аб'екту: месяц *белы* (11), *вялізная* жывёла (14), *марозны* вечар (29), песьні *салаўінай* (39), *маленькіх* зор (97), а з другой—эпітэту, які выражае і падкрэсьляе эмоцыянальную старану тых-жа рэчаў: месяц *заплаканы* (11), *панурая* жывёла (14), *звонкі* вечар (29), песьні *звонкай* (39), *мілых* зор (97).

Разгляд эпітэталёгіі ў творчасьці М. Багдановіча прыводзіць да таго выснаўку, што тыя дзьве стыхіі, якія ўжо адзначыліся ў папярэднім выкладзе, цяпер атрымалі больш ясныя контуры. Іх ўзаемнае палажэньне ў дзедзіне эпітэтаў такое, што, па-першае, яны йдуць у творах паэты паўзьбежна, як самаістыя стылістычныя вялічыні; па другое, яны пераплятаюцца адна з другой, творачы ўмяркавана сплеценую слоўную стугу.

Пасьля эпітэтаў значную стылістычную ролю ў творчасьці М. Багдановіча маюць *мэтафары*, г. зн., такія праявы стылю, якія зьяўляюцца паэтычным тлумачным выбражаньем вядомай тэмы пры помачы паняцьцяў, каторыя знаходзяцца з гэтай *тэмай* у сэнсовай блізасьці, ступень блізасьці якіх можа быць рожнай. Па ліку мэтафары займаюць наступнае за эпітэтамі мейсца. Між разгледжанымі групамі матываў яны разпадзяляюцца няроўна. Іх запраўднае паэтычнае поле дзейнасьці—матывы прыроды. Тут яны многалічэбны і яркі. Наадварот, у матывах іншага зьместу іх немаль зусім няма; падчас выступаюць яны толькі там, дзе матывы прыроды ўходзяць як складныя часьці, якія выконуюць тыя ці іншыя мастацкія заданьні. Мэтафарычныя выразы абрысовуюць у творчасьці М. Багдановіча тэмы акрэсьленага кругу. Сюды належаць тэмы прыроды, якія разгаліняюцца на цэлы шэраг дробных тэм; далей - тэмы псыхолёгічнага характару, якія выбражаюць лірычны настрой самога мастака, і, ўрэшце—тэмы „паэтычнага“ парадку, якія датычуць істоты паэзіі і яе асобнасьцяў. З гэтых трох груп тэмы першага раду пераважаюць у значнай меры над іншымі, якія займаюць у адношаньні лічэбнасьці ўжо другое (лірычныя тэмы) і трэцяе („паэтычныя“ тэмы) мейсца.

З тэм прыроды, выбражаных у мэтафарычных колерах, найбольшую увагу паэты прыцягаюць зоры; ён аддае ім усе свае мастацкія сымпаціі і на іх спыняе свой закаханы і кунежлівы спогляд. Паэта, часьцей за ўсё, забаўляе іх *разпаложаньне* на блакітным небасхіле; яно здаецца яму то ў выглядзе карагодаў зор (13), то пасеву іх на небе (18), то пылу („пылам зор небасхіл абсевае“, 20), то красаваньня („у небі ціха зоркі расцьвілі“, 19), або вянка („зорак дрыжачыя вянкі“, 21), або кароны („Бог Аппалон з галавы зьняў карону і кінуў у неба“, 29).

Разам з мэтафарамі топографічнага характару ён ужывае і больш складныя, ў якіх, нараўне з іх топографіяй, адзначаюцца і свомасьці сьвятла; сюды належаць: „зазьяе серабром іголак зор грамада“ (17), „іскрацца зорак сьняжынкі маркотна“ (22); часамі гэтыя мэтафары разшыраюцца ў цэлы твор; гэтак, верш „Упалі з грудзей Пана Бога“ (61) прадстаўляе з сябе адну мэтафару, ў якой і рысуюцца два моманты ў іх істнаваньні—топографічны і сьветлавы:

„Упалі з грудзей Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небі,
Усыпалі сіні прастор
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць“...

Калі ськіраваць увагу на самыя абразы мэтафары, дык заўважым, як яны вылучаюцца сваёю яркасьцю і блізка фізычнай чоўкасьцю. Такія абразы, акрэсьляючы топографію зор на небе, іх разпалажэньне там як зорны карагод, пыл зораў, пасеў, вянок, карона, пацеркі і г. д., такія абразы ў прадстаўленьні чытача рысуюць жывыя, рухлівыя, блізка пачовістыя для конкрэтнага адчуваньня малюнкі. У кождым паасобным здарэньні мэтафара выражае зусім конкрэтны, плястычны, выпуклы абраз, які рысуе тут, на зямлі, малюнак нябеснай праявы. Роўным чынам сьвятло і блеск іх перадаюцца настолькі-ж выразнымі і конкрэтнымі зямнымі абразамі, як срэбра іголак, як іскры сьняжынак і інш.

Мэтафары, якія выабражаюць месяц, перадаюць яго зьнешнюю абрысоўку то ў выглядзе „залатога сярпа“ (13), або „сумных ражкоў месяца“ (28).

Паэта больш цікавяць пералівы месікавага сьвятла, дзеля гэтага, большасьць мэтафар адводзіцца гэтай, ласьне, тэме. Сьвятло месяца рысуецца ў выглядзе срэбных сетак, якія цягне месяц з возера:

„Месяц белы заплаканы сьвеціць,
Агледае бахматые зоркі,
Цягне з возера срэбные сеці.
У іх русалкі заблуталі косы,—
Рвуць і блутаюць срэбрные ніці“. . (11).

Або проста праменьні месіка праяўляюцца ў выглядзе дарогі, праведзенай цераз раку:

„Але месяц правёў праз рэкі сьветлы шлях“... (23);

або—стаўпа і срэбнай рызы, каторай ён пакрывае зямлю:

„Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў“ (29);

або—палатна:

„Месяц пакрые паля палатном“... (134).

Блізка прылягаюць да разгледжаных гатункаў мэтафары вечара і ночы; яны па свайму зьместу надта блізкі да папярэдніх. Вечар, ў момант пераходу яго ў ноч, паэт выабражае малюнкам пагасаньня вугалёў:

„Вечэр на захадзе ў попелі тушыць
Кучу чырвоных кавалкоў вугля“... (22).

Ноч прадстаўляецца паэту ў выглядзе жывой істоты, якая пакрывае ўсё чорнаю вопраткай:

Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае“... (20),

або—яна—сінявокая ходзіць па мяккай траве:

„Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла“... (21).

Некалькі мэтафар рысуюць і рожныя палажэньні хмар на небе. Іх палёт мэтафарызуецца паэтам як дыван—самалёт“ (31) або ў выглядзе „панурай, вялізнай жывёлы“ (14), якая

„Па шыры неба ў даль марудна праплывае“... (14).

Хмары ў часе навальніцы або „чырванеюць ад жару“ (15), або грымяць „гулам прывету“ (71).

Дождж, які падае з хмар, перадаецца мэтафарай:

...„халодные бічы крыві сьцекаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся“... (14);

або мэтафара з тэмай аб дожджы разшыраецца ў цэлы верш:

„Дзесь у хмарах жывуць павукі
Што снуюць павучыну дажджа.
Кожны тлусты і мяккі такі,
Скура сьлізкая, як у вужа,
Ў целі стыгне халодная кроў,
Злосьць бязцэльная ў круглых вачах...
Чу! Чуваць шорах ног павукоў
Аплетаючых сьцены і дах“ (25).

Пададзеныя мэтафары малююць ценявыя староны прыроды; яны складаюць значную большасьць мэтафарычных выразаў паэты. Тэмы сьветлых праяў прыроды, выражаныя мэтафарамі, надта малалічэбны. Яны датычуць тэмы сонца; пры захадзе яно ў паэты „скочваецца з горкі“:

„Сонцэ ціха скаціліся з горкі“... (11),

або—„разпускае свой чырвоны веер“:

„А к ночы свой чырвоны веер
У небі сонцэ развярне“... (17),

або—„праводзіць чырвоныя баразны на небе“:

„Ярка-чырвоные, жоўтые, бурые
Боразны ў небі яно правяло“ (34).

У мэтафарычных, але сумных колерах паэт рысуе і такое хараство прыроды, як краскі; яны прадстаўляюцца ім вырасшымі з сьлёз і таму борзда гінучымі; гэта мэтафара разрастаецца ў цэлы верш:

„Плакало лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся сьлязінкі на поле,
Але прыгожаю восеньню яснаю
Там, дзе упалі яны, выросталі
Кветкі асеньніе, кветкі, ўспаённые
Тугаю, горэм, сьлязінкамі лета.—
Кветкі асеньніе, родные, бледные!
Вырасьлі вы, каб ураз жэ і згінуць.
Можэ таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплетае“ (24).

Такая-ж тэма мэтафары, разшыраная ў цэлы твор, зьмяшчаецца і ў вершы „астры“ (103).

У абразох разгледжаных мэтафар мы зноў бачым, як гэта было адзначана і раней тасоўна да „зорных“ мэтафар, што паэт імкнецца зьвясьці неба на зямлю; ён і на гэты раз праявы і рэчы нябеснай сфэры імкнецца перадаць у земскіх абразох, выразных, жывых і блізкіх нам. Разам з гэтым ярка вылучаецца і дынамічны характар гэтых абразоў; сьвятло месяца перадаецца ў выглядзе срэбраных сетак, якія *цягнуцца* з возера; або вечар выабражаецца, як *тушэньне* ў попелі кучы чырвоных вугалёў; або ноч выабражаецца сінявокай, якая *праходзіць* па мяккай траве і г. д. Гэты мэтафарызм абразоў яшчэ больш павялічае ўжо адзначаныя свомасьці мэтафараў М. Багдановіча, ласьне,—іх яркасьць і плястычнасьць.

Блізка на аднэй лічбовай роўні ў творчасьці М. Багдановіча знаходзяцца і *параўнаньні*, якія паводле акад. А. Н. Весялоўскага,—тыя-ж мэтафары, толькі больш разшыраныя пры помачы сьвядомасьці і разважаньня.

Сярод іх у М. Багдановіча вылучаюцца, як дзьве рожныя групы,—параўнаньні скрытыя, сэнсоўныя і параўнаньні яўныя, выражаныя акрэсьленымі, характэрнымі для іх, граматычнымі формамі.

Першая катэгорыя параўнаньняў сэнсоўных, па свайму зьнешняму складу, мае блізкае адношаньне да так званых паралелізмаў народнай творчасьці, каторыя, як ведама, будуюцца на „параўнаньні" чалавечага жыцьця з прыродаю ў іх агульных азнаках чыну і руху. Аднак, скрытыя параўнаньні М. Багдановіча, заховуючы ў сабе прынцып „спастаўленьня", як прынцып фармальны, ў стасунку да зьместу не заўсёды асновуюцца на паралелізме прыроды і жыцьця чалавека. Можна думаць, што яны займаюць сярэдняе палажэньне між паралелізмамі народнай паэзіі і параўнаньнем наагул. Ад першых яны адрожніваюцца неаднолькавасьцю зьместу, а ад другіх—няменьнем фармальных граматычных азнак, своўных звычайным параўнаньням. Апроч таго, паводле сваіх памераў, яны звычайна разпашыраюцца на ўсе творы, захапляючы іх зьмест цалком. Дзеля гэтага мы і надаём ім назоў скрытых, сэнсовых параўнаньняў.

З прычыны таго, што параўнаньні гэтага гатунку, ў тасоўна да свайго зьнешняга граматычнага выгляду, ня маюць акрэсьленай формы, якая адзначала-б, ласьне, момант спастаўленьня двох рожных абразоў,—тлумачнае значэньне гэтых параўнаньняў зьяўляецца малаважным. Гэта трэба падкрэсьліць дзеля тэй акалічнасьці, што пераважная большасьць сэнсовых параўнаньняў мае чыста эмоціянальны характар. У іх абраз зьмяшчаецца на першым мейсцы, а аб'ект параўнаньня—на другім. Іх эмоціянальнасьць, іх лірычнасьць падкрэсьляецца яшчэ і тэй акалічнасьцю, што малюнкі параўнальных абразоў часта прыймаюць у паэты так вялікія памеры, што ператвараюцца ў эпічныя апавяданьні, якія засланяюць сабой самую тэму параўнаньня. Дзякуючы гэтаму, тлумачны, характар параўнаньня зводзіцца блізка да нуля. Гэтым тлумачыцца і тое, што паэт, упоруч з сэнсоўным параўнаньнем, ужывае і другое—яўнае параўнаньне—для тлумачаньня тэй-жа мысьлі, якая зьмяшчаецца ў першым. Так, у вершы „Соннэт" (92), у яго першай штрофе, М. Багдановіч рысуе цэлы малюнак таго, як жменька засохшага насеньня, якое пралежала „колькі тысяч год паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла", заховуе свае жыцьцёвыя сілы:

„...жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясеньней збожжэ на ральлі"...

У другой штрофе таго-ж вершу ён кажа:

„Вось сымвол твой, забыты краю родны!"

Паэт верыць, што і дух народны, падобна да зернят, не засьне бязплодна, але „ўперад рынецца", г. зн., па аналёгіі з папярэднім абразом, ён такжа прачхнецца і буйна закаласуе, як і тыя зярняты. Але паэт адчувае недахват тлумачных азнак першага абраза і зьвяртаецца да другога параўнаньня, каб выразіць тую ж мысьль аб прабуджэньні й буйным росьце народнага духа, але бярэ гэтае параўнаньне ў граматычна-яўным выглядзе; ён гавора:

„...уперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца“ (92).

На аснове сэнсовых параўнаньняў пабудаваны цэлы рад вершаў М. Багдановіча, якія і складаюцца спосабам спастаўленьня двох рожных абразоў. Тэмы, якія мастак разьвівае пры помачы сэнсовых параўнаньняў, рожнага зьместу. Часьцей за ўсё паэт зьвяртаецца да гэтага спосабу, калі гаворыць аб паэзіі, аб матывах соціяльнага ладу, аб прыродзе і г. д.

У тэмах аб паэзіі аўтор, ужываючы скрытае параўнаньне, спыняецца больш за ўсё на агульных азнаках паэтычнай творчасьці, як мастацтва, імкнучыся акрэсьліць і вытлумачыць яго істотныя рысы. Паэзія прадстаўляецца М. Багдановічу то ў выглядзе „вінаграднага густога цёмнага віна“, якое чым далей ідзе час, тым робіцца ўсё мацнейшым; такім хмелем характэрызуецца і паэзія Анакрэона, каторую асабліва любіць паэт:

„Бледны, хілы усё-ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ен у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыцьцё струёю плешчэ, вее хмелем ён.
Верш такі, — як дар прыроды—
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно“ (75).

Тая-ж мысьль аб п'янасьці і хмельнасьці паэзіі падкрэсьляецца спосабам параўнаньня „мудрай прамовы“ з „мёдам залацістым“ у вершы:

„Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўные соты
Мне да спадобы;

Але ня меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Сьветлым і тонкім“ (77).

Але хмель віна і мёду выклікае ўнутраны агонь, дзеля гэтага і паэтычная дума, калі яна адзяваецца ў мастацкія абразы, адчуваецца паэтам як агонь маланкі:

„Пекла было тут у тую часіну:
Гром звар'яцеўшы стагнаў і равеў,
Білі вакол пяруны без упыну,
Увесь небасхіл то пылаў, то чарнеў...
Думка! Калі я цябе выліваю
Ў слова халоднае, ў песьню сваю,
Гэткае-ж пекла ў душы сваей маю,
Паліць яна мне душу ўсю маю“... (102).

Гэты характар паэзіі—яе хмельнасьць і п'янасьць—прадстаўляюць сабою такія праявы, якія ў аснове сваей маюць дынамічныя свомасьці: істнасьць іх —рух. Дзеля гэтага і паэзія, як мастацтва, параўнаная з імі, мае тыя-ж паруховыя асобнасьці. Затым, і, зразумела, яе гон, падобны да крыніцы, што прабіваецпа з-пад зямлі:

„Змоўк песьняр, затаіў свае шчырые песьні,
Ен іх болі ужо не пяе.
Але рвуцца яны і калісь на прадвесьні
Лёд халодны ў душэ пад напорам іх трэсьне
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таёмна бяжыць,
Але мусіць урэшці на волю прабіцца.
Шмат ешчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць“ (60).

Наагул мастацкае пачуцьцё паэты зьяўляецца ў яго вачох цудоўнай сілай, каторая ператварае „кавалкі грубага жыцьця“ ў пэрлы паэзіі:

„Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна,—
Жомчугом патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца,—
Там кавалак грубаго жыцьця,—
Ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцьця!“ (79).

Рад тэм соціяльнага ладу, тэм якія датычаць пэрспэктыў адраджэньня беларускага (крывічанскага) народу і патрэбы змаганьня за яго, такжа выабражаецца паэтам на аснове сэнсовых параўнаньняў. У частцы, зварот паэты да сваіх спаўграмадзян з запытаньнем, ці здоляюць яны аддаць сваё жыцьцё за бацькаўшчыну-матку, калі яна будзе перажываць цяжкія хвіліны,— будуецца на тым-жа спосабе сэнсовага параўнаньня:

„Зрэзаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чэрадою лажацца,
Бо сьмерць іх патрэбна, каб дзерэва новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца.
Таварышы-брацьця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганьні з нядоляй патраціць апошніе сілы,—
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ей атдаць,
Без скаргі лягчы у магілы?!“ (66).

Заклік мастака да змаганьня з жыцьцём такжа адзяваецца ў форму сэнсовага параўнаньня:

„Рушымся, брацьця, хутчэй
У бой з жыцьцём пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...
Проці цячэньня вады
Зможэ толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж рэкі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыло жыць“ (67).

Прыкладам, асьмяляючым беларускі (крывічанскі) народ у яго змаганьні за лепшае жыцьцё, могуць служыць „нашы дзеды“, якія доўга і ўпорна змагаліся, разчышчаючы агнём душыўшыя іх разлогі лясоў, і імкнучыся да „сьветлага“ і „прасторнага“ жыцьця:

„З гэтых дзедоў суровых прыклад нам бы ўзяць,—
Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачэкаемо дня,
Калі нас не здалее змаганьне злякаць“ (68).

Дух народны гэта – ў вачох паэта—каштоўны брыльянт, каторы ня блішчыць „у час зьмярканьня і ў глыбокай цемні ночы“; але як толькі ўпадуць на яго праменьні сонца-свабоды,—ён пачынае разсыпаць яркія, палыскуючыя іскры:

„Так здаецца ў змроку ночы цёмным і народ мой родны,
Бедны і нешчасны;
Але, як устане сонцэ, ўраз прачнецца дух народны
І засьвеціць ясна!“ (70).

Душа народу заўсёды тоіць у сабе нявычэрпныя жыцьцёвыя сілы, якія, пры адпаведных акалічнасьцях, даюць багатую рунь. Сымвалам гэтай сілы зьяўляецца жменька высахшых зярнят, пралежаўшых „колькі тысяч год паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла“; кінутыя ў тучную глебу, яны праснуліся і буйна закаласіліся:

„Вось сымвол твой, забыты краю родны!
Зварушэны нарэшці дух народны,
Я верую, бязплодна не засьне,
А ўперад рынецца“... (92)

Есьць некалькі прыкладаў сэнсовых параўнаньняў на тэмы філёзофічнага характару, а такжа ў матывах прыроды.

Жыцьцё ў разумным выглядзе пакідае, ў прадстаўленьні паэты, такі-ж яркі сьлед, які бывае на цёмным небе ад пралятаючай гвязды. На параўнаньні двох абразоў—блеску гвязды і жыцьця—і пабудавана „дума“ паэты пад назовай „С. Е. Полуяну“ (59).

Пачуцьцё веры, ў выабражэньні мастака, жыве ў чалавеку ў такім-жа скрытым стане, як тоіцца агонь пад шэрым попелам пагасшага вогнішча. Гэтае параўнаньне дае зьмест вершу „халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі“ (64).

Выабражаючы зімовую завею, паэт раўняе яе з селянскім банкетам з яго п'яным звонам і хмелем; на такім спастаўленьні асновуецца яго верш „Завіруха“ (55).

Як відаць з пададзенага агляду, сэнсовыя параўнаньні, пабудаваныя ў большасьці выпадкаў на выабражаньні малюнку ў пачатку параўнаньня, а яго аб'екту—на канцы, маюць ярка эмоціянальны характар. Бо, як ужо адзначалася, абраз, пастаўлены раней самога аб'екту, дзеля каторага ён выкліканы да жыцьця, мае на ўвазе, ласьне, мэты мастацка-эмоціянальнага характару. І гэта тым больш ачавіста, што аб'екты сэнсовых параўнаньняў, самі ў сабе так конкрэтны, што не вымагаюць у істоце ўспаможых стылістычных сродкаў, у данным здарэньні—параўнаньняў, якія-б тлумачылі іх сэнс і значэньне. Мы ўжо адзначылі, што тэмы сэнсовых параўнаньняў галоўным чынам датычуць матываў соціяльных, бытавых, літэратурных, конкрэтнасьць якіх падкрэсьляецца ўжо самым іх назовам. Мастацкае значэньне іх можа быць павышана толькі праз усіленьне іх эмоціянальных ўражань. Гэта мастак і робіць, ужываючы сэнсовых параўнаньняў.

Другая група—*параўнаньні яўныя,* выражаныя характэрнымі для іх граматычнымі формамі. Сярод іх разрожніваюцца дзьве катэгорыі—параўнаньні, выражаныя творным склонам—бяззлучныя, і параўнаньні злучныя, г. ё.,—якія маюць тыя ці іншыя злучныя выразы.

Бяззлучныя параўнаньні ў творчасьці М. Багдановіча малалічэбны. Як і сэнсовыя, ў працэсе спастаўленьня яны такжа пазбаўлены выразістасьці і яснасьці; іх тлумачнае значэньне малое. Між іншым, гэтыя свомасьці іх можна бачыць з таго, што мастак іншы раз ужывае адначасна два параўнаньні, якія стаяць побач, з якіх адно—склоннае, а другое—злучнае. У вершы „Краю мой родны! як выкляты Богам“ (62—63) паэт гаворыць аб народным горы, якое

„Хваляй шырокай разлілось, як морэ,
Родны наш край затапіло“... (63).

Першае параўнаньне з тэмай аб тым, як шырока разлілося народнае гора, выражаецца ў форме творнага склону: „хваляй шырокай разлілось“. Другое параўнаньне, якое зьмяшчае ў сабе тую-ж тэму, ўжыта ўжо ў злучнай форме (са злучам „як“): „як морэ“. Гэта форма, аднак, больш рэзка падкрэсьляе момант параўнаньня. Тое-ж можна бачыць і ў параўнаньнях:

„Як птушка ў гібкіх трасьніках,
*Стралою* думка мільганула“ (94).

Дзякуючы сваей эмоціянальнасьці і незначнай часьці тлумачнага элемэнту, гэтыя параўнаньні блізка вымыкаюць з пад увагі чытача. У творчасьці М. Багдановіча яны ўжываюцца для выражэньня псыхолёгічных тэм і запазычаюць свае абразы з рэальнай прыроды; сюды належаць: „ўзляцеў між імі марай белы лунь“ (18), „сэрце білося рыбкай у сеці тады“ (23), „і разрытаю магілай вее сумна на мяне“ (26). Адно параўнаньне спастаўляе блеск рачных хваляў з халодным срэбрам: „халодным срэбрам зьяюць хвалі“ (45).

Другую катэгорыю прадстаўляюць *параўнаньні злучныя,* якія ўтвараюцца пры помачы злучаў: бытцам, як, так, маўляў і г. д.

Сярод іх адна група параўнаньняў эмоціянальных, другая—тлумачных; першыя зьмяшчаюць абраз на першым мейсцы, а аб'ект параўнаньня на другім; другія наадварот: тэмы параўнаньня ставяць на першым пляне, а тлумачны абраз—на другім. Пры чым большасьць параўнаньняў гэтай групы належыць да тлумачных.

У свой чарод тлумачныя параўнаньні разпадзяляюцца на больш дробныя групы; *зрочныя*: „твар травой аблутана, бытцам павучынай“ (12); „у небі вячэрнім зялёным, як лёд“ (22); „скура сьлізкая, як у вужа“ (25); „сьнег блішчыць, як халодная сталь“ (28); „месяц... ўвесь чырвона жоўты, бытцам пугачова вока“ (40); „пільна летапісь другі ўжо год пішу... з даўнейшых граматак пра долю Магілёва... і добрые яго, і кепскіе дзела апаведаю тут. Так рупная пчэла умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак“ (41); „у небі ластаўкі шыбаюць над крыжамі, як жар гарашчымі (43); „с чупрынай белай, як лунь“ (49); „з сьвечы ліецца за кропляй кропля, як раса“ (80); „сэрцы цьвёрдые, бытцам с каменьня“ (81); (на балоце) „ржаўчына ляжыць, як пазалота“ (93); параўнаньні *паруховыя*: „дробным дажджом над зямлёй, як сьлезамі, адна пралілася“ (15); „напілося сонцэ са крыніц сцюдзёных, усьцягнуло ў вышу з іх ваду, як пар“ (71); „ўкруг тоўстага шкла яна (маш кара) ўецца, як легкая хмарка“ (53); калі зваліў дужы Гэракл у пыл Антэя, як вецер валіць поўны колас да ральлі“ (71); параўнаньні *слухавыя*: „як ударыш ты ім (вершам) —ён, як звон, зазьвініць, брызнуць іскры з халодных каменьняў“ (81). Маецца некалькі параўнаньняў гэтай-жа тлумачнай групы, ў каторых абраз спастаўленьня ўзяты са сфэры адвалочных паняцьцяў; гэтак: „падыймі ў гару сваё вока і ты будзеш зноў, як дзіця“ (31); „дагарыць яна (сьвечка) і зьнікне, як і ўсё на сьвеці“ (38); „і ясны ён (верш), як зорак сны“ (65); „мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі“ (101).

Як ужо адзначалася, тлумачныя параўнаньні служаць для тлумачаньня плястычнасьці паўзятага аб'екту. Дзеля гэтага, ў агульным падрахаваньні параўнаньні гэтай групы выконуюць мастацкія функціі, ськіраваныя ў старану выразнага і плястычнага выабражаньня тых ці іншых аб'ектаў і праяў,

уходзячых у зьмест паэзіі М. Багдановіча. Характар яркасьці і плястычнасьці параўнаньняў, як конкрэтнага выражэньня іх паэтычнай тэлеолёгіі, мяняецца ў залежнасьці ад асобнасьцяў тых абразоў, каторыя складаюць параўнаньні, і зьяўляюцца або зрочнымі, або паруховымі, або слухавымі, гледзячы на тое, якія, ласьне, параўнаньні ўжывае мастак. Плястычнасьць выабражаньня павялічаецца яшчэ і тым, што паміж аб'ектам параўнаньня і яго абразом істнуе ў большасьці здарэньняў поўная эквівалентнасьць, г. ё., той і другі прыналежаць да праяваў або зрочнага, або паруховага, або слухавога характару. Дзякуючы гэтаму, павялічаецца агульная сумма азнак і прымет або зрочнага, або паруховага, або слухавога характару ў залежнасьці ад таго, да якой групы параўнаньне належыць, а гэты варунак у свой чарод павялічае плястычнасьць стылю, яго конкрэтнасьць і выпукласьць. Так, у параўнаньнях першай групы і аб'екты іх, як і абразы, зрочныя і нярухомыя: травой (12), у небі зялёным (25), сьнег (28), месяц (40) і г. д. Роўным чынам, у другой групе (паруховай) аб'екты параўнаньня такжа паруховыя: дробным дажджом (15), ваду (71), машкара (53) і інш. У параўнаньні з слухавым аб'ект яго—верш—прадстаўляецца як аб'ект, назначаны для слуханьня, г. ё. як аб'ект, слухавога характару. Такім парадкам, і тут паралелізм паміж дзвяма часьцямі параўнаньня—наўзвоч. Параўнаньні адвалочныя такжа пабудаваны на аснове спастаўленьня паміж аб'ектамі і іх абразамі. Аснова іх: „падыймі ўгару сваё вока“ (31), „сьвечка зьнікне“ (38), „верш ясны“ (65), „мы пакляліся“ (101)—адвалочнага характару. Але гэтыя параўнаньні не даюць выразістасьці і яркасьці якая прыналежыць папярэднім спастаўленьням. Наадварот, яны зьліваюць матэр'яльны абраз з паняцьцямі мэтафарычнага парадку. Толькі ў творчасьці М. Багдановіча параўнаньні гэтага гатунку вельмі малалічэбны; сярод іншых спосабаў яго творчасьці, каторыя ў значнай большасьці сваей, выражаюць, ласьне, плястычны характар паэзіі мастака, яны не перашкаджаюць адзінству аснаўных азнак яго творчасьці.

Параўнаньні *эмоцыянальныя,* г. ё., якія маюць абраз на першым мейсцы, такжа не аднолькавы па сваей лёгічнай форме. Сярод іх маюцца параўнаньні *зрочныя*, прыкладам: „бытцам сіні аганёк, б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі сіняскрылы матылёк“ (32), „як сіняваты дым нявідзімых кадзіл, рой хмарачак плыве“ (43), „як той алень шукае крыніцы чыстай, так шукаю Бога я“ (44), „як са дна ключу ўжо не падняцца, так і гэтым словам не мінацца“ (48), „як круглае вока савы, цыфэрблят—пільны сьведка мінулых учынкаў“ (51), „як плямы, анонсы і плакаты на сьцяне“ (52), „як месяц зіхаціць адбітым сьветам, так вершы зьяюць даўніх форм красой!“ (98), „быццым карона-жэ між на каленях стаячага Нікса і паміж Цмока яна, затрымаўшыся, блешчэ на мейсцы“ (99); *слухавыя*: „бытцым тысячы крэпка нацягнутых струн, тонкаствольные сосны звіняць“ (9); *адвалочныя*: „як мары, белые бярозы“ (29).

Эмоціянальныя параўнаньні ў сваіх мастацкіх функціях аднолькавы з параўнаньнямі сэнсоўнымі. Толькі маштаб іх эмоціянальных уражань больш вузкі, чым у першых. Так, у сэнсовых параўнаньнях перад чытачом праходзяць цэлыя мастацкія малюнкі, якія прадстаўляюць сабой гарманічнае злучэньне раду паэтычных абразоў. Тут-жа, ў злучных эмоціянальных параўнаньнях, рамкі эмоціянальных настрояў абмежуюцца толькі паасобнымі абразамі, каторыя, ў залежнасьці ад характару іх, выклікаюць эмоціі рожнага зьместу—зрочныя, паруховыя, слухавыя і г. д.

З усіх праяў стылістычнай композыціі, як відаць з папярэдняга выкладу, параўнаньні маюць у сабе найбольшае багацьце азнак эмоціянальнага стылю.

Побач з імі ёсьць і яшчэ славесныя асобнасьці, характэрныя для таго-ж стылю і даволі частыя ў творчасьці М. Багдановіча. Гэта—*запытаньні* і *выклікі*. Гэтыя спосабы ўжываюцца паэтам галоўным чынам для выражэньня яго асабістых настрояў, г. зн., прытасоўна да фармальнай схэмы матыву, належаць да першай яго часьці—да асабістага „я“ паэты, і яго *адношаньня* да праяў зьнешняга сьвету, які складае другую палавіну кождага матыву.

Пытальныя сказы ў вершах паэты выконуюць функціі эмоціянальнага характару, рожныя па свайму зьместу. У адных здарэньнях паэт, нарушаючы „эпічнасьць“ у выбражаньні рэчаў зьнешняга асяродку, зьвяртаецца да чытача з запытаньнем, якое атрымлівае і развязаньне ў наступным выкладзе. Пры такім спосабе выбражаньня мы маем два моманты ў дзедзіне твораў лірычнага характару; сьпярша—асабістае „я“ мастака, выражанае, між іншым, у запытальных сказах, зьвернутых да чытача або да самога сябе і якія ствараюць, ласьне, лірычны момант верша; затым—апісаньне абраза малюнку тэмы са зьнешняга сьвету, што складае ўжо „эпічныя“ азнакі твору. Прыкладам, верш, які зьмешчаны на 9 бал., пачынаецца лірычным запытаньнем паэты:

„Чуеш гул?“

і далей ідзе, „эпічны“ малюнак рэальнага сьвету:

. . . . „Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць“...

У гэтым вершы лірычнае запытаньне зьяўляецца пачаткам; ім-жа верш і канчаецца:

„Што зіяе - дрыжыць на лісьцёх лазьняка:
Кроплі сьлёз ці халоднай расы?“

„Эпічныя“ малюнкі тут апавіты лірычнымі.

Але тое-ж чарадаваньне можа мець і крыху іншы характар. Спачатку— „эпічная“ часьць верша:

„Па над белым пухам вішняў,
Бытцым сіні аганёк,
Бьёцца, ўёцца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк“ і г. д. (32).

Сказаўшы аб тым, што хваляй ліецца гімн вясьне, ён перарывае сваё „спакойнае“ апавяданьне запытаньнем:

„Ці ня сэрцэ напевае,
Навевае яго мне?
  Ці ня вецер гэта звонкі
  Ў тонкіх зёлках шэпаціць?
  Або мо сухі, высокі
  Ля рэкі чарот шуміць?“ (32).

У тых ці іншых камбінаціях падобныя чарадаваньні знаходзім і ў другіх вершах (Уся ў сьлезах дзяўчына, 35; На глухіх вулках ноч глухая, 54; Ой, чаму я стаў паэтам?, 72; Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты? 78; Была калісь пара, 87; Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог, 89; Пекла было тут у тую часіну, 102).

Выклічныя сказы, як спосабы эмоціянальнага выбражаньня, больш часты ў М. Багдановіча, чым запытальныя. Самым звычайным тыпам іх зьяўляюцца такія, ў якіх паэт вылучае, спосабам эмоціянальнага выкліку, найбольш важныя моманты ў тэматычным складзе твору. Гэтым спосабам ён

прыдае выбражанаму павышаную ўражлівасьць у параўнаньні з „эпікай“ верша. Твор „Досі ўжо працы“ (34) мастак пачынае выклікам, падкрэсьляючы яго аснаўныя тэматычныя моманты:

Гэй, варушыцеся, коні панурые,
Досі ўжо працы, бо сонцэ зайшло!“

Далей меньш істотнае і больш дзеля гэтага спакойнае апавяданьне:

„Ярка—чырвоные, жоўтые, бурые
Боразны ў небі яно правяло“... (34).

Такі-ж спосаб і ў другіх вершах, пры чым магчымы і іншыя палажэньні ў сэнсе мейсца гэтых выклікаў (У Вільні, 52; Ўстнь навальніца, 59; Бледны, хілы..., 75; Жывеш ня вечна, чалавек, 76 і інш.).

Выклікі падкрэсьляюць часам і асабістыя настроі аўтора, якія, дзякуючы гэтаму, вылучаюцца з агульнага зьместу твору і атрымліваюць значэньне дамінуючага ў ім абраза. У вершы „Кніга“, (44), „эпічным“ па зьместу, паэт, падаючы словы „псальмы слічнай“,

...„як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я“...,—

безпасярэдна ўсклікае:

„Як вее сьвежасьцю яе краса жывая!
Як радасна ўсё дальш сьпяшыць душа мая!“.

Гэты двоверш на агульнай „эпічнай“ асноведзі верша зьяўляецца агульным лірычным, які, дзякуючы, ласьне, спосабу ўсклíканьня, набывае большую эмоціянальную выразістасьць і дзеля гэтага, займае, ў параўнаньні з другімі, дамінуючае палажэньне ва ўсім вершы*).

Есьць прыклады сумеснасьці гэтых спосабаў—выкліку і запытаньня—ў адным і тым-жа творы. Асабліва гэта ярка заўважаецца ў тых вершах, якія датычуць соціяльных матываў. У гэтых здарэньнях паэт, можна думаць, ня будучы ў стане стрымаць валвуючыя яго пачуцьці, прыбягае для іх выражэньня, між іншым, і да паказаных спосабаў стылю, злучаючы іх разам. Творы гэтага гатунку найбольш эмоціянальны ў параўнаньні са ўсімі іншымі. Гэта азнака іх павялічаецца яшчэ і другім стылістычным спосабам, ласьне, —фігурай *замаўчаньня*, якое ў гэтых здарэньнях мае эмоціянальнае значэньне, выражаючы сабой ўзрушаньне мастака з прычыны ўплыву на яго аднагучных абразоў. У вершы „Краю мой родны! Як выкляты Богам“ (62-63) маем наўзвоч усе адзначаныя спосабы: запытаньні, выклікі, замаўчаньні:

„Краю мой родны! Як выкляты Богам—
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожэм убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліся родные вёскі
Жалям сціскаюцца грудзі!—
Бедные хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурые людзі... (62)

Далей „эпічная“ часьць верша, але ў закончаньні зноў эмоціянальнасьць —рэзка напружаная:

---

*) Тое-ж і ў вершы „Октава“ (97).

„Горэ усюды пануе.
Хваляй шырокай разлілось, як морэ,
Родны наш край затапіло...
Брацьця! Ці зможэм грамадзкае горэ?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!“ (62-63) *)

Тая-ж фігура замаўчаньня ўжываецца ў М. Багдановіча і ў іншых здарэньнях, толькі тады яна выконуе іншыя мастацкія функцііі. Калі ў папярэднім умаўчаньне служыла сродкам для выражэньня індывідуальнага духовага ўздойму аўтора, яго адношаньня да сьвету, то цяпер назначэньне гэтай фігуры іншае: умаўчаньне выклікаецца тым, што абразы, якія паэт стварае, адзначаюцца большай эмоціяй, шпаркасьцю, дзеля чаго мастак не ў стане зафіксаваць іх на славесным палатне. Атрымліваюцца мімавольныя пропускі, замаўчаньня. Гэта рэзка кідаецца ў вочы ў бытавых матывах, якія рысуюць нікчэмнасьць сучаснага прамысловага гораду. „Спакойнасьць“ паэты, якая йшла перш паўзьбежна са „спакойнасьцю“ яго абразоў, узятых з акружаньня вясковага быту, заўсёды консэрватыўнага і блізка нярухомага, цяпер зьмяняецца нэрвовасьцю і разгонам не астаецца ад тэмпу гарадзкога жыцьця. У гэтым адношаньні асабліва характэрны верш „У Вільні“ (52), які ўвесь пабудаваны на фігуры замаўчаньня:

„Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне...
Вітрыны... морэ вывесак... як плямы
Аннонсы і плакаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!...
Агні вакзала .. павадка хурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўные прынады!“ (52).

Другія вершы з тымі-ж матывамі ў тэй ці іншай меры такжа зьмяшчаюць у сабе паказаныя способы (Вулкі Вільні зіяюць, 57; За дахамі места памеркла нябёс пазалота, 53 і інш.) і выражаюць тыя-ж мастацкія функцыі.

З досьледу разгледжаных способаў стылістычнай композыцыі выплывае, што паэт карыстаецца ў сваей творчасьці адначасна способамі стылю рэалістычнага (клясычнага) і эмоціянальнага (романічнага). Лічбовая перавага, аднак, належыць способам першага гатунку, дзеля чаго пераважае і агульнае падрахаваньне плястычных колераў, якія ўжывае мастак у сваіх творах.

III.

Перавага рэальнасьці ў выабражаньні адбіваецца і на характары композыцыі *фонэтычнай*. У праціўлегласьць паэзіі сымвалічнай, ўзбагачанай эмоціянальнымі гукавымі эфэктамі, творчасьць М. Багдановіча ў вельмі нязначнай ступені зьмяшчае ў сабе праявы гэтага характару. *Ассонуючага* гукараскладу зусім няма; прынамсі, нам не ўдалося знайсьці прыкладаў яго. А*льтэрацыйны* гукарасклад мае ўсяго некалькі прыкладаў; сюды належаць:

„(Пад рукамі яго), *разваж*аю*ч*ы *сум*,
Бы*тцым* ты*с*я*ч*ы, к*р*эпка *нац*яг*н*утых, *струн*,
То*н*ка*с*тво*льн*ые *сосн*ы зві*няць*“ (9).

*) Таксама: „Кінь вечны плач свой аб старонцы“ 65; Зрэзаюць галіны, тапол́і адну за адной“... 66 і інш.

Злучэньне сьвісьцячых гукаў *з*, *с* і асабліва *ц* (т') з сіпячымі *ж*, *ч* стварае эмоціянальнае адбіцьцё тых гукаў, якія выбражаюць шумячыя хвойкі; больш вылучаецца гук *т'* або *ц*, каторы сваей адарванасьцю і сьвістам перадае трумканьне струн; плыўкія *м*, *н*, *р* і *л* ствараюць агульную акомпанійную асноведзь безперестаннага гучэньня аднолькавых тонаў, на якой (асноведзі) гукі струн з іх *ц* выступаюць асабліва выразна.

Значна вылучаюцца такія альтэруючыя гукі ў наступаючым адрыўку, які перадае шалясьценьне разкалыханай ветрам грушы:

„Ве*ц*ярок прыдаро*ж*ную гру*ш*у
Ледзьве *ч*утна вару*ш*э—калы*ш*э"... (20).

Сіпячыя гукі *ж*, *ч*, *ш* і прыдадзеныя да іх сьвісьцячыя перадаюць эмоціянальнае адбіцьцё шуму зьлягка разкалыханай грушы:

Верш „Завіруха" (55):

„*У бубн*ы дахаў *ве*цер *б*ье,
Г*рыміць па* і*м*, *зьвініць*, *пя*е.
І *сп*еў *лі*е*цц*а ўсё *мац*н*е*й,—
Гу*л*янку *спр*авіў *пан П*ад*в*ей.
*У бубн*ы дахаў ве*ц*ер *б*ье,
Г*рыміць п*а і*м*, *зьвініць*, *пя*е.
*Уск*і*п*е*л*а *сьн*е*жн*ае ві*н*о
І *белай пен*ай *мкне* я*н*о.
*У бу*б*н*ы дахаў ве*ц*ер *б*ье,
Г*рыміць п*а і*м*, *зьвініць*, *пя*е.
*Па* *ву*л*к*ах *в*ее *дз*ікі х*мель*,
Гу*дз*і*ць сп*ья*н*е*л*ая *мяцель*.
*У бубн*ы дахаў ве*ц*ер *б*ье,
Г*рыміць п*а і*м*, *зьвініць*, *пя*е" (55)

пабудаваны на альтэразаваньні плыўкіх *м* і *н*, якія перадаюць неперарыўнае выцьцё зімовай завірухі. Гэта неперарыўнасьць падтрымліваецца паўтарэньнямі двох першых штроф

„У бубны дахаў вецер бье,
Грыміць па ім, зьвініць, пяё...

пасьля кождага аснаўнога двовершу. Такіх аснаўных двовершаў у пададзеным вершы тры, тады, як паўторных—чатыры. Што да гукаў, то плыўкія маюцца ў аднолькавай меры ў аднэй і другой групе двовершаў. Злучаныя з плыўкімі сьвісьцячыя, асабліва мяккое т' (ц), адбіваюць рэзкія і моментальныя гукі ветру, які б'е ў дах. Гэту рэзкасьць паасобных удараў ветру падкрэсьляюць і вусмныя *б* і *п* і часьцю вусмна-зубны *в*, якія чарадуюцца з рытмічным памерам у паўтараючыхся вершах.

Немень ярка выражанай эмоціянальнасьці і, наадварот, наўзвочнасьць плястычных абразоў падкрэсьляецца і *рытмічна-мэтрычнымі* уласьцівасьцямі вершаў М. Багдановіча. Значная большасьць іх (54 вершы) напісана памерам рэцытацыйным—ямбічным або хорэічным,—у якім націскі роўнамерна чарадуюцца цераз адзін ненаціснуты склад.

Ямбічныя памеры:

‿ — ‿ — ‿ — ‿ —
„Бл і шч ы ць у н е б і з о р пас е ў;
‿ — ‿ — ‿ — ‿ —
або: У п о л і — рунь, і ў н е б і —р у н ь"... (18);

◡ — ◡ — ◡ — ◡ —
„Калісь глядзеў на сонцэ я,
◡ — ◡ — ◡ — ◡ — ◡
Мне сонцэ асьляпіло вочы“... (95).

Хорэічныя:

— ◡ — ◡ — ◡ — ◡
„Па над белым пухам вішняў,
— ◡ — ◡ — ◡ —
Бытцым сіні аганёк,
— ◡ — ◡ — ◡ — ◡
Бьёцца, ўёцца шпаркі, лёгкі
— ◡ — ◡ — ◡ —
Сінякрылы матылёк“... (32);

або:

— ◡ — ◡ — ◡ — ◡
„Ой, чаму я стаў па этам
— ◡ — ◡ — ◡ —
Ў нашай беднай старане?“... (72).

Пададзеныя адрыўкі маюць памеры чатырохстопнага ямбу і хорэю, якія з рэцытайційнай плыўкасьцю і роўнамерным спакоем перадаюць *апавядальнасьць* рожнародных матываў: соціяльных, бытавых, прыродных, псыхолёгічных і г. д. Гэта—памер „апавядальнага“ вершаваньня, ў каторым асабістае „я“ мастака не вылучаецца ў рэзкай форме, якая-б заўсёды кідалася ў вочы. Нават у тых здарэньнях, калі спосабам выклічных сказаў і зваротаў у форме клічных склонаў пісьменнік імкнецца вылучыць сваё аблічча, той-жа рэцытатыў чатырох-шасьцістопнага ямбу або хорэю скрадае лішнюю эмоціянальнасьць гэтых спосабаў творчасьці. Напрыклад, гэта акрэсьлена заўважаецца ў такіх адрыўках:

◡ — ◡ — ◡ — ◡ — ◡
„Прывет табе, жыцьцё на волі!...“ (17);
◡ — ◡ — ◡ — ◡ — ◡
„Добрай начы, зара-зарніца!“ (20);
◡ — ◡ — ◡ — ◡ — ◡
„Здароў, марозны, звонкі вечэр!
◡ — ◡ — ◡ — ◡ —
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!“... (29).

Рэцытаційнасьць ямбічнага або хорэічнага вершаваньня адбіваецца і на лёгічным зьмесьце тэксту, стрымліваючы яго эмоціянальную выразістасьць.

У вершы „Возера“ першая штрофа

„У чарцы цёмнай і глыбокай
Плешчэ, пеніцца віно;
Хмелем сьветлым і халодным
Калыхаецца яно“ (16)

зьмяшчае мысль аб пенным, якое пераліваецца цераз край, хмельным віне; ў зьвязку з гэтым эмоціянальная яркасьць павінна адпавядаць унутранай лёгічнай істоце зьместу штрофы. Між тым, дзеля ямбічнай плыўкасьці, хмельнасьць і пеннасьць ўнутранай ідэйнасьці ў значнай ступені скарочваецца.

Памер пяці, шасьці і сямістопнага ямбу або хорэю, праведзены цераз увесь верш, яшчэ больш павялічае рэцытаційнасьць, ствараючы „апавядальны“ характар верша:

„Была калісь пара: гучэла завіруха
І замела маей мінуўшчыны сьляды“... (87);
„Цёплы вечэр, ціхі вецер, сьвежы стог
Улажылі спаць мяне вы на зямлі“... (19).

Але іншы раз паэт нарушае рэцытацыйнасьць памеру і „апавядальнасьць“ складу рожнымі камбінаванымі спосабамі ў карыстаньні тымі ці іншымі мэтрамі, ўносячы гэтым большую лірычнасьць і рытмічную валвістасьць у сваё апавяданьне. Так, у вершы „Зьмяіны цар“ (13) паэт карыстаецца, напр., для першых двох радкоў штрофы, ямбічным памерам, а ў двох апошніх—хорэічным; пры гэтым шасьцістопны ямб, роўна-ж як і сямістопны хорэй, ён разьбівае на два вершы,—ў першым $4^1/_2$ стапы і ў другім $3—3^1/_2$ стапы*). У выніку штрофа мае такі выгляд:

„Ў цёмным небі—хара воды
Сіневатых зорак,
Ў цёмным небі сьвеціць месяц
Залатым сярпом...
Мы ўжо выйшлі с цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся паўзем“... (13).

Часта паэт карыстаецца скарочанымі радкамі, зьмяшчаючы іх ў канцы штрофы, або заканчаючы імі пэрыёды штрофы. Прыкладам, у вершы

„Прывет табе, жыцьцё на волі!
Над галавой—дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісцьцяў сець“... (17).

чатырохстопны ямб першых трох радкоў штрофы заканчаецца радком з дзьвёх стоп таго-ж памеру.

Наадварот, у вершы

„Не блішчыць у час змерканьня і ў глыбокай цемні ночы
Дыямант каштоўны,
Але белым днём красою нам чаруе, вабіць вочы
Блеск яго цудоўны“ (70).

васьмістопны хорэй мае ў закончаньні кождага пэрыёду трохстопны мэтр тэй-жа формы.

Наагул штрофы з уцятымі радкамі маюць рожнародны выгляд. У вершы. „Дзьве сьмерці“ (58) першы, трэці і чацьверты радок маюць шасьцістопны

*) Той-жа спосаб распадзяленьня сямістопнага харэю на чатыры (першы радок пэрыёду) і тры (другі радок) і ў вершы „Вечэр“ (40).

ямб. Або ў вершы „Даўно ўжо целам я хварэю“ (73) чатырохстопны ямб чарадуецца з двохстопным у штрофе з чатырох радкоў і г. д.

Усе іншыя мэтры (39 вершаў) ў творчасьці М. Багдановіча трохскладныя—дактылічныя, анапэстычныя і амфібрахічныя, ўжываныя або ў чыстым выглядзе, або ў злучэньні з двохскладнымі памерамі—ямбам і хорэям, ствараючы так званыя—лёгаэбы, г. ё., зьмяшаныя мэтры. У адношаньні да тэматычнага матэр'ялу ўсе памеры гэтага гатунку знаходзяцца ў „безразрожлівым стане“, г. зн., тэмы аднаго і таго-ж характару выабражаюцца пры помачы рожных мэтраў з ліку вышэй названых. Эмоціянальная залежнасьць між ідэйнасьцю твору і тым або іншым мэтрам у яе паасобных выразах не паддаецца падрахаваньню. Агульнае дасьледаваньне ў гэтым кірунку можа быць зьведзена толькі да паказаньня на тое, што трохскладныя памеры адпавядаюць характару матываў у паэзіі М. Багдановіча, прасякнутай, як гэта відаць з папярэдняга, ў агульных рысах, пэсымістычным настроем. Звычайным тыпам трохскладных памераў зьяўляецца мэтр трохстопны і чатырохстопны. Значна радзей—шасьцістопны.

Як у двохскладных мэтрах паэт ужывае уцятых радкоў для наданьня большай рожнароднасьці памеру, так гэта-ж самае ён робіць і ў трохскладных мэтрах. Але прыклады адпаведна усечаных радкоў сустрачаюцца параўнальна рэдка. Больш часты мяшаныя памеры, г. ё., злучэньне трохскладнага мэтра з двохскладным, пры чым апошні і можна разглядаць, як вядомы спосаб уцяцьця радка. Напрыклад,

„Зрэзаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чэрадою лажацца,
Бо сьмерць іх патрэбна, каб дзерэва новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца“ (66).

Вытрыманы пяцістопны амфібрахій тут маецца толькі ў другім радку. Першы і трэці маюць чатырохстопны поўны і пяты ўсечаны, г. ё., ямб. Чацьвёрты радок укарочаны да памеру поўных трох стоп амфібрахія.

Вынікам такога, ласьне, „чарадаваньня“ і камбінаваньня мэтру і зьяўляецца яго жывасьць, пераліўнасьць, выпукласьць, плястычнасьць. Калі рэцытацыйныя памеры можна параўнаць з цячэньнем ракі па роўнаму лугавому ручву, з цячэньнем спакойным і ціхім,—то памеры перарывістыя хутчэй сымволізуюць горскую раку, якая цячэ па камянёх з голасным дзурчэньнем, часам пераліваючыся з вялікім клыгатаньнем цераз каменныя перагародкі. Гэты гукі пераліваў, каторыя паўтараюцца з вядомай размеранасьцю, і адзначаюць больш выразна рытмічнае цячэньне верша. Гэткая і мэтрыка М. Багдановіча.

*Рытмічны* лад паэзіі М. Багдановіча некалькі зыходзіцца з тымі спосабамі, якія былі адзначаны ў яго мэтрыцы. Характэрным для мастака рытмам зьяўляецца пярокрыжны, які ў адношаньні эмоціянальным такжа аказуецца рэцытацыйным і аднародным. Гэта тым больш прыходзіцца сказаць, што паэт ужывае рытм гэтага гатунку ў штрофе чатырохрадковага складу, ствараючы гэтым яшчэ большую разьмеранасьць, але адначасна—і монотоннасьць. У данным здарэньні мы бачым тое-ж самае, што і ў яго чатырохстопных ямбах і хорэях. Аднак, як там, так і тут—у пытаньнях рытмічнага ладу—мастак ужывае і цэлага раду спосабаў камбінаванага характару. Ён карыстаецца часам і пяцірадковай штрофай, у якой паўтарае лішні раз рытм першага радка:

„Чуеш гул?—Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна грацьː
Пад рукамі яго, развconfigure сум,
Бытцым тысячы, крэпка нацягнутых, струн,
Тонкаствольные сосны звіняць" (9) *).

Часты здарэньні ўжываньня рытму і цераз нярытмаваны радок:

„Па над белым пухам вішняў,
Бытцым сіні аганёк,
Бьёцца, ўёцца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк" (32) **).

Такія спосабы рытмаваньня тлумачуцца тым, што паэт у двохрадковай рытмаванай штрофе

„Па над белым пухам вішняў, бытцым сіні аганёк,
Бьёцца, ўёцца шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк"...

разрэзае кожды радок на дзьве часьці і стварае штрофу з чатырох радкоў, з якіх аб'ednуюцца рытмам толькі першапачатныя радкі; занова створаныя астаюцца без рытмоўкі ***).

Есьць здарэньні і яшчэ больш сваеаблічнай рытмоўкі, якая зьбліжаецца да рытмічнай згучнасьці тэрцін. Так, у вершы, „Разрытая магіла" (26) кождая штрофа пабудавана ў рытмічным адношаньні такім парадкам:

„Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
У полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзьверы і вакно;—
Сэрцэ беднае заб'ецца
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Усё што згінуло даўно"... (26).

Першыя два радкі зьвязуюцца адным рытмам; далей ідуць аднародныя ў рытмічным адношаньні трэці, пяты, шосты і сёмы радкі; чацьвёрты і восьмы маюць свой рытм ****).

Усе іншыя тыпы рытмаў, ужываных М. Багдановічам, сумежныя або ахапляючыя. Есьць, ўрэшце, і некалькі прыкладаў комбінаваньня рожных тыпаў рытмоўкі ў адным і тым-жа вершы. Адны штрофы аб'ядноўваюцца пярокрыжнымі рытмамі, а другія сумежнымі (Параўнай вершы: З Чэрняўскага, 101; З Олеся, 102).

Што да сугучнасьці пераважаючая большасьць рытмаў точных: лясун—сум, каласы—расы (9); стары—бары, згінуў—пакінуў, адбівае—хавае (10); горкі—зоркі, косы—росы (11) і інш. Гэта ўласьцівасьць знайходзіцца ў зьвяз-

*) Тое-ж і ў другіх здарэньнях: Цёплы вечэр, 19; Вулкі Вільні, 51 (з другой штрофы); Дзьве сьмерці, 58; Каганцу, 60; Калі зваліў дужы Гэркал, 74 і інш.

**) Таксама: Зьмяіны цар, 13; Возера, 16.

***) Параўнай такжа падобнага гатунку разрэзы ў 7 вершах: Не кувай ты, шэрая зязюля, 37; Вечэр, 40; Упалі з грудзей Пана Бога, 61; Напілося сонцэ, 71; Песьняру, 81; Некалькі іншыя разрэзы ў вершы: Ціха па мяккай траве, 21.

****) Прыблізна такую-ж сваеаблічную рытмоўку маюць вершы: Ў Вільні (52), С. Е. Палуяну (59), Ой, чаму я стаў паэтам (72), Тэрціны (98).

ку з агульным характарам яго паэзіі—яе яркасьцю і плястычнасьцю. Точныя рытмы сваей рэзкаю акрэсьленасьцю і выразным выходжаньнем рытмаваных між сабой гукаў прыдаюць, ласьне, выпукласьці паэтычным абразом. Гэтая выпукласьць абразоў у творах М. Багдановіча падкрэсьляецца яшчэ і тым, што большасьць рытмаў прыпадае на галоўныя часьці сказу: часта—на дзейнік („Засыпаюць грудзі мне жоўтыя *пяскі*", „Над вадой ля берэга ціха сьпіць *асока*" (12); „ У небі месяца праглянуў бледны *рог*", „Чую ў цішы, як расьце *трава*" (19); „Дзесь у хмарах жывуць *павукі*", „У целі стыгне халодная *кроў*" (25); „Крэпка скутая сьнегам *зямля*" (27) і г. д.), асабліва часта—на сказьнік („Зрубалі бор,—лясун *загінуў*, Сваё люстэрка ён *пакінуў*"; „Жыцьцё сабою *адбівае*" (10); „Па шыры неба ўдоль марудна *праплывае*; Але вось паветра *разсякае*; А людзі кажуць: гэта дождж *праліўся*" (14) і г. д.), радчэй – на простае дапаўненьне („Цягне з возера срэбныя *сеці*; У іх русалкі заблуталі *косы*" (11); Але месяц правёў праз рэкі сьветлы *шлях*" (23) і інш.)

Рытмы прыблізныя, глубокія, якія характэрызуюць галоўным чынам эмоціянальны лад твору, ў творчасьці М. Багдановіча займаюць вельмі нязначнае палажэньне. Лік іх невялікі: перад - я—мая (13), залатых—ў іх (32), сіневатыя —да хаты я (34), ізумруд—з болем тут (46). Гэта акалічнасьць паказуе на малалічэбнасьць эмоціянальных азнак у сфэры фонэтычных ўласьцівасьцяў яго паэзіі.

Разгледжаныя ўласьцівасьці композыціі стылістычнай і фонэтычнай характэрызуюць акрэсьленым спосабам і элемэнты композыціі сюжэтнай—яе тэмы і матывы, ствараючы з імі вядомыя тэлеолёгічныя зьвязі з ёй. Цяпер на чародзе разгляд таго, якім парадкам гэты часьці, дасьледаваныя намі ў агульных рысах, аб'еднуюцца паміж сабою, ствараючы суцэльны мастацкі твор. Інакш кажучы, мы павінны цяпер апісаць і сюжэтную пабудоўку. У папярэднім выкладзе, разглядаючы ў мэтах констатаваньня рожныя ўласьцівасьці тэматычнага характару—стылістычныя і фонэтычныя, мы ў значнай меры ўстанавілі і тыя мастацкія заданьні, якія кождае з іх выконуе. Цяпер трэба, ў рамках композыціі сюжэтнай, разгледзіць злучнае дзеяньне паказаных трох фактараў мастацкай творчасьці—тэматыкі, стылю і фонэтыкі, іх мастацкую ролю ў цэльных творах.

На першым мейсцы—ўласьцівасьці тэматычнага характару і іх композыційнае значэньне ў вершах М. Багдановіча. Раней было паказана, што сфэру ідэйнай стараны творчасьці паэты выражаюць тэмы і матывы, якія, пры помачы акрэсьленых спосабаў, злучаюцца разам, і, ў вініку даюць закончаны твор. Гэты працэс іх злучэньня і складае зьмест першага пытаньня ў рамках сюжэтнай композыціі.

Разглядаючы творчасьць М. Багдановіча з гэтай, ласьне, стараны, мы можам устанавіць некатарыя гатункі тэматычнай композыціі, характэрныя для паэты. Найбольш разпашыраным у яго спосабам разпалажэньня тэматычнага матэр'ялу аказуецца разцяцьце яго ў вершы на дзьве часьці, пры чым звычайнай схэмай у такіх здарэньнях зьяўляецца наступная: ў першай часьці верша – тэмы і матывы зьнешняга сьвету, ў другой—настроі ўнутранага псыхолёгічнага зьместу. Такі плян разпаложэньня тэматычнага матэр'ялу пераважае ў творчасьці М. Багдановіча, разпашыраючыся на большасьць яго вершаў. Калі прасачыць гэты падыход прытасоўна да яго тэм і матываў, то на першым мейсцы акажуцца вершы з матывамі прыроды, затым – соціяльнымі, далей—бытавымі. У меньшай меры можна адзначыць гэты падыход у творах з матывамі філёзофічнымі і літэратурнымі. Істота композыційнага чэлесаваньня па гэтай схеме зводзіцца, ў яго звычайным і найбольш

частым выглядзе, да таго, што ў першай часьці твору, аб'яднанага тым або іншым лікам штроф, выкладаецца „эпічная“ часьць матыву, тыя або іншыя малюнкі сьвету, а ў другой, такжа строфічна зьвязанай,—зьмяшчаецца часьць „лірычная“, якая складае асабістыя настроі мастака. Так, у вершы

„Вечэр на захадзе ў попелі тушыць
Кучу чырвоных кавалкоў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
У небі вячэрнім, зялёным, як лёд;
Іскрацца зорак сьняжынкі маркотна,
Збожжэ пакрылося шызай расой...
Кіньмо жэ думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момэнт спачынем душой!“ (22)

мы ня маем наўзвочнага дзяленьня на штрофы. Між тым, не гаворачы аб азнаках стылістычнага і фонэтычнага характару, ўжо з тэматычнага пункту гледжаньня можна зусім акрэсьлена бачыць яго тэматычныя разрэзы. Першыя дзесяць радкоў даюць малюнак прыроды; апошнія два маюць псыхолёгічны зьмест. Калі прыняць апошнія два радкі „іншага“ зьместу за штрофу то такімі-ж будуць і другія, якія складаюць увесь верш. Гэткае дзяленьне не пярэчыць азнакам стылістычнай ўласьцівасьці, якія зводзяцца ў варунках сюжэтнай композыціі да праяў мастацкага сынтаксу. Аднак, досьледы ў фонэтычнай сфэры паказуюць, што дадзеныя разрэзы зьяўляюцца толькі пэрыёдам, але ня штрофай. Уласьціва, рытмічны лад тут будуецца пярокрыжнымі сугучнасьцямі, захопляючымі чатыры радкі. Такім чынам, даны верш складаецца з чатырох штроф: дзьве штрофы і адзін пэрыёд складаюць абразы прыроды, другі пэрыёд апошняй трэцяй штрофы—настрой паэты.

Ў прыведзеным прыкладзе пераважаючай аказуецца „эпічная“ часьць, а аканчальнай—лірычная. Але сярод вершаў М. Багдановіча маюцца і такія, ў якіх мастацкі матэр'ял разпадзяляецца ў абразным парадку, г. ё, матывы зьнешняга асяродку ўрэзаны і зьяўляюцца толькі ўступам, зачаткам вершу, а тэмы настрояў запаўняюць усе іншыя часьці твору. Так, у вершы „Разрытая магіла“

„Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
У полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзьверы і вакно;—
Сэрцэ беднае заб'ецца
І адразу ў ім прачнецца
І адразу скалыхнецца
Усё што згінуло даўно.
Ўспомніць сэрцэ, што любіло,
Ўспомніць моладасьць і сілу,
Ўсё, што знікло і уплыло,
Ўсё успомніць, як у сьне,—
Бачу: сэрцэ не забыло,
Што жыцьцё ў ім загубіло...
І разрытаю магілай
Вее сумна на мяне“ (26)

апісаньне прыроды займае толькі адзін пэрыёд васьмірадковай штрофы; другі пэрыёд тэй жа штрофы, а такжа ўся другая штрофа запоўнены матэр'ялам псыхолёгічнага зьместу.

Такое разпалажэньне матэр'ялу ў вершах М. Багдановіча аказуецца тыповым. Яно праводзіцца нават ў канонізаваных формах паэзіі, такіх, як сонэты, тэрціны, пэнтамэтры і інш. Большасьць іх і пабудавана па такой, ласьне, композыцыйнай схэме, прычым „памеры“ тэматычнага матэр'ялу першага і другога гатунку аказуюцца рожнымі і ахапляюць у кождым паасобным творы рожны лік штроф і пэрыёдаў. Аднак, агульны прынцып падзелу ўсяго тэматычнага матэр'ялу на дзьве часьці—абразы зьнешняга сьвету і тэмы асабістых перажываньняў мастака—заховуюцца*).

Рожнастайнасьцю гэтай-жа композыцыйнай схэмы зьяўляецца некалькі йнакшае разпалажэньне мастацкага матэр'ялу таго-ж ідэйнага зьместу. У папярэдніх прыкладах чарадаваньне тэм і матываў заўважалася ў закрэсе суцэльнага вершу. У М. Багдановіча маецца шэраг твораў, у якіх такое-ж чарадаваньне ўжываецца ў рамках асобнай штрофы. Гэтак пабудаваны, прыкладам, верш „Зімовая дарога“ (28), ў каторым першая і трэцяя штрофы прадстаўляюць сабой злучэньне тэм дваякага характару – з закрэсу прыроды і зьвязаных з ёю ўнутраных настрояў:

„Шпарка коні імчацца у полі
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запеваюць аб долі і волі,
Навеваюць у сэрцы спакой...
    Поле нікне у срэбным тумане,
    Сьнег блішчыць, як халодная сталь,
    І лятуць мае лёгкіе сані,
    Унашуся я ў сінюю даль“ (28). **)

Урэшце, карыстаецца такім падыходам разпадзяленьня мастацкага матэр'ялу па штрофах, пры якім эмоціянальныя перажываньні аўтора займаюць пачатныя і канчальныя пэрыёды і штрофы верша; знача, ў такіх здарэньнях абразы гэтага роду твораць сабою запачаткаваньне вершу і яго вывад. Прыкладам, верш „Зімой“ (29) пабудаваны па такой ласьне схэме:

„Здароў, марозны, звонкі вечэр!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Мяцель ня вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
    Як мары, белые бярозы
    Пад сінявой начной стаяць.
    У небі зоркі ад марозу
    Пахаладзеўшые дрыжаць.

---

*) Такая схэма тэматычнай композыцыі вытрымліваецца ў гэткіх вершах: Возера, 16; Прывет табе, жыцьцё на волі!, 17; Блішчыць у небі зор пасеў, 18; Цёплы вечэр, 19; Ціха па мяккай траве, 21; Плакало лета, 24; Дзесь у хмарах жывуць павукі, 25; Перад паводкай, 30; Романс, 33; Уся ў сьлезах дзяўчына, 35; Вечэр, 40; Кніга, 44; Уступ, 50; Вулкі Вільні, 51; У Вільні, 52; За далямі места, 53; На глухіх вулках, 54; Ад сьпёкі пышуць дахі, 57; С. Е. Палуяну, 59; Упалі з грудзей Пана Бога, 61; Краю мой родны! 62-63; Зрэзаюць галіны, 66; Нашых дзядоў душылі абшары лясоў, 68; Не блішчыць у час зьмерканьня, 70; Калі зваліў дужы Гэркал, 74; Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты? 78; Калі ў ракавіну... 79; Сьвяча бліскучая сіе, 80; Гутарка з паненкамі, 83; Была калісь пара, 87; Пэнтамэтры, 90; Непагодай маёвай, 91; Соннэт, 92-93; Октава, 97; Тэрціны, З Крымскага, 100; З Олеся, 102.

**) Па гэтаму прыкладу з тымі ці іншымі комбінаціямі ў штрофах пабудаваны вершы на балонах 23, 27, 28, 31, 33, 38, 39, 75, 88.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомоў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець“ (29).

Пачатны пэрыёд першай штрофы, які перадае эмоцiянальнае адношаньне мастака і выражаны выклічнымі сказамі, зьяўляецца запачаткаваньнем вершу, яго ўступам. Апошняя чацьвёртая штрофа з яе выклічнымі сказамі такжа эмоцiянальна-псыхолёгічнага зьместу і творыць сабой закончаньне вершу, яго эмоцiянальны вывад *).

Побач з гэтым спосабам кампазыцыйнага разпадзяленьня тэматычнага матэр'ялу ў М. Багдановіча можна адзначыць і другі, які, аднак, захоплюе значна меньшы лік яго твораў. Гэта другая кампазыцыйная манера заключаецца ў тым, што паэт запаўняе свае творы або цалком „эпічным“ зьместам, г. ё., выабражаньнем сьвету зьнешняга, або—выключна лірычным, які рысуе тэмы ўнутранага сьвету. Ілюстрацыяй гэтага спосабу з „эпічным“ зьместам можа служыць верш „Возера“ (10):

„Стаяў калісь тут бор стары
І жыў Лясун у тым бары.
Зрубалі бор,—Лясун загінуў.
Во сьлед яго ад тэй пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.
Маўляў у іншы сьвет вакно
Ляжыць, спакойнае, яно,
Жыцьцё сабою адбівае
І ўсё, што згінуло даўно,
У цёмнай глыбіні хавае“ (10) **).

Прыкладам „лірычнай“ ідэйнасьці зьяўляецца верш:

„Ой, чаму я стаў паэтам
У нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць ня можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуцьцё з душы бяжыць...
Мо за імі кроў палыне
І тады ўжо досі жыць!“ (72) ***)

Спосабы тэматычнай кампазыцыі знаходзяцца ў цесным зьвязку з манерай стылістычнага кампанаваньня твораў. Вядома, што ў зьмест паняцьця аб стылю ўходзіць цэлы рад паасобных праяў, якія характэрызуюць у агульным злучэньні стылістычную старану твору. Але раней яны разглядаліся паасобна, як самаістыя актыўнасьці, каторыя маюць акрэсьлены зьмест і форму, і выконуюць тое або іншае тэлеолёгічнае заданьне. У варунках кампазыцыі цэльнага твору гэтыя разрожненыя стылістычныя часьці аб'едноўюцца і выко-

*) Таксама складзены вершы на бал.: 9, 20, 34, 37, 69, 95.

**) Да гэтай-жа групы належаць вершы на бал.: 11, 12, 13, 14, 15, 41-42, 43, 45, 47, 48, 49, 55, 56, 58, 60, 71, 76, 77, 79, 80, 81, 94, 96, 99, 103.

***) Такія-ж самыя і вершы на бал.: 64, 65, 67, 73, 82, 84, 85, 89 101.

нуюць свае мастацкія заданьні, як адзінае арганізаванае цэлае. Такое аб'еднаньне стылістычных актыўнасьцяў выражаецца ў мастацкім сынтаксе, які ў гэтым здарэньні зьяўляецца другім фактарам композыцыйнага пабудаваньня твору. У конкрэтным выглядзе композыцыйная роля сынтаксу выяўляецца ў такіх спосабах, як інвэрсыя і паўтарэньні.

Першай з паказаных уласьцівасьцяў мастацкага сынтаксу ў даны момант, калі крыўская (беларуская) літэратурная і народная мова ня мае свае навуковай граматыкі, разглядзець у поўнай меры не прадстаўляецца магчымым. Данныя мастацкай інвэрсіі, як спосабу разпарадку паасобных часьцей, што складаюць сказ, у творчасьці таго ці іншага мастака устанаўляюцца з пункту гледжаньня догматычна-акрэсьленых норм разпакладу сынтаксычнага цэлага, г. ё., сказу; між тым крыўская літэратурная мова яшчэ ня мае ў закрэсе сынтаксу устаноўленых норм, дзеля чаго інвэрсія, як мастацкі спосаб, астаецца без разгляду.

Другі спосаб мастацкага сынтаксу—паўтарэньні, якія зьяўляюцца прыналежнасьцю эмоціянальна-рыторычнага стылю романтычнай паэзіі. М. Багдановіч, як паказаў аналіз стылістычных і фонэтычных асобнасьцяў яго твораў, зьяўляецца пераважна прадстаўніком рэальнай, плястычнай паэзіі. Спосабы творчасьці, характэрныя для эмоціянальнай лірыкі маюцца, як відаць з досьледу, ў меньшым ліку. Тая-ж уласьцівасьць заўважаецца і ў закрэсе ўжываньня паўтарэньняў, як аднаго са спосабаў эмоціянальнай мовы. З рожных гатункаў паўтарэньняў, часьцей ужываных, зьвяртае увагу паўтарэньне эпаналепсычнае або кругавое. У вершах М. Багдановіча яно апаясуе ўвесь твор паўтарэньнем аднаго радка ў пачатку і ў канцы; гэткае паўтарэньне ў вершы:

*Добрай ночы, зара-зарніца!*
Ужо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсевае.
Цішыня агартае мне душу!
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варушэ—калышэ,
Міла бомы сьмяюцца у цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
*Добрай ночы, зара-зарніца!*" (20).

Тут першы і апошні радок („Добрай ночы, зара-зарніца!"), які выражае ў выклічным сказе эмоціянальнае адношаньне мастака, кальцом апаясуе „эпічную" часьць верша, якая зьмяшчае ў сабе апісаньне малюнку ночы. Паміма сувязі тэматычнай, якая ствараe тэматычны паралелізм, між паўторнымі радкамі і аснаўным зьместам верша маецца і сувязь фонэтычнага характару. Першы радок зьвязуецца з наступным адным сумежным рытмам: зарніца—лажыцца. Роўным чынам апошні радок аб'яднуецца з папярэднім такжа сумежным рытмам, зусім аднаістым з першым радком: крыніца—зарніца:

Некатарую рожнароднасьць паказанага гатунку паўтарэньняў прадстаўляе сабой такое здарэньне, калі радок, які пачынае твор, паўтараецца ў канцы яго ў некалькі зьмененым выглядзе. Гэта мы бачым у вершы:

„*Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запевае:*
„Сьцежка ў полі пралегае, траўкай зарастае.
Каля сьцежкі пахіліўся явар да каліны,—
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай,—
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:—

Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
*Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае*“ (*36*).

Тэматычная істота паўтораных радкоў сынонімічна, але кожды з іх выражаецца рожнымі словамі. Акром тэматычнага паралелізму, сувязь іх аднаго з другім падтрымліваецца анафорычным „сумна“, а такжа—і аднолькавым рытмічным аб'яднаньнем: 1) запевае—зарастае, 2) зарастае—праймае.

У вершы

„*Ня кувай ты, шэрая зязюля,*
Сумным гукам у бары“... (37)

мы бачым кальцавое пабудаваньне ў новай адменнасьці. Першы радок мае ў сабе сказ адкідаючага характару, які ў аканчальным радку

„Прыляці-ж тады ты на магілу,
*Закувай*, „*як у бары*“

прымае форму „палажыцельнай“ просьбы паэта. У абодвых здарэньнях істотная часьць сказу выражана аднолькавай формай—загадным ладам. Такім чынам паўтарэньне будуецца на своеаблічным тэматычным паралелізме і на некатарай сынтаксычнай роднасьці.

Кальцавое паўтарэньне іншы раз апаясуе ў М. Багдановіча ня толькі верш у яго суцэльным складзе але і паасобныя яго штрофы, пры чым паўторныя радкі— аднаго і таго-ж зьместу і формы. Верш „Завіруха“

„*У бубны дахаў вецер бье,*
*Грыміць па ім, зьвініць, пяе.*
І сьпеў ліецца ўсё мацней,—
Гулянку справіў пан Падвей.
*У бубны дахаў вецер бье,*
*Грыміць па ім, зьвініць, пяе.*
Ўскіпела сьнежнае віно
І белай пенай мкне яно.
*У бубны дахаў вецер бье,*
*Грыміць па ім, зьвініць, пяе.*
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сьпянелая мяцель.
*У бубны дахаў вецер бье,*
*Грыміць па ім, зьвініць, пяе*“ (55)

мае двохрадковы зачын, які потым паўтараецца пасьля кожды двох радкоў, ствараючы разам з імі штрофу з чатырох радкоў. Два радкі, якія паўтараюцца, зьвязаны са зьместам усяго верша тэматычнай еднасьцю. Паўтарэньне разьвівае больш канкрэтна аснаўную тэму твору— малюнак завірухі. Ў працiўлегласьць папярэдняму прыкладу фонэтычнай сувязі ў сэнсе рытмічнага аб'яднаньня ў данным здарэньні ня маецца. Апроч таго, ў мэтрычным і сынтаксычным адношаньні радкі, якія паўтараюцца, прадстаўляюць закончанае самаістае цэлае. Гэтыя азнакі збліжаюць паўтарэньне да рэфрэнаў, якія адлучаюцца ад аснаўнога зьместу верша самаістасьцю тэмы, мэтру і сынтаксу. Ў пададзеным намі прыкладзе паўтарэньне зьвязуецца тэматычным паралелізмам і гэтым рожніцца ад рэфрэну, ўласьцівага, галоўным чынам, народнай песьні.

Ў пададзеным прыкладзе паўтарэньне аказуецца аднолькавым на працягу ўсяго верша. Але ёсьць і такія вершы, ў якіх для кождай штрофы маецца асобнае апаясуючае кальцо. Гэткі гатунак паўтарэньня маецца ў М.

Багдановіча ў яго Романсе“ (33), які зьяўляецца свайго роду канонізаванай формай што да зьместу, звычайна маючага ў сабе фабулу любоўнага характару:

„*Зорка Вэнэра ўзыйшла* над зямлёю
Сьветлые згадкі с сабой прывела...
Помніш, калі я спаткаўся с табою,
*Зорка Вэнэра ўзыйшла.*
*З гэтай пары я пачаў* угледацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
*З гэтай пары я пачаў.*
*Але разстацца нам час* наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарогая,
*Але разстацца нам час.*
*Буду ў далёкім краю я* нудзіцца
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
*Буду ў далёкім краю.*
*Глянь іншы раз на яе*, у разстаньні
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсло каханьне,
*Глянь іншы раз на яе*“... (33)

У пададзеным прыкладзе „кальцо“ штрофы мае асобны выгляд; паўторны радок у канцы штрофы ўцяты: ў ім адкінуты апошнія словы першых радкоў яго. Ў тэматычным стасунку паўтарэньні знаходзяцца ў цеснай сувязі з агульным зьместам верша, складаючы з ім адно ідэйнае цэлае, але ў кождым паасобным здарэньні паўторны радок ня толькі павялічае эмоціянальны настрой верша, але і разкрывае ў закрэсе зьместу новыя даныя лёгічнага характару. Гэтак, калі мы возьмем першую штрофу верша, то ў ім першы радок зьвязаны з другім, творачы з ім адно тэматычнае цэлае, выражанае лішным сказам:

„Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю,
Сьветлые згадкі с сабой прывела“...

Чацьвёрты радок тэй-жа штрофы належыць да трэцьцяга, які знаходзіцца ім у тэматычнай і сынтаксычнай сувязі:

„Помніш, калі я спаткаўся с табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла“.

Тая-ж композыційная схэма праводзіцца і ва ўсіх іншых штрофах верша.

Асобны гатунак кальцавога паўтарэньня прадстаўляе сабою тое здарэньне, калі кождая штрофа апаясуецца славесным радам, які зьяўляецца *часьцю* радка першай штрофы. Такое „кальцо“ мы маем у вершы „Непагодаю маёвай“ (91).

*Падаюць вішняў цьвяты* і разносіць іх вецер халодны;
Сьнегам у чорную гразь *падаюць вішняў цьвяты.*

*Плачце, галіны, лісты!* Загубілі вятры цьвет ваш родны,—
Некчаму болі вам жыць. *Плачце, галіны, лісты*!“ (91).

Схэма кальцавога паўтарэньня ў сваеаблічнай яго комбінаціі паўтараецца і ў трыолетах (94, 95) М. Багдановіча, пабудаваных па пляну, кано-

нічнаму для гэтага гатунку лірычнай творчасьці. Як ілюстрацію, возьмем яго першы „трыолет“ (94):

„*Як птушка ў гібкіх трасьніках,*
Стралою думка мільганула,
І ўраз жэ знікла, патанула,
*Як птушка ў гібкіх трасьніках.*
Ды ўсё-ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
*Як птушка ў гібкіх трасьніках,*
Стралою думка мільганула“.

Як ведама, схэма трыолету апіраецца на лічбе тры, адкуль і паходзіць сама яго назова. 1) Першы яго радок паўтараецца тры разы; 2) тры непаўторных радкі: 3, 5 і 6; 3) тры паўторных радкі: 4, 7 і 8; 4) тры аднолькавых рытмы ў сярэдзіне трыолету ў радкох: 3, 4 і 5. Гэткі звычайны канон, устаноўлены для трыолету. Першыя тры азнакі маюцца і ў пададзеным трыолеце М. Багдановіча. Чацьвёртая азнака ня вытрымана ў ім. Паэт будуе свае трыолеты (94, 95) на аснове апаясуючых рытмаў. Гэта зьяўляецца вядомым адступленьнем ад канону. Са стараны свае ідэйнасьці трыолеты М. Багдановіча такжа ня вытрыманы ў стылю цьвёрдай устаноўленай формы для гэтага гатунку лірычнай творчасьці. Як гавораць звычайныя паэтыкі, трыолеты прадстаўляюць сабой „забаўку“ ў вершаваньні, якая дае „выбражаньне кволкай або вострай мысьлі“. М. Багдановіч ўкладае ў абодвы трыолеты глыбока філёзофічныя мысьлі. У першым, вышэй пададзеным, ён рысуе цэлы складны працэс мастацкай творчасьці. Дума стралою мільгае ў душы мастака і выходзіць з яе ў форме паэтычнай песьні. У другім трыолеце паэт такжа праводзіць філёзофічную мысьль аб тым, што чалавек, раз пазнаўшы „сьвятло сонца“, ня можа баяцца „ценяў вечнай ночы“.

Форму рэфрэна напамінае верш „Дзьве сьмерці“ (58)

„Калі патрыцій сьмерць с прыветам спатыкаў
Прабіўшы жылы на руках,
Дрыжэлі сьпевы флейт, дзень ясны дагараў,
А праз вакно струёю вецер павеваў
*І... мігдаловы горкі пах.*
Ты, грозны жэрэбій, учора ўзяты зноў,
На срога сьціснутых губах
Ня мгліцца люстра гладзь; застыга ў жылах кроў;
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў
*І... мігдаловы горкі пах*

аканчальны радок кождай штрофы. У композыцыйным адношаньні тут маем т. зв. эпіфару ці канцоўку. Кождая з пададзеных штроф рысуе абраз сьмерці зусім рожных па соціяльнаму палажэньню асоб і часаў; у першай штрофе памірае патрыцій, у другой, як зазначана ў эпіграфе верша—сьмерць І. І. Івановай з Мяшчанскай вул., д. № 17. Акружаньне сьмерці кождага з іх рожнае да поўнай проціleгласьці. Такім чынам, сувязь паміж штрофамі толькі ідэйная, тэматычная, аднак, яна падтрымліваецца аднолькавым мэтрычным пабудаваньнем (рытмы па схэме: 1-2-1-1-2) кождай штрофы, зусім адасобненай адна ад другой, і паўтораным пасьля кождай з іх пятым радком.

Паўторны радок у канцоўцы іншы раз падпарадкуецца вядомым варыяціям, заховуючы ў пачатным выглядзе толькі часьць паўтарэньня і зьмяняючы зьмест другой яго часьці. Гэткая, прыкладам, канцоўка ў вершы

„Была калісь пара: гучэла завіруха“... (87),

якая мае ў першай штрофе такі выгляд:

„Куды цяпер ісці? Куды?“,

а ў другой:

„Куды-ж ісці і што рабіць?“

Са стараны мэтрыкі гэта канцоўка зьвязуецца з папярэднімі радкамі, а з тэматычнай—прадстаўляе сабою эмоціянальна-лірычны вывад паэты з папярэдняга зьместу штроф:

„Была калісь пара: гучэла завіруха
І замела маей мінуўшчыны сьляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць у даль гады,
У ўсё ня бьюцца скрыдлы духа:
Куды цяпер ісці? Куды?
У душы гарыць агонь нуды,—пануры, чорны...
Ці мне крыніцай сьлёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкаго мучэньня сэрцэ ўзрыць?—
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!...
Куды ж ісці і што рабіць?

Такім парадкам ствараецца сваеаблічны тэматычны паралелізм.

Некатарае адношаньне да эпіфарычнага паўтарэньня мае адна з канонізаваных форм паэзіі; гэта—рондо. У лірыцы М. Багдановіча ёсьць адзін прыклад гэтага гатунку творчасьці з такім-жа назовам „Рондо“ (96):

„Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла:
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваей адбіла.
І гымн сьпевае жабоў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.
І сонцэ дальш клянуць, што скрыло
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб ня ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

Схэма пабудаваньня гэтага гатунку верша заключаецца, як вядома, ў тым, што кождая штрофа яго мае прыпеў—рэфрэн, які прадстаўляе сабою паўтарэньне часьці першага радка. У пададзеным прыкладзе рэфрэнам зьяўляецца слова „узор“, з якога пачынаецца і самы верш. Рытмаў у рондо толькі два. Гэта ўласьцівасьць заховуецца і ў нашага паэты; рытмічны лад у яго ствараецца сугучнасьцямі: *ор*(*ёр*)—*ор* і *іла* (*ыло*, *ілы*)—*іла*. Прыпеў зьвязуецца з асноўнай часьцю верша рытмічнаю сувязьзю (прастор—узор, гор—узор), але яго мэтрыка асобнага гатунку, значна укарочаная ў параўнаньні з іншымі радкамі.

На аснове штрофічнага канона, як ведама, будуецца і рад іншых гатункаў лірычнай паэзіі. З іх у М. Багдановіча мы маем, апроч ужо разгледжаных, яшчэ—тэрціны і сонэты.

Першы гатунак—тэрціны—ствараецца на разрэзе верша на штрофы або стансы па тры радкі ў кождай. Лік гэтых штроф акрэсьлена не нармаваны. Паміма канонічнасьці ў закрэсе штрофічнага падзелу, для тэрціны былі выпрацаваны вядомыя цьвёрдыя формы і для рытмічных сагучнасьцяў іх. Звычайнай формай што да рытмоўкі зьяўляецца гэткая: першы радок пачатнай тэрціны рытмуецца з трэцім, другі—з першым і трэцім наступнай другой тэрціны і г. д. Апошні радок, адзінока вылучаны і які ня ўходзіць у склад тэрціны, звычайна рытмуецца з другім—апошняй штрофы. Дзеля таго што з рытмічнай стараны кождая тэрціна не зьяўляецца закончанай, ізоляванай вялічынёй, а зьвязуецца з наступаючай рытмічнай тасоўкай, то з гэтай прычыны і са стараны тэматычнай кождая з тэрцін звычайна не дае закончанай мысьлі, а прадоўжуе яе ў наступным стансе. Дзякуючы гэтаму тэматычная і сынтаксычная кампозыцыя маюць некалькі адмен. Мэтр тэрціны —заўсёды пяцістопны ямб. М. Багдановіч даў адзін прыклад „Тэрціны“ (98), пабудаванай паводле паказанай схэмы:

„Есьць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталецьцяў пыль страхнуць,
Пажыць мінулым—гэткім мудрым, слаўным,—

Быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

І вось звярнуўся я к рондо, соннэтам,
І блісвуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам

Так вершы з'яюць даўніх форм красой!“

З тэматычнай і сынтаксычнай стараны пададзеныя тэрціны прадстаўляюць сабой такое аб'яднаньне, ў якім першая тэрціна зьвязана з першым радком другой, а трэцьцяя—з апошнім адзінокім радком.

На аснове тых-жа прынцыпаў кампозыцыі, толькі ў іншай форме, будуецца і такая канонізаваная форма лірычнай творчасьці, як соннэт. У ім звычайна 14 радкоў. Яго мэтр—шасьцістопны ці пяцістопны ямб. Соннэт разпадзяляецца на чатыры штрофы, з якіх дзьве першыя—чатырохрадкі, а дзьве наступныя—трохрадкі. Аснаўным рытмам для першых дзьвех штроф соннэту зьяўляецца рытм апаясуючы; маюцца і іншыя формы рытмаваньня. Для трохрадкаў клясычнай формай рытму зьяўляецца аб'еднаньне аднолькавым рытмам трэцьцяга радка першай трохрадкі з другім радком апошняй трохрадкі. Усе іншыя рытмы будуюцца паводле тыпу: *аав ава*. Наш мастак дае тры прыклады соннэту. З іх толькі два соннэты (92, 93) пабудаваны па адзначанаму намі пляну, як найбольш характэрнаму і тыповаму для гэтага жанру. Усе фармальныя вымаганьні для соннэту тут выпоўнены. Для прыкладу падаём „Соннэт“ (92):

„Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючаго Ніла
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насеньня жменю там знайшлі.

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла

Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжэ на ральлі.

Вось сымвол твой, забыты краю родны!
Зварушэны нарэшці дух народны,
Я верую, бязплодна не засьне,

А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца!"

Трэці соннэт (У Вільні, 52) ня вытрыманы ў першай сваей часьці; замест чатырохрадкі ў пачатку мы бачым трохрадку: ўсяго, такім чынам, маем 13 радкоў. Ва ўсім іншым—тая-ж схэма.

На аснове галоўным чынам рытмічнага канону будуецца октава. Яе звычайны выгляд—спамер пяці або шасьцістопнага ямбу. Складаецца яна з васьмі радкоў. Тыповае разпадзяленьне рытму такое: *ава ва вее.* У М. Багдановіча маецца адзіны прыклад „Октавы" (97), вытрыманы ў духу цьвёрдай нормы:

„Як моцны рэактыў, каторы выклікае
Між строк ліста, маўляў нябошчыкоў з магіл,
Рад раньш нявідных слоў,—так цемень залівае
Зялёны, бытцым лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжашчы, срэбны пыл.
Здароў, радзімые! Мацней, ясьней гарыце
І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!

Ўрэшце, трэба адзначыць яшчэ адзін канонізаваны гатунак лірычнай творчасьці. Гэта—пэнтамэтры. Паказчык яго маецца ў нашага мастака пад назовам „Пэнтамэтры" (90):

„Чыстые сьлёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай,
Але, упаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.

— - —

Хіліцца к вечэру дзень і даўжэйшымі робяцца цені;
З болем пад захад жыцьця ўспомніш пра гэтае ты.

— - —

З нізкаго берэгу дно акіяна вачам не даступна,—
Глуха укрыла яго сіняя цемень вады.
Але ўзбярыся ў гару на вяршыну прыбрэжнай страмніны,—
Кожны каменьчык на дне, пэўна, пабачыш ты стуль".

Істота пэнтамэтра, як відаць з самога назову яго, заключаецца ў тым, што ён будуецца з пяці стопічных адзінак. Першая, другая, чацьвёртая і пятая стопы—дактылічныя (— ◡◡), а трэцяя і шостая—аднанацісковыя стопы (—) якія умоўна аб'еднуюцца ў адну і атрымліваюць выгляд спондэя (— —). Дзякуючы такому падрахунку і атрымліваецца пяцістопны разрэз. Трэцяя аднанацісковая стопа служыць пастаяннай цэзурай і дзеліць увесь радок на дзьве роўныя часьці. Але пэнтамэтр, як акрэсьленая цьвёрдая форма, ў самаістай ролі не ўжываецца. Звычайна ён злучаецца з гэксамэтрам, які знаходзіцца ў першым радку кождай штрофы, а пэнтамэтр—у другім. Гэткую-ж комбінавальную форму маюць і пададзеныя „Пэнтамэтры" М. Багдановіча.

Ўсе іншыя вершы М. Багдановіча з композыцыйнай стараны будуюцца на звычайных спосабах разпалажэньня славеснага матэр'ялу па штрофах, тэматычна і мэтрычна аб'еднаных між сабою. Кождая штрофа разьвівае асобную часьць агульнай тэмы верша і будуецца на аднародных мэтрах і рытмах. Акром таго кождая штрофа прадстаўляе сабою з сынтаксычнай стараны закончанае суцэльнае, не зьвязанае з другімі штрофамі.

Мы апісалі ў агульных рысах паасобныя часьці лірычных вершаў М. Багдановіча і разпаклалі іх дасьледаваньне ў парадку вядомай лёгічнай клясыфікацыі. Цяпер трэба тыя-ж мастацкія актыўнасьці ў паэзіі дасьледаванага аўтора пазнаць ў хронолёгічным парадку іх паступовага ўжытку. Гэта канечна патрэбна для устаноўленьня таго, як разьвіваўся, з аднэй стараны, ідэйны сьветагляд мастака, а з другой—яго паэтычная манера. Аднак гэтай клясыфікацыі ў даны момант даць немагчыма, бо мы ня маем патрэбных ведамак аб тым, у якім хронолёгічным парадку складаліся паэтам разгледжаныя намі вершы. Гэта часьць паэтыкі зысьціцца пасьля таго, як беларуская (крывічанская) навука аб літэратуры будзе мець навукова выданы тэкст яго вершаў.

Апошняя клясыфікацыя паэтычных актыўнасьцяў—гатунковая, г. ё., такая, якая разпадзяляе іх па асобных гатунках лірычнай творчасьці. У гэтым аглядзе на першае мейсца трэба паставіць канонізаваныя формы лірыкі, як соннэт, трыолет, тэрціны і інш., якія былі адзначаны вышэй. Гэтыя гатункі, як ужо азначалася, будуюцца на акрэсьленых, цьвёрда устаноўленых формах. Аднак, паэт ўносіць некатарыя свае асобнасьці, нарушаючы цьвёрдыя формы гэтых гатункаў, толькі-ж ня шкодзячы мастацкасьці іх. Усе іншыя творы М. Багдановіча не даюць матэр'ялу які паказуе што да тых ці іншых паэтычных спосабаў, характэрных для таго ці іншага вершу і акрэсьляе яго гатунковую фізыономію. Усе апісаныя паэтычныя актыўнасьці разпадзяляюцца між імі больш-менш роўнастайна.

Пытаньне аб выдзяленьні паэтычнай домінанты ў вершах М. Багдановіча также натыкаецца на вялікія труднасьці. Ужо адзначана, што спаціканьні ў закрэсе паэтыкі даюць дасьледчыку права лічыць, што творчасьць паэта складаецца пад уплывам мастацкага рэалізму старой паэтыцкай школы 19 стаг. з аднэй стараны і сымволіка-романтычных настрояў 20 стаг. з другой. У залежнасьці ад гэтага зьяўляецца надта трудным акрэсьленьне домінуючых актыўнасьцяў у рамках тей стыхіі, якая пераходзіць у сфэры першага кірунку, паскольні ў ім мы звычайна стыкаемся з тым-жа роўнамерным разпадзелам тых або іншых паэтычных спосабаў творчасьці. Што датыча другога ручва—менш шырокага, чым першае, то ў закрэсе яго устаноўленьне домінанты также затруднена, паскольні яна ў творчасьці М. Багдановіча толькі яшчэ зачыналася, ня ўсьцігла разьвіцца і прыняць выгляд закончанага літэратурнага цячэньня. Толькі як прыклад можна адзначыць, што такі спосаб, як паўтарэньні, выступае ў яго вершах і ў большай ступені адбівае ў сабе рысы сымволічнай паэзіі. Затым, у тых-жа творах выдзяляецца, як домінуючы спосаб, мэтафора, якая, аднак, разпашыраецца і на другія вершы М. Багдановіча. Гэта мэтафорычнасьць, можна лічыць, зьяўляецца такім спосабам, які наагул характэрызуе яго паэзію і выдзяляецца як яго тыповая асобнасьць. Ў закрэсе ідэйнага багацьця мастака пераважаючая увага яго, як было паказана, зьвярталася ў сторану тэм і матываў прыроды, каторыя ў яго творчасьці маюць або самаістае мейсца, або дапаможнае значэньне ў шэрагу тэматычных вытвараў іншага зьместу. У старану, ўласьціва, гэтых матываў прыроды накіроўвалі мастака абодвы літэратурныя цячэньні—рэа-

лістычнае і романтычнае, бо зацікаўленасьць да прыроды аказуецца свомнай у аднолькавай меры як першаму, так і другому. Адначасны ўплыў паказаных двох стыляў і меў сваім вынікам павялічаную падвойную зацікаўленасьць М. Багдановіча да прыроды і яе хараства.

Такім парадкам, бязспрэчным і ачавыстым астаецца бытнасьць двох кірункаў у творчасьці М. Багдановіча — клясычнага і романтычнага. Гэта паказуе, што паэт ішоў дарогай сынтэзу, імкнучыся аб'еднаць у адно мастацкае суцэльнае найбольш высокія цэннасьці гэтых кірункаў і стыляў. У свой чарод гэты вывад сьведчыць аб тым, што М. Багдановіч быў вялікі мастацкі талент, які таіў у сабе шырокія паэтыцкія магчымасьці, каторым, нажаль, ня суджана было выліцца ў закончаныя формы. Перадчасная сьмерць сарвала кветку, якая яшчэ не закрасавала...

---

В. ЛАСТОЎСКІ.

# МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ М. БАГДАНОВІЧЫ.

Паяўленьне творчасьці Максіма Багдановіча ў крыўскай (беларускай) мове цесна зьвязана з рэдакціяй тыднёвай беларускай часопісі „Наша Ніва“, якая выходзіла ў Вільні ад восені 1906 да восені 1914 году.

Дзеля гэтага, для лепшага выясьненья некатарых момантаў з маіх успамінаў, лічу патрэбным найперш кароткімі рысамі ўвясьці чытача ў круг унутранага жыцьця рэдакціі і парушаўшых яе сіл і імкненьняў.

1909 год быў асабліва трудным у разьвіцьці крывічанскага (беларускага) адраджэньня. Рэволюцыйны ўздойм 1905-1906 гг. астаўся недзе далёка па-за сінімі лясамі. Маладая сялянская дэмакрація, за годы наступіўшай пасьля ўздойму рэакціі, была разьбіта. Адны сядзелі ў турмах (Я. Колас, А. Бурбіс і інш.), другія былі сасланы (Прушынскі, Лёсік і іншыя), трэція дапасоўвалі свае сілы да варункаў паднявольнага жыцьця, чацьвертыя адкрыта пайшлі ў воражы адраджэньню абоз, далучаючыся да расійскай і польскай рэакціі.

З сіл, якія дзеялі ў 1905 годзе, пры крывічанскім (беларускім) адраджэньні асталіся нячысьленныя адзінкі, дый тыя неарганізаваныя, з рожнароднымі імкненьнямі і разуменьнем ролі беларускага (крыўскага) адраджэньня ў жыцьці народу і для яго будучыны.

Склад рэдакціі „Наша Ніва“ ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы, Ядвігін Ш. (Левіцкі), Янка Купала, В. Ластоўскі і, дарыўкамі—Язэп Манькоўскі (Янка Окліч) ды Чыж (Альгерд Бульба), а напачатку лета 1909 г. прыбыў яшчэ С. Палуян.

Гэты склад рэдакціі ў 1909 і 1910 гг. рэзка разпадаўся на дзьве групы, каторыя былі дамэтна ахарактэрызаваны сьвежа прыехаўшым з Кіява С. Палуянам „верхняй“ і „ніжняй“ палатамі. Да „верхняй“ палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі,—Чыж і Манькоўскі. „Ніжняя“ палата складалася з Ядвігіна Ш., Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 г. да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч. Рэдакція ў цэлым ніколі ня сходзілася. На Віленскай № 20, дзе памяшчалася рэдакція, магазын ад

вуліцы займала „ніжняя“ палата, сьвятліцу ад падворку мела ў сваім выключным панаваньні „верхняя“ палата. Паміж сабою працаўнікі гэтых дзьвех „палат“ рэдка сустрачаліся; ў тэхнічных справах рэдакцііі зносіліся праз замкнутыя на ключ дзьверы па шчэлцы над парогам. Праз гэту шчэлку перасылаліся туды і назад рэдакцыйныя матэр'ялы і корэспондэнцыя.

За зачыненымі і завешанымі цяжкай драпэрыяй дзьвярыма ў гасподзе „верхняй“ палаты вяршыліся „высокія“ палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх плянаў „верхняй“ палаты даходзілі ў „ніжнюю“ з трэціх і пятых рук, часта ў хаотычнай форме. Адно толькі было пэўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай герархіі і некатарых другіх, сільных у тыя часы, палітычных краёвых чыннікаў. Ад вуліцы-ж у „ніжнюю“ палату ішла публіка „чорная“ і „шэрая“. Ясна, што пры такім падзеле, „верхняя“ і „ніжняя“ палаты думалі па рожнаму, жылі рожнымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі рожных кірункаў нацыянальнай мысьлі.

На пачатку 1909 г. Максім Багдановіч прыслаў некалькі лісьцікаў сваіх вершаў, падпісаных поўным ўласным прозьвішчам і імем. Вершы для кождага нумару „Нашай Нівы“ падбіраў Янка Купала, бо акром Я. Коласа, Купалы і яшчэ 2—3 паэтаў, 99% вершаў, надасланых у рэдакцыю, былі з дэфэктамі. Павіннасьцю Я. Купалы было папраўляць іх перад здачай у друк. Друкавалі-ж адзін-два вершы кождага новага „паэты“, каб заахвоціць яго да пісаньня. Былі ці не былі зроблены якія папраўкі ў вершах „Над магілай“ і „Прыдзе вясна“, я не памятаю, можа памятае сам Я. Купала, але гэта былі адны з першых вершаў, і надрукаваныя пад праўдзівым прозьвішчам і імем аўтора.

На пачатку траўня месяца, таго-ж году, Максім Багдановіч ізноў прыслаў у „Нашу Ніву“ маленькі сшыточак новых сваіх твораў, які абыймаў 8-9 вершаў. Нябожчык Ядвігін ахрысьціў гэты сшыточак „дэкадэншчынай“. Яго апінія падзелялася „вярхоўнай палатай“. Іншага погляду трымалася аб новым пісьменніку „ніжняя“ палата, а ў першы чарод Я. Купала, які інтуітыўна вычуў у гэтых першых паэтыцкіх спробах у Максіме Багдановічы запраўднага мастака. Спамянуты сшыток вярнуўся з перагляду „верхняй палаты“ у „ніжнюю“ перакрэсьлены сінім алаўком з надпісам рукой А. Уласава „В архів“. Пад перакладам з Н. Сьвятагора „Дзьве песьні“ быў надпіс рукой А. Луцкевіча „можо надрукоўваць пад псэўдонімам“: палітыка „верхняй палаты“ строга прытрымлівалася лініі неразкрываньня сваіх супрацоўнікаў, каб манаполь прадстаўніцтва руху быў выключна ў яе руках.

„Дзьве песьні“ пайшлі ў друк з папраўкамі ў мове Я. Купалы, але з іншым подпісам: у корэктуры Ядвігін падпісаў верш, прыдуманым ім для Максіма Багдановіча, псэўдонімам „Максім Крыніца“.

Праз некалькі тыдняў пасьля надрукаваньня вершу „Дзьве песьні“ Максім Багдановіч прыслаў яшчэ некалькі новых вершаў і ліст, у якім протэставаў, што яго перарабілі ў „Максіма Крыніцу“. Але вершы былі ізноў „дэкадэнскія“ і дзеля гэтага трапілі ў тую-ж папку, дзе быў папярэдні сшыток з надпісам „В архів“. Там яны пралежалі да канца жніўня, калі іх выцягнуў на сьвет С. Палуян, які, прачытаўшы вершы, з надзвычайным захопленьнем стаў бараніць іх сьпярша перад Ядвігіным, а пасьля перад „верхняй палатай“, з радоў якой за надрукаваньне некатарых вершаў першы выказаўся Чыж, а пазьней А. Луцкевіч. У выніку ў № 35—36 (падвойным) з перапраўкамі С. Палуяна пад праўдзівым ужо прозьвішчам аўтора былі надрукаваны два вершыкі пад агульным агалоўкам „Лясун“ (б. 516), у № 38—„Край мой радзімы“, ў № 39—„З песьняў беларускага мужыка“, далей у № 41—два

вершы з цыклю „Вадзянік“, у № 42—„На чужыне“, ў № 43—„Пугач“ у № 44—пераклад з Гэйнэ, ў № 46—павіншаваньне „Нашай Ніве“, у № 47—„Разрытая магіла“, у № 50—верш пасьвячоны С-ну, № 51-52—„Цемень“.

Пасьля надрукаваньня „Край мой радзімы“ і вершаў з цыклю „Вадзянік“, у рэдакцыйным складзе, акром Ядвігіна, які ўпорна казаў „а усе-ж гэтыя вершы не для народу“, ўсе аднагалосна выражалі прызнаньне пісьменніцкага таленту М. Багдановічу. С. Палуян завязаў з ім частую перапіску на націянальна-літэратурныя тэмы. Пасьля-ж выезду С. Палуяна назад у Кіяў і яго трагічнай сьмерці, перапіску з Багдановічам прадаўжаў аўтор гэтага нарысу.

Ядвігін меў рацію, калі казаў, што вершы М. Багдановіча будуць незразумелымі радавому чытачу „Нашай Нівы“. Пераканацца ў гэтым мне давялося летам 1910 году, калі з Менска, пачародна, прыяжджалі ў Вільню Альбэрт Паўловіч і Галубок. Абодвы паэты нападалі на беззьмястоўнасьць вершаў М. Багдановіча, а асабліва — А. Паўловіч, які злосна выкпіваў, перафразовуючы паасобныя звароты вершаў М. Багдановіча, каторага стала называў не па прозьвішчу, а „ваш Лесавік“. Усе гэтыя нападкі прыходзілася выслухаць мне, як сэкрэтару рэдакціі, пры чым ніякія аргуманты ў абарону М. Багдановіча ня мелі ўплыву. Вуснамі супраціўнікаў Багдановіча гаварыла іх абражаная аўторская амбіцыя, што ў нашай мін'ятурнай часопісі, замест іх твораў, займаецца мейсца пад вершы Багдановіча. Што нападкі з боку менчукоў былі няшчырымі, відаць з таго, што, ў мэтах конкураваньня з Багдановічам за мейсца ў часопісі, А. Паўловіч пачаў надсылаць замест сваіх вясёлых і дасьціпных жартаў, вершы на сур'ёзныя тэмы. Але з А. Паўловіча лепшы гумарыст, як філёзаф і эстэт, і таму не ўдалося яму выціснуць з „Нашай Нівы“ творчасьці М. Багдановіча, тым больш, што з кождай новай прысылкай вершаў, у разьвіцьці яго таленту адчуваўся значны поступ.

На вясну 1912 году М. Багдановіч пісаў у рэдакцыю „Нашай Нівы“, што ён хацеў-бы ў гэтым годзе выкарыстаць свае канікулы на першую паездку на бацькаўшчыну і прабыць які месяц дзе-колечы на вёсцы, каб азнаёміцца з мовай і бытам таго народу, на служэньне якому хацеў пасьвяціць свае сілы. Па нарадзе, якая адбылася паміж братамі Луцкевічамі і А. Уласавым, М. Багдановічу адпісаў А. Луцкевіч, запрашаючы на лета да свайго дзядзькі, дробнага шляхціца, які меў свой фальварак недзе між Вілейкай і Менскам.

У чэрвені месяцы прыехаў М. Багдановіч у Вільню. Пры першай сустрэчы з ім мне ўразіліся яго вочы з даволі праніклівым паглядам, але калі ён гаворачы запаляўся, вочы яго глядзелі не на зьне, а ўнутр, бытцам былі зьвернуты ў мозг.

Праездам у веску М. Багдановіч прабыў двое содняў у Вільні. Абедзьве ночы начаваў у рэдакціі „Нашай Нівы“, якая тады месьцілася на Завальнай вуліці № 7, у тым самым памяшчэньні, дзе цяпер Беларуская кнігарня. Абедзьве ночы я правеў разам з ім, і кожды раз гутаркі нашы зацягаліся ад зьмярканьня да сьвітаньня.

Багдановіч дзяліўся сваімі думкамі і з захопленьнем пераймаў ад мяне мае ведамасьці з беларускай (крыўскай) этнографіі і гісторыі, якія я пераказваў яму, як умеў, дэманструючы быўшыя пры рэдакціі калекціі Івана Луцкевіча. Асабліва глыбокае ўражаньне на Багдановіча зрабілі рукапісы старасьвецкіх славянскіх кніг і дакумантаў, а такжа слуцкія паясы, якія ён па некалькі разоў пераглядаў.

—„Гэта ёсьць фундамант нашага адраджэньня! Гэта і за тысячу годаў будзе сьведчыць аб нас!“—казаў М. Багдановіч аб помніках нашай старасьвецкай культуры.

Мову М. Багдановіч знаў яшчэ дрэнна і гаворачы зьбіваўся на маскоўшчыну, але чутка улаўліваў дысонансы, спыняўся і перапытываў: „як трэба сказаць гэта правільна“, „прошу папраўце мяне“.

М. Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і сьвядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэньня, глыбей сягаючы думкай у будучыну нашага народу, чым мы, працаўнікі згрупаваныя ў цэнтры. Гэтыя яго думкі аб адраджэньні і былі галоўнай тэмай нашых начных бясёд.

Мысьлі яго былі больш менш гэткія. Адзіная аснова нашага адраджэньня—гэта сялянства. Усё, што па-за сялянствам,—чужое і варажае адраджэньню. Мозгам кождай нацыі ёсьць яго інтэлігенцыя,—і, вось, першым і найважнейшым нашым заданьнем павінна быць узгадаваньне інтэлігенцыі, выведзенай з сялянскіх масс. М. Багдановіч верыў у інтэлект. Ен з запалам мроіў аб тым, каб з беларускай (крыўскай) інтэлігенцыі ўзгадаваць запраўднага генія слова, які-бы паказаў свайму народу ня толькі красу роднай мовы, але даў-бы творы з агульна людзкімі цэннасьцямі, каб знаньне творчасьці нашага генія было абавязковым для кождага культурнага чалавека ўсяго сьвету. Інтэлігенцыя з народу і сама ў сабе народная, каторая будзе ў сябе ў сям'і гаварыць роднай мовай, будзе вучыць сваіх дзяцей дома сьпярша ў роднай мове, раней чым пасылаць іх у чужую школу,—навучыць народаднасіцца з пашанай да яго пагарджанай усімі мовы; геніі-ж слова павінны ўвекавечыць нашае нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне са ўсімі іншымі культурнымі народамі сьвету.

Пераходзячы да тагочаснай беларускай (крыўскай) пісьменнасьці, М. Багдановіч казаў, што, не глядзя на ўсю яе беднасьць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэннасьцяў. Край беларускі—лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія—стэп, у нас наша стыхія—лес і балота. Тут ёсьць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падглядзіць, знайсьці і вынесьці на шырокі сьвет...

Прабыўшы, здаецца, месяц на вёсцы, М. Багдановіч вяртаўся назад праз Вільню.

Ізноў панавіліся паміж намі гутаркі на тыя-ж тэмы. Ен цяпер яшчэ пэўней глядзеў у будучыну. Між іншым, прывёз з сабой праект ацэны літэратурных твораў, прыдуманы ім у часе адпачынку. Ен шукаў матэматычна правільнага і вернага спосабу ацэны гэтых твораў і прыйшоў да выводу, што такі спосаб можна знайсьці, калі разлажыць твор на паасобныя абразы, звароты і словы. Адны абразы і звароты будуць належаць да катэгорыі зьбітых, выцертых ад доўгага ўжытку, як хадзячая разьменная манэта, другія будуць саўсім арыгінальнымі, не ўзятымі скульсьці, не запазычанымі ад другіх, а створаныя самім пісьменнікам. Гэтая арыгінальнасьць і становіць самае цэннае ў творчасьці аўтора. Раўняючы творчасьць двох аўтораў, трэба падлічыць суму створаных ім абразоў, зваротаў і думак, кождага ў аддзельнасьці,—і цыфравая разьніца пакажа стасункавую выжшасьць або ніжшасьць аднаго і другога аўтора. Пазьней М. Багдановіч уносіў корэктывы да гэтых сваіх думак: ён вымагаў ня толькі арыгінальнасьці, але і апрацаваньня арыгінальнага, шліфоўкі, што выказаў у сваім апавяданьні аб Іконніку і Залатару.

На вёсцы М. Багдановіч не марнаваў часу. Ен напісаў там цыкль вершаў „Старая Беларусь“, у якіх адбіліся яго настрої з пабыцьця. ў рэдакції „Наша Ніва“ і, цешу сябе,—часьцю мае з ім начныя бясёды, акром таго—нізку вершаў „Место“ і, ўрэшце,—„У вёсцы“ і „Вэроніка“.

За некалькі месяцаў пасьля выезду з Вільні М. Багдановіч надаслаў у рэдакцію „Нашай Нівы“ рукапіс, у якім былі сабраны яго вершы, як некатарыя з раней друкаваных у „Нашай Ніве“, так і нанова ім напісаныя, пад агалоўкам „Кніжка выбраных вершаў“, з просьбай выпусьціць асобнай кніжачкай. Рукапіс гэты пралежаў у рэдакціі больш поўгода, бо ня было грошы каб надрукаваць яго. І толькі ў 1913 годзе былі дабыты грошы на надрукаваньне рукапісу. Здарылася гэта такім парадкам. Мая швагерка, літоўская пісьменніца, Пеледа (Lazdynu Peleda) прывязла мне з Кейдан старое антыпэдзіум з гэрбам „Равіч“. Гэтае антыпэдзіум прадаў Іван Луцкевіч нейкаму памешчыку, каторы пячатаўся гэрбам „Равіч“ (дзева едзе на мядзьведзю), за трыста рублёў. 150 рублёў з гэтых грошы пайшло на аплату друкарні за друкаваньне „Нашай Нівы“, а другіх 150 руб. прызначаны на выданьне вершаў М. Багдановіча. Вершы былі здадзены ў друкарню. У часе набору іх, перад надрукаваньнем першага аркушу, Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч дасталі яшчэ нейкую сумму грошы ад княгіні Магдалены Радзівіл на выданьне беларускіх кніжак. Пастаноўлена было паказаць спраўнасьць перад княгінай, і дзеля гэтага на агалоўнай балоне памешчаны быў знак „лебедзь“, што мела азначаць гэрб Завішаў (Магдалена Радзівіл з дому Завішанка). Рысунак на акладку даў я са свайго сабраньня. Гэты рысунак у 1905 годзе зрабіў адзін з вучняў (не памятую яго прозьвішча) Штыгліцаўскай школы. Рысунак напамінае крыху вянок, дзеля гэтага я і пастанавіў, карыстаючы правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўторскага яшчэ і свой агаловак „Вянок“. Выходзіла нязгорш: „Вянок, кніжка выбраных вершаў“. А каб апраўдацца перад чытачамі, чаму названа кніжка „вянком“, я на першым, пасьля агалоўку, лісьце памесьціў раз'ясьненьне: „Вянок на магілу С. А. Палуяна (†8 красавіка 1910 г.). Зрабіў я гэта бяз ведама аўтора, але асновўючыся на яго сэрдэчным адношаньні да нябожчыка Палуяна. Між іншым, калі кніжка выйшла, М. Багдановіч быў вельмі здаволены з майго помыслу, што выразіў у форме падзякі вершам, які павінен быць у маіх архівах. Але, прыняўшы чула агаловак, М. Багдановіч у даўжэзным лісьце выказваў мне нездаволеньне, што ў кніжцы прайшлі, праз недагляд корэктуры, даволі чысьленныя спамылкі, а галоўная з іх—у вершы „Вэроніка“. Пры ламаньні вершу пераблутаны парадак яго: пасьля пятага шасьціверша (на 111 бал.) 9, 10 і 11-е шасьцівершы, мейсца якім павінна быць на 113 балоне, пасьля 8-га шасьціверша.

Віна была мая, але я ня чуўся вінаватым, што і тлумачыў аўтору ў сваім лісьце. Аднак часовая астуда ў нашых стасунках была даволі хутка згладжана. У нас з М. Багдановічам нанова завязалася перапіска, якая цягнулася да лета 1914 году.

Вось пакаротцы галоўнейшае з маіх стасункаў з Максімам Багдановічам. Яго перапіска маецца ў мяне на схове ў глухой правінціі пад польскай окупаціяй. З часам, калі я дабуду яе, здужаю асобныя моманты гэтага нарысу шырэй асьвятліць фактычным матэр'ялам.

АЛ. ШЛЮБСКІ.

# КРЫВІЧАНСКІЯ (БЕЛАРУСКІЯ) НАРОДНЫЯ ЛЕГЕНДЫ, НЕДАЗВОЛЕНЫЯ ДА ДРУКУ ЦАРСКАЙ ЦЭНЗУРАЙ.

Ніжэй зьмяшчаецца шэраг легенд Вітабскіх крывічоў (беларусаў), пераважна мітолёгічнага характару, якія былі запісаны беларускім этнографам Мікалаем Нікіфароўскім у 60—80 годах мінуўшага стагодзьдзя; гэтыя легенды былі зьмешчаны ў рукапісе яго грунтоўнай працы „Простонародныя примѣты и повѣрья... Витебской Бѣлоруссіи", выданай у 1897 г. ў Вітабску; яны былі выкрэсьлены рукой царскага цэнзара „графа Головина" ў 1895 годзе.

Рукапіс, памянёнай працы М. Нікіфароўскага, ўвесь пісаны рукай нябожчыка-этнографа, заховуецца ў рукапісным адзеле Беларускай Дзяржаўнай Бібліатэкі ў Менску, № 162531. На кождай балонцы рукапісу чырвоным атрамантам адзначана: „цензоръ графъ Головинъ".

Увесь рукапіс напісаны маскоўскай мовай з захаваньнем у лапках некатарых мяйсцовых асобнасьцяў у мове. Забароненыя легенды падаюцца цяпер у крывічанскай (беларускай) мове з захаваньнем усіх, выдзеленых Нікіфароўскім у лапкі асобнасьцяў мовы і вымовы ў правопісе Нікіфароўскага.

Легенды падаюцца ў тым парадку ў якім яны ідуць у рукапісе.

§ 1. Калі „Прачиста Матка" атрымала першую вестку аб зрадніцтве Юды, то яна так „устрыпянулыся", што пайшлі „хадунём" лісьцьця таго дрэва, пад якім яна сядзела, і пачалі яны з таго часу дрыжэць нават пры малым ветры. Гэтае дрэва—асіна [1]).

§ 2. Калі „Спаситель" зыходзіў з гары пасьля пераабражэньня, то ён прытрымоўваўся і апіраўся на росшыя тут бярозы, на якія пасьля гэтага і перайшла бялізна яго вопраткі, а з прычыны таго, што ён апіраючыся на дрэва здрыгаў яго і калыхаў лісьцьця, то на іх перайшла некатарая рухавасьць [2]).

§ 3. Калі „Прачиста Матка" атрымала першую ветку аб ускрасеньні свайго сына, яна сядзела пад „ялиный" і так „узрадувулыся", што не магла падняцца. З гэтае прычыны, ў працілегласьць асіне ёлка заўсёды спакойная нават пры значным ветры [3]).

§ 4. Бог стварыў каня чыстым і такім ён быў да тэй, пары пакуль не паклалі ў ясьлі Бога-маладзенца. Калі адбылося апошнее то ўся жывёла адыйшла ад ясьляў, толькі пражорлівы конь заставаўся пры іх пакуль ня зьеў усяго сена, так што к раніцы наступнага дня дзяцё ляжала на голым дне ясьляў. Бог разгневаўся за гэта на каня і зрабіў яго нячыстым [4]).

§ 5. Аднаго разу „Спасителю" трэба было пераехаць на другі бок ракі Іордана і для гэтага ён хацеў узяць каня, які пасьвіўся на беразе. Але конь

---

[1]) Балона рукапісу 216. Легенда запісана 21 студзеня 1880 г.; разпашырана па ўсей Вітабшчыне (гл. Н. Никифоровскій, „Простонародныя примѣты"... Витебскъ, 1897, б. III). У 1887 г. адменьнік легенды быў выдрукаваны Karłowicz'ам у Кракаве ў яго кнізе: „Podania i bajki ludowe zebrane na Litwie", гл. № 48; а ў 1891 г. адменьнік леганды выдрукаваны Дабравольскім. гл.: „Смоленскій Этнографическій Сборникъ". т. І. Спб., на бал. 245, № 29.

[2]—[3]) Балона рукапісу 217 на адвароце. Легенды запісаны 21 студзеня 1880 г.; разпашыраны па ўсей Вітабшчыне.

[4]) Балона рукапісу 234; запісана 27 сьнежня 1862 г. ў сяле Веляшковічы, быўшага Вітабскага павету.

адмовіўся яго перавезьці з тае прычыны, што ён (конь) яшчэ не пад'еў. Тагды „Спаситель“ пераехаў на быку, а каня пракляў, зрабіўшы яго нячыстым і заўсёды гатовым да ежы. З гэтае прычыны ў конскім хлеве ня кропіцца Іорданскай вадой і ня прынята пісаць „крыжов на кщення“. [5])

§ 6. Бог стварыў асла з роўнай поўсцьцю і кароткімі вушамі. Але пасьля таго, як „Спаситель“ праехаў на ім, на хрыбце асла зрабіліся дзьве пелясы („два естества“), а вушы сталіся доўгімі таму, што ён надраў за вушы упартага асла. [6])

§ 7. „Етыя було тады, як бог ходив пы зямли“. Адзін неразумны чалавек жартуючы захацеў спужаць сустрэчнага падарожнага і для гэтага, апрануўшы вывернуты кажух, залез пад нізкі мост, па якім павінен быў ісьці той падарожны. Прайшло шмат часу, а цераз мост ня йшоў той для каго быў прыдуманы гэны жарт і чалавек выпаўз з пад мосту, глянуў уперад і бачыць, што падарожны стаіць і усьміхаецца да яго. Чалавек пачаў клікаць падарожнага, але не пазнаў свайго голасу—гэта быў рык; хацеў падняцца на ногі, але яны не аддзяляліся ад зямлі, ўзяўся за кажух, але ён прырос да цела. Няшчасны жартаўнік глянуў у ваду, што стаяла ў канаве, і з жахам даведаўся, што ён не ранейшы чалавек, а мядзьведзь. Ад гэтага пераваротня вядуць свой пачатак усе мядзьведзі. [7])

§ 8. „Етыя було тады, як бог ходив пы зямли“. На зямлі разьвялася такая многасьць гадаў, што ня стала ад іх жыцьця ні людзям, ні жывёлы і парашыў Бог зьнішчыць іх, патапіўшы ў якойсь-ці „бяздоннице“. Бог сабраў гадаў у торбу, завязаў яе, ўзваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае мейсца. Як толькі чалавек рушыў з мейсца, то ўся „сволочь“, якая была ў торбе „зыскверлася, зысипела, засвистала и ўзяло цикавства, што ён такоя прецъ!“ Чалавек разьвязаў торбу да і аслупянеў ад страху; гады-ж тым часам вылезьлі з торбы і разпаўзьліся ізноў па зямле. Бог не захацеў другі раз зьбіраць гэтую дрэнь і ён накінуў на чалавека „порознуюи“ торбу і загадаў зьбіраць у яе паўцякаўшых гадаў, дзеля гэтага ён дапасаваў цела неразумнага чалавека так, каб той мог дасtупіцца да гада на любым мейсцы. І ходзіць гэныператвораны чалавек, з накінутай паміж плеч торбай па лугох, палёх, балотах ды зьбірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць іх ня можа, ня гледзячы на тое, што Бог для дапамогі паслаў яму жонку і дзяцей. З прычыны сваей крэўнасьці з чалавекам гэты „переворотень“ не адыходзіць далёка ад людзкіх сяліб і мала баіцца людзей. [8])

[5]) Балона рук. 234 на адвароце; запісана легенда 29 красавіка 1879 г.; разпашырана па ўсей Вітабшчыне.

[6]) Балона рук. 286 на адв.; запісана 20 чэрвеня 1880 г.; разпашырана па ўсей Вітабшчыне.

[7]) Балона рукапісу 288 на адв. і 289; легенда запісана 28 жніўня 1864 г. ў с. Паддуб'і, б. Вітабскага павету.

Цікава адзначыць, што адменьнікі гэтай легенды былі выдрукаваны значна раней 1895 г. гл.: Siemieński, Podania i legiendy polskie, ruskie, litewskie; № 90. Poznań. 1845; Романовъ, Бѣлорусскій Сборникъ, IV, Витебскъ. 1891, на бал. 22. № 17; на бал. 168. № 23, б. 220; Добровольскій, Смоленскій Этнографическій Сборникъ. I. Спб., на бал. 288, № 56; Шейнъ, Матеріалы... II, Спб. 1893, бал. 343-344. Урэшце адменьнікі легенды знаходзім у Сержпутоўскага: „Сказки и разсказы бѣлоруссовъ-полѣшуковъ“ Спб. 1911. № 39 і ў Сербава: Бѣлоруссы-Сакуны. Петроградъ. 1915, б. 179.

[8]) Балона рук. 307; легенда запісана да 1860 году; у сяле Вымна, быўшага Вітабскага павету. Адменьнік гэтай легенды быў выдрукаваны Рамановым у яго „Бѣлорусскомъ Сборникѣ“, IV у 1891 г. на бал. 23, № 18, і бал. 220.

§ 9. Зладзейская ўдача вараб'ёў выявілася ў наступным: а) яны вышчыпывалі і вынасілі сена з пад ляжачага ў ясьлях богамаладзенца; б) яны прыносілі тыя цьвякі, якія прыгатаваны былі для разпяцьця „Спасителя“, і якія часткай скрадываліся цыганамі, а часткай выношаны былі ў патайнае мейсца ластаўкамі. Дзеля гэтага супольнікаў катаў „Спасителя“ вераб'ёў трэба нішчыць заўсёды і ўсюды, між тым, як ластавак заўсёды і ўсюды трэба абараняць. Разам з тым людзі не павінны прасьледаваць пагарджаных цыганоў за крадзежу, зробленую імі, напрыклад, у дзень нараджэньня „Спасителя“: на гэту крадзежу цыгане маюць пазваленьне ад Бога за старадаўную паслугу іх продкаў. [9]).

§ 10. „Пискаши, ўюны“ і іншая дробная бязлузгая рыба вынікла ад тых цьвякоў, якія былі ўкінуты ў раку цыганамі, каторыя укралі іх пры крыжы „Спасителя“. З гэтае прычыны жыды не ядуць такой рыбы [10]).

§ 11. Камяні расьлі да таго часу, пакуль Маці Божа не пабіла аб іх да крыві босую нагу, ў той час сьпяшалася да разьпятага свайго сына. У гневе яна пракляла толькі той камень аб каторы пабіла нагу. Але з прычыны таго, што камяні ляжалі „скупившись“—то праклён перайшоў і на другія камяні і так і разпашырыўся на ўсё каменьня [11]).

§ 12. Зьнятае ў каляды са стала сена трэба аддаць авечкам і каровам, затое што яны пілнавалі і не бралі сена з ясьляў богамаладзенца і грэх даваць яго коням, бо яны цягалі і елі сена з тых ясьляў [12]).

§ 13. На Каляды, перад Новым Годам з вечара і да поўначы можна безаўсякага грэху красьці, а асабліва дровы з лесу. Пры гэтым цікава тое, што хто раз украдзе, ў гэты Богам дазволены час, заўсёды, ўсюды пазнае такога самага злодзея [13]).

§ 14. „Картэвники“ прыносяць да вялікоднай ўсяночнай якога колечы туза і закрыўшы вачко вялікім пальцам, пры сьпяваньні слоў: „Христос Ускрос!“ ціха гаворуць: „а ў мине туз ёсь!“. З такой калодай „картэвник“ буде выігрываць цэлы год [14]).

§ 15. З „Макавья зачинаится Спожиный пост“· Вядома, што „Виликодница“ цягнулася раней 9 тыдняў. Але калі „Спаситель“ паміраў на крыжы, то, бачучы „щиры“ сьлёзы сваей маці, завячаў ёй два тыдні. З гэтае прычыны „Спожиный пост“ павінен шанавацца таксама як і Вялікі, як яго частка. [15])

§ 16. Хто хоча зрабіцца добрым стральцом і шчасьлівым лаўцом, той павінен утрымаць за шчакой „причасця“ і, пасьля выхаду з царквы, завязаць яго ў рызіначку і засушыць у коміне. Як толькі вясной пачнуць разпускацца дрэвы, такі лавец выбірае асінавае дрэва, дзе з двох процілеглых сукоў у злучэньні з пнём творыцца падобьбя крыжа і прыбівае цьвяком рызіначку з „причастей“. (Пры нястачы падхадзячага дрэва тое самае робіцца на палявым ці прыдарожным крыжы). Адыйшоўшы на 30 крокаў лавец прыцэ-

---

[9]) Балона рукапісу 318; легенда запісана 29 сьнежня 1862 г. ў с. Земшыне, быўш. Вітабск. павету. Адменьнік гл. у Сержпутоўскага ў яго „Сказкахъ и разсказах бѣл. полѣш.“ № 40.

[10]) Балона рукапісу 320; запісана легенда 29 студзеня 1879 г.

[11]) Балона рук. 340; легенда запісана 30 красавіка 1880 г.; адменьнік выдрукаваны Рамановым „Бѣл. Сб.“ IV, 1891 г. наб. 170, № 29.

[12]) Балона рук. 357; легенда разпашырана па ўсей Вітабшчыне.

[13]) Балона рук. 368 на адвароце; легенда запісана 18 лістапада 1871 г. у Вітабску.

[14]) Балона рук. 389; легенда запісана 3 красавіка 1874 г.

[15]) Балона рук. 406; запісана да 1860 г. ў с. Веляшковічы, быўш. Вітабск. павету.

ліваецца ў рызіначку, замест якой ён зараз жа ўбачыць разьпятага чалавека. Калі лавец не замяшаецца і выстрэліць у мэту, то ён назаўсёды зробіцца шчасьлівым лаўцом; але калі парушыцца і ня зробіць стрэлу, то ён абавязкова з часам памрэць ад стрэльбы. У абодвых здарэньнях рызіначка з „Причастий“ бязсьледна зьнікае. [16])

---

В. ЛСТКІ.

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ ПЯТНІЦЫ ЗАМЕСТ НЯДЗЕЛІ У XVI СТ.

Канстантынопальскі патрыярх Ярэма, аб'язджаючы ў 1589 годзе крыўскія землі заўважыў многа чаго ў тутэйшым праваслаўным хрысьціянстве нязгоднага з царкоўнымі канонамі і грэцкімі звычаямі. Найбольш цікава з яго уваг, што ў нас у XVI ст. *сьвяткавалі* некатарыя не нядзелю, а *пятніцу*. У патрыяршай грамаце, пісанай да ўсяго духавенства в. кн. Літоўскага, аб гэтым апошнім так сказна:

> „Смиреніе наше увѣдася отъ многихъ... яко нецiи отъ христіанъ празнуютъ въ пятокъ, во святую же недѣлю работаютъ“. (Акты, относ. къ истор. Зап. Росс., т. IV, б. 30).

Гэтае сьвяткаваньне пятніцы замест нядзелі некатарыя з пісьменнікаў тлумачылі татарска-мусульманскімі ўплывамі, але такое тлумачэньне саўсім памылковае. Сьвяткаваньне пятніцы ў Крывічоў не было перанята ад вельмі нязначнага ліку татараў-перасяленцаў, а зьяўлялася глыбока закараніўшымся перажыткам сваей ўласнай дахрысьціянскай старасьвеччыны.

У даўныя, дахрысьціянскія часы не было падзелу між навукай і рэлігіяй. З гэтага вынікала адзінства рэлігіі, на ўсім сьвеце, незалежна ад назовы багоў у розных народаў. Бо імёны і эпітэты багоў, сьцісла бяручы, зьяўляліся нечым падобным да навуковай тэрміналёгіі цяперашніх часаў. Для шырокіх мас, каторыя стаялі на нізкай умысловай ступені, сілы прыроды былі выабражаны ў постаці фантастычных фігур антропоморфічнага або зооморфічнага характару, але для пасьвячоных яны былі толькі навуковым імязоўніцтвам, каторае магло быць перакладана на мяйсцовыя мовы і гутаркі.

Аб дахрысьціянскіх вераньнях *славянскіх* народаў, у тым ліку і Крывічоў, дахавалася вельмі мала пэўных ведамак і то адзіна ў запісях не саміх славян аб сваей веры, а ў хрысьціянскай пісьменнасьці, ганячай паганства, г. зн. ў запісях тых людзей, каторыя імкнуліся зьнішчыць ўсякія сьляды паганскіх вераньняў, заступаючы іх вераньнямі і паняцьцямі сваімі. Таму, дзеля дасьледаваньня нашай дахрысьціянскай мінуўшчыны, нам пріходзіцца карыстацца сягоньня параўнаўчым мэтадам, які дае пэўны ключ да разкрыцьця сьветагляду і вераньня нашых прапрашчураў, бо ад Егіпту і Вавілону да Індзіі, і ад Індзіі да Скандынавіі і Пірынэяў была калісь адна веда.

Ва ўсю клясычную старасьвеччыну найвышэйшай навукай, ва ўсіх народаў сьвету, была навука астраноміі. Па свайму характару гэта навука самая захватуючая, і яна разьвівае дзьве немаль супроцьлеглыя свомасьці чала-

---

[16]) Балона рук. 420; запісана да 1860 г. ў с. Вымна, б. Вітабск. павету.

вечага розуму прывучаючы яго да самага строга-лёгічнага думаньня, і, адначасна, даючы волю фантазіі свабодна лынаць у бязкрэсных абшарах. Бо калі з аднэй стараны разкрываньне асноў матэматыкі, без якой не магчыма астрономія, служыць дысцыплінай розуму і прывучае яго ў завілых і сьціслых апэрацiях да лёгічнага думаньня, то ізноў з другой стараны, углядаючыся на гвязьдзістае неба ў адзіноце, цішы і спакою глухой ночы, чалавек узносіўся ў вышэйшы сьвет, дзе цыфры з іх заданьнямі, довадамі і праверкамі, уступаюць мейсца паэтычным крозам, фантазіям і дагадкам. Старасьвеччына шукала божства ў небе, не на зямлі. Неба з яго гвездамі для старасьвеччыны былі відомымі праявамі і ўасобленьнямі божскага першапачатку, асабліва сем найбольш відочных сьвяцілаў: Месяц, Сонца, і пять вядомых у тыя часы плянэт,—па нашаму Мэркуры, Вэнэра, Марс, Юпітар і Сатурн. Дзяленьне часу было абапёрта на нябесных праявах. Абыход зямлі кругом сонца ўстанаўляў меру часу—год; аварот месяца каля зямлі адбываўся ў месяц, які ў свой чарод дзяліўся на чатыры тыдні, а кожды з сямі дзён тыдня быў пасьвячаны асобнаму нябеснаму целу. 1, панядзелак Месяцу (Сін) *); 2, аўторак Марсу (Нэргаль); 3, серада Мэркураму (Набу); 4, чэцьвер Юпітару (Мардук); 5, пятніца Вэнэры (Іштар); 6, субота Сатурну (Нініб); 7, нядзеля Сонцу (Шамаш).

У славянскіх народаў гэты 7 дзён тыдня былі пасьвячаны такжа павыжшым сямі нябесным сьвяцілам, але славянскія назовы іх не дахаваліся, хоць аб тым, што яны былі ў нас ярка сьведчаць другія мовы, прыкладам:

| Бабілёнск. | Лацінск. | Французск. | Англ. | Нямецк. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Сін | Lunae dies | Lundi | | Mon(d)tag |
| 2. Нергаль | Martis dies | Mardi | | Dienstag (ад *Одын,* бог вайны). |
| 3. Набу | Mercurii dies | Mecredi | | Mittwoch |
| 4. Мардук | Jovis dies | Jeudi | | Donnertag (Доннэр, бог грому). |
| 5. Іштар | Veneris dies | Vendredi | | Freitag (Фрэя, багіня пладавітасьці і каханьня). |
| 6. Нініб | Saturni dies | | Satur-day | Sonnabend |
| 7. Шамаш | Solis dies | | Sun-day | Sonntag |

Пяты дзень тыдня, як відаць з павыжшага, пасьвячаўся ў бабілёнцаў багіні Іштар, у лацінскіх народаў багіні Вэнэры, ў нямецкіх народаў багіні Фрэі. Не глядзя на рожныя імёны ў рожных народаў, багіня, якой пасьвячаўся пяты дзень тыдня па істоце была адна і тая-ж самая: гэта багіна пладавітасьці, вясны і любові.

Славяне, ў якіх нямецкая літара F часта пераходзіць ў літару П (folk—полк, von—пан, feder—пяро, pfefer—перац), імя Frija, вымаўлялі—Прыя.

*) У скобках зьмешчаны назовы асырыйска-бабілёнскія.

Прыя асабліва урочыста чцілася ў славянаў. Так што Скандынаўцы называлі яе: Frija-Wanadis, г. зн. Фрыя багіня Вэнэдзкая. Вэнэдамі-ж скандынаўцы называлі славянаў (Шафарык. Славянск. древности, т. I., ч. I., б. 101).

Прапаведнікі хрысьціянства, пашыраючы яго сярод паганаў, часта заступалі імёны паганскіх багоў падхадзячымі па сазгуччу імёнамі хрысьціянскіх сьвятых. Яркім прыкладам падобнага падмену імён можа служыць прыклад з заходнай славяншчыны, дзе бажніца Сьвятавіда, заменена была ў касьцёл Сьвятога Віта.

Гэткім самым спосабам была заменена ў нас багіня Прыя сьвятой Праксэдай (Народныя вар'янты гэтага імя: Прыся, Пракцэся).

У чэцьях-мінэях апавядаецца, што Праксэда была родам з Грэціі, што бацькі яе заўсёды чцілі пятніцу, як дзень мук і сьмерці Хрыстовай, за што і дараваў ім Хрыстос у гэты дзень дачку, каторую яны назвалі Парасхедос г. зн. пятніца. Так і праслыла ў нашым народзе сьв. Праксэда Пятніцай. Нават у старых календарох пры імені „Параскевіі“ ставіцца побач Пятніца.

Найстарэйшыя царкоўкі ў нашых гарадох—гэта або Ільлінскія, або Пятніцкія. Ільля, як ведама, падмяніў Пяруна, а Пятніца яго жану—багіню Прыю. Ільлінскія царкоўкі стаяць на тых мяйсцох, дзе калісь былі бажніцы пасьвячоныя Пяруну, а Пятніцкія царкоўкі пабудаваны на мейсцы бажніц пасьвячоных багіні Прыі.

Дзень сьвяткаваньня сьв. Праксэды прыходзіцца на 28 кастрычніка. У гэты дзень сяляне мелі звычай складаць пад іконы сьв. Праксэды рожныя плады на ахвяру. (Афанасьевъ. Поэт. воззрен. славян на природу, б. 234, т. I.). Гэты звычай ужо жыўцом перанесены з паганскай бажніцы ў хрысьціянскую царкву, бо Вэнэра, Іштар, Фрыя і Прыя, гэта багіня пладавітасьці.

Памяць аб Прыі (Праксэдзе-Пятніцы) дагэтуль яшчэ жыве ў памяці народу: ў пятніцу не прадуць і не аруць: „каб не запыліць матанькі Пятанькі і не запарушыць ей кастрой і пылам вочак“. Калі бабы здумаюць прасьці, ці шыць у гэты дзень, то сьв. Пятніца карае іх ногтаедай і заўсеніцаю („чэрці будуць дзерці з пальцаў лыкі“) або хваробай вачэй (Афанасьевъ, т. I, б. 233).

У нашай мове карэнь „прыя“ захаваўся ў словах: прыяць, спрыяць, прыяцель, прыязьнь, прыемны, прыемнасьць, а такжа праўдападобна, ў словах—*прасьці* і *прасьніца*; і наадварот—непрыяцель, непрыязьнь, няпрыемнасьць.

Мы ведаем, што стараветныя народы богомілі свае радзімыя рэкі і прыпісывалі паўстаньне іх паасобным сваім багом. Гэта насувае мысьль, што і нашы прашчуры паступалі такім самым парадкам, бо між прастарымі нашымі мясцовасьцямі мы знаходзім горы з імем—Дзевін, Дзевіна, Дзевінка; прыкладам гара верхняга замку ў Полацку і замковая гара ў Мсьціслаўлі. Рэка Дзьвіна, вымаўляецца нашым народам, прыкладам каля Бешанкавіч—Дзявіна, Дзевіна. Прыя, ў паганскай міталёгіі—дзева і маці.

Дзеля гэтага магчыма, што ад імені багіні Прыі, атрымала назову наша рака Прыпяць. Асабліва цікава гэта дагадка, калі параўняць Прыпяць і Няпро: Прыпяць=прыяць, спрыяць; Няпро=непрыяцель, непрыязьнь. І гэта зразумела, бо дрыгва, прылягаючая да Прыпяці, давала Крывічом пэўны схоў ад нападаў ворагаў, спрыяла базьпечнасьці, а за Няпром жылі непрыязныя Крывічом чужыя народы (Чудзь); там на ўсход за гэтай ракой ляжалі землі заселеныя няпрыязнымі сіламі.

У народнай мове дзень тыдня, пятніца, мае эпітэт „прыятніца“: „пятніца-прыятніца, субота-работа“. Народны забабон кажа, што пятніца шчасьлівы дзень „спрыяйны“ да пачынаньня ўсякіх спраў, а знача павыжшы эпітэт не прыпадковы. Параўнаўчы мэтад запэўняе нас, што ў назову пятага дня ў тыдні было паложана імя багіні Прыі *); дзень гэты мог быць называны: прыязьніца, прыятніца, а ў скарочаньні, проста—Празніца, пазьнейшае—празнік (па нямецку Freitag).

Вось чаму яшчэ ў канцы XVI ст. у нас за сьвяточны дзень прызнавалі не нядзелю, а пятніцу. Імя багіні Прыі лягло ў аснову расійскага слова „праздник“ якое абазначае ў іх кождае сьвята.

Слушна кажа Мережковскій, што міты ўлаўліваюць багоў, як сеці рыбы, і што нават самы пусты міт пахне Богам, як пустая сець рыбай.

ВЛАСТ.

# ЖЫВАЯ СТАРАСЬВЕЧЧЫНА.

У часе сваей падарожы па Вітабшчыне, ў 1913 годзе, прафэсар Вацлаў Іваноўскі, між іншымі цікавымі этнографічнымі аказамі, сабраў некалькі штук народных дрэўляных канаўцоў-коўшыкаў **). „Канаўцы“, „канаўкі“ ***) гэты ўжываліся даўней крывічамі замест цяперашніх чарак пры сямейных (вясельле, хрэзьбіны, хаўтуры) і грамадзкіх (брацкія і іншыя сходкі) урочыстасьцях „канунах“. Словам, канаўцы служылі нашым селянам аж да апошніх часаў як абрадовае начыньне. Гэтае абрадовае іх празначаньне было прычынай, што на канаўцах традыційна, пераходзячы з пакаленьня ў пакаленьне, дахаваліся сымболічныя знакі-орнамэнты з сівой, дахрысьціянскай мінуўшчыны. Галоўныя матывы сымболічнага арнаманту, на крывічанскіх канаўцох, вырэзанага зазвычай на ручцы, бываюць два: конь і сонца.

Што значаць гэты арнаманты-сымболі? Адповедзь на гэта дае нам параўнаўчая славянская міталёгія: славяне ў дахрысьціянскія часы між іншымі нябеснымі знакамі чцілі сонца і яго атрыбут—каня.

Чэсьць каня—супольная ня толькі заходна-славянскім і нямецкім плямёнам але такжа ўсей арыйскай расе. Аб чэсьці каня ў заходных славянаў дахавалася апісаньне з X-га стагодзьдзя, Дытмара (Thietmar), які так апавядае:

„Есьць адзін горад у зямлі Радароў (галіна племя Люцічоў, якія жылі ў парэччы Лабы), каторы называецца Радагошч, трыкутны ён, з трымя брамамі (паложаны пасярод возера, недаступны, з вузкім праходам для тых, што прыходзяць з ахвярамі); нічога там няма акром дрэўлянай сьвятыні, мастацка будаванай, абапертай на ўсякіх зьвярыных рагох. Зьнешнія сьцены гэтай сьвятыні аздабляюць фігуры багоў і багіняў, дзіўна вырэзаных, як

*) Хрысьціянства назову іменную заступіла назовай лічэбнай: пяты дзень тыдня—пятніца, адзіна толькі жаночы род лічэбніка паказуе на жаночае імя багіні, якой быў пасьвячаны гэты дзень.

**) Канаўцы гэты, пад назовам „коўшыкі“, ў копіях, робленых віленскімі рэмесьленікамі, прадаваліся ў вялікім ліку на кустарнай (дамаробніцкай) выстаўцы ў Вільні, ў часе нямецкай окупаціі.

***) У народнай мове гэты назоў ужываецца рожна—ў мужчынскім і жаночым родзе,—залежна ад мясцовасьці, а часам і ў аднэй і тэй самай мясцовасьці дваяка: старыкі кажуць: „канавец“, „канавок“, а малодшае пакаленьне—„ „конаўка“ (Стэфанпольская воласьць, Дзісенскага павету). Скуль узяты назоў „коўшык“ у дапасаваньні да канаўца—няведаю; гэта два асобныя імёны.

выдаецца глядачом; у сярэдзіне-ж стаяць багі, ўтвораныя рукамі, з павырэзанымі на іх паасобнымі названьнямі, гэлмамі і панцырамі грозна адзетыя, з каторых першы называецца Сварожыц і ён больш за ўсіх ччоны і паважаны бывае ад паганаў. І харугві іх, патрэбныя толькі ў час вайны і то для пешых, згэтуль ніколі не выносяцца. Для ўважнага пілнаваньня ўсяго гэтага назначылі туземцы асобных прыслужнікаў (сьвятароў). Калі тыя тут сходзяцца, каб чыніць багом ахвяры або гнеў іх улагодзіць, то садовяцца, ў той час як іншыя стаяць, і, наўзаем таемна падпяваючы, капаюць з трывогай зямлю, каб, бяртаючыся (зн. кідаючы „беркі“, берці“) дазнаць праўду аб маючых быць рэчах. Скончыўшы гэтае (бяртаньне) закрываюць берці дзірваном і *каня*, найвышэйшага, ччонага як сьвятога, вядуць ў пакорным абходзе паміж ўбітымі ў зямлю, скрыжаванымі лезьвамі двох пік і, выняўшы перад тым (з берцяў), што ім аб'явілася, праз гэтага боскага нібы каня, ізноў варожаць, а калі ў абодвых гэтых здарэньнях роўны акажацца вырак, выпаўняюць яго чынам; калі ж не,—народ цалком засмучаны разыходзіцца“.

Паводле другога, пазьнейшага, сьведчаньня, Саксона-Граматыка, ў бажніцы арконскага храму (у горадзе Арконе) стаяў аграмадны стод, вышэй чалавечага ўзросту, бога Сьвятавіда, з чатырмя барадатымі галовамі на аддзельных шыях, зьвернутымі ў чатыры рожныя староны; ў правай руцэ трымаў ён туравы рог, напоўнены вінам. Тут-жа віселі прыналежныя богу сядло, ўздэчка і аграмадны меч; звыш таго пры храме ўтрымліваўся пасьвячоны Сьвятавіту белы *конь*, на каторым, паводле перакананьня верных, езьдзіў ён ўночы біць ворагаў славянскага племені.

Гэтае, другое сьведчаньне, ў агульных рысах нагадуе нам смаленскую легенду аб сьвятым Мэркурым *). З тэй толькі рожніцай, што ў легендзе аб сьвятым Мэркурым, яго белы *конь* зьяўляецца істотай надпрыроднай, духовай, свайго роду казачнай Сіўкай-буркай вешчай буланкай. А ў іншых рысах—адзін і другі,—гэта няўсыпныя вайсковыя вартаўнікі і абаронцы сваіх плямён. Але для нас у данным здарэньні важны той факт, што як у Сьвятавіта, так і ў Мэркурага Смаленскага конь зьяўляецца атрыбутам у першым здарэньні паганскага бога, ў другім—хрысьціянскага сьвятога і аб'ектам пашаны верных.

Другі сымболь, які аздабляе крывічанскія канаўцы—гэта сонца.

---

*) Імя Мэркуры разумеецца нямае нічога супольнага з славянскай міталёгіяй, яно жыўцом перанесена з лацінскай мовы сьпярша ў старахрысьціянскую пісьменнасьць, а пазьней ужыта было ў нас, у пачатках хрысьціянства, для падмены аднаго з забытых ужо эпітэтаў нябеснага агня. Потебня („О некоторыхъ символахъ въ славянской народной поэзіи“, Харкаў, 1914, б. 38) падае карэнь мар: „Ад караня слоў мар, сонечны жар, марыць, аб сонцы: жарыць (пячы), марны, жаркі, паходзіць і мараны, ружовы, чырвоны“. У Ноўгародзкай губэрні дагэтуль, замест запаліць, кажуць „засьмірыць сьвячу“ (Потебня, б. 20). Аб блеску далёкага сьвятла кажуць: мірсьціць, мігціць, міркае, (зраўняй: сьвет і мір), а такжа зьмерк, пагасаньне. „Егіпцяне кажуць, што Озырыс (міт сонечнага бажаства) зступае ў гроб, калі сеяны плод скрываецца ў зямлі, і што ізноў ажывае, зьяўляецца, ў насеньні, якое прарастае“ (Plutarch., De Iside et Osiride). Озырыс егіпецкі ня толькі валадар дзеннага сьвятла, але такжа і „Валадар падземнага неба“, бог, які памірае і ўваскрасае. Зьмеркаючае сонца, гэта паміраючы бог адкупленьня „Вялікая Жэртва“. Мэркуры Смаленскі, паводле яго жыцьцёпісу, ня толькі перамог варажыя сілы, але такжа дабравольна злажыў сваё жыцьцё: пазволіў сьцяць сябе сьветлай нябеснай істоце. Смаленскі міт радніць нас з найстарэйшымі сьветавымі культурамі тайнай жэртвы і мучэньня: „тайна сьвету ёсьць тайна жэртвеннай любові“. Пад знакам жэртвеннай любові выйшаў крывічанскі народ на гістарычную арэну. І, ва ўсей нашай мінуўшчыне:

Ушчэрб, уздойм, ахвярнасьць,—і на ўсём
Ласкавая усьмешка зьнемажэньня,
Ў істоце мы разумнай што завём
Узвышанай стыдлівасьцю цярпеньня.



*Канаўцы з орнамантамі сонечнага круга і конскай галавы.*
*(1/4 натур. вяліч.)*

1 (першы рад, першы злева) на ручцы сонечны круг і зьверху конская галава. 2 (першы рад, канавец зправа) сонечны круг і конская стылізаваная галава. 3 (другі рад, першы канавец) стылізаваная конская галава. 4 другі рад, канавец злева) конская галава.



*Канавец з сонечным кругам на ручцы (1/4 натур. вяліч.).*

У заходных славянаў у Радагошчы, паводле сьведчаньня Дытмара, чцілі каня ў бажніцы *Сварожычa*, знача конь быў яго атрыбутам. Хто-ж такі быў Сварожыч?

Паводле слова (казаньня) Хрысталюбца, (рукапіс каторага адносяць да XII ст., а сам пераклад да X ст.) ўсходныя славяне: „моляцца агню, завучы яго Сварожычам". Прыростак „*іч*" (як: Пятровіч, Барысовіч, паніч і г. п.) паказуе на стараславянскую форму імён пешчатна-здробненых (у Сэрбаў прыкл. Дьюрдіч ня сын. Дьюрдя, але малы Дьюрдзец, Дзюрдзік). Гэтак і Сварожыч, ня ёсьць адбацькаўскае, але ўласнае, самаістае пешчатна-здробненае імя, знача: *мілы*, *малы* Сварожыч.

У Іпаціеўскім летапісе (П. С. Р. Л., т. II, б. 5) знаходзім устаўку з грэцкай кронікі Малалы, дзе Гэліос (сонцэ), перакладаецца імем Дажь-бог: „И по сем (Сварогу) царствова сын его, именем Солнце, его же наричають Дажьбог"... Трэба заўважыць, што Малала ў паганскіх багах (згодна з памылковым поглядам тагочасных гісторыкаў) дашуківаўся імён гістарычных князёў. Дзеля гэтага ідучы за ім і ўсходна-славянскі перапісчык рукапісу Малалы, дапаўняючы тэкст арыгіналу, тлумачыць, што пасьля патопу княжыў у Егіпце... Ермей (Hermes), пасьля яго Феост (Hefeistos), каторага называюць таксама *Сварогам*. А знача, яшчэ імя грэчаскага нябеснага каваля славянін перапісчык заступіў імем Сварога.

Можна, на аснове многіх данных з поўнай пэўнасьцю сказаць, што Сварожыч уасабляў сабой нябесны агонь *).

---

*) Найстарэйшы з усіх багоў арыйскай расы і найвышэйшы за ўсіх у арыйскай мітолёгіі гэта бог—Неба. Імя яго па санскрыцку і ў Рыг-Ведзе,—старэй за якую няма нічога ў санскрыцкай пісьменнасьці,—Дьяўс (літоўскае—Дзевас, лацінскае—Дэус) і крыху пазьнейшае—Варуна (у грэкаў—Уранос). Сонца—яго вока; агонь ў постаці маланкі (сьвігавіцы)—яго сын, а відомае гвезднае неба—яго валадарная шата, зямельны агонь—яго праяўленьне на зямлі.

Але неба (Варуна, Уранос) у найдаўнейшым паняцьці арыйцаў ня ёсьць уасобленьне аднэй толькі матэр'яльнай прыроды. Яму прыпісуюцца самыя высокія маральныя рысы. Ён стварыцель матэр'яльнага неба і зямлі; ён—асновапаложнік і правадаўца ўсяму рухомаму і нерухомаму, прапачатак ўсесьвету, які ўсё абыймае і ўсё зьмяшчае. У ім заключаецца пачатак і к а н е ц, с к о н; парадак і з а к о н ўсяму відомаму і невідомаму; ён адпачатны і бязсьмертны—п р а к а в е ч н ы. У славянскім перакладзе ён, праўдападобна, меў імя—К о н. Прынамні карэнь гэтага слова захаваў усе прыметы арыйскага неба. Прымета безканечнасьці, адвечнасьці, адпачатнасьці ў часе, выражаецца словамі: с п р а к о н, с п р а к а в е ч н а с ь ц ь, к а н о д а в а ц ь, к а н у н (першапачатна апошняе слова значыла ч а с, г о д, р о к, пазьней—урочы час, сьвята). Прымета неадменнасьці, непарушнасьці закону, паложанага ў аснову ўсесьвету, выражаецца словам—з а к о н. Прымета канца заключанага ў ім, выражаецца словамі—к а н е ц, к а н ч а ц ь, д а к а н ч а ц ь, с к о н, к а н а ц ь, в ы к а н а ц ь, п е р а к а н а ц ь. Урэшце ў слове дракон, захавалася выбражаньне неба і безканечнасьці часу ў постаці нябеснага зьмея, які трымае ў пашчы свой хвост. Да гэтага-ж караня трэба палічыць таксама словы—к о н ь і к н я з ь.



*Космос паводле індыйскай мітолёгіі (арыгінальны індыйскі рысунак).*

У крузе нябеснага дракона (безканечнага гвезднага абшару) памешчаны Варапай на якім стаяць тры сланы і на іх апіраецца зямля. Асяродак зямлі заняты нябеснай гарой, якая ізноў такі падтрымліваецца сланамі. На сёмым небе памешчана сонца ў постаці ўсёвідучага вока.

Гэта відаць і з павыжшай устаўкі дзе сынам Сварога называецца (Helios) Сонца, званае такжа Дажбог. А знача да бога-сонца (Сварога) прыбывае яшче бог-сонца, Дажбог. Генеалёгія багоў, ці ў разуменьні Малалы князёў, ня можа быць паважна бранай пад увагу. Сварог і Дажбог гэта два эпітэты аднаго і таго-ж самага нябеснага агня ў дваякай яго праяве—ў грамавой і сонечнай.

Імя *Сварог* (як пірог ад *піру*, астрог ад *востры*) бярэ свой пачатак ад слова свар (*свара, сварка, сварыцца*), гэта знача постаць сварачагася, грымячага агня, грому. І цяпер, калі загрыміць гром, кажуць нашы селяне да дзяцей „бозя сварыцца“. *Дажбог*, знача бог які дае ураджай (*дай, дадзь, дадзі*, ёсьць старасьвецкі загадны лад ад *даць*). Гэта ёсьць другі эпітэт нябеснага агня які характэрызуе яго ласкавае аблічча відочнае ў постаці сонца на небазводзе. Гэты-ж самы агонь, калі зьяўляецца ў постаці караючай і пабіваючай, носіць эпітэт *Пярун* (ад *праць*—біць і гнаць).

Дажбог-сонца на небе упадаблялася ўсёвідзячаму воку: *сьвета-віду* і гэта яшчэ адзін эпітэт тэйсамай істоты.

Іскру, якая пагасае лятучы ў паветры, а такжа падаючую зорку наш народ называе—*зьнічка*, згэтуль зямельны сьвяты неспагасны агонь насіў назову *Зьніч*. Можа таму, што не падтрымліваны пагасаў, зьнікаў, а можа эпітэт гэты дадзены агню для залагоджаньня яго грознай, усё пажыраючай пажарнай сілы.

Аб істнаваньні сьвятога агня *Зьніча* маюцца гістарычныя данныя з некалькі мясцовасьцяў, дзе істнавала чэсьць Сварога (літоўскае: Швінторога), між іншымі мясцовасьцямі паліўся Зьніч у Вільні і ў Вялікім Ноўгарадзе *).

Вяртаючы да крывічанскіх канаўцоў, трэба адзначыць, што ў іх традыцыйных рысунках знаходзім дакумантальнае пацьверджаньне істнаваньня ў Крывічоў чэсьці нябеснага агня ва ўсіх яго праявах і чэсьць каня як неадлучнага атрыбуту сварачагася нябеснага агня (Сварога-Грому-Пяруна). Згэтуль на канаўцах стылізаванае пераплятаньне конскай галавы і сонечнага кругу. Іначай яно і быць не магло. Паклоннікі агня—нябеснага і зямельнага—павінны былі,—як цяпер хрысьціяне крыж,—класьці свой рэлігійны сымболь на свае абрадовыя начыньні.

Асабліва таму, што крывічы лічылі сябе ўнукамі Дажьбога сонца; гэта відаць з слова аб палку Ігара: „Тагды, пры Алегу, Гораславічы сеяліся і расьлі міжсобіцамі, гібла жыцьцё Дажьбогава ўнука, ў княжых бунтах век

---

Імя Варуны (Урануса, Неба) мела ў арыйцаў многа рожнаякіх эпітэтаў, між імі дзеннае сьвятло насіла назоў Мітра.

Сын неба—як маланка так і зямельны агонь (які лічыўся часткай нябеснай маланкі зступіўшай з неба на зямлю), дзеля гэтага ва ўсіх арыйскіх народаў агонь быў аб'ектам культу, гарачага і любоўнага пакланеньня, як прыяцель чалавека, які заступае яму дзеннае сьвятло і сонечнае цяпло, як пагромца цемры і прывідаў і ўрэшце як пасланец і пасрэднік паміж двумя сьветамі—зямлей і небам.

Далейшай праявай нябеснага агня (маланкі) зьяўляецца Індра-Грамавік, уасобленьне дажджавой грымотнай буры. Яго выабражалі ў вайсковай зброі на белым кані (уасобленьне белай хмары). Ён пабівае нябеснага зьмея, які затрымлівае нябесныя воды і наагул зьяўляецца абаронцам дабра перад злом, верных супроць няверных, сваіх супроць чужых. Міт гэты самы разпашыраны ва ўсіх арыйскіх народаў і даў падставу многалічэбным пераказам у творчасьці мітолёгічнай і эпічнай. Постаць Грамавіка неразлучна зьвязана з яго нябесным канём.

*) Аб Зьнічу ў Вялікім Ноўгарадзе гаворыць Лелевэль „Cześć bałwochwaleru sławian i polski“. Пазнань, 1857 г., б. 68.

людзём скарачаўся“. Гораславічамі называлі патомкаў Рагнеды—княгіні полацкай, а Дажбогавымі ўнукамі названы тут крыўскі народ, над якім пануючыя Гораславічы „сеяліся і расьлі міжсобіцамі“. Знак дажбожых унукаў —Сварог (а пазьней той-жа Сварог толькі ўжо прыняты ў лік хрысьціянскіх сьвятых пад імем Мэркурага) быў выабражаны на белым кані з паднятым мячом на ворагаў Крывічанскага племя.

Трыумф на конадні жэртвы.

Запраўды, тое што ў Егіпце пераховалася высечанае на камяні, ў Ассырыі і Бабілёніі ў клінапісных тэкстах на цэгле, гэта ў нас маецца ў скарбах народнай творчасьці, да сягоньня яшчэ на жаль намі не сабранай і не пазнанай.

---

VERITATIS.

# АБ „СЛАВЯНСТВЕ“ МАСКАЛЁЎ.

Каланізацыя ўсходнай часьці вялікай усходна-эўропэйскай раўніны гэта адна з самых вялічэзных гістарычных падзей ва ўсей сьветавой гісторыі. На жаль, расійская навука чамусьці скромна абыходзіць гэту вялікую падзею. Прычына, чаму расійская гісторыя або замаўчывае гэтае здарэньне, або пасьпешна абыходзіць яго, упамінаючы некалькімі кінутымі мімаходам словамі, ясная. Уся маскоўская славянафільская тэорыя разпадаецца ў нішто, калі праўдзіва асьвятліць каланізацыю цяперашняй Масковіі (Вялікарасіі). Дзеля гэтага тым большая павіннасьць крыўскай навукі пры кождым здарэньні паказываць, кажучы словамі вялікага гісторыка Ранке, „на тое, што было“.

У часы Карла Вялікага (канец VIII і пачатак IX ст.) ўся цяперашняя Вялікарасія (Маскоўшчына) скрозь была заселена фіна-мангольскімі плямёнамі. У гэтым часе мяйсцовасьць, дзе цяпер стаіць „матушка Москва“ была так сама вялікарускай або славянскай, як у 1700 годзе тая мяйсцовасьць, дзе цяпер Ленінград (Петраград).

Часы Карла Вялікага гэта рэакція на вялікае перасяленьне народаў, якое адбывалася чатыраста годаў перад ім у кірунку эўропэйскага поўдня і захаду. Цяпер (ў VIII і IX ст.) адбываецца перасовываньне народаў у паваротным кірунку—на ўсход і паўночна-ўсход. Гальскія плямёны адпіхаюць нямецкае племя Франкаў і займаюць іх землі, адначасна с тэрыторыяй прыймаючы новае імя—Французы. Немцы выцясьняюць Славянаў з балтыцкага паморья, а такжа Прусакаў з балтыцкага узьбярэжжа паміж Віслай і Нёмнам, славяне націскаюць на Фінаў і Манголаў.

Немцы, пры помачы нямецкай мовы і каталіцкай царкоўнай арганізацыі, сьпярша ўзалежняюць ад сябе, а пазьней абнямечываюць славянскія плямёны паміж Лабай (Эльбай) і Віслай. Аславяніўшыяся ў Крывічоў і Палянаў (Украінцаў) Варагі, пры помачы набранай вольніцы ў Крывічоў і Палянаў, пад прэтэкстам хрышчэньня, заваёвуюць Фінаў і Манголаў, навязуючы ім адначасна славянскую літургію, і славянскую мову ў адміністрацыі, славянізуюць фіна-мангольскія плямёны на берагох Окі, Волгі, Камы, Пячоры, Паўночнай Дзьвіны і Дону.

Не глядзя на націск адміністрацыі, школы і царквы, маскоўскаму ураду за тысячу годаў не ўдалося яшчэ саўсім „аславяніць“ тамтэйшае мясцовае жыхарства. Нават афіцыяльная народная перапісь 1897 г. прызнае, што ў

„истинно-русскихъ“ губэрнях, прылягаючых да „матушки Москвы“ маецца дагэтуль „коренное не русское населеніе“. У губэрнях Твярской аказуюцца цэлыя воласьці заселяныя Карэламі! „Истинно русская“ Ніжагародзкая губэрня, акром „вялікарусаў“, заселена яшчэ Мардвой, Чарамісамі і Татарамі! У Пензенскай губэрні маюцца разлеглыя мясцовасьці заселяныя Мардвой, Мяшчэрай і Татарамі! У Тамбоўскай губэрні афіціяльная статыстыка прызнае „коренное“ насяленьне зложанае з Вялікарусаў, Мардвы і Татараў! Толькі ў Маскоўскай губэрні, калі верыць афіціяльнай статыстыцы „туземное инородческое населеніе“ зьнікла бязсьледна, г. зн. прыняло з вялікарускай мовай і праваслаўем вялікарускі выгляд, астаючыся па крыві фіна-манголамі.

Што цяперашняя „Вялікарусія“ не славянскі край, аб гэтым сьведчыць ня толькі не славянскі тып вялікарусаў (пастаўце поплеч менчука с пензенцам і параўняйце: дзьве саўсім іншыя расы людзей!), але і неславянскія імёны рэк і вазёр. Нават „матушка Волга“ носіць не славянскае, а фіна-мангольскае імя!

Цікаўнае параўнаньне:

Прусакі, гэта мяшаніна Немцаў Прусакаў (Літвіноў) і славянаў, выдаюць сябе за „истинно-немцаў“ і крычаць аб сваім нямецкім прызваньні.

Вялікарусы, гэта мяшаніна Варагаў, Крывічоў, Украінцаў на $^{999}/_{1000}$ Фінаў і Татараў, выдаюць сябе за „истинно-славян“ і крычаць аб сваім славянскім прызваньні (параўнай пажаданьне Пушкіна, каб усе славянскія руччы зьліліся ў рускім (маскальскім) моры).

---

PEREGRINUS.

## ТОДАР ДАСТАЕЎСКІ І АДАМ МІЦКЕВІЧ, СЫНЫ КРЫВІЦКАГА НАРОДНАГА ГЕНІЯ.

Вялікі псыхолёг, які глыбока заглянуў у страшную бязодню людзкой душы, Тодар Дастаеўскі пісаў расійскай мовай свае векапомныя творы, ergo ён расійскі пісьменнік. Так кажа гісторыя расійскай пісьменнасьці і ўся Заходная Эўропа; не, больш таго, ўвесь культурны сьвет прызнае Дастаеўскага расійцам.

Вялікі славянскі паэт, які стаяў непамерна вышэй нават ад Пушкіна, Адам Міцкевіч, пісаў свае дзіўныя паэтычныя абразы польскай мовай, eo ipso ён польскі паэт. Так кажуць з гордасьцю польскія патрыоты, вучоныя і ўся Заходная Эўропа; не, больш таго, ўвесь культурны сьвет прызнае Адама Міцкевіча вялікім польскім паэтам.

Наш век гэта век самага ярага націяналізму. І пры гэтым націяналізму, які шукае і знаходзіць свае выражэньне ў апотэозе націянальнай мовы. Гэта ёсьць характэрная асобнасьць націяналізму нашых дзён.

Даволі перагарнуць, хоць спаверхнасна, ўсесьветную гісторыю ад самай глыбокай старасьвеччыны да часу нашых дзядоў або нават бацькоў, каб пераканацца ў гэтым. Націянальнае пачуцьцё, ведама, істнавала заўсёды, але злучаць два паняцьці, мову і націю, ў адно—ў націянальнасьць—гэта стала звыклым толькі ў апошніх чатырох або пяці дзесяцілецьцях.

У старой, сярэдняй, новай і нават навейшай гісторыі можна знайсьці скольki хочучы прыкладаў, якія сьведчаць нам, што да нашых дзён, мова ўсюды і заўсёды была адзіна знадабьбем для націянальных мэт. Толькі ў наш век націянальная мова становіцца націянальнай мэтай *). І сягоньня апотэозу мовы мы бачым ня толькі ў Лёндане, Парыжы, Бэрліне, Маскве, але і ў Празе, Коўне, Рэвелі, Рызе, і, здаецца нават у Менску. Калі мы ў апошнім здарэньні памыляемся, то тым горш для Крывічоў.

Мы сказалі вышэй, што да нашых часаў мова служыла знадабьбем для націянальных мэт, гэта пацьвярджае нам гісторыя.

Александр Македонскі стварыў, праўда, толькі часовую ўсесьветную грэцкую імпэрыю. Але, дзякуючы яго паходам і заваяваньням, грэцкая мова становіцца мовай усесьветнай г. зн. самай разпашыранай у тагочасным культурным сьвеце. І от, бабілёнскія, палестынскія, егіпецкія, сырыйскія, рымскія, націяналісты карыстаюцца ўсесьветнай грэцкай мовай, як знадабьбем дзеля разпашырэньня сваіх бабілёнскіх, палестынскіх, егіпскіх, сырыйскіх, рымскіх націянальных мэт. Яны пішуць свае творы грэцкай мовай, але астаюцца, ведама, па пераконаньню бабілёнцамі, палестынцамі (жыдамі), егіпцянамі, сырыйцамі, рымлянамі.

Бабілёнскі гісторык Борэзос (Boresos) піша сваю бабілёнскую гісторыю „Babyloniaca“ па грэцку. Але нікому ня прыйдзе ў галаву назваць Борэзоса грэцкім пісьменьнікам, а яго кнігу „Babyloniaca“ залічыць да грэцкай пісьменнасьці.

Егіпецкі шовініст-гісторык Манэтос (Manethos) піша грэцкай мовай гісторыю Егіпту „Aegyptiaca“. Гэта трохтамовая праца належыць ведама да егіпецкай пісьменнасьці, а не да грэчаскай, а сам Манэтос—гэта егіпецкі а не грэчаскі пісьменнік.

У III і II ст. ст. да Н. Х. жыды ствараюць цэлую жыдоўска-націянальную пісьменнасьць у грэцкай мове. Гэта жыдоўская пісьменнасьць—ў прозе і вершах—цікуе адну мэту: выхваляньне жыдоўскага народу і яго дзяржавы ў Палестыне. Гэта выслаўляньне жыдоўскага націяналізму вядзецца так адкрыта і ў такой вызываючай форме, што выклікае са стараны грэкаў цэлы рад кніг ў антысэміцкім духу. Каму прыйдзе ў галаву залічыць гэтых жыдоўскіх пісьменнікаў да грэкаў, толькі таму, што яны пісалі грэцкай мовай? Хто будзе такі лацьваверны каб залічыць іх пісаньні не да жыдоўскай а да грэцкай пісьменнасьці?

Рымскія націянальныя гісторыкі Fabius Pictor, Cincius, Acilius, Albinus, меней болей у тым часе, калі ў Палестыне жыды пішуць па грэцку, яны ў Рыме пішуць свае націянальна-рымскія гісторыі такжа па грэцку. Кождая літара іхніх твораў тхне рымскім націяналізмам. Усе гэты рымляне ня грэцкія пісьменнікі, а іх Annales гэта рымская, а ня грэцкая пісьменнасьць.

Але, ось, мінае некалькі стагодзьдзяў. Сьпярша памалу, блізка незаўважна, пасьля ўсё барджэй пачынае падаць значэньне грэцкай мовы ў культурным сьвеце. Мейсца грэцкай міжнароднай мовы пачынае цяпер займаць

---

*) Увага Рэдакціі. Гэта саўсім зразумела, бо ў даўныя часы дзяржавы прадстаўлялі не народы, а дынасты, народ быў знадабьбем толькі для дынастычных мэт. Цяпер-жа выходзяць на гістарычную арэну самі народы, і, натуральна, са сваімі ўласнымі мовамі. Старасьвеччына лічыла сваіх цароў багамі (пазьней божымі памазаннікамі), дык ведама, што гэты людзі ня простага паходжаньня, стараліся рожніцца ўсім, што толькі было ім даступным, ад простага народу над якім панавалі. Гэтае жаданьне выдзеліцца з массы простага народу было да нядаўна і ў нас прычынай да перайманьня чужых моў.

мова лацінская. Разпад рымскай сьветавой дзяржавы і заваяваньне часьцей яе германскімі плямёнамі, ня толькі не абніжае пазыціі лацінскай мовы, як міжнароднай, а наадварот яшчэ ўзмацняе яе. Германскія заваёўнікі без нiякага адпору карыстаюцца мовай падбітых лацінцаў. Асабліва Готы і Франкі прызнаюць лацінскую мову канечна патрэбнай для ўсякага культурнага разьвіцьця. Готы і Франкі ствараюць цэлую пісьменнасьць на лацінскай мове, але гэта пісьменнасьць ёсьць нямецкая, а ня рымская.

Але, во, зыходзяць апошнія астаткі рымскай імпэрыі. У Італіі з мяшаніны Рымлянаў, Лонгобардаў, Вандалаў, Норманаў і Арабаў утвараецца новая народнасьць—італьянская.

Нараджаецца італьянская мова і італьянская пісьменнасьць. А ў самой Нямеччыне панаваньне лаціны далей прадаўжаецца. Вучоныя і паэты, мужчыны і жанчыны, мніхі і мнішкі, імпэратары і мяшчане, ўсе яны пішуць большай часьцю не на нямецкай мове, а на лацінскай. У часе панаваньня дынастыі Оттоноў і Швабаў утвараецца багатая нямецкая пісьменнасьць... ў лацінскай мове. Гэта—пэрлы нямецкай паэзіі, а не лацінскай.

Урэшце і сярэднія векі прыбліжаюцца к канцу і панаваньню лаціны Лютар, калі не астаточную то ў кождым здарэньні сільную, стаўляе таму. Трыдцацілетняя вайна паднімае значэньне француцкай мовы, якая становіцца прыдворнай у Нямеччыне, Аўстрыі, Швэціі, Даніі, Польшчы, а крыху пазьней і ў Расіі.

Фрыдрык Вялікі піша, гаворыць і нават думае толькі ў францускай мове. Яго гістарычныя працы і яго вершы пісаны ня мовай Гетэ а мовай Вольтэра. Але гэта акалічнасьць ня можа ніводнага разумнага чалавека прымусіць лічыць Фрыдрыка Вялікага француцкім а не нямецкім пісьменнікам, а яго самую цікавую працу „Анты-Макіявэльлі“ залічыць у француцкую, а не ў нямецкую пісьменнасьць.

У часы нашых бацькоў пачалося чэскае нацыянальнае адраджэньне. Вялікі чэх Палацкі аднак напісаў сваю слаўную Гісторыю Чэхіі ў мове нямецкай. Ва ўсей Эўропе ня знойдзецца аднак ніводнага чалавека, каторы гатоў будзе назваць Палацкага нямецкім пісьменнікам, а яго слаўную „Geschichte Böhmens“ залічыць у нямецкую пісьменнасьць.

Немаль ва ўсіх культурных мовах істнуе прыказка „Тон творыць музыку“. Mutatis mutandis можам сказаць: нацыянальнасьць паэты і пісьменніка не устанаўляецца мовай, якой ён пісаў.

Тодар Дастаеўскі шляхціц менскага павету па дзядох і прадзедах, і сын доктара, які жыў у Маскве ў часы Мікалая І, ў тыя часы, калі „рускасьць“ і „праваслаўе“ былі да такой меры сынонімамі, што нават 100 000 латышоў у Ліфляндзіі, калі ўсякімі няпраўдамі ўдалося іх перавярнуць з лютаранства ў праваслаўе, залічылі „русскими“, то Тодар Дастаеўскі мог пісаць толькі па расійску, а не другой якой мовай.

Адам Міцкевіч, сын шляхціца навагорадзкага павету, і навагорадзкага адваката часаў Александра І і Мікалая І, ці мог пісаць ён якой колечы другой мовай акром польскай і часьцю француцкай?

Няхай расійская пісьменнасьць пышаецца Дастаеўскім, няхай польскае вока загараецца агнём, калі называецца імя Адама Міцкевіча,—Крыўскі народ ведае, што абодвы яны цела ад цела і кроў ад крыві яго і абодвых—і Дастаеўскага і Міцкевіча—залічае да свайго олімпу. Слава Тодара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча гэта слава крыўскага нацыянальнага генія.

MILES.

# БУДУЧАЯ ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЯ ВАЙНА.

Назоў стацьці сьпярша пакажацца чытачу дзіўным. Але гэта вайна неўнікнёна. Крывічы не маглі выкарыстаць усесьветнай вайны 1914—1918 г.г.; былі непрыгатаваны да падзей польска-савецкай вайны 1920-га году. А таму абавязак крывічанскіх дзеячоў ня быць прынамні неўспадзеў засьцігнутымі будучай польска-савецкай вайной.

Мы сказалі, што вайна неўнікнёна. Гэта ня толькі наша думка, а пераконаньне ўсей Заходнай Эўропы. Хоць вайна гэта ня выбухне яшчэ ні сягоньня, ні заўтра, але ва ўсіх палітычных, а больш таго ў вайсковых кругах лічацца з гэтай вайной, як немінучай падзеяй.

Як-жа выбражаюць сабе эўропэйскія вайсковыя кругі гэту вайну, яе ход і вынікі?

Найбольш праўдападобна, што Польшча ў гэтай вайне будзе не без супольнікаў. Акром Румыніі, мабыць, знойдуцца яшчэ другія ўчасьнікі вайны на старане Польшчы. Шансы Сувязі Савецкіх Рэспублік з гэтага боку горшыя. Але саўсім без супольнікаў і яны не астануцца. Абедзьве ваюючыя староны, акром афіцыяльных супольнікаў, будуць мець яшчэ не афіцыяльных, тайных, але вельмі ўплывовых на вайну сваіх староннікаў.

Што датыча стану армій праціўных старон, то эўропэйскія вайсковыя аўторытэты таго пагляду, што ў цяперашні час (і на бліжэйшую будучыну) польская армія, як орган вядзеньня вайны, стаіць вышэй вайсковых сіл Сувязі Савецкіх Рэспублік. Некалькігадовая праца французкіх інструктароў не прайшла бязсьледна для польскай арміі. Аб дасьціжэньнях у арганізацыі чырвонай арміі ў генеральных штабох Заходнай Эўропы добра асьвядомлены і прызнаюць, што гэты дасьціжэньні за апошнія два-тры годы даволі вялікія. Але лічаць, што дасьціжэньні ў арганізацыі польскай арміі, за той-жа час, яшчэ большыя. Так, што калі лічыцца толькі са зьнешнім станам праціўных армій, то польская армія мае ў будучай вайне, ў стасунку да чырвонай, больш шансаў як ў 1920 годзе.

Праўда: вайна гэта ня ёсьць гульня ў шахматы, дзе прыходзіцца лічыцца выключна з абсолютнымі вялічынамі. У вайне адыгрываюць так званыя imponderabilia вельмі важную, магчыма нават рашаючую, ролю. Гэты imponderabilia нельга падлічыць і яны ў вайне становяць той элемэнт, які ператварае вайну ў газардовую ігру, а палкаводцаў у газардовых ігракоў.

Рэдка ў якой колечы вайне, за апошнія дзьвесьце годаў, imponderabilia ігралі такую рашаючую ролю, якую будуць іграць imponderabilia ў будучай польска-савецкай вайне.

Каторая з праціўных старон здолее лепш выкарыстаць imponderabilia? Хто змог бы сказаць гэта, той згадаў-бы і вынік будучай польска-славецкай вайны.

Паводле ўсіх азнак Сувязь Савецкіх Рэспублік у поўнай меры ўяўляе сабе тое рашаючае значэньне, якое будуць мець imponderabilia ў маючым быць крывавым моры і імкнецца ў поўнай меры выкарыстаць іх для сябе.

Вайсковая пісьменнасьць Заходнай Эўропы аднагалосна таго пагляду, што дыспазыціі польскага генеральнага штабу на гэты раз будуць другія чым ў 1920 годзе.

Як тады, так і цяпер польскія і чырвоныя войскі будуць знаходзіцца на двох вайсковых тэатрах: паўночным (крыўскім) і палуднёвым (украінскім).

Ва ўсей эўропэйскай вайсковай пісьменнасьці пануе цяпер пераконаньне, што паход палякаў на Кіяў у 1920 годзе быў недароўнай спамылкай, якая паказала Пілсудскага ў ролі вайсковага дылетанта, які ледзь не загубіў сваей спамылкай свой край.

Ужо летам 1920 году генерал Людэндорф паказаў на гэту спамылку. Тады ён заявіў, што адзіна правільна было для палякаў трымацца на украінскім фронце ў дэфэнзыве і павясьці поўнае наступленьне на крывічанскім фронце—з берагоў Бярэзіны ў кірунку Смаленска. Гэты погляд падзялялі і французкія вайсковыя кругі, якія рэзка ганілі Пілсудскага. Пілсудскі і сам прызнаў, што ў часе паходу на Кіяў палякі кіраваліся ня столькі вайсковымі мяркаваньнямі сколькі палітычнымі—надзеяй знайсьці падтрыманьне ў украінскім народзе і апэраваць у руку Врангелю. Як ведама, жорская абыднасьць разьвеяла польскія палітычныя мяркаваньні як дым: украінскі народ не хацеў і слухаць аб коопэратыве з „ляхамі“, а чырвоны урад у Маскве з пажыткам вінаваціў перад расійскім народам Врангеля ў здрадзе і прадажы расійскіх інтэрасаў Варшаве.

Блізка немагчыма дапусьціць, што ў будучай вайне палякі ўзновяць сваю спамылку.

Найпраўдападобней, польскі генеральны штаб на гэты раз будзе лічыць крыўскі (паўночы) фронт галоўным, а украінскі (палуднёвы) другарадным.

Вайсковая пісьменнасьць ссылаецца пры гэтым цьверджаньні на характар польскіх вайсковых манэўраў у 1925 годзе. На палуднёвым (украінскім) фронце 11-га і 12-га жніўня былі ўладжаны вялікія манэўры, пад зьверхніцтвам генерала Развадоўскага. Гэта генерал—інспэктар усей польскай конніцы. Манэўры, якімі ён кіраваў, былі немаль выключна манэўрамі конніцы. І гэты манэўры адбываліся на палуднёвым (украінскім) фронце! Ці-ж ня дзіўны прыпадак?

Плян манэўраў быў гэткі:

Сільная „чырвоная“ (nomen et omen!!) конніца вядзе наступленьне ў кірунку Дубна—Броды. Вораг хоча ўзяць Броды. „Синяя“ („польская“) конніца трымаецца ў дэфэнзыве і прыкрывае Броды.

Мэта гэтых манэўраў: паказаць магчымасьць затрыманьня сільнай лікам, але слабай тэхнічным рыштункам чырвонай конніцы, значна слабейшай лікам, але сільнай тэхнічным рыштункам польскай конніцай. Будова паверхні памагала „палякам“ і перашкаджала „чырвоным“.

Генерал Сікорскі неаднойчы высказываў вустна і пісьменна, што украінскі фронт для Польшчы, ў часе вайны з Сувязьзю Савецкіх Рэспублік, зьяўляецца не рашаючым. Есьць крэпкія асновы дапусьціць, што гэта погляд ня толькі Сікорскага, але і погляд польскага і стаячага за ім французкага штабу.

Калі палуднёвы (украінскі) фронт прызнаць другарадным, то галоўным польскім фронтам будзе крывічанскі.

Не так даўно ў вышэйшых польскіх вайсковых кругах цыркуляваў мэморандум, зьмест якога быў гэткі:

Вялікадзяржаўнасьць Польшчы стаіць і падае з Вільняй. Абарона і утрыманьне за сабой Вільні ў часе вайны з Сувязьзю Савецкіх Рэспублік-- гэта галоўнае заданьне польскай арміі. Дзеля гэтага на паўночным фронце будзе разьвязка польска-савецкай вайны. Абараняць Вільню можа польская армія толькі наступацельным мэтадам вядзеньня вайны. Польшча не мае даволі сіл, каб вясьці наступленьне адначасна на ўсім аграмадным фронце паміж Дзьвіной і Днястром, і ей прыдзецца вясьці дэфэнзыву на паўднёвым (украінскім) фронце, з магчыма найменшым лікам войск, а галоўную массу сваіх войск перавясьці на паўночны фронт, і, паміж Дзьвіной і Палесьсем, на ўсход ад вазёр, шукаць борздым наступленьнем выніку польска-савецкай вайны.

Зразумела, польскі генеральны штаб лічыць, што румынская армія прыйме на сябе заданьне, ня толькі абараняць сваю тэрыторыю, але і паўднёва-ўсходную Польшчу ад націску чырвонай арміі.

У кождым здарэньні, пункт погляду польскага генеральнага штабу, што доля Польшчы разьвяжацца на крывічанскім фронце, раздзеляецца ўсімі вайсковымі аўторытэтамі Заходнай Эўропы.

Для „польскай“ (заходнай) Крывіі, ня менш як для „рускай„ (усходнай) Крывіі, гэткім чынам адкрываецца сумная пэрспэктыва быць галоўным тэатрам новай польска-савецкай вайны. Што гэта знача, добра ведама ўсяму крывічанскаму народу, які памятае яшчэ падзеі ўсесьветнай вайны і польска-савецкага паходу 1920 году.

Сьвятая павіннасьць павадыроў крывічанскага народу ўжо цяпер пачаць рабіць захады да таго, каб з аднаго боку аблягчыць горкую долю тых часьцей свайго краю, каторыя стануцца галоўным тэатрам польска-савецкай вайны, а з другой—забасьпечыць Крывіі і крывічанскаму народу ўсе карысьці, якія Крывічы могуць і павінны атрымаць у выніку новай міжнароднай бойні. Imponderabilia, аб значэньні каторых для выніку вайны мы гаварылі вышэй, павінны, пасьля горкіх разчараваньняў апошняга дзесяцілецьця, прынамні на гэты раз, у поўнай меры быць выкарыстаны для будучыны народу-гаспадара сваей зямлі, каторай празначана доляй быць вайсковым тэатрам.

Крыўскія дзеячы, павадыры, палітыкі і палітыканы! Не забывайце нядаўнай мінуўшчыны: Qestigiaterrent.

---

ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.

# ШТО СПРЫЯЕ РАЗРОСТУ і УПАДКУ НАРОДАЎ і ДЗЯРЖАВАЎ.

Гісторыя—гэта вялікі магільнік і калыбка дзяржаў і народаў. Ня толькі ў старавечнай, але і ў навейшай гісторыі мы можам бачыць многа прыкладаў як малыя, саўсім нязначныя княsьствы выраслі ў аграмадныя дзяржавы і, наадварот, вялікія і сільныя дзяржавы малелі, разсыпаліся, а ўрэшце саўсім зыходзілі з гістарычнай арэны. Разважаючы над доляй дзяржаў і народаў само сабой вынікае пытаньне: якія прычыны спрыяюць іх разросту і што спрычыняецца да іх упадку? Чаму, прыкладам, маленькая Літва ў свой

час разраслася ў аграмадную дзяржаву, межы якой сягалі Балтыцкага і Чорнага мора ўдоўжкі; Тыльзіту і Каломны пад Масквой ўшыркі. Чаму некалькі сот годаў праістнаваўшы яна ўтраціла жыцьцёвыя сокі, пачала занепадаць, і, ўрэшце перастала істнаваць як дзяржава? Скуль чэрпала буйныя жыцьцёвыя сокі Маскоўскае захудалае князьства, што з бегам часу сталася Расійскай Імпэрыяй, якая займае шостую часьць зямельнай сушы? Гэтак сама чамусьці маленькая Прусія вырастае ў нямецкую Імпэрыю.

У старавеҭнай гісторыі падобных прыкладаў можна налічыць шмат болей: Егіпет, Пэрсія, Рым, Юдэя і мн. другіх.

Праглядаючы гісторыі народаў найперш кідаецца ў вочы тое, што дзяржавы ўтвараюць толькі народы з ярка выражанымі індывідуальнымі рысамі, або ярка акрэсьленымі імкненьнямі. Не было ў гісторыі прыпадку каб утварыў трывалую дзяржаву народ, каторы па сваей істоце зьяўляецца нечым пераходным, неакрэсьленым, ў каторага няма выразных рысаў, якія адрожніваюць яго ад другіх, падобных яму народаў. Ярка зарысаваная індывідуальнасьць народу, гэта першы і найважнейшы варунак патрэбны да яго істнаваньня і разросту. Гэта індывідуальнасьць народу можа выражацца ў яго асобнай расе, рэлігіі, мове, гістарычных традыціях, ўрэшце—ў яго народным імені. Народы, каторыя не абладаюць, выключна для сябе, ніводнай з павыжшых рысаў і не маюць ў сабе тэндэнціі вытварыць якую колечы з іх, не маюць перад гісторыяй апраўданьня на сваё істнаваньне. Рана позна яны прымушаны зыйсьці з гістарычнай арэны уступаючы мейсца другім, якія абладаюць ярчэйшымі асобнасьцямі.

Утварэньне трывалай дзяржавы і яе разрост варункуецца іншымі прычынамі: для утварэньня дзяржавы народу трэба мець пачуцьцё свайго гістарычнага пасланніцтва, будзь то ў постаці пашырэньня якога веравызнаньня, якой агульна-людзкай ці націянальнай ідэі, будзь-то ў форме вялікага высілку ў змаганьні з стыхійнымі пагрозамі, або абароны людзкіх грамад перад вялікімі небасьпекамі. Маленькая дзяржаўная адзінка вырастае ў аграмадную і сільную дзяржаву, калі ў яе маецца вылучна ей прыналежная гістарычная місія, якую яна выконуе ў часе. Выканаўшы сваю гістарычную місію, дзяржава, калі не стаўляе сабе іншай гістарычнай місіі, пачынае памалу занепадаць і зыходзіць з гістарычнай арэны. Гэтак было з в. кн. Літоўскім. Яго гістарычная місія, каторая высунула гэту дзяржаву на гістарычную відаўню, была ў змаганьні з татарскай навалай. На гэтым змаганьні Літоўская дзяржава расла і крэпла, але калі татарская моц была зломлена, то ў Літвы не аказалася ў запасе новага пасланніцтва, якое-бы пабуджала да чыну яе грамадзян, і яна, не маючы да правядзеньня ў гісторыі сваей уласнай мэты ні палітычнай, ні рэлігійнай, павінна была падпасьць пад чужыя палітычныя і рэлігійныя ўплывы і зыйсьці з балон гісторыі.

Маскоўскае князьства разраслося дзякуючы таму, што яно ўзяло на сябе выключнае прадстаўніцтва грэцкага абрадку на ўсходнай славяншчыне і пропаганду грэцкага праваслаўя паміж фінскімі, татарскімі і другімі народамі эўропэйскага ўсходу і Сібіры. „Руская“ вера была галоўнай спружынай, якая паслужыла да ўтварэньня Расійскай Імпэрыі. Акамеўшае, ў служэньні маскоўскаму абсолютызму, праваслаўе ў XIX ст. пачало ўжо траціць сваю сілу, і, разам з ім, расійская дзяржава пад канец гэтага стагодзьдзя, яўна стала кланіцца да ўпадку. Вайна і рэволюція крэпка скалынулі гмах расійскай дзяржавы, але комунізм ўліў у яе заміраўшыя жылы новыя імкненьні. Ці гэты лек акажацца скутэчным, нам сягоньня трудна судзіць.

Але якое-ж мейсца ў гісторыі празначана нам, Крывічом? А, найперш ці маецца ў нас апраўданьне на індывідуальнае істнаваньне ў гісторыі?

Перш чым даць адповедзь на гэтыя пытаньні, мы павінны выясьціць, якія маюцца ў нас індывідуальныя рысы, на аснове каторых можна наш народ лічыць асобным гістарычным індывідумам.

Справы нашы на першы погляд выяўляюцца не найлепей.

Мы не маем, падобна жыдом, сваей асобнай рэлігіі, якая бы нас аддзялала ад другіх блізкіх і далёкіх нам народаў. Больш таго, акром рэлігійнай залежнасьці ад цэнтраў іх, у нас істнуе падзел народу на праваслаўных і каталікоў. За гэтым падзелам ідуць да нас культурныя і палітычныя ўплывы, якія вяжуць нас з прадстаўніцай грэцкага праваслаўя Масквой і прадстаўніцай рымскага каталіцтва Варшавай. Рэлігійнай індывідуальнасьці ў нас няма, а яшчэ горшае—няма волі знайсьці сабе рэлігійную індывідуальнасьць. Няма нават такога шуканьня якое бачым мы ў бліжэйшых нашых пабратымаў—Украінцаў, каторыя на нашых вачах твораць уласную націянальную царкву, пераносячы грэцкае праваслаўе на свой націянальны грунт. Насаджаньне, чужымі рукамі і ў чужых інтэрасах, сярод нашых грамадзян уніяцтва, носіць чыста спэкулятыўны характар і няможа сыграць для нас ролі націянальнай.

Значна лепей стаіць справа з мовай. Наша мова паміж усходна-славянскімі—расійскай, польскай, украінскай—абладае сваімі асобнымі рысамі і характарам. Праўда, гэты рысы значна зацерты доўгалетнімі суседзкімі—ня столькі ўплывамі на нас, сколькі—запазычкамі ў нас. Але ўсё-ж такі наша мова, з яе блізка тысячалетняй гісторыяй, багатай і мала дасьледаванай этнографіяй, зьяўляецца аднэй з галоўнейшых астой нашай націянальнай індывідуальнасьці. Заданьнем нашай маладой навукі і прыгожай пісьменнасьці—ёсьць праца над ачысткай гэтай мовы і паглыбленьнем яе індывідуальных рысаў. Нажаль, пры цяперашнім паднявольным палажэньні нашага народу і яго падзеле, справа гэта ня лёгкая. Тым больш, што ў нас саміх яшчэ замала волі да шуканьня і знаходжаньня сваей індывідуальнасьці ў родным слове. А тымчасам ад гэтай волі цалком залежыць будучына нашай мовы: калі мы будзем перапаўняць свой слоўнік словамі, запазычанамі ад суседзяў—мы ўтрацім з часам нават тыя індывідуальныя рысы, якімі цяпер абладаем і, наадварот, калі мы будзем унікаць суседзкіх слоў і зваротаў, а галоўнае слоў перажарганаваных з суседніх моў і заступаць іх, памагчымасьці яркімі, сваімі ўласнымі словамі, ўзятымі з вусн народу, або са старой пісьменнасьці, то перамога будзе па нашай старане: мы ня толькі абаронім, але і паглыбім індывідуальнасьць сваей мовы.

Аднак галоўнай астояй нашай індывідуальнасьці і крыніцай нашага гістарычнага прызваньня, ёсьць нашы гістарычныя традыціі. Адноўленьне нашых гістарычных традыцій у націянальнай сьвядомасьці дасьць нам адразу ярка выражаную індывідуальнасьць сярод народаў, якія нас акружаюць. Крывічанскае племя разпадаецца на тры галіны: *Літоўскую* (якая калісь ўхадзіла ў склад в. кн. Літоўскага), *Ноўгародзка-Пскоўскую* і *Северскую*. Галоўныя традыціі ўсіх трох гэтых галін Крывічоў—іх народапраўства, якое выражалася даўней у вечавым укладзе, і дэцэнтралізація, якая вынікае з пашаны да асобы. Нашы гістарычныя традыціі не маюць нічога супольнага ні з маскоўскім азіяцкім абсолютызмам, ні з польскім анархістычным шляхэцтвам. Мы павінны навязаць ізноў парваную ніць нашых гістарычных традыцій і на іх будаваць нашы гістарычныя заданьні.

Вялікае значэньне ў гісторыі і ў жыцьці народаў мае іх націянальнае імя. Імя народу або яго зьлівае і зьмешывае з другімі, або яго аддзяляе ад другіх. У шуканьні сваей індывідуальнасьці мы павінны мець волю спыніцца на тым з паміж нашых гістарычных імён, каторае найбольш поўна і праўдна акрэсьляе нас як народ. Дзеля гэтага ня можа нас здаволіць імя Беларусы. „Беларусы“, гэта пераходная ступень, часьць цэлага рускага, якое, як нам ведама, абыймае конглёмарат народнасьцяў самых рожнаякіх рас і плямён, ад Балтыку да Владзівастоку. У гэтай безбярэжнай мозайцы мы як бела-*русы* будземо толькі нязначным, без індывідуальным камешкам, празначаньне якога будзе стушавацца ў цэлым. Другое нашае гістарычнае імя—Літва—не абыймала цэласьці, а толькі адну, заходную галіну нашага племя, гэта самае можна сказаць аб Ноўгародцах, Пскоўцах і Северанах. Адзіна імя Крывічы абыймае ўсе галіны нашага племя і яно даволі выразіста адцяняе нашу індывідуальнасьць у гістарычнай мінуўшчыне. Дзеля гэтага, не выракаючыся іншых гістарычных і провінціянальных нашых імён, мы павінны крэпка трымацца імені Крывічы, як адзінага імені, якое прыналежыць вылучна толькі нашаму народу.

Урэшце, раз народ мае даволі індывідуальных рысаў каб гісторыя апраўдала яго істнаваньне, то народ гэты мае права такжа на сваю дзяржаўнасьць. Але істнаваньне дзяржавы толькі тады апраўдуецца гісторыяй, калі гэта дзяржава выконуе якое колечы гістарычнае пасланніцтва.

Якое-ж нашае пасланніцтва, каторае мы павінны выканаць перад чалавецтвам?

Пачнем ад найбліжэйшых нашых заданьняў. Найперш, на нашай павіннасьці ляжыць аб'яднаць, разарваныя ў мінуўшым, часьці нашага народу ў адно цэлае. Гэта датыча ня толькі сьвежа крывавячай раны, дакананай расійска-польскай угодай у Рызе, але такжа зьвязаньня ў адно цэлае ўсяго балтыцкага славянства, ўсіх трох галін крывічанскага племя. Наша, заходная галіна Крывічоў павінна ўзяць на сабе гэтае вялікае гістарычнае пасланніцтва ў стасунку да сваіх пабратымаў—паўночнай і северскай галінаў. Акром гэтага ўнутраннага пасланніцтва на нас ляжыць яшчэ пасланніцтва агульна людзкае: Крывічанская славяншчына ў цэлым павінна даць чалавецтву новыя культурныя цэннасьці. Даўно было заўважана ўжо расійскімі вучонымі, што, на ўсім абшары Расійскай імпэрыі, толькі ў Ноўгародзка-Пскоўскім і Беларускім краю істнуе саўсім асобнае, саўсім самаістае і індывідуальнае будаўніцтва. Але важней за індывідуальнае будаўніцтва, ёсьць індывідуальны уклад жыцьця, індывідуальная псыхіка ў падходзе да соціяльнага будаўніцтва, абапертая на індывідуалізме.

Нашае заданьне ў гісторыі—дэцэнтралізм і народапраўства, якія дадуць новыя цэннасьці, нясучы вызваленьне чалавецтву, якое задыхаецца ў путах стадна-цэнтралістычнага абсолютызму так сама ў дэмократычных як у монархістычных і соціялістычных сучасных нам дзяржавах.

Мы павінны знайсьці саміх сябе ў кождай дзедзіне духовай і матэр'яльнай творчасьці, ў соціяльным укладзе, ў рэлігіі і мастацтве. І на гэты шуканьні прабіў ужо вялікі час.

Гора тым, хто перад абліччам вялікага гістарычнага моманту, які ідзе ўжо, стане з пустымі рукамі, або—ні зімны, ні гарачы.

ЛАСТ.

# УНІЯ.

Адну з найбольш трагічных балон нашай мінуўшчыны займае рэлігійная унія, заключаная паміж вызнаўцамі лацінскага і грэцкага абрадку на берасьцейскім саборы, ў 1595 годзе. Не глядзя на аграмадную пісьменнасьць, якую выклікала павыжшая падзея, дагэтуль яшчэ няма працы, каторая бы об'ектыўна, з пункту інтэрасаў нашага народу яе асьвятляла. Аб уніі дагэтуль вялася пераважна полеміка гістарычна-догматычнага зьместу, якая нічога не выясьняе і нікога не пераконуе. Полемісты маскоўскага абозу, амаўляючы унію, выступаюць ў ролі абаронцаў старога благачэсьця прасьледаванага каталікамі-палякамі, і, наадварот, полемісты лаціна-польскага абозу выступаюць ў ролі пропагатараў заходнай культуры і яе носьбітаў на „барбарскім“ усходзе. Адна і другая старана прамаўчывае пры гэтым істотныя палітычныя інтэрасы на асноведзі якіх разыгрывалася гэта наша трагедзія.

## I. Грунт з якога вырасла думка аб уніі.

Разарванае на двое ў IX—XI стагодзьдзях ўсесьветнае хрысьціянства заўсёды імкнулася да аб'яднаньня. Гэтаму аб'яднаньню перашкаджалі старыя палітычныя парахункі паміж Візанціяй і Рымам. Догматычныя разыходжаньні былі прыдуманы толькі на апраўданьне падзелу. Але адасобленасьць усходнай і заходнай царквы—чым далей тым большыя—вытварала рожніцы, і, разам з гэтым, што раз трудней было ім прымірыцца, тым больш, што ў меру таго як слабела Візанція расьлі вымогі Рыму на галоўнае і адзінае прадстаўніцтва ўсяго хрысьціянства на сьвеце. Аднак паміж Усходам і Захадам бывалі моманты зьбліжэньня, якія ізноў чарадаваліся разыходжаньнямі. Гэты справы зьбліжэньняў і разыходжаньняў выклікалі жывы інтэрас у цэнтрах, але чым далей ад цэнтраў—Візанціі і Рыму—тым актуальнасьць гэтых спраў была меншай. Гэтак, на крыўскіх землях рэдкія адзінкі ўяўлялі сабе істоту рэлігійнага падзелу і вынікаўшых з гэтага супярэчнасьцяў. Што адны трымаліся ўсходнага абраду, а другія заходнага, тут, у нас, гэта вынікала не з догматычных, а з традыцыйна-гістарычных і мяйсцовых палітычных і абычаёва культурных варункаў. Бывалі здарэньні, што архібіскупаў на праваслаўную архібіскопію назначаў папеж (Грыгоры Баўгарын—1458 г.) і назначэньне яго пацьвярджаў канстантынопальскі патрыарх, і, наадварот, высьвячаны патрыархам архібіскуп пасылае пасольства да папежа (пасольства да папежа Сыкста IV). Гэтыя пасольствы і назначэньні для консэрватыўных нізоў нічога не гаварылі і ня мелі ніякага практычнага выніку. Нават тыя з магнатаў, якія прыймалі ня унію, (якая нічога не зьмяняла) але чысты лацінскі абрадак, па сколькі жылі ў краю, то абычаёва-культурна і палітычна аставаліся па дзяржаўнай прыналежнасьці літвінамі, а па культурнай—крывічамі.

Зьмену ў гэтае палажэньне ўнясла рэформація, якая як гураган закружыла па краю, каля 1530-1540-х гадоў, зьмятаючы з аблічча зямлі так сама праваслаўе як і каталіцтва. Перад агульнай небасьпекай, саўсім натуральна было вынікнуць мысьлі аб супольнай абароне. Мысьль гэта расла, крэпла, і, ўрэшце, знайшла свой выраз ў акце берасьцейскага сыноду 1595 году.

## II. Палітычная асноведзь на якой павінна была разьвівацца унія.

На крыўскіх і украінскіх землях хрысьціянства шырылася разам з заваяваньнямі іх Варагамі-Русьсю. Хрысьціянства было верай заваёўнікаў, верай

русаў,—*рускай* верай. Пад гэтай назовай „рускай веры“ ўмацавалася хрысьціянства на ўсей усходнай славяншчыне. Аднак адзінства „рускага“ вера вызнаньня і варага-рурыкавічаўскай дынастыі ня сьцёрла на ўсходнай славяншчыне племянных падзелаў. Пракавечны падзел на балтыцкае і понтыйскае славянства астаўся ў поўнай сіле. Акром гэтага пачала ўзрастаць трэцяя, ўсходная, група каля Масквы.

К XVI ст. Масква станавіла ўжо даволі крэпкую асобную дзяржаву. Значная часьць, ледзь ня большая, крыўскіх зямель станавіла вялікае князства Літоўскае, да якога належала Украіна (Русь), а Галічына ўходзіла ў склад Польшчы. На ўсім гэтым абшары панавала „руская“ вера, што не выключала падзелу на тры націянальныя групы:

I. *Літва*, ў склад якой уходзілі ваяводзтвы: Віленскае, Троцкае, Менскае, Мсьціслаўскае, Навагорадзкае, Полацкае, Вітабскае і Берасьцейскае.

II. *Русь*, ваяводзтвы: Луцкае, Кіяўскае і Падольскае, якія былі (як заваяваная ў XIV ст. Літвой правінцыя) далучаны да Літвы, а ваяводзтвы: Львоўскае, Холмскае і Бэлзкае знаходзіліся, як правінцыя, ў складзе Польшчы.

III. *Масква*.

Схіляючыся сымпаціямі ў бок Літвы, але падпадаючы пад што раз большы ўплыў Масквы, трымаліся яшчэ да паловы XVI ст. рэспублікі Вялікага Ноўгараду і Пскова.

Стасункі паміж Літвой і Русьсю (Украінай) былі не ўнормаванымі. Русь ўдзячная Літве за вызваленьне з пад татарскага ярма і шукаючы абароны ад татарскіх нападаў, не забывала сваей колішняй славы і галовенства на ўсходнай славяншчыне. Русь мірылася са сваім палажэньнем *падбітай правінціі*, ў складзе літоўскай дзяржавы, але не лічыла гэтае палажэньне для сябе нормальным. Княжыя рускія роды, патомкі Рурыкавічаў, былі носьбітамі незалежніцка-дзяржаўных ідэй Русі. У меру таго як слаб націск татараў на Русь і павялічалася залежнасьць Літвы ад Польшчы, незалежніцкія імкненьні ў рускіх магнатаў ўзмагаліся. Пры кождым немаль адноўленьні дзяржаўнай уніі паміж Польшчай і Літвой, у рускіх магнатаў ажывала надзея, што Русь, разьдзеленую паміж Літвой і Польшчай, удасцца злучыць у адно цэлае і ўвайсьці ей у склад фэдэральнай рэчыпасполітай ужо не як руская правінцыя, а як руская дзяржава, як трэці народ, роўнапраўны з Літвой і Польшчай. На зьішчаньне гэтых імкненьняў меліся ў Русі надзеі на Люблінскім сойме 1569 г., ў кождым здарэньні пасыўнасьць Русі, калі кароль яе даровываў Польшчы, прымушае думаць, што адбывалася гэта даравізна не безпаразуменьня з Русьсю. На пераходзе з пад улады Літвы пад уладу Польшчы, Русь выігрывала злучэньне ўсіх сваіх зямель пад аднэй уладай. Урэшце дзяржаўная унія 1569 году была заключана паміж двумя толькі народамі —Літвой і Польшчай. Далучэньне Русі да Польшчы хоць аслабіла Літву, але не палепшыла палажэньня самой Русі. Наадварот, новае яе палажэньне ў складзе ўжо Польшчы, яшчэ больш падрывала аўторытэт і заводзіла большую палітычную залежнасьць, дзякуючы разпашырэньню на Русь польскай адміністрацыі і права. Русь пачала хапацца цяпер за абарону прывычнага ей літоўскага ладу і права, пачала што раз выразьней займаць становішча апазыцыі. Пры гэткім палітычным палажэньні застала Літву і Русь у 1590-х годах мысьль аб рэлігійнай уніі. Сьпярша Русь супроць уніі не выступала. Князь Астрожскі асабіста выпрацовываў пункты, на якіх можна было-бы заключыць унію з Рымам. Але зьнёсшыся з Масквой, Валохіяй і Канстантынопалям у яго засьвіталі новыя ідэі, вынікам якіх была устроена ім, і яго аднадумцамі, апазыцыя на берасьцейскім сынодзе, аб каторую разьбілася ня

толькі справа самой рэлігійнай уніі, але такжа літоўская дзяржава, і, ў часе казацкіх воен, падарвана была моц усей Рэчыпаспалітай. Русь паставіла стаўку на апазыцію.

## III. Палажэньне „рускай“ царквы ў Літве і Русі ў канцы XVI ст. і што прысьпяшыла заключэньне уніі.

Ад часаў Ягайлы і Вітаўта, г. зн. ад часу дзяржаўнага зьбліжэньня з Польшчай, дзяржаўнай рэлігіяй лічылася ў Літве каталіцтва, якое вызнаваў сам кароль і некатарыя князі і магнаты в. кн. Літоўскага. Пропаганда каталіцтва вялася праз дзяржаўнае правадаўства, якое надавала каталіком рожныя прывілеі і адначасна агранічала ў правох праваслаўных, а такжа цераз рожныя чыста рэлігійныя ўстановы. Але, не глядзя на ўсё гэта, поступ каталіцтва быў саўсім нязначны, бо срогія агранічэньні праваслаўных, апісаныя ў прывілеях, калі пераходзілі да жыцьцёвай практыкі, аставаліся немаль мёртвай літарай у краю, дзе абсолютная праваслаўная большасьць трымала ў сваіх руках уладу. Затое ўсе агранічэньні праваслаўя, мінаючы праваслаўных магнатаў і баярства, пачоўна адбіваліся на праваслаўным духавенстве, а галоўна—яно было адсунута ад дзяржаўнага кіравецтва і публічных спраў. „Руская“ вера ў Літве XV і XVI ст. была верай не дзяржаўнай, а прыватнай, адлучанай ад дзяржавы, празначанай на зьнішчаньне; мейсца якой павінна было заступіць каталіцтва. З гэтага вынікалі сымпаціі праваслаўнага духавенства да аднавернай Масквы, дзе праваслаўе было верай дзяржаўнай, асабліва ўзмагліся гэты сымпаціі пасьля 1505 году, калі вялікі князь Маскоўскі Васіль III, ажаніўшыся з Софіей Палеолог, прыбраў сабе тытул цара ўсей Русі, а знача галавы ўсіх народаў, якія вызнавалі „рускую“ веру. Умеру таго як крэпла Масква і горшымі станавіліся варункі праваслаўнага абрадку ў Літве, рэлігійны аўторытэт Масквы ўзрастаў у вачах тутэйшага „рускага“ духавенства. Гэткім чынам веравызнаўчы прынцып уносіў рэлігійна-палітычныя ор'ентаціі сярод духавенства в. кн. Літоўскага: лацінскае духавенства аглядалася на Польшчу, праваслаўнае на Маскву. У гэтым крылася вялікая дзяржаўная небасьпечнасьць і дзяржаўныя мужы в. кн. Літоўскага шукалі выхаду з стварыўшагася палажэньня. І, вось, калі ў заходнай Эўропе патужна паўстаў рэформацкі рух, ламаючы каталіцтва, то за гэту ідэю хапіліся і нашы магнаты. Мікалай Радзівіл Чорны пропагаваў у в. кн. Літоўскім кальвінізм. За ім хлынулі другія магнаты і шляхта. Рэформацкі рух шырока разьліўся па краю. Пераходзілі ў рэформацыю ня толькі сьвецкія але і духоўныя асобы абодвых абрадкаў. Здавалася ратунак ад рэлігійнага падзелу быў знойдзены. Але за рэлігійна-рэволюцыйным уздоймам прышла рэакцыя. І, сыны адпаўшых ад праваслаў'я бацькоў, не вярталі ўжо назад у старое благачэсьця, але пераходзілі ў каталіцтва, „польскую“ веру, прыймаючы адначасна і заходна-эўропэйскую лацінскую культуру ў польскай шаце. Адступніцтва прыняло загражаючыя памеры сярод магнатаў і шляхты. Як рэакцыя супроць рэформацыі і як ратунак для „рускай“ царквы была высунута унія, якая павінна была стацца асобнай, самаістай царквой. Мысьль аб уніі была выкалыхана ў сталіцы в. кн. Літоўскага—Вільні, была ініцыятывай літоўскай стараны.

## IV. Падвойнасьць царкоўнай улады ў „рускай“ царкве ў канцы XVI ст.

Пад напорам рэформацыі, дзеля абароны старога благачэсьця, ў другой палавіне XVI ст. пачалі тварыцца рэлігійна-сьвецкія арганізацыі пад назовам брацтваў. Брацтвы гэты адыгралі аргамадную ролю ў культурна-рэлігійным

жыцьці нашага краю, як актыўная сіла, якая выступіла на змаганьне за веру. Да брацтваў былі прыцягнуты ўсе сілы, якія яшчэ не адпалі ад усходнага абрадку: магнаты, шляхта, мяшчане, а нават селяне. Каб дзяржаўная ўлада не магла зьвязываць брацтваў, пастаноўлена было абасьпечыць іх патрыаршымі стаўропігіяльнымі прывілеямі. Аб'яжджаючы ў 1582 годзе в. кн. Літоўскае, патрыарх Ярэма надзяліў многія брацтвы стаўропігіямі. Паўсталі стаўропігіяльныя брацтвы ў Вільні, Вітабску, Полацку, Магілеве, Пінску, Оршы, Берасьці. Стаўропігіі былі выняты з пад улады мясцовых біскупаў і ўзалежнены безпасярэдна ад самога патрыархі. Вельмі хутка стаўропігіі пачуліся прадстаўнікамі патрыаршай улады на мяйсцох і ня толькі не прызнавалі над сабой улады сваіх біскупаў, але нават прысвоілі сабе права суда над імі ня толькі ў справах іх паступкаў, але нават і ў справах веры. Ужо ў 1590-х годах паміж стаўропігіямі і біскупамі завязаўся антагонізм. Гэткім чынам, ў канцы XVI ст., ў „рускай“ царкве была ўжо падвойная ўлада—духоўная і сьвецкая.

### V. Пакрыжаваньне палітычных плянаў на берасьцейскім сынодзе 1595 году.

На берасьцейскім сынодзе сьціраліся паміж сабой рожныя палітычныя інтэрасы: Рым, Польшча, Літва, Русь, Масковія і Канстантынопальскі патрыархат. Інтэрасы Рыму часьцю зыходзіліся з інтэрасамі Польшчы: Рым імкнуўся пашырыць свае ўплывы на славянскі ўсход, ўцягаючы ў сваю арбіту наразе вызнаўцоў усходнага абрадку, якія знаходзіліся ў межах Рэчыпаспалітай,— Польшча, пры помачы пашырэньня уніі, імкнулася да больш цеснага аб'яднаньня Літвы і Русі. Але ў практычных вывадах палітыка Польшчы і Рыму разыходзілася. У той час калі для Рыму ўсе вызнаўцы ўсходнага абрадку здаваліся быць адналітнай рускай масай, прынамні ў граніцах Рэчыпаспалітай, то для Польшчы, якая лепш разьбіралася ў мяйсцовых справах, ведама было, што Літва і Русь прадстаўлялі асобныя інтэрасы. Ігра на гэтай процілегласьці, інтэрасаў дзяліла Русь і Літву, аслабляючы абедзьвех і даючы перавагу Польшчы. Дзеля гэтага польская палітыка, дапамагаючы да злучэньня абрадкаў, адначасна падпірала Рускую апазыцію. Для Рыму, пасьля рэлігійнага аб'яднаньня, наданьне роўных правоў „рускай“ народнасьці выяўлялася актам простай справядлівасьці, актам пажаданым. Для Польшчы, наадварот, роўнапраўства прадстаўлялася вялікай уступкай, у дадатку уступкай небасьпечнай, бо яна вяла Літву і Русь не да поўнага зьліцьця ў адзін польскі народ, аб'яднаны адным рэлігійным, у данным здарэньні рыма-каталіцкім абрадкам, а да ўтварэньня асобнай самаістай царквы, якая ў выніку зьлівала-бы цясьней Літву і Русь у асобны народ са сваей асобнай абраднасьцю, граматнасьцю, герархіяй і гістарычнымі традыціямі. Словам, у выпадку поўнага роўнапраўства абедзьвех царквей і духоўнай герархіі, Польшча баялася разпаду Рэчыпаспалітай на яе галоўныя складовыя часьці. Дзеля гэтага ў абяцаньнях, даваных літоўска-рускім праваслаўным біскупам, авансаваўся асабіста толькі кароль і некатарыя вышэйшыя дастойнікі, але ня сэймы на якія справу роўнапраўства ўсходнага абрадку не ставілі пад пратэкстам яе нібы-то сэкрэтнасьці. Палякі ў данным здарэньні былі большымі каталікамі чым сам Папа і яго палітыка, бо ў той час калі Папа і Рым дабіваліся толькі аб'яднаньня абодвых абрадкаў пад сваей уладай з захаваньнем усіх асобнасьцяў усходнага абрадку, то палякі глядзелі на унію толькі як на спосаб да палітычнага аслабленьня Літвы і Русі, як на пераходную стадзію да зьліцьця абодвых народаў у польскім каталіцтве.

Асобную пазыцію ў справе уніі займала Русь (Украіна). Пераход Русі (Украіны), пасьля Люблінскай Уніі пад уладу Польшчы ня толькі не палепшыў, але значна пагоршыў яе палітычнае палажэньне, а тымчасам Масква і Канстантынопаль, - першая ў надзеі разпашырэньне сваіх уплываў, другі ў мэтах захаваньня пры сабе адрыванай у лацінства абшырнай правінціі,— падтрымлівалі ў патужных родах рускіх (украінскіх) князёў амбітныя імкненьні да дзяржаўнага вызваленьня, якое павінна было наступіць пры помачы праваслаўнага ўсходу, а галоўным чынам Масквы, пры варунку, калі Русь захавае рэлігійную еднасьць з усходам. Ад 1590-га і да 1595 году, гэты думкі саўсім дасьпелі ў кіруючых сфэрах праваслаўнага ўсходу і быў гатовы ўжо, ў агульных зарысах, плян паступаньня ў стасунку да заключанай уніі: Русь павінна была заняць рэзка апазыційнае становішча, апорай гэтай апазыціі павінны былі стацца для Русі залежныя ад канстантынопальскага патрыархату стаўропігіяльныя брацтвы, якія меліся на тэрыторыі Русі і Літвы, а такжа раздоры паміж паасобнымі біскупамі і мітрапалітам (мелі на ўвазе львоўскага біскупа Балабана, якога, пры заключаньні уніі, уніяты на берасьцейскім сынодзе хацелі пазбавіць біскупскай годнасьці, за яго неканонічныя паступкі). Плян быў правільны і берасьцейскі сынод разьбіўся ня толькі на два абозы, але нават на два сыноды, з каторых кожды вынес праціўнаму пракляцьце. У выніку „руская“ царква ў межах рэчыпасполітай разпалася на двое: на прыслухаючую папежу і прыслухаючую канстантынопальскаму патрыарху. Прадстаўніцай першай была пераважна Літва, прадстаўніцай другой—Русь.

## VI. Духоўная уніяцкая герархія і яе, ў выніку уніі, палітычнае палажэньне.

Тытул кіяўскага мітрапаліта, ўжо даўным даўно, быў далучаны да новагорадзкай архібіскопіі з архібіскупскай рэзыдэнціяй ня ў Кіяве, а ў Вільні. Пасьля заключэньня уніі кіяўскі мітрапаліт па даўнаму пражываў у Вільні, яму прыслухалі віленска-кіяўска-новагорадзкая мітраполія, дзьве архібіскопіі, Полацкая і Смаленская і біскупствы: берасьцейска-валадзімерскае, туравапінскае, бэлзка-холмскае, астрожска-луцкае, галіцка львоўскае, самборскаперамышльскае, ўсяго разам 9 эпархій. З гэтага ліку на берасьцейскім сынодзе перайшлі на старану праваслаўных два біскупы: львоўскі Гедэон Балабан і астрожска-луцкі—Міхайла Капысьценскі. Перайшлі не з матываў рэлігійных, а з палітычных, бо Балабан быў напачатку адным з першых ініцыятараў уніі, ня быў праціўны ей такжа і Капысьценскі. Магчыма, што гэта справа была-бы сама сабой ліквідавана і гісторыя пашла бы роўным торам, але на помач праваслаўнай апазыціі прыйшла польская палітыка. Перад заключэньнем уніі, ўрочыстымі каралеўскімі прывілеямі, было забасьпечана аб'яднанаму з Рымам „грэцкаму“ духавенству і сьвецкім людзём гэтага абрадку поўнае роўнаўпраўненьне з духавенствам і грамадзянствам лацінскім, каталіцкім. Уніяцкія біскупы на раўне з лацінскімі павінны былі заняць мейсцы ў сэнаце. Тым часам, пасьля заключэньня уніі, зсылаючыся на нязгоду ў лоне „рускай“ царквы, палякі „рускіх“ біскупаў не пусьцілі ў сэнат і правоў іх не пашырылі. Не памаглі неаднакротныя папежскія бульлі да караля і польскага лацінскага біскупату з вымаганьнем роўнапраўства уніяцкаму духавенству. У выніку гэта несправядлівасьць адразу паніжыла ў вачах грамадзянства уніяцкіх біскупаў, і ў душы саміх біскупаў пакінула страшную горыч. Палажэньне іх было запраўды крытычным. З аднэй стараны, будучы размысна адкінутымі ад грамадзкіх правоў, забасьпечаных ім прывілеямі, а з другой стараны націсканыя праз праваслаўных і рэфарматаў, яны ня мелі змогі належна бараніць сваіх правоў. Выключэньне уніяцкіх біскупаў з

сэнату было паніжэньнем ня толькі уніяцкай царквы, а галоўна паніжэньнем *літоўскай народнасьці.* Праваслаўная апазыцыя, іграючы на завілай тагочаснай тэрміналёгіі, ў якой мяшаліся паняцьці рэлігійныя з нацыянальнымі і дзяржаўнымі, пад кніжна-веравызнаўчы тэрмін *„русь“* (якім ён быў дагэтуль у Літве), падкладала нацыянальнае паняцьце „русь“ (якім гэты тэрмін быў на Украіне) і гэтым разьбівала нацыянальную еднасьць у Літве, перацягаючы на сваю старану значныя сілы самой Літвы, якія залічалі сябе да „рускай“ веры. Пазбаўленае правоў уніяцкае духавенства ня мела магчымасьці проціставіць „рускай“ справе і абрадку, выразна зарысаваную сваю літоўскую справу і абрадак. Літва асталася, дзякуючы гэтаму, дзяржавай без уласнай рэлігіі. Ужо ў першай чверці XVII ст., за якіх 15-20 гадаў пасьля заключэньня уніі, боруцца на рэлігійным грунце паміж сабой толькі дзьве сілы: польская справа і руская справа, веравызнаўчай справы літоўскай ужо няма, яна зыходзіць на палажэньне другараднага аргуманту лаціна-каталіцкай і руска-праваслаўнай справы. Рускае праваслаўе захапіла ў свае рукі прадстаўніцтва „рускай“ народнасьці ў Рэчыпаспалітай. Палітычная паніклівасьць лаціна-польскага духавенства, усільна лацінізуючы і полёнізуючы шляхту, цешылася, што Літва зыходзіць з палітычнай арэны. Каб да рэшты дабіць уніяцкі абрадак ў вачах літоўскай нацыі, а знача злацінізаванай шляхты, польскія біскупы неаднакрот зьвярталіся ў Рым, каб папеж уніяцкіх біскупаў аддаў пад уладу каталіцкіх біскупаў, а знача зьмяніў уніяцкія біскупіі на суфраганіі лацінскіх біскупстваў. Старэньні гэты не атрымалі санкціі Рыму, але сеялі раздор паміж абрадкам лацінскім і уніяцкім ды давалі зброю ў рукі праціўнікаў уніі, супроць уніяцтва. Гэтак, дзякуючы вераломству, прайграўшы справу, унія, з веры нацыянальнай, якой яна магла і павінна была быць у Літве, станавілася мала-памалу верай „мужыцкай“.

## VII. Унутранная арганізацыя уніяцкай царквы.

Зара пасьля падпісаньня акту уніі, пад кіравецтвам езуіта, прыступлена было да рэарганізаціі ўнутраннага царкоўнага ладу. Галоўным чынам увага рэформатараў была зьвернута на манастырскае духавенства. Устаноўлен быў ў 1604 г. ордэн Васільянаў, статут якога быў немаль поўнай копіяй статуту ордэну езуітаў. Пры кождым васільянскім манастыры устаноўлена была школа. На утрыманьне школ было перапісана большасьць манастырскіх і другіх духоўных фундацій з вялікім ушчэрбкам для дабрабыту сьвецкага духавенства і нават уніяцкіх біскупскіх катэдраў. Васільяне ў сваіх школах, ня горш пастаўленых за езуіцкія, навучалі галоўным чынам дзяцей багатай шляхты. Сьвецкае уніяцкае духавенства ня мела доступу ў гэты школы дзеля іх дарагоўлі. Зрэшта васільяне сумысна не дапушчалі ў свае школы дзяцей сьвецкага духавенства. Лацінскія гісторыкі тлумачуць гэта жаданьнем васільянаў утрымаць у сваіх руках вышэйшыя духоўныя дастойнасьці, але, здаецца, паза гэтым крыліся іншыя мяркаваньні, якія мелі на мэце павольную лацінізацію уніі. У кождым здарэньні біскупы бывалі толькі з ліку васільянаў. Гэты васільяне-біскупы ўсюды протэгавалі членаў свайго ордэну: ўсе ўрады афіцыяльскія, кансысторскія, а нават благачынскія абсаджаліся васільянамі. Толькі самыя бездаходныя парохіі аставаліся ў руках сьвецкага уніяцкага духавенства і стасунак васільянаў да сьвецкага духавенства быў пагардлівы і зьнеknown важлівы, як да людзей простых і цёмных, якіх яны самі-ж трымалі сумысьля ў гэтай цемнаце.

З усяго гэтага, з аднэй стараны памі-ж біскупствамі і васільянамі, а з другой стараны паміж васільянамі і сьвецкім духавенствам, вырастала няпрыязьнь і недавер'е. Нехаць гэта і недавер'е сьвецкага духавенства да ва-

сільянаў і да біскупаў, якія выходзілі з паміж тых-жа васільянаў, узмагалася яшчэ тым, што васільяне на вольныя вакансіі ў свае манастыры, дзеля недастачы асьвечаных людзей з паміж уніятаў, прыймалі лаціннікаў, з якіх складалася блізка палавіна ордэну.

Ізноў-жа для сьвецкага уніяцкага духавенства не было спэціяльных школ. Адзінай установай у краю, дзе уніяцкае духавенства магло атрымаць асьвету з рук езуітаў, была віленская бурса, заложаная папежам Грыгорым XIII, ў 1585 годзе, дзякуючы старэньням Поссэвіна. У гэтай бурсе, разлічанай на 20 вучняў, магло вучыцца 4-х манахаў і 16 сьвецкіх клерыкаў але і гэта бурса прыймала лацiннікаў. Патрэбу асьветы для сьвецкага уніяцкага духавенства ўсе прызнавалі, але чамусьці гэта справа за некалькі сот годаў ніяк з мейсца ня зрушылася.

Гэтак, дзеля „незалежных“ прычын, не прыйшла да скутку духоўная сэмінарыя, спроектаваная на кобрынскім сынодзе ў 1626 годзе, якая мелася быць адкрытай у Менску, з прыватных складак. Не ўтрымалася нават сэмінарыя спроектаваная на 6-ці вучняў у Валадзімеры, ў 1720 годзе. Нейкія заздросныя сілы чутка пілнавалі каб уніяцкае сьвецкае духавенства ня мела асьветы. У выніку, сыны уніяцкіх сьвятароў, навучыўшыся ад сваіх бацькоў адзіна чытаць трэбнікі, атрымлівалі пасьвяту і мейсцы вясковых парохаў. Нават біскупы не вымагалі ад кандыдата на уніяцкага пароха больш як уменьня чытаць і знаньня большага катэхізму. (Synod. prov. Ruthenorum habita Zamościae, titulus II i XV). Вынікам браку краёвых духоўных школ было, што сыны вясковага уніяцкага духавенства, шукаючы асьветы, ішлі за Днепр у Кіяў і Пераяслаў, у Валохію і Малдавію а нават у Маскву. Там іх навучалі ня толькі граматы і царкоўных абрадаў, але, галоўна, ўцягалі ў рады актыўных працаўнікоў у змаганьні за „рускую справу“. Адны з іх атрымлівалі сьвятарскую пасьвяту там-жа на мейсцы, іншыя вярнуўшыся дамоў, з рук сваіх біскупаў, але адны і другія, пры ўсеагульнай безграматнасьці, лёгка ўстраіваліся на духоўныя пасады.

Расійскія пісьменнікі тэндэнцыйна асьвятляюць палажэньне праваслаўнага і уніяцкага духавенства ў Літве і Русі ў часе іх зьвязку з рэчыпаспалітай польскай. Палажэньне праваслаўнай царквы прадстаўляецца больш цяжкім чым палажэньне царквы уніяцкай. Аб'ектывізм вымагае зазначыць, што, пры безпраўным палажэньні абодвых цэркваў, усё-ж палажэньне уніяцкай царквы было значна горшае. Матэр'яльнае і маральнае палажэньне сьвецкага уніяцкага духавенства было невымоўна цяжкое. Кожды памешчык, на каторага зямлі стаяла царква, лічыўся яе поўным і безкантрольным гаспадаром „колятарам“ (апякуном). Езуіта Пятро Скарга так апавядае аб палажэньні сьвецкага уніяцкага духавенства: „кожды шляхціц, які мае папа, кіруе ім як хоча, часам загадуе яму ісьці на работу і ў некатарых (з паміж шляхты) бывае такая бязбожная сьмеласьць, што яго пакарае і выб'е, калі ў чым не паслухае“. Іначай кажучы колятар мог заганяць сьвятара на прыгон і да ўсякіх дворных работ. Аддадзенае на самаволю шляхты, не маючы нідзе абароны, уніяцкае сьвецкае духавенства было як-бы вынята з пад права. Дробная шляхта (у XVII і XVIII стагодзьдзях ужо немаль пагалоўна акаталічаная),—а такжа спраўцы магнацкіх ключоў, зьдзекаваліся і прыгняталі уніяцкага пароха, які з соціяльнай стараны немаль саўсім ня рожніўся ад кожнага іншага селяніна. Бралі вялікія аплаты за абняцьце духоўнай пасады, ганялі на работы і з падводамі, аддавалі ўрэшце на вызыск жыдоў арэндатараў. Паводле тагочаснага звычаю двары аддавалі жыдом манаполь на прадажу ўсякіх тавараў. Ня ў дворнага арэндатара нельга было нікому ні-

чога купляць, а знача і такжа уніяцкаму пароху, нават жыта малоць трэба было ў дворнага арэндатара, а мяйсцамі ў склад арэнды ўходзіла і царква з яе даходамі ад духоўных трэб. Калі парох часам ціхачом, праз ашчаднасьць, купіў сабе дзе жыўнасьці і жыд-арэндатар гэта дазнаў, то акружаў дом пароха, ператрасаў усё, забіраў „нелегальшчыну“ і загадваў плаціць сабе кару. Акром гэтага бедны гэты парох павінен быў штогодна выплачываць дзесяціну сваім біскупам, з паміж каторых бывалі няраз безлітосныя зьдзірцы, якія, праз сваіх прыдворных казакаў, выбіралі у пароха не дзесяціну, а палавіну і нават больш усіх яго дастаткаў.

Хоць на аснове канстытуціі, уніяцкі парох, так сама як і праваслаўны, пасьля высьвячэньня станавіўся вольным чалавекам, як ён сам так і сыны яго, але на практыцы, акром аднаго, зазвычай старшага сына, які павінен быў заступіць духоўнае мейсца свайго бацькі, папоўскіх сыноў колятары лічылі за прыгоньнікаў і вымагалі ад іх спаўняньня прыгонных работ, а ў выпадку непаслушнасьці каралі і секлі розгамі. Гэтае „абычаёвае права“ было замацавана канстытуцыяй 1764 году ў гэткім выглядзе: „паповічы, якія да 15 году жыцьця не паступілі ў школы, або ў навуку рэмясла павінны адбываць прыгон“.

Няма дзіва, што пры такіх варунках, жывучы з заўсёдным пачуцьцём крыўд у душы, вясковае уніяцкае духавенства сквапна кідалася на кождую агітацыю, бяз рожніцы ці яна паходзіла ад украінскага казацтва ці ад Масковіі, і было найлепшым праваднікам антыдзяржаўных думак. Затаеная горкая крыўда, шукала спосабаў ратунку, а нават помсты.

## VIII. Палажэньне праваслаўя і маскоўскія на яго ўплывы.

Палажэньне праваслаўнай апазыцыі было шмат лепшым. У граніцах рэчыпапасполітай яно мела нямала абаронцаў, як у сэнаце, так і на сэймах; па-за граніцамі рэчыпасполітай ім апякаваўся і яго падтрымліваў увесь праваслаўны ўсход, а галоўна Масковія, якая з гэтага падтрыманьня старалася выцягаць, і выцягала бягучыя палітычныя карысьці, а такжа ставіла заданьне сабраць пад сябе ўсе праваслаўныя землі ў будучыне.

Калі выбухлі казацкія бунты Масква адкрыта ўжо разпасьцягае над казакамі сваю пратэкцію, бярэ пад абарону сваіх аднаверцаў. „Апека“ гэта ў выніку, закончылася ў 1667 годзе андрусаўскай угодай, пасьля якой абшырныя украінскія землі за Дняпром, а галоўнае Кіяў з пяцімільным абшарам на заходным беразе Дняпра, а такжа Чарнегаўшчына і Смаленшчына адыйшлі пад Масковію. З гэтага часу Масковія пачынае сыстэматычную працу над зьбіраньнем, „сваей дзедзіны“. Для агітацыі за Масковію былі устроены дзьве пляцоўкі з перабежчыкаў: у Кіяве для Украіны, і ў Ноўгарад-Северску для крыўскіх зямель, якія ўходзілі ў склад Літвы. Грымалтоўскім трактатам, зацьверджаным у 1710 годзе, пратэктарат маскоўскі над праваслаўнымі ў Літве і Русі набраў сілы права: пункт 9 гэтага трактату аддаваў сем праваслаўных біскопій (адноўленых пасьля 1705 году) пад зьверхнасьць Сьвяцейшага Сыноду, установленага царом Пятром І у 1700 годзе. Сам цар Пётр прыбраў тытул апякуна „грэцкай“ веры на ўсім сьвеце. Цяпер з рук Масковіі ставяцца кандыдаты ў праваслаўныя біскупы ў Літве і Русі. Узнаўляецца палітычная агітацыя за Масковію, вынікам якой сыплюцца ў Петраград жальбы праваслаўных на ўціскі і зьдзекі, а прадстаўнікі Масковіі ў рэчыпасполітай прыймаюць на сябе заступніцтва за аднаверцаў перад каралём і ўрадам. Гэтак справа праваслаўная і „руская“, становіцца мала-памалу справай маскоўскай.

## IX. Уніяцкая царква ў XVIII ст.

Не глядзя на безпраўнае палаженьне уніяцкай царквы, уніяцтва ў Літве усё-ж такі шырылася. На Русі (Украіне) пад апекай казацтва расло і шырылася рэформаванае праваслаўе. Затое шляхта масамі пераходзіла ў каталіцтва, так што да пачатку XVIII ст. немаль саўсім зьнікае з аблічча зямлі шляхта уніяцкага абрадку. Уніяцтва ў гэтым сталецьці становіцца выключна мужыцкай верай. Даўная польская прыказка: „ruska wiara—chłopska wiara“ (руская вера—мужыцкая вера) сталася жывой праўдай. Унутранны разпад грамадзянства ў Літве давяршыўся к пачатку XVIII ст.: падзел на станы адпавядаў ужо веравызнаўчаму падзелу. Верай шляхты было каталіцтва, казацкая вера—праваслаўе, а мужыцкая—уніяцтва. Праваслаўе ў межах Літвы трымалася яшчэ сярод мяшчанства, але на ўсім абшары мела ня больш 50 парохій з некалькімі манастырамі і адну, магілеўскую, біскопію з 20.000 верных. Рэзкі паварот ў карысьць праваслаўя стаўся дзякуючы перамаршу маскоўскіх войск праз тэрыторыю Літвы.

У 1705 годзе, пасьля угоды Пятра I з каралём Аўгустам другім, заключанай супроць швэдзкага караля Карла XII, цар Пётр, увайшоўшы ў граніцы Літвы, разпачаў фармальны тэрор супроць уніятаў. У Вітабску нішчыў ён уніяцкія абразы і кнігі. У Полацку, ўвайшоўшы пад пьяную руку ў Сафійскі сабор, каля аўтара ударыў па абліччы васільяніна Заенчкоўскага, паваліў яго на зямлю, біў палкай па галаве, урэшце, шабляй паабрэзаў нос і вушы, а пасьля загадаў вынесьці з царквы і павесіць. Другога васільяніна Кізікоўскага, пракалоўшы шабляй, загадаў зьвязаць і занясьці да сябе ў кватэру, дзе цэлую ноч мучыў яго так, што на сьвітаньні Кізікоўскі памёр. Царская сьвіта, патураючы цару, пасекла шаблямі сьвятара Якуба Крышэвіча і васільяніна Язэпа Андукевіча. Целы замучаных уніятаў загадаў цар спаліць і попел кінуць у Дзьвіну. Рэшта васільянскіх манахаў пасадзіў у турму, манастыр і царкву аграбіў і замяніў на вайсковы магазын. Праваслаўным-жа духоўным і сьвецкім аказываў Пётр асаблівую пашану і надзяляў іх царскімі падаркамі.

Паход Пятра праз Літву, яго трыумфальны паварот пасьля Палтаўскай бітвы, і пушчаныя па царскім шляху агенты Сьвяцейшага Сыноду, зварухнулі увагу народу на „рускую веру“, якую ў тыя часы называлі селяне проста „царскай верай“.

У часе пераходу войск Пятра было зложана цару ў рукі 433 просьбы уніяцкіх царквей аб прыняцьці іх ў праваслаўе. Цар іх ласкава прыняў.

Па сьмерці Пятра, яго палітыку ў стасунку да уніятаў вяла далей Царыца Кацярына, пры помачы магілеўскага біскупа Юрага Каніскага, перакананага староньніка Масковіі і сябры Сьвяцейшага Пецярбурскага Сыноду. З Пецярбурга пасыпаліся ў Літву „падмогі“ праваслаўным біскупам, манастырам і сьвецкаму духавенству. Біскупам Сынод назначыў па 5.900 рублёў гадавой пэнсіі, біскупу Садкоўскому на падарожу ў Кіяў, для высьвячэньня, асыгнаваў Сынод 3000 руб., на заснаваньне духоўнай праваслаўнай сэмінарыі ў Слуцку 2.000 рублёў, на будоўлю сабору ў Слуцку 25.000 руб. і г. д. Падобныя аргуманты аказаліся вельмі пераконуючымі, і, за тры годы (ад 1784 да 1787), лік праваслаўных царквей немаль падвоіўся. У выніку гэтай усіленай апекі наступілі падзелы Рэчыпасполітай, і, двумя наваротамі, землі вял. кн. Літоўскага апынуліся ў межах расійскай імпэрыі. Царкоўная палітыка Расійскай Імпэрыі аплацілася з навязкай.

Пасьля далучэньня крыўскіх зямель да Расійскай імпэрыі былі назначаны тры місіі для прапаведываньня „рускай“ веры: ў Слуцку, Полацку і Менску. Місіянэры разьяжджалі пад аслонай войска, і калі дзе натыкаліся на адпор духавенства ці народу, то духоўнікаў арэштоўвалі і зсылалі ў глыб Расіі і Сібір, а сялян проста сяклі розгамі. Дзякуючы гэткім пераконуючым аргумантам, цемнаце і безпраўнаму палажэньню духавенства і народу, навяртаньне ішло спраўна: ад 1793 да 1795 году перапісалася ў праваслаўе 1.622.167 душ уніятаў; з 5000 уніяцкіх царквей і 28 манастыроў, асталося пры уніі толькі 200 царквей і 19 манастыроў.

Цары Павал і Александр I, стараючыся выказаць свой лібэралізм, аказвалі падтрымку рыма-каталікам і шляхце. Каталіцкаму духавенству пазволена было навяртаць уніятаў на лацінскі абрадак. Патварыліся лацінскія місіі і магілеўскі біскуп Богуш-Сестржэнцэвіч, прыняў на лацінскі абрадак за 10 годаў больш 200.000 уніятаў.

Унію рвалі на права і на лева, а зьверху дабівалі яе яшчэ васільяне, якія ад пачатку XVII ст. грабілі землі сьвецкага духавенства, залічаючы іх на манастырскую ўласнасьць. У канцы XVIII ст. на 2.000 сьвецкіх парохаў, якія абслужывалі 1476 царквей, мелася ўсяго 36 дзесяцін (63 маргі) зямлі і 162.000 руб. капіталу; ў той час, калі на 800 манахаў васільянаў прыпадала 20.000 мужскіх душ падданых (каля 100.000 дзесяцін зямлі) і 700.000 руб. капіталу, акром даходаў са школ.

Мы ня будзем апісываць ліквідацыі уніі пры Мікалаі I і нішчаньне рэштак яе ў пазьнейшыя часы, заўважым толькі, што ня менш крыўскаму народу каштавала крыві і сьлёз яе ліквідацыя, як і устаноўленьне: ў першым і другім здарэньні народны консэрватызм быў ламаны роўна дзікімі спосабамі.

## X. Вывады.

Унія давяла да разьбіцьця Літоўскую дзяржаву, і, коштам яе, да разросту Маскоўскага царства ў Расійскую імпэрыю. Унія, як абрадак сярэдні паміж скрысталізаванымі праваслаўем і каталіцтвам, магла стацца націянальным абрадкам толькі тады, калі-б была абрадкам дзяржаўным, са сваей уласнай герархіяй, народнай мовай у літургіі і пры варунку прыналежаньня да яе ўсіх кляс грамадзянства.

Трагедзія, званая уніяцтвам, якую народ наш перажыў у гістарычнай мінуўшчыне даводзіць, што „промежутки и недоумки“ мала маюць шансаў на тое каб заваяваць сабе мейсца на істнаваньне, і, што, як у кождай іншай рысе народнага характару, наш народ павінен яшчэ самаакрэсьліцца з рэлігійнай стараны. Як-бы мы не адносіліся да рэлігійнага пытаньня, але яно іграла і будзе яшчэ доўгі час іграць адну з першых ролей у народным жыцьці. Дзеля гэтага, калі ня хочам каб чужынцы камандавалі духовасьцю нашага народу, павінны мы шукаць і знайсьці спосабы і формы да самаістага разьвязаньня рэлігійнага пытаньня. Патрэбна ўтварэньне такой формы хрысьціянскай царкоўнай арганізацыі, якая бы, не аглядаючыся ні на ўсход ні на захад, стаяла на грунце нашых націянальных інтэрасаў.

Я. РОММ.

# НАРЫС З СТАРА-ГЭБРАЙСКАЙ АНТРОПОЛЁГІІ.

Сучасная навука зазначае факты ўзаемнага ўплыву народаў, рожнаякага паходжаньня і рожных культур, яшчэ ў досьвітках гісторыі.

Ня толькі племянны склад якой колечы нацыі, але і яе цывілізацыя складаюцца з рожных элемэнтаў, часта нават варожых сабе ўзаемна.

Гісторыя ведае многа падобных прыкладаў, на адным з каторых мы і спынімся.

Біблія апавядае нам аб нейкіх загадковых народнасьцях, якія ў дагістарычныя часы населялі Палестыну і рэшткі каторых заставаліся яшчэ ў краю ў часы Ісуса Навіна.

Можна дамневацца, што народнасьці гэты аказалі ўплыў у племянным і бытавым стасунку на першых сваіх заваёўнікаў: Аморэяў, Іевусеяў і др., каторыя ў свой чарод перадалі гэты ўплыў яшчэ напоўкачавому Ізраэлю.

Знойдзеныя пры разкопках у Палестыне, Егіпце і на Сынайскім поўвостраве выбражэньні і надпісы, з імёнамі цароў і назовамі гарадоў, паказуюць на сэмітычнае паходжаньне Аморэяў Іевусеяў, Гергесаў і інш., якіх усё-ж такі біблійная генэалёгія адносіць да хамітаў.

Прыблізна ў пятым тысячалецьці да нашых часаў Аморэі і др. выцесьнілі з Палестыны нейкае яшчэ больш даўнае жыхарства, часьцю выпленіўшы яго, часьцю зьмяшаўшыся з ім.

Нямецкія і англійскія разкопкі ў Палестыне адкрылі многае, што па форме, тыпу арнамантаў і інш. мае той-жа характар, як і ў знаходках у паўночнай і сярэдняй Эўропе, на Балканах і ў др. мяйсцох.

Назоў ракі Іордан—мабыць не сэміцкага паходжаньня. Гомэр у Одысэі называе адну рэчку на востраве Крыце Іорданам і ў Іліядзе ўпамінае Іордан у Элідзе.

Сустрачаныя па ўсей Сырыі і Палестыне дагістарычныя нагробныя помнікі—тэй самай формы, як дольмэны і кромлехі ў Брэтаніі (паўн. зах. франція) і ў Уэльсе (палудн. зах. Англія).

Многа якія словы стара-гэбрайскай мовы, падобны да такіх-жа арыйскіх, асабліва словы каторыя зьмяшчаюць паняцьці аб аселым жыцьці і земляробстве.

Гэтак прыкл., слова „bet“ (дом) таго-ж самага караня, што і нямецкае „Gebäude“, літоўскае „butas“, крывічанскае „буда“ і г. д.; слова „Erez“ (зямля) адпавядае нямецкаму „Erde“ (зямля) і „Erze“ (руда). Слова „Iain“ (віно) —з лацінскім „winum“; „Derech“ з агульнаславянскім—дарога і г. д.

Паводле Біблії гэбрайцы выводзяцца ад Гэбэра, Сімавага праўнука, але там-жа маюцца зьменкі аб тым, што назоў „Ібрым“ было нададзена ім жыхарамі Ханаану і абазначала перасяленцаў з паза-ракі, зарэчных (г. зн. з-за Эўфрату)

У гэткім здарэньні слова „Ibrim“ (адзіночны лік „Ibri“) ўражае сваей падобнасьцю да нямецкага слова „über“ (цераз, за, з-за).

Усе гэты мяркаваньні наводзяць на мысьль, што напоўмітычныя волаты-рэфаімы, з якімі сустрэліся разьведчыкі Ісуса Навіна, прыналежалі да індо-эўропэйскага племя.

Якім чынам маглі арыйскія элемэнты зайсьці ў Палестыну—пытаньне яшчэ ня выясьненае, але некатарыя дагадкі, ў тым ліку нямецкага вучонага

прафэсара фон-Ліхтэнбэрга, паказуюць, што падобнае перасяленьне магло адбыцца па моры.

Далейшая гэбрайская гісторыя апавядае нам аб многасотлетнім і заўзятым змаганьні з крэпкім і ваёўным народам Філістынцаў, якіх Біблія лічыць чужым элемэнтам, каторы ўварваўся на ўзьбярэжжа Палестыны з захаду і гэтым як бытцам пацьвярджае дагадкі вучоных аб тым, якім шляхам маглі прыйсьці ў Палестыну дамнеўныя продкі арыйцаў.

На стара-егіпецкіх малюнках, якія выбражаюць падзеі з воен фараона Рамзэса III з так званымі „морскімі разбойніцкімі народамі“, адзін з гэткіх народаў называецца ў надпісах імем „Пуласата“.

Яшчэ францускі вучоны Дэ-Ружэ, які дасьледаваў гэты выбражэньні 60 гадоў таму назад, высказаў, што „Пуласата“ роўназначны старазаконным „Пэліштім“, бацькаўшчынай каторых Біблія называе востраў Кафтор, тожсамлены вучонымі з Крытам.

Навейшыя досьледы выказуюць дагадку, што будаўнікамі вышэйўспомненых мэгалітычных магіл быў вельмі загадковы народ „Пэлязгаў“, каторыя ляглі ў аснову народу Эллінаў. (Цяперашнія Альбанцы і Осэтынцы лічацца патомкамі Пэлязгаў).

Яшчэ да так званага „перасяленьня Дорыйцаў“, якое адбылося, як цяпер лічаць, ня 800 гадоў да Н. Х., а значна раней, стараветныя Пэлязгі занялі востраў Кафтор (Крыт) і адтуль выселіліся на ўзьбярэжжа Палестыны, якая дагэтуль мае назоў ад іхняга імя (арабскае „Filastin“).

Падобна, як пазьней паміж Ізраэльцаў бывалі мяшаныя жанідзьбы з Хананэйцамі, ў гэтым ліку з аморэямі і другімі народамі, так і гэты апошнія ў шмат большай меры маглі мець дамешку падбітых імі арыйскіх народаў. Некатарыя стара-егіпецкія малюнкі выбражаюць барбарскія народы, якія акружалі Егіпет, як прыкладам Лібійцаў на захадзе і Аморэяў на ўсходзе— з блакітнымі вачыма.

Гэтым фактам можна было-б, хіба, вытлумачыць істнаваньне русавалосых і блакітнавокіх адзінак нават паміж гэбраямі Усходу, якія ад часаў разсеяньня не стыкаліся з эўропэйскімі народамі.

Тыя-ж дамнеўныя арыйцы маглі ўплываць і на бытавую культуру, г. зн. вопратку, зброю, будаўніцтва, як гэбрайцаў, так і наагул сэмітаў Пярэдняй Азіі.

Пазьней у Бібліі саўсім не ўпамінаецца аб Філістынцых, каторыя, відаць, асыміліваліся з суседнімі сэмітамі, падобна як гэта сталася на абшары Палестыны з астаткамі некаліс сільнага народу Хэттаў (Хэтэйцаў), якіх біблійная генэалёгія залічае такжа да хамітаў і аб паходжаньні каторых навука гэтак сама не мае ніякіх пэўных данных.



В. кн. Ягайла-Ладыслаў. (Арыгінал у Беларускім музэі ў Вільні).

АНТОН РЭУТТ.

# ПАРА АЧЫШЧАЦЬ АТМАСФЭРУ.

Індыйская мітолёгія два першапачаткі—будуючы і руйнуючы—ўасобіла ў постаці Брамы і Шывы. Брама (любоў)—сіла творчая, будуючая; Шыва (ненавісьць)—сіла, якая нішчыць, руйнуе. Дзе ступіць Брама, там усё расьце, множыцца, разквітае; дзе сягне рука Шывы, там усё пасыхае, вымірае, зьнікае.

Чалавек, як часьць прыроды, носіць ў сабе зародкі тэй і другой сілы; перавага аднэй або другой сілы ў характары чалавека, праяўляецца ў яго чыннасьці: праца адных дае будуючыя вынікі, яна плодная; праца другіх—зьяўляецца пракляцьцем для тэй справы, для якой яны працуюць, бо акром зьнішчэньня яна нічога даць ня можа: „па пладах іх, пазнаеце іх“.

Вялікі знавец людзкой душы, наш пабратым Дастаеўскі, ў повесьці „Братья Карамазовы“ паказаў цэлую сямью такіх людзей. Уся сямья Карамазавых—людзі бяз веры і любові, але найбольш агідны з іх Сьмярдзякоў, гэты прадукт маральных падонкаў чалавецтва і іх жывы прадстаўнік у грамадзянстве.

У Сьмярдзякова няма ў жыцьці ідэалу, гэта знача—чыстай, самапасьвятнай любові і вынікаючай з яе веры ў ідэал, няма ў душы пачуцьця этыкі, неразлучнай з паняцьцем і пачуцьцём чэсьці. Гэта тып трутнага ўнутрана псыхолёгічнага разлажэньня—апошні крэс маральнага ўпадку, цынічная ўбогасьць і нагасьць духовая.

—„Я ёсьць заразны чалавек... Нешчасьлівы гэтакі, ядавіты дух... Тлеючы я чалавек“... Верна характэрызуе сваей адмены Сьмярдзякоў, выведзены ў басякох Горкага.

Гэты людзі, якія тлеюць і разкладаюцца, людзі з „ядавітага духа“, пачалі расьці і множыцца ад нейкага часу на нашым грамадзкім грунце. І, трэба прызнаць, што, дзякуючы ненормальнасьці варункаў у якіх знаходзіцца цяпер нашае адраджэньне, грунт тут для іх падатны. Тут маецца—першы і найважнейшы для „тлеючага духа“ варунак—безкарнасьць. Мы недзяржаўны народ, а знача каб бараніцца ад іх ядавітасьці ў нас няма, адзіна пераконуючага для іх, прымусу: рух малады і не скрысталізаваны яшчэ, а знача няма такжа сільнай грамадзянскай апініі, якая магла бы пагамаваць іх моральна. Урэшце нашае грамадзянства знаходзіцца пад чужымі окупаціямі, разьдзеленае кардонамі, што спрыяе разросту гэтых рыцараў ордэну разлажэньня, якія могуць безкарна, а нават, маючы падтрыманьне з боку нашых гнабіцеляў, праяўляць свой „ядавіты дух“,—муцячы грамадзкую апінію і абкідаючы брудамі сваіх чалавеканенавісьніцкіх, тлеючых душ, усё што ёсьць высокага, чыстага і сьвятога ў нашым адраджэньні, галоўным-жа чынам запраўды глыбока ідэйныя кірункі нашай грамадзкай мысьлі.

Пры гэтым у Сьмярдзяковых свая тактыка. Яны змагаюцца не адкрыта і чэсна, на гэта ў іх не хапае грамадзкай адвагі. Разяць яны пераважна сваіх антыподаў пацёмку, з-за вугла, пад маскай або аддзяліўшыся кардонамі, забасьпячаючы сабе максімум безкарнасьці. Пры гэтым выступаюць зазвычай не процістаўляючы прынцып супроць прынцыпу, аргумант супроць аргуманту, а кідаючы адно гразёй і брудам, гадзячы і гразьнячы

ўсё, што ня з імі, што не падобна да іх. Тактыка нізкая, нікчэмная, больш таго—агідная, але верная псыхіцы Сьмярдзяковых у якіх няма мейсца нават элемэнтарнай этыцы, няма ідэйнасьці і да нікога і да нічога любові.

Людзі тлеючага, ядавітага духа ў грамадзкай рабоце, гэта Дастаеўскага Сьмярдзякоў за гітарай, які іграе ролю закаханага ў ідэале і на довад чаго разпявае сваей Машэньцы скабрэзныя куплеты, каторыя заканчае меней болей такім маналёгам (з басяцкіх тыпаў Горкага):

„Бруха ў чалавека—галоўная справа. А як бруха спакойна, знача і душа жыва,—ўсякая чыннасьць чалавечая ад бруха паходзіць“...

Нашы Сьмярдзяковы маюць у нас ужо сваю гэнэалёгію і гісторыю.

Перад 1905 годам пачаў на соціялістычным падложы будавацца адраджэнчы рух. Імкнулася да яго галоўным чынам моладзь, а ў ліку гэтай моладзі былі і пранырлівыя Сьмярдзяковы. Яны з аднэй стараны паслугоўвалі памешчыцкім сынком, страляючы ў іх трохрублёўкі, і, адначасна, „прыймалі удзел“ у соціялістычным руху „хаваючыся ад прасьледаваньня паліціі“ з сталовага пакою ў спальню і са спальні ў сталовы пакой. Увесь „соціялізм“ іх палягаў на хаваньні сваей асобы ў той час, калі кругом іх „правалівaліся“ менш асьцярожныя іх аднапартыйцы.

У 1907—1911 годзе Сьмярдзяковы сядзелі ўжо за „гітарай“, і, дбалыя аб спакой свайго бруха, даволі вычварнага ўжо, прадавалі беларускі народ у уніяцтва. Вазілі высокіх уніяцкіх духоўных па арыстакратычных дамох Меншчыны, Магілеўшчыны і Вітабшчыны. Тварылі акціянерныя кампаніі для уніяцкіх калёній у Барысаўшчыне. І, высмактаўшы ад зацікаўленых асоб соткі тысяч рублёў грошы, правалівалі праз падстаўных асоб запачаткаваную кампанію.

У 1912 годзе Сьмярдзяковы езьдзяць на паклон таварыству НКТ ў Катовіц. Пазьней, калі гэта разкрываецца, запіраюцца і крычаць аб прасьледаваньні іх, „нявінных“, аб сваім „мучаніцтве“ за справу.

У часе нямецкай окупаціі Сьмярдзяковы услуговуюць немцам. Ды так шчыра, што саўсім выручаюць окупанцкіх палітычных агентаў, пабіраючы за гэта нікчэмную плату гатоўкай і правам доступу ў перадпакоі окупанцкіх урадоўцаў. Іх подпісы аздабляе цяпер прыдомак „von“: яны, бач, патомныя арыстакраты!

„Усякая чалавечая чыннасьць ад бруха паходзіць“, наігрываюць Сьмярдзяковы на сваей гітары пад акомпаньямэнт скабрэзных куплетаў.

Канчаецца вайна. Рэволюція, замяшаньне... І Сьмярдзяковы, з іншымі падонкамі, ўсплываюць на верх грамадзкага жыцьця. Яны ў Франціі свае людзі ў французкай разьведцы. Яны ў Варшаве вядуць „высокую“ палітыку. Яны ў Менску пьянствуюць з дэфэнзывай. Яны ў Бэрліне за пан брат з нямецкімі манархістамі падгатаўляюць друкаваньне фальшывых керанак. Яны перарабляюць цукер у монпансье, разбіваюцца на камусьці прапаўшых аўто. Яны вітаюць тэлеграмамі Врангеля і зносяцца з Комінтэрнам. Усюды вядуць „рэальную“ палітыку, запушчаючы жорава ў „прыяцельскія“ кішані.

„Усякая чалавечая чыннасьць ад бруха паходзіць“, цягнуць фальцэтам Сьмярдзяковы сваей Машэньцы пад звон гітарак.

Кішанковыя справы, пры ачышчаньніся пасьляваеннай атмасфэры, ськіворуюць Сьмярдзяковых да комінтэрнаўскай шкатулы. Яны наігрываюць на

сваіх гітарках цяпер інтэрнаціянал і „ор'ентуюцца“ на Менск, а, пакуль што абслуговуючы ўсерасійскае Чэка сядзяць па-за граніцамі комуністычнага раю. Тут яны расьпінаюцца, іграючы, за савецкія чырвонцы, ролю мучанікаў, што пад халоднай рулькай, прыстаўленай да патыліцы, найлепш жывецца грамадзяніну.

Але Сьмярдзяковы, сваей ідзіотычнай празорлівасьцю крэтынаў, ведаюць, што на сьвеце няма нічога вечнага і дзеля гэтага абслуговуюць адначасна і савецкіх антыподаў. Каб-жа зацерці сьляды сваей нікчэмнай дзейнасьці, лішне кідаючагася ў вочы і наводзячага на сумныя раздумы сыстэматычнага правалу „таварышоў“, завэрбаваных з паміж божых людзей,—крычаць аб прасьледаваньні іх і каго трэба і ня трэба абвінавачуюць у самых чорных праступках. Чытайце іхнія „гітаркі“-газэты і вы атрымаеце поўнае ўражаньне паўтарэньня анэгдоты аб хітрым злодзею, які ўкраўшы ўцякае з крадзеным і пры гэтым крычыць на ўвесь голас „лавіце злодзея“. Спосаб гэты выпрабаваны: ён заўсёды зьбівае абывацельшчыну з толку, якая паверыўшы крыку кідаецца ў той бок, куды бяжыць злодзей, і, гэткім чынам, выручае яго ад злоўленьня пацярпеўшым.

У Сьмярдзяковых няма любові да ніякай справы, няма ў іх і веры ў якую колечы справу. Вынікам гэтага ў іхніх „гітарках“ няма прынцыповых дэбатаў, няма шуканьня праўды, але заўсёды ёсьць якая колечы сьмярдзючая сэнсацiя, якая колечы лжа, лганы бруд. Лжой і брудам яны смуродзяць тую справу да якой прыкараскаліся, разьядаюць яе сваім нігілізмам як іржа зялеза і агідзяць ў вачах добрых людзей, адганяючы сваей паражаючай смуроднасьцю кождага, хто ня звыкся са сморадам. Гэта сыстэма называецца ў іх: рабіць сабе манапольна справу, або інача́й кажучы рэзэрваваць сабе магчымасьць выводзіць фальшывыя рахункі на выдаваныя мёртвым душам расходы: Сьмярдзяковы заўсёды маюць за сабой аграмадныя арганізацiі мёртвых душ, якіх, бяручы грошы справа трэба хаваць ад левых, а бяручы грошы злева трэба хаваць ад правых.

Сьмярдзяковы, не глядзя на іх дэмократычную зьнешнасьць, унутранна „арыстакраты“. Просты народ для іх чэрнь. „Мужыка“ яны не навідзяць і пагарджаюць яго, для іх ён больш ненавісны чым пан з паноў. Горкаўскі басяк, вуснамі нашых Сьмярдзяковых, так разважае аб сялянстве:

— „Я ўсіх мужыкоў не люблю – яны сволач! Яны прыкінуліся сіротамі, ныюць і прадстаўляюцца, але жыць могуць: у іх ёсьць зачэпка—зямля. А я што супроць іх?...Я мяшчанін... Мужыка, гэтага чорназёмнага пана, ух ты!... граб, дзяры скуру, выварачывай на выварат... Што ёсьць мужык? Мужык ёсьць для ўсіх людзей матэр'ял кармежны, знача, еменная жывёла“...

Сьмярдзяковы ненавідзяць мужыкоў таму, што кормяцца гэтымі мужыкамі, на гэтым палягае першая і найважнейшая прычына іх ненавісьці. Але маюцца яшчэ і другія немалаважныя прычыны. Народ беларускі (крыўскі) ў бягучы момант прадстаўляе сабой адзіна мужыцкую клясу. У нас працоўная інтэлігенцыя—дактары, адвакаты, інжэнеры, тэхнікі – прыналежаць не да нашага народу; беларусаў (крывічоў) няма також сярод памешчыкаў, фабрыкантаў, купцоў; мала іх сярод чыноўнікаў, вучыцялёў і духавенства. Гарады ў нас не беларускія (крыўскія) а жыдоўска-польскія і жыдоўска-расійскія. Сьмярдзяковы не глядзя на сваю дэмократычную зьнешнасьць—„арыстакраты“. Мужык, соль зямлі, ім не раўня і не кампанія! Яны ня з ім, а з чужым яму нацыянальна горадам. Але на гэтым не канец пропасьці якая аддзяляе сьмярдзякоўшчыну ад „мужыцтва“. „Мужык“, селянін, мае імкненьне з заг-

нанай і абяздоленай селянскай клясы стацца народам, націяй. Вось гэта найбольш і непадабаецца ядавітаму, тлеючаму духу Сьмярдзяковых. Як-жа! сярод селянства прарастае зярно новых ідэйных цэннасьцяў; селянства выступае на гістарычную арэну нясучы на сваіх крэпкіх плечах і ў мазольных рукaх новыя вялікія праўды, перад якімі пустка душ Сьмярдзякоўскіх будзе выглядаць яшчэ тушчэй, яшчэ бядней. А галоўнае селянства выступае з вялікай любоўю да сваей чорнай зямлі, з сьвядомасьцю народа гаспадара краю. Тут „тлеючыя душы“ разумеюць, што іх інтэрасы зыходзяцца з інтэрасамі окупантаў і крычаць: ня трэба „мужыцкага“ націяналізму, ня трэба нам Бацькаўшчыны, якая не ад бруха паходзіць.

Прамаўчываць далей работу Сьмярдзяковых, гэта грамадзкае преступленьне! Трэба ачышчаць атмасфэру! Аргуманты некатарых дзеячоў, што Сьмярдзяковы прыссаліся ўжо да справы, і, разкрываючы іх бруды, трэба будзе выварачываць на вуліцу многа гною, не вытрымліваюць крытыкі. Трэба выкідаць бруд, хоць-бы і на вуліцу і ачышчаць справу.

Работа Сьмярдзяковых стала і штораз глыбей смуродзіць справу, а асэнізація будзе мець толькі нейкі пэрыёд. Работа Сьмярдзяковых адганяе людзей, забруджае душы моладзі аплёўываньнем усяго чыстага; дыскрэдытуе нашае адраджэньне ў краю і заграніцай перад чужынцамі.

Трэба кончыць прамаўчываць Сьмярдзякоўшчыну. Гэта ня можа датычыць ніякага запраўды ідэйнага кірунку, каторы можа быць адпавядальны толькі пастолькі, пасколькі не перабірае ў наймітах.

У наймітах, якія публічна цяпер бічуюць сябе за тое, што калісь былі ў радах беларускіх незалежнікаў, што змагаліся за вызваленьне сваей бацькаўшчыны. Яны цяпер пяюць, гэты наймíты, інтэрнаціянал, прапаведуюць ор'ентацію на Менск, лаюць незалежнікаў, даносяць у міліцыю, чцяць Леніна, ходзяць у клюб, знаюць сымболь марксістскай веры, думаюць і пішучь як загадае начальства, лічуць праўдай што прапісана Г. П. У., лічаць прыгожым, што прыгожа па Луначарскаму, і, ўрэшце, гатовы палажыць жываты свае за політбюро.

Але няхай затрасецца па мост насавецкім караблі, ці зачыніцца савецкая шкатула і першыя яны кінуцца на ўцекі з яго... Будуць з роўным запалам пяяць „Божа Цара Храні“, хадзіць у царкву, лаяць камуністаў і прыладжвацца да смаку новых сваіх кармільцаў.

Цяпер ігрык, які „ор'нтуецца“ на Менск (бо Комінтэрн добра плаціць!) лае ікса за працу ў польскай дэфэнзыве і ор'ентацію на Варшаву. Рожніца-ж паміж першым і другім толькі ў тым, што першы прадае сваю бацькаўшчыну на ўсход, другі на захад, але абодвы здраднікі і прадаўцы волі свайго народу, таргоўцы людзкімі душамі і братняй крывёй. Гэтага прамаўчываць нельга, трэба назваць гэта ўласным імем.

Трэба, жоўтадзюбы вывадак сьмярдзякоўскіх кікімор, якія засмуродзіл паветрэ на эміграціі, ў Празе, выданьнем глупа-подленькага сьвістка, агалоўленага шумна „Прамень“, назваць па імю якое ім належыцца.

Словам, трэба чыстае адасабляць ад прадажнага, бо будуе толькі самапасьвятная любоў і запраўды ідэйная праца, а не спэкуляція нашымі сьвятынямі.

Ня бруха, а дух павінен быць нашым ідэалам.

Пара ачышцаць атмасфэру!

# Запіскі.

**Мова і гутарка (дыялект).** Аграмадныя высілкі крывічанскіх дзеячоў і пісьменнікаў за апошнія годы дапялі таго, што нават самыя злосныя ворагі крывічоў ужо больш не пярэчаць што істнуе крывічанская (беларуская) мова. Настаў як мне здаецца час, калі крывічанскім моваведам трэба са сваей стараны заняцца пытаньнем, якое з часоў александрыйскіх граматыкаў займае вучоных моваведаў: „мова і гутарка“.

Што такое гутарка (дыялект)? Паводле некатарых гутарка гэта „папсаваная мова“. Навука не знае „папсаваны моў“. Яна мае другі назоў для акрэсленьня паняцьця „гутарка“. Гэты назоў: „гутарка, ёсьць пададдзел мовы“.

Дзеля таго, што нават паводле прызнаньня самых ярых ворагаў Крывічоў, крыўская мова істнуе, то нават з пункту гледжаньня гэтых ворагаў крывічанскаму моваведу пазволена заняцца пытаньнем: „Як маецца справа з крывічанскімі гутаркамі?“ Праблемай крывічанскіх гутарак, насколькі мне ведама, крыўскія моваведы або саўсім не займаліся або займающца прыпадкова, мімаходам. А тымчасам гэтае пытаньне першараднай важнасьці, яно неразрыўна зьвязана з пытаньнем аб крывічанскай філёлёгіі наагул.

У гісторыі кождай мовы быў пэрыёд, калі яна разпадалася на некалькі саўсім роўнапраўных „гутарак“, з якіх кождая панавала ў сваей мяйсцовасьці. Пасьля зазвычай наступаў пэрыёд, калі адна з „гутарак“ даннай мовы, дзякуючы якой колечы падзеі—немаль заўсёды выбару даннай гутаркі якой небудзь выдатнай асобай, дзеячом, паэтам і г. п.— высовывалася наперад з паміж другіх і займала выдатнае мейсца. Гэта аўтоматычна змацоўвала яе ўплыў і разшырала межы яе ўжываньня. Яна ўсё часьцей і больш пачынае ўжывацца ў пісьме. Друкарства асабліва ўзмоцніла перавагу аднэй гутаркі над іншымі. От у кароткіх рысах гысторыя ўсіх моваў. Я пераконаны, што ў гісторыі маладой літэратурнай крывічанскай мовы можна бяз лішняга высілку прасачыць той-жа працэс. „Гутарка“ гэткім чынам не малодшы, а барджджэй старшы брат літэратурнай мовы. „Гутарка“ разьвіваецца побач са сваей упрывільяванай сястрой—мовай. Яна ціхая, нязграбная, але здаровая жыхарка вёскі. Калі яна трапляе здарэньнем у места, то скромна пражывае ў прадмесьцях або ў падвалах. Паны і „адуканыя“ людзі саромяцца яе. Затое мужыкі яе любяць і крэпка трымающца. У № 2 „Крывіча“ ў аддзеле „Свая почта“ тлумачыцца літэратару, што селянін ужывае толькі 800 рожных слоў. Гэта вялікая спамылка. Слоўнік „простага“ чалавека ў істоце вельмі багаты. Ен, праўда, многа рожніца ад слоўніка „адукаванага“ чалавека, таму, што „просты“ чалавек мае другія вымаганьні і патрэбы. Але ў сваім акружаньні „просты“ чалавек у сваей гутарцы мае множства слоў і тэрмінаў, аб якіх „адукаваны“ часта нават не мае паняцьця. Сколькі тэрмінаў мае „просты“ чалавек для названьня рэчаў свайго ўжытку і іх часьцей! Саха і яе часьці прыкладам займаюць у „мужыцкім“ слоўніку каля двадцаці слоў! Тое-ж самае можна сказаць немаль аб кождай „мужыцкай“ прыладзе. Гэта пацьвярджаюць досьледы этнографаў усіх краёў і народаў.

Слоўнік „гутаркі“ вельмі багаты, але ён толькі іншы чым слоўнік літэратурнай мовы. Філёзофічных тэрмінаў там ведама няма, таму што селянін філёзофіей не займаецца.

Не глядзя на сваю „прастату“ слоўнік „гутаркі“ цэнны і для мовы пісьменнай. „Гутарка“ гэта нявыстушчаная крыніца „ажыўляючай“ вады для літэратурнай мовы. Як селянін корміць і поіць горад, так „гутарка“ падтрымлівае істнаваньне літэратурнай мовы. Бяз „гутарак“ мова вельмі хутка заняпала-бы.

Крывічанскія пісьменнікі, не пагарджайце народных нашых гутарак:

Крывічанскія этнографы, не скупеце сіл і часу на пазнаньне жывых крывічанскіх гутарак.

Philologus.

**Аб напісаньні пачатнага грэцкага *б* і *в* ў крыўскай мове.** Крыўскія пісьменнікі выказуюць хібаньне пры напісаньні слоў узятых з грэцкай мовы і якія пачынающца ў расійскай мове літарай **в:** варвар, Вавілон, Візанція, Васілій і г. д.

Грэцкая мова ў сваім клясычным пэрыёдзе саўсім нязнала гуку **в** і замяняе яго пры транскрыпцыі, прыкладам з лацінскай мо-

вы, знакам **у**. Імя славэтнага рымскага паэты Віргілія грэкі пісалі „Уергілій“. У сярэднія вякі, калі клясычная мова грэкаў вельмі зьмянілася ў Канстантынопалі, **б** пачалі замяняць праз **в**: замест барбар, пісалі варвар, замест Бабілён, пісалі Вавілён, замест Бізанція — Візанція, замест Базілій—Васілій і г. д.

Масква атрымала грэцкую навуку ўжо ў тыя часы, калі ад клясычнай грэцкай мовы не асталося і сьляда. Дзеля гэтага маскоўскія пісьменнікі пісалі: варвар, Вавілон, Візанція, Васілій. Крыўская культура не прыйшла с царэўнай Софіяй Палеолог с Канстантынопаля. Наша культура прыняла ў сябе грэцкія ўплывы яшчэ ў той час, калі ў Грэціі пераважала клясычная мова грэкаў. Дык несправядліва, патвараючы маскоўскую мову, ў крыўскай мове пісаць у грэцкіх словах літару **в** замест **б**. Крыўскія пісьменнікі могуць пісаць толькі: барбар, Барбара, Бабілён, Бізанція, Базыль, сымболь і г. д.

Народ так і гаворыць: Базыль, Барбара. Крыўскія філёлагі павінны пільна зважаць на тое, каб літара **в**, ў словах грэцкага паходжаньня, ў крыўскай мове ні ўякім здарэньні не ўжывалася. Гэта ёсьць грубая спамылка супроць духу крыўскай народнай і літэратурнай мовы. Гэта, кажучы словамі вялікага Арыстоталя,—paradeigma ponerias logu!

**Philos.**

**Беларускія (крыўскія) друкі ў Тыльзіце.** Едучы, ў пачатку гэтага году, поездам праз Нямеччыну пазнаёміўся я з Марцінам Янкусам, старым літоўскім дзеячом Прускай Літвы і адным з першых літоўскіх друкароў. Пан Марцін Янкус расказаў мне вельмі цікавую гісторыю аб беларускіх (крыўскіх) друках у Тыльзіце.

Вясной 1892 году перайшоў без дакумантаў расійска-нямецкую граніцу малады чалавек (годаў 23-25), які назваў сябе Антонам Абрамовічам і зьвярнуўся да літвіноў у справе наладжаньня друку беларускіх брашур у Тыльзіце. Выдавецтва было хутка наладжана за кошты, якія надыйшлі Абрамовічу з Менска. У друкарні (цяпер яшчэ істнуючай) Шэнка, былі надрукаваны 3-4 першыя брашуры лацінскімі літарамі. У ліку надрукаваных брашур у Шэнка быў лемэнтар і яшчэ нейкія дзьве брашуры, агалоўкаў каторых п. М. Янкус цяпер не памятае.

Пасьля п. Абрамовіч перанёс сваю работу ў друкарню п. Янкуса, дзе надрукаваў тры кніжачкі, з якіх п. М. Янкус памятае два агалоўкі: „Ян Ськіба“, апавяданьне і „Дзядзька Антон“, такжа апавяданьне. Брашуры былі перапраўлены нелегальнай дарогай цераз расійска-нямецкую граніцу і пазьней перасланы пачтовымі пасылкамі ў Менск. Пасьля гэтага п. Абрамовіч выехаў у Швайцарыю.

Я ў прадоўжаньні маей працы ніразу не сустрэў ніводнай з гэтых брашур. Знаю, што яны такжа нікому няведамы з нашых бібліографаў. Тымчасам выхад іх з друку не падлягае запярэчаньню, бо маюцца жывыя і навочныя сьведкі. Павінны жыць яшчэ людзі, (бо-ж гэта нядаўныя часы) каторыя былі ініцыятарамі гэтага выдавецтва. Дзеля гэтага прашу беларускія часопісі апублікаваць гэту ведамку з просьбай каб адгукнуліся тыя, хто бліжэй ведае гэту цікавую справу.

В. Ластоўскі.

**Дойлід.** Насовіч гэтае слова збывае вельмі каротка: „Дойлидъ, плотникъ (слово рѣдко употребляемое)“. Праф. Карскі (Бѣлор. т. I, б. 129) слова „дойлід“ адносіць да запазычаных у літвіноў, ён піша:

„Дойлід—зодчій, строитель: „кузнецъ и дойлида“, „мастеръ дойлидъ“, „дойлидска дѣла“ (Ф. Скорина, Владимировъ, 300); сустрачаецца „дойлидъ“ і ў актах XVI ст. (гл. Акты, выд. Вілен. кам., XVIII); часам гэтае слова можна пачуць і цяпер, прыкл., у песьні, запісанай у Сенінск. пав. Маг. г. (Шэйн: Матер. I. I, 164): „Тамъ и три далиды церкву рубили“. Як гэта ўжо адзначана многімі (Брюкнэр, 23; Вольтэр Mitteil., IV, 53; Владимировъ), гэтае слова = літ. „dajlydė“.

Да прыведзеных праф. Карскім запісаў, дзе фігуруе слова „дойлід“, трэба дадаць яшчэ зборнік Ромуальда Зенькевіча: „Piosnki gminne ludu Pińskiego (Коўна, 1856 г.), а такжа заўважыць, што яно дагэтуль ужываецца ў жывой крыўскай народнай мове. Слова „дойлід“ асоціязуецца ў народзе са сталярскай прыладай—далатом, якое мяйсцамі вымаўляюць „дайлато“. Далатом выбіваюць ў дрэве „далубы“, г. зн. углыбленьня да змацоўкі зьвязяў у будынках. У сталярстве далубамі

называюць урэзы ў канцох зьвязаваных дошчак. Словам „далубаць“ абазначаюць працэс выбіваньня далатом углыбленьняў у дрэве, выкалыпываньня (зраўняй польск. „dłubać“).

З вышэйпрыведзеных прыкладаў відаць, што ў нашай мове ад словачыну „далубаць“= калыпаць, прыбор да выдалубываньня углыбленьняў атрымаў назову „далато“, „дайлато“, а майстар, які выбіваў „далубы“, назначаў мейсца іх і спосаб зьвязываньня часьцей будынку, а також далубаў аздобы для будоўлі, атрымаў назоў—„дойлід“. Гэта будзе будаўнік і мастак далата.

Л. А.

**Эпітэт сьмерці „Кастуся“.** Кожды дасьледчык міталёгіі павінен лічыцца з тым, што імёны мітычных асоб зьяўляюцца акрэсьленьнямі-эпітэтамі і што кождая мітычная постаць мела іх па некалькі. Гэта пацьвярджае нам індуская міталёгія, якая захавала ў сваей прадаўнай пісьменнасьці многія эпітэты мітычных постацей. Прыкладам Індра (па нашаму—Пярун) мае некалькі дзесяткаў эпітэтаў, каторыя акрэсьляюць яго сілу, мужства, ласкавасьць да людзей, будзіцеля прыроды, валадара маланак і інш.

Падобна гэтаму мітычная істота, якая уасабляла постаць сьмерці і нябыту, ў крыўскім фольклёры дахавала некалькі эпітэтаў, якія характэрызуюць яе даволі ўсестароннa. Да гэткіх належаць „Баба-Юга“, або проста „Югася“ (прыносіць зіму і завеі, рас.: „вьюги“), „Мара“, „Сьмерць“ (валадарка „мораку“, цемні, нябыту) і ўрэшце „Кастуся“ (якая не мае цела, а толькі адны косьці; зраўняй прыказку „Баба-Юга, касьцяная нага“). Кожды з гэтых эпітэтаў акружаны ў народным фольклёры цэлым цыклям легенд-мітаў або забабонаў, якія падробна і ўсестароннa характэрызуюць мітычную постаць сьмерці. Падобна як страшному Лесавіку, народ надаў, з боязьні, каб не ўкваліць яго, эпітэт „Дабрахот“, гэтак і да эпітэту сьмерці „Кастуся“ дадаюць яшчэ з боязьні, другое акрэсьленьне яе—Ласкавая: „Л а с к а в а я К а с т у с я“. Вера ў тое, што названая сваім уласным імем мітычная істота можа мсціцца, прымушала пербабытнага чалавека ўласныя імёны заступаць эпітэтамі. Дзякуючы веры ў сілу слова і ў сілу высказанага імені, жыды цяпер ня ведаюць як вымаўляецца імя Бога, хоць напісаньне яго ведаюць. „Адонай“*), „Іегова“—гэта ня імёны, а толькі эпітэты. Эпітэты, замест імён, вельмі разпашыраны ў нашым фольклёры ня толькі ў стасунку да сьмерці, ці Лясавіка, але також і да другіх істот. Прыкладам наш селянін імя агонь—заступае эпітэтамі: „сьвятло“, „цяпло“, „багач“, „багацьце“ (жар). Іскру называе „зьнічка“ (параўняй—„Зьніч“, названьне сьвятога агня). Чорта называе „той“, „гэны“, „нячысьцік“. Нават чыннасьць нагрэваньня дравамі печы не гаворым мы „паліць у печы“, але „тапіць“ (бытцам кідаць агонь у ваду), „цепліць“, хоць ужо ня верым, што ад вымаўленага слова „паліць“, можа запаліцца хата.

З другой-жа стараны эпітэт надаваны сьмерці нашым народам „Л а с к а в а я—Кастуся“ характэрызуе глыбока-філёзофічны погляд нашага народу на сьмерць, каторая прыймаецца ў некатарых здарэньнях, не як страх і зло, а як вышэйшая ласкавасьць. Каб дайсьці да гэткай характэрыстыкі сьмерці на гэта трэба быць народам з дужа старой культурай і з вельмі яркімі перажываньнямі ў мінуўшчыне, якімі і запраўды могуць пахваліцца адзіна Крывічы на славянскім усходзе.

С. Т.

**Навязі і кудмяні.** Да сягоняшняга дня можна заўважыць у нашых вяскоўцаў, мужчын і жанок, шнурочак, абвязаны каля цэўкі рукі, або на назе каля шчыкаладкі. Гэта „навязі“, ці як іх у царкоўнай і гістарычнай пісьменнасьці называюць „наузы“. Аб славэтным полацкім князю-чараўніку, Ўсеславе, апавядаюць, што пры нараджэньні варажбіты загадалі бацьком налажыць на яго нейкія „наузы“, каторыя і насіў ён праз усё сваё жыцьцё на галаве. Знача вера ў навязі ў нас прадаўная. Навязі навязуюць цяпер або ад „сурокаў“, або „зарочныя“.

„Сурочныя“ навязі абараняюць, паводле народнага вераньня, ад „благога вока“ і ад „суроку“, знача благога моманту, гэта ёсьць такога моманту ў каторы кождае пажаданьне можа споўніцца. Карэнь ў гэтым слове „рок“ —час, і прыстаўка „су“ якая абазначае зьбег

*) Эпітэт—Адонай, сходны з імёнамі: Адоніс, Одын і Доннэр (Пярун). Адонай на Сынайскай гарэ паказаўся Майсею ў громе і маланках.

часаў, зыход, стык, або ў данным здарэньні падвойны стык: пажаданьня і моманту ў каторы ўсякае пажаданьне выпаўняецца. Дзеля таго-ж што кожды чалавек мае сваіх ворагаў, то заўсёды знаходзіцца пад небасьпекай якога колечы благога пажаданьня, праклёну, пад сваім адрэсам, і, таму, асьцярожлівы чалавек павінен насіць ахаронную навязь. Гэткая ёсьць ідэя „сурочных" навязяў.

„Зарочныя" навязі навязуюцца дзеля задуманай мэты, або ад хваробы. Прыкладам жнеі навязуюць „навязі" ад разшырэньня жыл, якое часта атрымліваецца ад перапрацаваньня ў часе жніва ў цэўцы рукі, або ад надмернай хадзьбы—ў нагах. Навязуюць навязі і ад усякіх іншых хвароб прыпісываных „сурокам". Але найцікавейшыя навязі робленыя з якой колечы прызарочанай самому сабе пастановай. Гэткая навязь носіцца на левай руцэ да моманту пакуль ня будзе дасьцігнута мэта.

„Кудмень", гэта якая колечы дробная рэч, прыкладам пацярка, гладкая як колечы аформленая костачка, камяшок, завушніца, мэдалік, крыжык, пярсьцёнак, наагул рэч у якую вераць, што яна прыносіць шчасьце таму каторы мае яе пры сабе. Кудмяні носяць у сэкрэце ад другіх, бо думаюць, што з разкрыцьцем сэкрэту кудмень траціць сваю сілу. Мне ведамы прыклад, калі бацька ўміраючы перадаў сыну такі кудменчык, каторы пераходзіў у іх родзе з пакаленьня ў пакаленьне, гэта была круглая, жоўтая мэталічная бляшачка з атворынай у сярэдзіне і з арнамантам у форме недагнутых лацінскіх літар S, які ішоў, ад сярэдзіны да краёў, абапал бляшкі.

Як навязі так і кудмяні прыпісуецца насіць на голым целе, прыкл. на руцэ, назе, ці шыі, а з апавяданьня аб князю Ўсеславе мы ведаем, што навязі бывалі ношаны і на галаве.

Маральнае значэньне зарочных навязяў вельмі вялі ае. Чалавек, які даў сабе на што зарок, дзякуючы навязі, ўтрымлівае ў памяці сваю пастанову і імкнецца каб яе выканаць. Магчыма так-жа, што і навязі, робленыя ад хвароб, іграюць ролю самагіпнозы:

О. У.

**Праф. М. К. Любавскі і акад. С. Ф. Платонов аб Крывічох.** „Паводле ўсіх данных, галоўным ядром, з якога вырасла Беларускае племя, былі Полацкія Крывічы нашых летапісаў. Летапіс зьмяшчае гэтае племя якраз там, дзе пазьней зьяўляюцца Беларусы. Дзеля таго, што няма ніякіх азнак массавых племянных перасяленьняў на гэтай тэрыторыі ў апошнія часы, трэба думаць, што Крывічы, якія займалі парэчча Зах. Дзьвіны, верхняга Дняпра і іх доплываў і былі прабацькамі цяперашніх Беларусаў. Відаць у найбліжэйшым з імі сваяцтве знаходзіліся Дрыгвічы, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Бярэзінай. Гэта была асобная галіна тых-жа Крывічоў, азначаная асобным імем у залежнасьці ад прыроднай ўласьцівасьці, занятай імі тэрыторыі (дрыгва =балота „трясина"). Магчыма што ў цесным сваяцтве з Крывічамі былі і Радзімічы, якія жылі па Сожу". (Праф. М. Н. Любовскій „Основные моменты исторіи Бѣлоруссіи" Москва, 1918 г.). Акадэмік С. Ф. Платонов у кнізе „Учебник русской истории" (Прага, 1924) саўсім справядліва залічае да Крывічоў Ноўгародзкіх Словен, ён кажа: „Крывічы также выйшлі з сыстэмы Дняпра на поўнач, на начы рэк Волгі і Зах. Дзьвіны, а іх галіна Словене занялі сыстэму возера Ільменя".

С. К.

**Дзіцячы слоўнік.** Расійскі вучоны К. Чуковскі доўгія годы пасьвяціў цікавым досьледам словатварэньня ў дзіцячай мове. Ведама, што дзеці, пачынаючы з чацьвертага году жыцьця, часта пачынаюць разважаць аб словах: прыкладам трохлетняя Ніна Гуляева ніяк не хацела казаць я з ы к. Была пэўна, што трэба казаць л і з ы к. У іншых здарэньнях дзеці абярталі л а п а т к у ў к а п а т к у (ад капаць); с ь л і н к у ў п л ю н к у; в э н т ы л я т а р у в е р т ы л я т а р (верціцца); в а з э л і н у ў м а з э л і н у (мазаць) і г. п.

Кождая рэч для дзіцяці характэрызуецца немаль выключна чыннасьцю. У кождым іменніку дзіця вычувае скрыты рух чынніка. Дзеля гэтага яно з такой лёгкасьцю выводзіць чыннікі ад усякіх іменнікаў. „Ай, я з а д з ь в е р ы ў руку!„ „Козьлік р а г а е ц ц а". „Бык б ы ч ы ц ь". „Конь мяне к а п ы т н е". Гэтым дзяцё дасканаліць мову ўзрослых, якой, паводле Чуковскага, пара ўжо стацца гібчэйшай і не баяцца гэткай перамены іменнікаў у чыннікі.

Бывае, што дзяцё адзначае ня чыннасьць а якую колечы іншую, прыпадковую

азнаку ў аб'екце. Гэтак адзін пяцёхгадавы хлопчык гаварыў не гарадавы, а дарагавы („Ен-жа стаіць на дарозе!"); чатырохлетняя дзяўчынка казала не чалавек а людзь; маршчынкі на абліччы бацькі называла сярдзіткі (сярдзіцца) і г. п.

І. В.

**Аб напісаньні пачатнага** ўр **у крыўскай мове.** Спаміж усіх часопісяў, якія калі колечы выходзілі і цяпер выходзяць у сьвет друкаванымі ў нашай мове, найніжэй са стараны мовы стаяў і стаіць, офіціозны орган камуністычнай парціі, „Савецкая Беларусь". Там час ад часу сустрачаюцца такія словы і выслoвы, якія паказуюць на поўнае нестарэньне іх аўтораў пазнаць тую мову, якой яны бяруцца пісаць. Дзеля прыкладу возьмем некалькі слоў, каторыя, відочна, ў „Сав. Бел." ўжо атрымалі права грамадзянства, бо апошнімі часамі сустрачаюцца раз по-раз, немаль у кождым нумары часопісі. Да гэткіх належаць няўмела перажаргананыя з расійскага словы: ўрач, ўраг, ўрэмя, яўрэй.

Злучэньня **ўр** крыўская (беларуская) мова не пераносіць, таму на мейсцы расійскага „враг" у нас, пры склоннасьці нашай мовы да поўнагалосься, атрымліваецца—ворагг, варагаваць, варожы і г. д. На мейсцы расійскага „время" у старой пісьменнасьці і ў жывой народнай мове ў нас—верэмя. Трэба адзначыць, што наша народная мова слова „веремя" ўжывае не для абазначаньня часу, а стану пагоды: „Годзіць веремя пад сенакос". „У гэткае веремя ў дарогу не памыкайся".

З расійскім словам „врач" справа больш завілая, бо гэткага слова ў нашай мове саўсім няма. У аснове расійскага слова „врач" ляжыць карэнь „рок"; выводныя ад гэтага караня маюцца ў нашай народнай мове словы: сурок, сурочыць, урачы, вырок, вырочня. Раўней слова „врач" ужывалася ў расійцаў для абазначаньня знахара, праўдападобна такога, каторы зьнімаў або замаўляў „урокі", „сурокі". Пазьней яго ўжылі для абазначаньня першай вучонай ступені мэдыка:—лекар, або „врач"; другая ступеня доктар мэдыцыны. Дзеля гэтага няма патрэбы пісаць перакаверканае чужое слова „ўрач", а трэба замест гэтага пісаць шырока знанае ў народзе слова—лекар, лечыць, лекарня (не „лякарня", як гэта некатарыя нямудра пішуць, бытцам там людзей толькі лякаюць, а ня лечаць).

Падобная справа такжа з расійскім словам „еврей" агідна перажаргананым у „яўрэй". Слова „еврей" атрымалася ў расійцаў з старога—гэбрай, гэбрайскі, так сама як з слова „гэта", атрымалася народнае маскальскае „ето", „евтый". Дык і тут ня трэба яшчэ раз перажаргонываць нашае слова, а ўжываць яго або так, як яно ўжывалася ў старой пісьменнасьці або пісаць як ужывае парод, г. зн. жыд, жыдоўскі і г. д. Перарабляць гэбрай на яўрэй, гэта так сама ня мудра і дзіка, як-бы каму ўздумалася маскальскае „евто" ўвясьці ў нашу мову перакруціўшы яго на „яўто", замест свайго: гэта.

А. Цл.

**Карэнь „гал" і выводныя ад яго словы і паняцьці ў крыўскай мове.**

ГАЛ, голае мейсца сярод лесу; прагаліна, плеш, мейсца ў лесе праз якое прасьвечаецца даль; прога, не загароджанае мейсца ў плоце для ўезду.

ГАЛЫ, зад, акруглаці на задку: „Задраўшы ногі паказуе свае галы". „На галах не паедзеш" (Насовіч).

ГАЛОТА, людзі голыя, галышы; галцэй, басота, бадзяка, (рас.: „бродяга"); галень, зьдзерты венік; галутвенік, вечны галыш.

ГАЛЬ, хцівасьць, пажадлівасьць чужога; галіць, пабуджаць у кім лачнасьць, пажадлівасьць; га́ліцца, кваліцца (рас.: „зариться"), парываецца ў пагоні за нечым. „Пагаліўся на чужое дабро". „Галіцца і сам ня ведае на што". (Насовіч); спагальны, паквапны, загальны які выклікае пажадлівасьць, кваплівасьць, хцівасьць: „Загальная зямелька". „Загальны інтэрас, купля"; знача такія, што вызываюць галеньне, галь, паквапнасьць; узгаліцца (Насовіч: „вгалицьца") запаліцца хцівасьцю; спагаля, з поквапу, з хцівасьці, з парыву; загал, паквапнаць.

ГАЛУЗЫ, зайздросныя, завідныя вочы; галузаваць, глядзець завідна і непрыязна; непрыязна аглядаць, крытыкаваць (іграць) вачыма; вырабляцца дурэючы; злосна насьміхацца; галуза, шкоднік, завідлівец.

АГАЛЬНЫ, нахрапны і непрыязны; а г і л я ц ц а, ўнікаць працы, гультаіць: „Не час дрэмаці ні а г і л я ц ц а, але за жніва трэба ўжо брацца" тары Ўлас „Год Беларуса").

АГАЛЦЕЛЫ, памяшаны, дурны; хто ўтраціў прытомнасьць, сьвядомасьць сваіх чынаў.

ГАЛЕКАЦЬ, крычаць; г а л а к а ц ь, гаварыць крыкліва.

ГАЛАМЕНЬ, пень дрэва, ад каранёў да першых сукоў (рас.: „ствол"); г а л і н а, рамо дрэва ў яго кароне.

Л. А.

**Карэнь „корс", „корх", выводныя ад яго словы і паняцьці ў крыўскай мове.**

КОРХ. Паводле Насовіча („Словарь", б. 247): 1) Кулак. „Не жалей карха, дай яму харашэнька". 2) Удар кулаком: „Дай яму карха". „Надаваў кархоў, будзець з яго". 3) Мера ў кулак, прыгаршня: „Пяць кархоў адмерыць".

Выводныя: К а р ш о к, зьменшанае слова ад „корх"; к о р х а ц ь, біць кулаком, к о р х а ц ц а, біцца, таўчыся кулакамі, к а р х а н у ц ь, к о р х а н ь н е; к а р ч а г—карэнь; к а р ч а ж ж о, карэньня; к а р ш э н ь—карк, мейсца па каторым каршаць, корхаюць кархом; к а р х о в ы, мерай з кулак.

Да павыжшага тлумачэньня Насовіча трэба дадаць: к а р ш о к, к а р ш а к, мера на чатыры пальцы шырынёй; у локці лічаць шэсьць каршкоў, кархоў.

Первабытны чалавек упадабляў сябе самога да дрэва, згэтуль падобнасьць слоў да акрэсьляньня часьцей чалавечага цела і часьцей дрэва. Прыкладам: к а р а і с к у р а, г а л і н а і г о л е н ь, л а д ы г а і л ы д к а, п а л ь ц ы і п а л к і, п я т а і п е н ь, к а к а т ы (сучча) і к о к ц і, с ы н і с у к, чэскае—h o l k a (дачка, дзяўчына) і г а л і н а на дрэве, к о р х і к о р ч—і гэтаму падобнае. Словам, у выабражэньні первабытнага чалавека, сагнутая або сьціснутая далонь здавалася быць падобнай да скрутаў каранёў у дрэве, якім яно трымаецца ўчапіўшыся за зямлю.

Ад пачатнага „корх" у нашай мове маецца цэлая сямья выводных слоў. Да гэткіх належаць:

СКОРСНУЦЬ, сьціснуць рукі, вусны, сагнуць або сплясьці сьціскаючы пальцы.

РАЗКЯРСТАЦЬ, разтапырыць пальцы, выпрастаць далонь; разставіць ногі; разьняць рукі да абоймаў; разагнуць разшчэплены канец палкі віламі.

КЯРСТАЦЬ, к я р т а ц ь, к я р с а ц ь, дзерці цэлае на двое, разьдзіраць кіпцюрамі. Прыкладам лучыну лушчаць, лыкі лутаюць, але карэньні да пляценьня кярзін к я р т а ю ц ь, к я р с а ю ц ь, а накяртаны матэр'ял называюць с к я р с о й, к (а) я р с о й.

КЯРЭЧЫЦЬ, корчыць ногі; р а з к я р э ч ы ц ь, разставіць у роскідзь ногі, як у карчы карані; с к у к я р э ч ы ц ц а, скорчыцца; р а з к я т у р к а, мейсца вілаватага разьдзелу; к у к і ш, скорчаная вядомым спосабам рука; к а р а ч к і, хадзіць ракам, на чатырох.

АСЬКІРАЦЦА, в ы с ь к і р а ц ц а, ашчырацца зн. усьміхацца; як бытцам рабіць шчэлку з губы. Нікіфароўскі падае сказ з вітабшчыны аб бяззубай дзіцячай усьмешцы „скелачкі шчыліць"; зраўняй з тэй-жа вітабшчыны (і смаленшчыны) слова „шчылікун"—насьмешнік, эпітэт чорта.

КАРАСНУЦЦА, к о р с н у ц ц а, хапіцца рукой „кархой" за што колечы, дакрануцца да чаго; к а р а с к а ц ц а, чапляцца, хапацца за што, п р ы к а р а с к а ц ц а, прычапіцца, а д к а р а с к а ц ц а, адчапіцца.

КЕРЗАЦЬ, плясьці лапці, ка(я)рзіны па маскоўску „строчить"; н а с к е р з ь, наскась пераплятаючы, спосаб плясьці што з лыка, скярсы ці валакна; к а в я р з ь н і, не падплетаныя лапці; к а в я р з а, плёткі, выкручываньне і перакрыўляньне праўды, блутаньне фактаў, інтрыга; к а р с а, к о р с к а, папярэчны рад лыка пры пляценьні лапцяў, тое, што маскалі называюць „строка", „строчка".

КОРСТКІ, сьцягаючы, шчыплючы на смак.

КОРСТ, труна ў форме карыта з векам; праўдападобна назоў гэты мае ў аснове паняцьце капаньня падобна як „грабсьці", „грабаць" і „пагрбацьць", „пограб".

У. Л.

**Аб слове мурава.** Кажуць у нас „траўка мураўка", „мурог", „мурожнае сена". Паясьняюць гэтыя словы діялекты ноўгародзкай і пскоўскай губэрняў. У ноўгародзкай кажуць м у р а в ы й для акрэсьленьня зялёнага колеру і м у р а в а замест нашага—трава. У пскоўскай губэрні кажуць м у р аб веснавым месяцы, калі поле пакрываецца зеленьню, пераважна аб травені месяцы (Потебня „О нѣк.

символ. въ слав. нар. поэзіі", б. 38). Знача „траўка-мураўка" азначае—зялёная траўка, а „мурог", проста зелень, пераважна зелень травы.

А. С.

**Сонечнае калясо.** Сонца ўпадаблялася калясу ня толькі ў славянаў, але ва ўсіх індоэўропэйскіх плямён. Між іншым у санскрыцкай мове сонца называецца sunnu hvel (сонечнае калясо). У аднэй з крыўскіх купальскіх песень пяецца:

Сонечнае калясо
Вышы тыну стаяла,
Вышы тыну стаяла,
Многа дзіва відала.
Ці не бачыла калясо
Куды нелюб паехаў?

З гэтага зразумела, чаму купальскія агні, якія сымболізуюць сонца, мяйсцамі замяняюцца спаляньнем асмоленага кола. Паводле нямецкіх сьведчань, купальскі жывы агонь бываў дабываны пры помачы кручэньня каляса каля восі. Беззапярэчна, што гэткае дабываньне купальскага агня выбражала як запаляецца само нябеснае калясо—сонца. Гэтым тлумачыцца такжа і вера ў тое, што сонца на Купальле грае, г. зн. кружыцца, як калясо ці жарнавы камень.

Т. О.

**Рачное імязоўніцтва.** Рака Дзьвіна, працякаючы большую часьць свайго бегу праз крывічанскія землі і будучы доўгія часы галоўным тарговым шляхам нашай зямлі, мае шмат цікавага імязоўніцтва, вытваранага нашым народам. Ніжэйпададзеныя назовы запісаны ў 1894 годзе А. Цымборскім у Дзісьне, ад корніка Пятра Рудака. Арыгінал запісаў —цяпер ўласнасьць рэдакціі „Крывіч".

РУЧВО, самае глыбокае цячэньне ракі (рас. „фарватер").

ПЛЕС, шырокае, ціхае ручво ракі без закрутаў (рас. „широкій фарватер").

ТУРЭЦ, звужанае ручво са шпаркім цячэньнем вады.

РУБА, камянная перагародка ўпоперак ракі ўступамі, або абрывам (рас. „пороги").

ГРЫВА, падводная, або адбярэжная пясчаная мель (рас. „коса").

ЗАБОРА, перагародка ракі зложаная з невялікіх камянёў, якія выступаюць з вады.

МЕЛЬСТЫНЬ, плоскае, роўнае пясчанае, не глыбокае дно.

ЖОСЬ, мельстынь зложаная з дробных камянёў (жост або жорст=рас. „хрящ").

ВЯРЖА, ВЕРАЖЛЯ, шпаркае цячэньне паверх скрытых пад вадой камянёў.

ЗАКРУТ, загіб ракі падковай або дугой.

НЕРД, падмытая вадой пад бераг яма; цячэньне вады пад берагам.

ВІР, закручаючаяся лейкай вада над глыбокай ямай.

ПРАБОР, ПРАБОРА, вузкае ручво паміж двумя мельстынямі.

ПОПЛАЎ, бераг ракі, які вясной бывае заліваны вадой.

РЫГА, рукаў ракі, („Сухая рыга", рукаў, які акружае востраў Дален, каля Якобштада).

РУМ, мейсца звозкі і складу тавараў, перад адпраўкай іх вадой.

БАЛВАНЕЦ, абвал цэлай массай высокага берагу ў ручво ракі.

КАЛТА, КАЛТАВІНА, яма ў дне ракі.

РАЗТОКА, мейсца ў якім разьліваецца рака ўшыркі, выходзячы з цесных берагоў.

ЗАТОКА, мейсца дзе рака ўглыбляецца ў сушу, заліў.

СУТОКА, мейсца дзе зьліваюцца „стачываюцца" воды двох рэк.

ПРЫТОКА, меншая рэчка, якая ўліваецца ў большую раку.

УЙСЬЦЯ, УСЬЦЯ, канец ракі перад мейсцам дзе яна ўліваецца ў другія, большыя воды, вышэй сутокаў.

ВОЛМА, ўпадзіна, заглыбленьне ў дне ракі ніжэй рубы.

ГОЛМ (праўдападобна заменена пачатнае славянскае *х* ў *г*) , высокі бераг гарбом, або капяжом.

ПІСАНІК, камянь з надпісамі.

КЛЫГА, мейсца дзе клыгоча вада пераліваючыся цераз перашкоды.

ЯЗ, перагарода ўпоперак ракі для лавеньня рыбы.

**Крывічанскія кнігазборы XV ст.** Слуцкі архімандрыт Іосіф, пазьнейшы мітрапаліт, у сваей справаздачы 1494 г. піша, што да яго ў слуцкім манастыры было: Миней—дванадцать, Трыоди—дзьве, Евангельлі—два Тэтры, Апостал тэтр, і другі опракос, Устаў, Трэбнікі—два, Служэбнікі—тры, Псалтыр, Часасловец (Акт. Зап. Р. т. I № 115. Ист. Руск. Ц. Филарета). Агулам у адным манастыры 26 рукапісных кніг. Архімандрыт Іосіф гэты лік кніг, за час свайго кіраваньня слуцкай архімандрыяй, значна памножыў.

**Дзіў.** Піша нам у Рэдакцію грам. А. Красьневіч з пад Опсы, Браслаўскага пав., што ў яго аколіцах: „веруць у Дзіва, называючы яго ні то нейкім богам, ні то так надпрыроднай істотай".

Наш Дзіў, гэта пəражытак вельмі даўных часаў. Вэды называюць неба імем Д ь я ў с, а ў славянскіх помніках упамінаюць бога Дыя, Дзія нараўне з Пяруном і Хорсам: „овъ Дыю жьрет, а другыи Дивии" (жаночая форма); „требу кладут... Дивѣ, Перуну, Хорсу" (выпіска з Афанасьева „Поэт. воззренія Славян на природу", т. I, б. 128). Д з і ў, Д ь я ў с, Д з е в а с (літоўск.) і Д э у с (лацінс.)— імёны аднаго і таго-ж самага караня. Дзевас і Дэус абазначаюць у літоўцаў і лацінцаў імя Бог; калісь і ў нас слова Дзіў мела тое-ж самае значэньне, г. зн. абазначала назоў вярхоўнай мітычнай істоты, але ў хрысьціянскія часы было выціснута словам Б о г. **К. I.**

**Крывічанскія назовы гвёзд.** (Опса, Браслаўск. пав.). Поўнач, і наагул пару ночы, пазнаюць у нас начлежнікі па групцы гвёзд, якую называюць С і ц о ці С і т ц о; вячорную гвязду называюць В я ч о р к а і М і л а в і ц а; ранную гвязду—З а р а н к а. Аб раннай і вячорнай гвёздах, баюць у нас, што яны родныя сёстры. Сем гвёзд у форме каляскі называюць В о з або С т а ж а р ы. Калі Стажары аглаблёй глядзяць на зямлю, тады, кажуць, мядзьведзі на людзей не нападаюць, якія ў нас ужо і без таго перавяліся. Млечны шлях называюць С т а н і апавядаюць, што нейкае войска ў небі стаіць станам на старожы. Тры гвязды каля млечнага шляху называюць П р а х і або П а п р а д к і. Нейкія гвёзды называюць Г н я з д о, А с і л к і, К а р у н а але якія я няведаю.

А н д р э й К р а с ь н е в і ч.

**Якімі наіўнымі спосабамі польскія прафэсары полёнізуюць Вільню.** За час цяперашняй польскай окупаціі надрукавана некалькі новых праваднікоў па Вільні. З паміж прафэсароў (палякаў) віленскага унівэрсытэту ёсьць некатарыя, якія лічацца ўжо спэціялістамі па знаньню гісторыі старой Вільні (паводле тэксту праваднікоў), прыкл. праф. Ю. Клос, і дзеля гэтага ім даручаецца абводзіць экскурсіі і даваць тлумачэньні. Дзіўнага, ў тлумачэньні гісторыі старой Вільні, прыходзіцца экскурсантам выслухаць не мала, ў апраўданьне далучэньня гэтага гораду да Польшчы. Але якой вартасьці аргуманты даюць польскія прафэсары, хай паслужыць, з массы падобных, пара ніжэйпрыведзеных прыкладаў.

Праходзіць экскурсія па вуліцы Субач. Прафэсар спыняецца і тлумачыць: Вуліца гэта называецца Субач, таму, што ў даўныя часы, праз браму, якая была на гэтай вуліцы, прыяжджалі ў горад сабакаловы, і, от, ад сабак, вуліца гэта атрымала назоў Сабачай, або скарочана Субач".

Праходзячы праз вулачку, званую Скапоўка, прафэсар тлумачыць: Вуліца гэта названа Скапоўка, таму, што тут трымалі скопаў г. зн. баранаў (па польску s k o p—лягчоны баран) у агароджы, для каралеўскага стала.

Мне некалькі годаў таму назад прышлося чуць з вуст прадстаўніка другіх акупантаў, вучыцеля расійскай гімназіі, тлумачэньне назовы Скапоўка, бытцам яно пайшло ад таго, што на гэтай вуліцы ў часы Івана Грознага сяліліся сэктанты скапцы, якія ўцяклі ад прасьледаваньня з Масковіі.

Першы і другі прыклады сьведчаць як цяжка чужым людзям разабрацца ў мясцовым імязоўніцтве і гісторыі.

Бо назоў Субач трудна зразумець таму, хто не знае мяйсцовай мовы, якая ў даным здарэньні зьяўляецца ключом да тлумачэньня гэтага слова. Слова с у б о ч вытварылася падобна як с у к о с, с у п л е ч, с у к л о н, с у с т а ў, а знача яно выражае, што даная вуліца зьяўляецца бакавой, пабочнай, субочнай, збочнай, у старане ад цэнтру, ці мо таму што ляжыць яна на збочы гары.

Так сама назоў вуліцы Скапоўка нямае нічога супольнага ні са скапцамі ні з баранамі. Гэта прастары мясцовы назоу плацу на

якім адбываліся копныя суды і скопы, г. зн. масавыя народныя сабраньні. Крыўская народная і песенная мова, слова гэтае, захавала ў тым-жа значэньні, прыкладам:

Сабраліся паны, ксяндзы, архірэі,
Архірэі, бальшая скопа.

(Рогачоўск. пав. Романов. „Бел. Сборн." т. VIII—IX, б. 172).

Сэрбы называюць свой парлямант „скупшчына". Нашы селяне, калі мае адбыцца селянскае сабраньне пад кіравецтвам вясковай старшызны, называюць такое сабраньне „збор", „сход", а калі сойдзецца сабраньне прыпадковае, прыкладам з прычыны якой колечы раптоўнай падзеі, то такое сабраньне называюць „скапа", ў перакладзе на чужаземскую мову, гэта другая адмена сабраньня будзе называцца мітынг. Такое значэньне мае слова „скапа" цяпер, даўней-жа, праўдападобна, скапой называліся сабраньні афіцыяльныя. Віленская скапоўка, якая ляжыць каля самага княжага замку, была пляцам, на каторым адбываліся княжыя суды (княжая капа), дзе скуплялася, г. зн. зьбіралася войска і іншыя народныя зборы.

Каб уходзіць у людзкіх вачох за паважных людзей, няшкодзіла-бы віленскім польскім прафэсаром пазнаёміцца з краёвай мовай і гісторыяй, а не займацца хітрымі імпровізацыямі.

В. Л.

**Дняпро ці Няпро?** Народная назова гэтай ракі Няпро (гл. ў зборніках Раманава легенду „Сож і Няпро"), але гэты назоў не зьяўляецца народнай перафразоўкай слова Днепр; імя Няпро замацавана на многіх старасьвецкіх мапах. Гэтак па карце, выданай немцамі ў пачатку XVII ст. пад агалоўкам „Landtafel des Ongerlands, Polands, Russen, Littaw, Walachei und Bulgarei" у кнізе Kosmographie, друкаванай у Мюнхене, абазначана Neper fl. Гэтак сама Neper fl. значыцца на карце Regni Poloniarum, Magnifique Dukatum Lithvanie, апрацаванай Янам Бабтыстам Гоманам, для польскага караля Аўгуста II. А такжа на карце Тобія Маера выданай у Нюрэнбэрзе ў 1749 годзе і агалоўленай Magni Dukatus Litvanie, абазначана Nepr. fl. I, наагул, Nepr, Neper flus (а ня Dnіepr, ці Dnieper) пераважае ў старой пісьменнасьці. І мне здаецца, што далёка лепш было-бы ў нашай адраджэнчай пісьменнасьці вярнуць гэтай рацэ яе старое і народнае імя, г. зн. пісаць усюды і заўсёды ня „непр, а Няпро.

А. С.

**Аб імені Ятвягі.** У летапісах сустракаецца напісаньне гэтага імя ня толькі праз літару **я**, але і праз **е**—Етвягі. Ведама, што літара **j** мае тэндэнцію да пераходу ў літару **л** і наадварот (гл. „Пачатнае **о**—**е** ў славянскіх мовах", Я. Станкевіча, „Крывіч" № 10 (2), б. 82); прыкладам цяперашняя мясцовасьць Езёросы, на старых картах называюцца Lezorocze (Лезаросы). Калі мы, згодна такой тэорыі, заменім пачатную **j** (іоту) літарай **л**, то атрымаецца ў нас напісаньне гэтага імя—Летвягі, Лятвягі, Літвягі, словам—Літвякі або проста—Літвіны. Пры гэтым варта адзначыць адну вельмі характэрную асобнасьць. Народ званы Ятвягамі, Етвягамі знаюць летапісы кіяўскія і польскія, але ні ў адным з многіх сьпіскаў літоўскіх кронік і летапісцаў мы не сустракаем назовы Ятвягі. Гэта апошняе сьведчыць, што ў Літоўскай дзяржаве яны ня мелі асобнага імя, што тут нязналі асобнага народу, ці племя Ятвягаў. Словам Ятвягі, Етвягі і Літвягі (Літвіны) гэта адно і тое-ж самае імя.

Т. О.

# Кнігопісь.

**Праграма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці. Адбітка з часопісу „Наш Край". Менск, 1926. 17x26 балон 7, ў акладцы. Выданьне Інстытуту беларускае культуры.**

Інстытут Беларускае Культуры ў Менску апошнімі часамі выказуе большую рухавасьць, а галоўнае пераходзіць ад паверхнаснай дылетанцкай „колегіяльнай" трактоўкі крывічанскай беларускай) мовы і культуры да грунтоўных досьледаў, а ласьне да зьбіраньня забыткаў мовы, быту і перажыткаў вераньняў з першакрыніц народных. Гэта адзі на правільны шлях. Гэтым шляхам мо Інсты-

тут паправіць тую шкоду нашай мове, якую ён нарабіў выданьнем зборнікаў рожных аўтораў, пад агалоўкам „Беларуская навуковая тэрміналёгія“. Ня ў тым бяда, што гэны зборнікі перапоўнены новатворнымі словамі, гэта неўнікнёна і патрэбна, але ў тым, што новатворныя словы абаперты ня толькі на незнаньні духу крывічанскай мовы, але наагул зьяўляюцца свайго роду абасьпечаючым патэнтам, які засьцерагае іх аўтораў ад падазрэньня ў стычнасьці з якім колечы на сьвеце мовазнаўствам. Каб ня быць голаслоўнымі возьмем некалькі прыкладаў з „Беларускай навуковай тэрмінолёгіі“ (выпуск трэці і чацьверты):

| Тэкст расійскі. | Тэкст беларускі. |
|---|---|
| Амплітуда колебаній | Размах віхняў |
| Балка | Роў |
| Бурлак | Аснач |
| Весы | Шалі |
| Вращеніе земли | Вярчэньне зямлі |
| Выветриванье | Выпятрэньне |
| Гравій | Жвір, жаства |
| Житель | Насельнік |
| Жрец | Каплан, ахвярнік |
| Полублагородные | Паўшляхэтныя |
| Возвышенное | Узноснае |
| Последовательное | Пасьлядовы |
| Матовые | Цьмяныя. |

Калі-бы, перш чым выпускаць навуковую тэрміналёгію, аўторы яе зьвярнуліся да селяніна, то ён бы „балку“ назваў ім проста я р, г. зн. углыбленьне ў зямлі каторае размывае ярная, г. зн. веснавая вада.

Бурлакамі ў нас называюць маскалёў-работнікаў; а с н а ч-жа азначае прафэсію работніка, нічога не гаворучы аб яго нацыянальнай прыналежнасьці. Па маскоўску „оснастить“, а па нашаму а с н а д з і ц ь які колечы вадаплаў, дык слова а с н а ч азначае работніка які або аснаджае нешта, або працуе пры а с н а д з е: пры вясьле, пры снасьцях і інш.

Расійскае слова „весы“ перакладаецца на нашу мову в а г і. Скалвы, шалі, бязьмен, гэта ўжо назова гатунковая а не іменная.

Выпетрыць можа толькі нешта сакавітае, што мае ў сабе сок. Выпетрыць, слова вельмі цікавае. Карэнь яго п р, п ы р, в ъ и з п р (ўверх): з гэтага караня выводзяцца словы: п я р о, н е т а п ы р, у п ы р, п ы р х а ц ь, п а р а, п а р ы ц ь, п р э ц ь і п е т р ы ц ь. Петрыць, знача—смажучыся ў сваіх уласных соках, сохнуць на гарачым. Але камень ня мае сокаў, дзеля гэтага ня можа выпетрыць.

Жвір і жарства не адно і тое-ж: жвір гэта прадукт а д м ы в а н ь н я в о д а м і буйнага пяску; жарства-ж прадукт п е р а п а л я н ь н я ў а г н і каменя. Народная імязоўніцтва гэтых двох імён ніколі ня зьмешывае.

Стара і агульна славянскае слова жрэц ня можа быць заступлена лацінскім каплан (kapellanus); „ахвярнік“-жа гэта—ж э р т в е н нік, а ня жрэц.

Быў калісь час дыктатуры шляхты ў нас і для апотэозы шляхэцтва, шляхта ўвяла тэрмін „шляхэтны“ ў значэньні добрародны, высокі, найлепшы, крывічэсны (чэснай крыві). Гэты клясовы тэрмін у нашу народную селянскую мову за 400 годаў панаваньня шляхты не трапіў, і трэба-ж іроніі лёсу, што пры цяперашняй работніцка-селянскай уладзе навязуецца ён чамусьці ізноў народу ў навуковай тэрміналёгіі!...

„Возвышенное“ гэта ў з в ы ш н а е, але не ўзноснае, бо ня ўсё што знаходзіцца на ўзвышшы ўзносіць наўзвыш.

„Последовательное“, што ідзе праложаным тропам, па сьлядох. Перакладаць гэтае расійскае слова на нашу мову, словам „пасьлядова“ няможна, бо істнуе слова „пасьлед“. Калі веюць збожжа, то найдалей адсыпаецца „чало“, а найбліжэй лажыцца „пасьлед“, „пасьледзьдзя“ (мяйсцамі, гэтае-ж, называюць „азадкі“, „азадзьдзя“). Побач з гэтым „пасьледкам“ называюць задак. Калі наш селянін ня хоча пры чужых людзёх ляпнуць брыдкога слова, то ён скажа: „купіў целячы пасьледак“, а не „азадак“, але абодвы словы маюць адно і тое-ж значэньне.

Цьмяны, гэта не матавы, а матавы—не канечне мае быць цьмяным. Цьмяны, выводзіцца ад караня „ц е м н ь“, знача цямнаваты, але можа быць пры гэтым саўсім праvідным, а знача не матавым (тусклым).

„Размах віхняў“, „вярчэньне зямлі“, „насельнік“, гэта проста ляпсусы, таму мы іх і не разьбіраем, шкада часу.

Вышэйпрыведзеныя „новатворы“ далёка не вычэрпуюць няўдатнай моваведнай творчасьці (маюцца побач і некатарыя

ўдатныя тэрміны) якую заключаюць у сабе даволі значныя кніжачкі выданыя пад фірмай Інстытуту Беларускае Культуры „Беларуская навуковая тэрміналёгія“.

Але паправіць шкоду, зробленую беларускай (крыўскай) мове, зьбіраючы матэр'ялы толькі пры помачы анкет, Інстытуту беларускае культуры бадай не ўдасцца. Анкеты—добры сродак да пропаганды і популярызацыі якога колечы пытаньня. Народную тэрміналёгію нельга сабраць сеўшы за стол на селянскім сходзе. Бо селянін яе на вызыўкі не памятае, але жывучы з ім з году ў год можна ў яго падслухаць вельмі многа. Ізноў-жа каб падслухаць трэба мець выробленае вухо, якое-бы ўмела адрожніць сваё ад чужога, занесенага праз чужыя панаваньні, чужую школу, салдатчыну, урэшце колькігодавым фронтам нядаўнай усесьветнай вайны.

Праз анкеты, з чужых і няўмелых запісаў, зьбіралі матэр'ялы ў свой час многія, між імі Баброўскі, Шэйн, Раманаў, Нікіфароўскі і што-ж атрымалася? Мова ў іхніх запісах карыкатурная, якая дае толькі далёкае паняцьце аб жывой крывічанскай (беларускай) мове. Каб рабіць запісы вуснай народнай творчасьці, запісуючаму трэба мець прынамні два варункі: грунтоўнае падгатаваньне філёлёгічнае і грунтоўнае знаньне тэй мовы, творчасьць якой ён запісуе. Словам, анкетнае зьбіраньне забыткаў мовы, асабліва нашай мовы, вымагае вельмі крытычнага адношаньня. Трэба згары быць прыгатаванымі на атрыманьне цэлых ськіртаў пустой паловы з некалькімі здаровымі зярняткамі ў кождай. А што будзе, калі якая-колечы калегія палову прыйме за чыстае зярно, ну, хоцьбы ў інтэрасах адзінства „рускай народнасьці“? Ці ня лепш былобы замест скорасьпелага анкетнага зьбіраньня, знайсьці людзей адпаведна ўздольненых і ім даручыць гэту працу, вышла-бы вялікая ашчаднасьць на часе і на паперы, а пажытак быў бы значна большы. Тым больш, што ў Менску маюцца такія дасьведчаныя на гэтым полі працаўнікі як Сержпутоўскі і Сербаў.

Зьбіраньне народнай творчасьці—работа трудная для людзей маючых вочы і вушы, то якжа яе можна даручаць людзям сьляпым і глухім ды кождаму, хто з-за куста выскачыць?

В. Ласт.

**А. Шлюбскі. „Крашаніна (набіванка)“. Пад рэдакцыяй М. Касьпяровіча. Вітабск, 1926 г. 13x17, балон 32. Адбіта ў ліку 1000 экз.**

Набіванка пачынае што раз больш цікавіць мастакоў і гісторыкаў. Пасьля кніжыцы І. П. Фурмана „Крашаніна“, выйшла ў сьвет другая кніжыца ўважнага дасьледчыка крывічанскай мінуўшчыны А. Шлюбс ага. Кніжыца І. П. Фурмана большую ўвагу, пры апісаньні набіванак, зьвяртала на мастацкую старану ў ушчэрб краёвай гісторыі. Праца А. Шлюбскага ёсьць ужо досьлед гэтай галіны мастацтва на краёвым, крывічанскім грунце. Дзеля гэтага, не глядзя на больш скромны выгляд кніжыцы, ў параўнаньні з першай, яна заслуговуе бязьмерна большай увагі, зьяўляецца запраўды цэнным укладам у крывічанскую гісторапісь. Астаецца пажадаць толькі каб паважаны аўтор больш пасьвяціў сваей увагі данаму пытаньню і даў больш вычэрпуючую монографію як са стараны тэксту, так і са стараны рысунковай. Прычым для поўнага паняцьця аб набіванках патрэбны колёровыя адбіткі рысункаў.

Л. А.

**„Наш край“ штомесячнік Ц. Б. краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. № 1 (4) 1926 г. Студзень. Менск. 4-ка, 72 балоны ў мастацка выкананай вокладцы.**

Зьмест амаўлянага нумару часопісі „Наш Край“ вельмі ня роўнацэннага зьместу. Побач артыкулаў ніякай вартасьці (Апісаньне Койданаўскага замку), маюцца артыкулы першараднай вартасьці (М. Шчакаціхін—Дрэварыты і орнамант у выданьнях Скарыны). Аднак агульна бяручы часопісь зьяўляецца цэннай спробай утварыць выданьне па краязнаўству. Толькі непрыемна ўражае чытача нястача рэдактарскай рукі ў часопісі дзякуючы чаму ў тэксьце красуюць гэткія кветкі, як: пачытаюцца (зам. чцяцца), асьвяшчэньня (зам. асьвячаньне), якой пароды (зам. якога гатунку), выпятрыўся (камень!!!?), паверьі, запісаныя веды высылаюць па адрэсу... і г. п. (бб. 43—46, а такжа падобнае і ў іншых некатарых артыкулах.

У артыкуле М. Шчакаціхіна зьмешчана некалькі (каля 8-мі разам з застаўкамі і літа-

рамі) цікавых дрэварытаў з выданьняў Ф. Скарыны. Гледзячы на гэты высокай вартасьці забыткі нашай старой культуры, напрашаецца сама сабой мысьль аб патрэбе поўнага выданьня ўсіх скарынаўскіх дрэварытаў і шрыфтоў асобнай кніжкай. Гэткая кніжка была-бы аграмадным ўкладам у скарбец нашага адраджэньня: яна папулярызавала-бы скарынаўскія дасьціжэньні ў краю і заграніцай, ставячы крывічоў нараўне з іншымі культурнымі народамі. Але ці будзе гэта выканана, кім і калі?

Цэнна „Інструкція да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл". Мы толькі думаем, што апытальнымі лістамі цяжка будзе сабраць тэрміналёгію. Практыка паказуе, што народную тэрміналёгію трэба падслухаць і падмеціць у народзе, а гэта могуць зрабіць толькі людзі добра да гэтага прыгатаваныя, з прыродным талентам да падмячаньня і з замілаваньнем да данай галіны веды. Знача лепшыя вынікі можа даць аднаведнае ўзгадаваньне зьбірачоў.

З маючыхся ў нас ведамак, сабраных у Браслаўскім павеце (даўней Новаалександраўскі, Ковенскай губ.), да анатоміі птушкі можамо падаць гэткія тэрміны: грахея—г д ы р х а, г д ы р к а, пищепровод—г л о н к а, зоб—в а л ё, лёгкія—ў з д у ш ш а, ў з д у х і, семенник—я е ч н і к, мышечный желудок—п у п, почкі—н ы р к і, клоака—к е з а ў к а. Да тэксту анкеты мы прымушаны зрабіць папраўку. Слова „ц я г н і ц ы" нам ніколі не прыходзілася чуць у народнай мове: народ кажа „с ь ц я г н ы" або м у с к у л ы (сьцягны і жылы").

У канцы мы павінны адзначыць заслугоўуючае пахвалы імкненьне Рэдакціі да аздобнасьці выданьня: эстэтычныя застаўкі і канцоўкі здольнага мастака А. Тычыны, аздабляюць пачаткі і канцы артыкулаў.

С. Т.

**„Школьная праца".** Часопісь дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. 1926 г. № 1 сакавік, № 2 красавік. Выданьне літаграфаванае з рысункамі. Часопісь выдае рэдакційная калегія зложаная з вучняў гімназіі пад кіравецтвам дырэктара тэй-жа гімназіі С. Сахарава.

Гэта ўжо другая з чароду (першая—„Ластаўка" выходзіла пры Люцынскай гімназіі) вучнёўская рукапісная часопісь у Латвіі. Роль і значэньне гэткіх часопісаў для ўмысловага і грамадзкага разьвіцьця падрастаючай моладзі—аграмадная, асабліва калі яна праводзіцца адпаведнымі літэратурна-навуковымі гурткамі, дыскусіямі і лекціямі паміж вучнямі, пад кіравецтвам старшых. Гэта апошняе мае асабліва вялікую вагу, бо гурткі моладзі ў якіх вучні вучням чытаюць лекціі, прыносяць не карысьць а шкоду як самім вучням, так і тэй вучомнай установе, дзе такое ўвайшло ў звычай. „Школьная праца" пастаўлена правільна, бо літэратурная прадукція моладзі праходзіць праз компэтэнтную корэктыву самога дырэктара двінскай гімназіі грам. Сахарава, які, сваю веду, жыцьцёвую практыку і ідэйны сьветагляд, дае магчымасьць выкарыстаць маладому пакаленьню. Гэтак заўсёды і ўсюды тварыліся „школы" навуковыя, літэратурныя і грамадзкія. Шкада толькі, што дагэтуль рэдакція „Школьнай справы" ня выказала свайго погляду на беларускае (крывіцкае) адраджэньне: як, паводле рэдакціі, павінна разьвівацца і кудой ісьці гэтае адраджэньне, якое яго мейсца перад суседзямі і якія абавязкі ў стасунку да народных масс. Гэта не значыць, што трэба з літэратурнага вучнёўскага кружка тварыць палітычную парцію, наадварот. Але гэта не выключае патрэбы сьвядомага сьветагляду на справу адраджэньня народу, якому і павінна ў будучым служыць цяперашняя моладзь. Праглядаючы першы нумар „Ш. С." з ідэолёгічнай стараны чуюцца недасказы. Прыкладам у артыкуле „Памяці вядомага беларускага гісторыка—Аляксея Парфановіча Сапунова" ані слова не сказана чаму вядомы беларускі гісторык пісаў усе свае творы па расійску. Пройдзена моўчкі каля гэтага, якбы ўсё было тут саўсім нармальна, ў гэтым высока не нармальным зьявішчы нашага націянальнага жыцьця. У канцы артыкулу памешчаны мэдаль, адбіты царыцай Кацярынай II на памяць прылучэньня крыўскіх зямель да Расійскай Імпэрыі (якая да 1725 году называлася Маскоўскім царствам). Мэдаль цікавы, але да яго трэба было дадаць выясьненьне чаму два зьвіткі, якія выабражаюць карту крыўскіх зямель, трапілі ў кіпці двухгаловага арла і што значыць над арлом надпіс „отторженная возвратих?" У гэтым надпісе ўся соль расійскага разуменьня і тлумачэньня гістарычных падзей. Гэты надпіс ёсьць грубая і нахрапная лжа, чысьцей-

шай вады фальшаваньне гісторыі. На мэдалі сказана „адарваная вярнула“, ў той час, калі як сьвет сьветам, крыўскія землі ніколі перад тым не належалі да Масковіі. А, знача, не маглі быць ад яе адрыванымі. Наадварот ў 1772 і 1793 годах, першы раз у гісторыі сьвету, правам сілы, былі загорнуты пад маскоўскае пана-ваньне. Адбыўся грабёж чужога. Адкрыта прызнацца да грабежа імпэрыі стыдна было перад сьветам. Відаць лічылі, што менш стыд-на лгаць. І, вось, салгалі на мэдалі, што, маўляў, не чужое грабім, а сваё сабе вяртаем. Гэтай ілжой паступку безпраўнаму і неэтыч-наму нададзены былі праўныя падставы. Мэ-даль гэты мае вельмі павучаючы сэнс: ён паказуе якімі „праўдамі“ ўпрагалі ў ярмо крыўскі народ. Разтлумачаньне гэтага для мо-ладзі—справа важная. Гэткія пытаньні нямож-на абхадзіць моўчкі, асабліва перад мо-ладзьдзю.

Мова ў другім нумары „Ш. С.“ лепшая чым у першым, а агульна бяручы, калі адкі-нуць некатарыя маскалізмы, даволі добрая, чуваць, што пісьменнікі стыкаюцца з жывой народнай стыхіяй. Належыцца павіншаваць вучняў дзьвінскай гімназіі і Рэдакцыю „Ш. С.“ за рысунковую старану часопісі, але трэба ўнікаць перарысовак і фантазій, бо праўдзі-вую вартасьць маюць толькі ры-сункі з натуры.

Урэшце, шчыра жадаем Рэдакцыі энэр-гіі да далейшай працы. Пачынаньне добрае, а пры любоўным стасунку да яго саміх пра-цоўнікаў можа даць у вініку цэнныя плады. Найбольшыя горы складаюцца з пясчынак і акіяны паўстаюць з паасобных кропель вады.

**„Патрыотычны Малітвенік“. Выданьне гэктаграфаванае, без азначаньня часу і мейсца друку. Фармат у 4-ку пісомай паперы, балон 12.**

Наша патрыотычна-агітацыйная пісьмен-насьць у параўнаньні з гэтага роду пісьмен-насьцю другіх, суседніх нам народаў, вельмі малая, дзеля гэтага трэба вітаць кождую спро-бу ў гэтым кірунку, асабліва калі яна мае на мэце чыстыя крыніцы г. зн. сувэрэннасьць крывічанскага (беларускага) народу на кры-вічанскіх землях. Амаўляная брашура адпа-вядае вышэй пастаўленым вымогам у поўнай меры. У дадатку зьяўляецца цікавай спробай перафразоўкі штодзенных малітваў на патры-отычны лад, што для чытача з народу зьяў-ляецца пацягаючым аргумантам. Гэткага роду спробы патрыотычнай агітацыі—не навіна. У свой час гэткага роду пісьменнасьць працьві-тала ў палякаў (у апрацоўцы А. Міцкевіча), былі вельмі папулярны патрыотычныя малітвы і катэхізмы ў Ірляндцаў. Амаўленая намі бра-шура зьяўляецца саўсім арыгінальнай пера-фразоўкай малітваў. Дзеля таго, што гэкта-графаванае выданьне зазвычай агранічаецца не-калькімі дзесяткамі адзінцоў, а сама брашура цікавая і ў поўнай меры вартая шырокага разпашыраньня, то мы, для азнаёмленьня шырэйшых кругоў, у большасьці яе перадру-коўвуем.

„У імя крыўскага (беларускага) народу, за яго славу шчасьце і свабоду. Станься.

——

„Ойча наш, каторы ёсьць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно і цяжка паярэмленай. Хай не адыймаюць чу-жынцы хлеб штодзенны ад вусн нашых дзя-цей. Адпусьці грахі нашым продкам, каторыя няўмелі абараніць сваей і свайго патомства свабоды. Ня ўводзь нас у пакусу ўлегласьці тым што паярэмілі нас, але збаў нас ад чу-жацкай апекі. Станься.

——

„Вітай Крывічанская зямелька потам і крывёй нашаю палітая, праўда з Табою. Бла-гаслаўлена Ты паміж усімі краінамі сьвету і благаслаўлен плод лона Твайго, Крывіч. Сьвятая зямелька Маці наша! Табе ў ахвяру складаем мы ўсе сілы свае цяпер і ў момант сьмерці нашай.

——

„Веру ў Бацькаўшчыну нашу Крывію (Беларусь) і ў Народ наш, сына яе адзінага, каторы на сьвет прыйшоў свабодным ,радзіўся з волі нікім не паярэмленай. Замучаны быў Маскалямі і Палякамі, загнаны ў прыгонную няволю, памёр як дзяржаўны народ, цяпер падзелены на часьці. Але хутка ўваскрэсьне з мертвых, узойдзе на пасад свабоды і будзе, магутны, паводле заслуг судзіць сваіх вора-гаў і крыўдзіцеляў. Веру ў творчасьць Духа народнага, ў лучнасьць нашых сіл грамадзікх, у аб'яднаньне ўсіх крывічанскіх зямель у ад-ну свабодную дзяржаву і ў шчаснасьць ве-кавечную. Станься.

——

„Слава Крывічанскаму народу ва ўсіх яго гістарычных імёнах,—Крывіі, Літвы, Беларусі,—як была справеку так цяпер і на векі вечныя. Станься.

——

„Сьвятая свабода, выражаная дзяржаўнай самаістасьцю Крывічанскага Народу, ты наша пацяшыцелька і надзея, адзіная Мэта і Праўда наша, прыйдзі, ўсяліся ў нас і ачысьці нас ад усякага рабства і збаў нас ад няволі. Станься.

## Дзесяць загадаў Народных.

„Я, Крывічанскі народ, замучаны, расьпяты і падзелены, клічу да цябе:

1. Не спадзявайся, што хто колечы з чужакоў высвабадзіць мяне з няволі.

2. Ніякага самаўраду не называй яшчэ незалежнасьцю.

3. Памятай выслаўляць дзень, каторы дасьць нам поўнае вызваленьне.

4. Паважай тых, каторыя змагаюцца за маю лепшую будучыну.

5. Не забівай на славе тых, каторыя працуюць для мяне.

6. Не злучай сябе зьвязкамі жанімства з чужынцамі.

7. Ня вер чужынцам.

8. Ня траць веры ў народную справу.

9. Не перасаджай чужых культур на грунт свой народны.

10. Ні мовы чужой, ні паэзіі, ні грамадзкіх форм, ні звычаяў, ні абчычаяў, нічога, што ня вырасла з народнага духа, акром тэхнічхай веды, якая зьяўляецца выразам агульна-чалавецкага генія.

——

„Любі народ і край свой Крывічанскі ўсім сэрцам, усей душой, усімі мысьлямі, думамі і подумкамі сваімі!

Любі свабоду і змагайся за свабоду як за ўласнае жыцьцё і шчасьце!

——

„На пачатку была Свабода і Свабода была ў руках Народу і Народ быў свабодны. Свабода была напачатку ў руках Народу, Праз Народ усё сталася і без яго нічога не сталася. Народ быў незалежны, а свабода і незалежнасьць былі радасьцю людзей. І памяць аб утрачанай намі свабодзе сьвеціць нам у паняволеньні нашым і няволя не пагасіла ў нас жаданьня свабоды.

# Зьмест.

**Неба і Зоры.** Пералажыў з (расійскага) Г. Казячы. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, бал. 84; 23×15 цм.

**В. Лункевіч. Закон жыцьця сярод жывёлаў і расьцін.** Пералажыў (з расійскага) Грыгор Казячы. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1922 г., бал 54; 23×15 цм.

**Сьпевак Блондэль.** Англійская легенда. Переклад В. Л. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, бал. 16; 16×12 цм.

**Францішак Багушэвіч. Дудка Беларуская.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1923 г., бал. 74; 15×11 цм.

**Ганс-Хрыстыян Андэрсэн. Казкі.** Пераклад пад рэдакціяй Власта. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, бал. 64; 19×13 цм.

**К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі. Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў.** (Расійска-беларускі і беларуска-расійскі). Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1923 г., бал. 128; 19×13 цм.

**Н. Малышэў. Фізіолёгія і анатомія чалавека.** Падручнік для сярэдніх школ. Пераклад з расійскага. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1923 г., бал. 120; 22×13 цм.

**В. Зеленскі. Ботаніка.** Падручнік для сярэдніх школ. З расійскай мовы пэраклаў К. Душэўскі. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1924 г., бал. 160+XVI; 24×17 цм.

**В. Ластоўскі. Падручны Расійска-Крыўскі (беларускі) Слоўнік.** Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1924 г., бал. 832; 17×11 цм.

**К. Езовитовъ. Бѣлоруссы и Поляки.** Документы и факты изъ исторіи оккупаціи Бѣлоруссіи полякамі въ 1918 и 1919 годах. Перевод съ Бѣлорусскаго. Ковна. „Изд. им. Ф. Скорыны“, 1919. Балон 124, 25×17 цм. (вычарпана).

**І. Г. Антонаў. Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны у 1919—1921 г.г.** Малюнкі гвалту і адзеку фацэтных польскіх паноў на Беларусі (Мае перажываньні). 1921 году. Балон 83; 22×13 цм.

**Наша зямля. Двухтыднёвая часопісь.** № 1. (Кастрычнік, 1920 г.). № 2 (сьнежань, 1920 г.).—№ 3 (Лістапад, 1921 г.). Балон па 16; 20×15 цм.

**Крывіч**. Месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця. 1923 год: № 1. Чэрвень.—№ 2. Ліпень.—№ 3. Жнівень.—№ 4. Верасень-Кастрычнік. —№ 5. Лістапад.—№ 6. Сьнежань, па 64 бал., 25×16 цм.—1924 год: № 1 (7). Студзень-Сакавік. — № 2 (8). Красавік-Сьнежань. 120 бал. 28×21 цм.— —1925 год: № 9 (1). Студзень-Чэрвень, 120 бал., 28×21 цм.—№ 10 (2). Ліпень-Сьнежань, 124 бал., 28×21 цм. і № 11(1) 1926 г. Студзень-Чэрвень.

**Праф. Р. Віппэр. Падручнік Новай Гісторыі** з гістарычнымі плянамі. Пераклад. К. Дуж-Душэўскага з 4-га дапоўненага расійскага выданьня. Выданьне Беларускага Цэнтру ў Літве. Коўна, 1925 г., бал. 128; 23×16 цм.

**Праф. Р. Віппэр. Падручнік Навейшай Гісторыі** з гістарычнымі плянамі. Параклад К. Дуж-Душэўскага з 4-га дапоўненага расійскага выданьня. Выданьне Беларускага Цэнтру ў Літве. Коўна, 1925 г., бал. 156; 23×16 цм.

**В. Ластоўскі. Гісторыя Крыўскай (Беларускай) кнігі.** Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Выдана коштам Беларускага Цэнтру ў Літве. Акладка (ў 2 фарбы) работы М. Добужынскага. Коўна, 1926 г. VIII-776 бал.; 31×23 цм.

**Альгерд Шлюбскі.** Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і в. кн. Літоўскага. Коўна, 1925 г., бал. 52; 21×28 цм.

**Лѣтописецъ великого кн(я)зства Литовъского и Жомойтского** (Паводле сьпіску гр. Рачынскага). Коўна, 1925 г., б. 56; 23×31 цм.

**А. Узьнесянскі. Паэтыка М. Багдановіча.** Коўна, 1926 г., б. 55 20×27 цм.

---

F. Sokolovskienės ir G. Lano Spaustuvė, Kaune, Maironio g-vė 10-12.
Друкарня Ф. Сакалоўскай і Г. Лана, Коўна, Маіроніо—10-12.